НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ ІМЯ К. КРАПІВЫ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1998

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ ІМЯ К. КРАПІВЫ

# РАДЗІНЫ

## Абрад ✦ Песні

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1998

УДК 398(=826)
ББК 82.3(4Беи)
Р 12

*Серыя заснавана ў 1970 г.*

Рэдакцыйная калегія:
В. К. Бандарчык, К. П. Кабашнікаў,
А. С. Фядосік (галоўны рэдактар)

Укладанне, сістэматызацыя тэкстаў Г. А. Пятроўскай,
апісанне абрадаў Т. І. Кухаронак;
уступныя артыкулы і каментарыі Г. А. Пятроўскай, Г. В. Таўлай, Т. І. Кухаронак.

Рэдактары:
А. С. Фядосік, Т. А. Дубкова

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук А. І. Гурскі, І. В. Казакова

ISBN 985-08-0137-9

## БЕЛАРУСКІЯ РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ, АБРАДЫ, ВЕРАВАННІ

Традыцыйныя радзінныя звычаі і абрады беларусаў у канцы XIX — пачатку XX ст. уяўлялі сабой стройную сістэму, у якой знайшлі адлюстраванне разнастайныя бакі народнай культуры, быту, філасофіі, рэлігіі, светаўспрымання і светаасэнсавання. Комплекс традыцыйных радзінных звычаяў і абрадаў у азначаны перыяд складаўся з трох цесна звязаных цыклаў: дародавага, родавага і пасляродавага. У першыя два ўваходзілі звычаі, уяўленні, павер'і, абрадавыя дзеянні, накіраваныя на захаванне цяжарнасці і паспяховае завяршэнне родаў. Пасляродавы цыкл, які быў накіраваны на прыняцце нованароджанага ў сямейна-грамадскі калектыў, уключаў у сябе звычаі і абрады імянарачэння дзіцяці, наведвання парадзіхі і нованароджанага, выбару кумоў, абраду далучэння дзіцяці да хатняга ачага, які папярэднічаў царкоўнаму хрышчэнню, а таксама абраднасці, прысвечанай святкаванню хрэсьбін (хрысцін, ксцін, радзін), ачышчэнню дзіцяці; першаму яго пастрыжэнню, кроку, слову, з'яўленню першага зуба.

Дзіця ў традыцыйнай культуры беларусаў разглядалася як неад'емная частка прыроды, і яго зачацце, нараджэнне, развіццё і выхаванне падпарадкоўваліся агульным касмічным законам. Веданне нашымі продкамі гэтых законаў абумовіла і з'яўленне шматлікіх перасцярог і правіл паводзін для жанчыны ў перыяд цяжарнасці, большасць з якіх непасрэдна вынікае са шматвяковага досведу і практычнага сэнсу.

Так, цяжарная імкнулася не падымаць і не насіць вялікага грузу, не зацягваць моцна спадніцу, а ў час цяжкай працы ў

полі падвязваць жывот ручніком ці хусткай, яна асцерагалася і ўдараў у жывот. Цяжарнай раілася як мага больш рухацца і менш спаць, бываць на свежым паветры.

Шматлікія забароны засцерагалі цяжарную ад спалоху, ад магчымых фізічных і псіхічных траўмаў. Па ўсёй Беларусі цяжарным забаранялася глядзець на пажар, а калі ў жанчыны ўжо не было іншага выйсця, то нельга было, спалохаўшыся, дакранацца рукамі да свайго цела, бо лічылася, што ў дзіцяці ў адпаведным месцы застанецца вогненная радзімая пляма.

Паўсюль існавала ўяўленне, згодна з якім у прысутнасці цяжарнай нельга было на ганку секчы дровы, а ёй самой пераступаць праз сякеру, бо магло нарадзіцца дзіця з рассечанай губой («заечай губой»). Цяжарная, выграбаючы печ, прыгатаваную для выпечкі хлеба, не павінна была тушыць галавешку нагамі, каб у нованароджанага не балеў страўнік. Нельга было прысутнічаць на пахаваннях, глядзець на нябожчыка, бо, згодна з народнымі ўяўленнямі, дзіця магло атрымаць цяжкую хваробу на ўсё жыццё ці жоўты хваравіты колер твару. Шырока было распаўсюджана і ўяўленне, што цяжарная не павінна нічога браць з агню голымі рукамі ці перадаваць штокольвечы праз агонь іншаму чалавеку, бо дзіця магло вырасці злодзеем («будзе ўсё красці, бы з агню хапаць»). Амаль у кожнай нашай вёсцы вядома наступнае павер'е: цяжарная не павінна садзіцца на край калодзежа ці несці агонь ад суседзяў у сваю хату, бо дзіця, як падрасце, можа ўтапіцца ці згарэць.

У яшчэ адной групе забаронаў і вераванняў знайшлі адлюстраванне народныя этычныя, эстэтычныя і некаторыя рэлігійныя, прававыя нормы і погляды. Так, цяжарным нельга было глядзець на пачварных людзей, смяяцца з іх фізічных ці псіхічных недахопаў, бо дзіця магло пераняць тыя недахопы. Строга выконваліся цяжарнымі і наступныя забароны: нельга было маніць, красці, зайздросціць, лаяцца, каб не нарадзіць манюку, злодзея, грубіяна, зайздросніка.

Ва ўсіх рэгіёнах Беларусі строга сачылі, каб цяжарныя не працавалі ў рэлігійныя святы, не калечылі жаб, не разбуралі ластаўчыных гнёздаў, не рабілі штокольвечы тайком ад мужа ці іншых членаў сям'і, не выкідвалі хлеб. Забаранялася зашываць на сабе адзенне, каб не здарыліся цяжкія роды, спяшацца пры размове, каб дзіця не заікалася, падстрыгаць валасы, каб не ўкараціць малому розум.

Гэты звод правілаў з'яўляўся складовай часткай сацыяльна-псіхалагічнага механізма, які непасрэдна ўздзейнічаў на цяжарную жанчыну. У час калектыўных работ, у паўсядзённых зносінах адбывалася назіранне за яе паводзінамі, асуджэнне адхіленняў ад агульнапрынятых у дадзенай мясцовасці нормаў і ўяўленняў. Старанна прытрымліваючыся ўсіх мясцовых звычаяў, жанчына набывала ўпэўненасць у паспяховым зыходзе родаў, псіхалагічна была да іх падрыхтавана. Падабенства ўмоў вясковага ладу жыцця, агульнасць сацыяльна-эканамічных працэсаў садзейнічалі захаванню ў randавым цыкле адзінай асновы на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Адрозненні выяўляліся не столькі па этнаграфічных рэгіёнах, колькі ўнутры раёнаў, у выглядзе некалькіх варыянтаў таго ці іншага звычаю, веравання, той ці іншай забароны.

Згодна з народнымі ўяўленнямі, аб наступаўшых родах павінны былі ведаць як мага менш людзей, тады роды пройдуць лёгка. Асабліва вялікія пакуты парадзісе, па народнаму меркаванню, магла прынесці дзяўчына. Калі яна незнарок заходзіла ў час родаў у хату, то павінна была расплесці касу, набраць вады ў рот і даць парадзісе, бо інакш роды будуць вельмі цяжкімі. Таму месцам для родаў выбіралі пустую хату, лазню, гумно, варыўню.

Калі накіроўваліся да павітухі, адразалі кавалак хлеба, пасыпалі яго соллю. Прыйшоўшы, гаварылі ціхенька: «хадзі, бабулічка, к нам, нешта нашай маладусе ня дужа ладна дзелаецца». Звычайна баба-павітуха тут жа адклікалася на такую просьбу.

У канцы мінулага стагоддзя ў беларускай вёсцы бабай-павітухай была звычайна жанчына сталага веку, часцей за ўсё ўдава, якая сама перастала раджаць. У тагачасных умовах баба-павітуха была і акушэркай, і дзіцячым доктарам, і дарадчыцай парадзіхі, і памочніцай ёй па гаспадарцы ў першыя дні пасля родаў. Адсюль тая павага да бабкі, асабліва калі яе майстэрства знаходзіла пастаяннае пацвярджэнне ў паспяховым зыходзе родаў.

Павітуха дапамагала парадзісе як магла. Акрамя чыста утылітарных, акушэрскіх прыёмаў, якія мелі рацыянальную аснову, яна выконвала шэраг магічных дзеянняў, заснаваных на веры ў звышнатуральныя сілы. На парадзісе расшпілялі ўсе гузікі, развязвалі вузлы, паясы, расплёталі косы, адкрывалі ўсе замкі, куфры, дзверы ў хаце. Бабка шаптала замовы, пастук-

вала венікам у столь, як бы звяртаючыся за дапамогай да дамавіка, вадзіла парадзіху тры разы вакол стала і праз ганак, якія лічыліся ў народзе свяшчэннымі месцамі хаты. Паўсюль на Беларусі, каб адагнаць злыя сілы ад парадзіхі, павітуха клала ёй у ложак металічны прадмет або абвязвала яе чырвонай ніткай. Дзейсным сродкам аблягчэння пакут парадзіхі лічыўся наступны: зняць у дзяжы абруч і надзець яго тры разы на парадзіху зверху ўніз. Пры цяжкіх зацягнутых родах прасілі святара адчыніць Царскія дзверы. На Беларускім Палессі ў час родаў муж ляжаў на лаўцы і цяжка стагнаў, чым, па народнаму перакананню, аблягчаў пакуты сваёй жонкі.

Павітуха ніколі не прымала дзіця голымі рукамі, а накрывала іх якім-небудзь старым адзеннем, каб у будучым дзіця жыло ў багацці. Бабка перавязвала пупавіну паўсюль на Беларусі аднолькава: пучком чыстага лёну або суравой ніткай, зрэдку да лёну дабаўлялі адну чырвоную нітку. Пераразалі пупавіну на адлегласці трох пальцаў ад перавязкі: хлопчыку — на нажы, сякеры, дубовай кары, сухой лустачцы хлеба, на кніжцы, малатку. Часта ў паўночных раёнах Беларусі пупавіну хлопчыка перабівалі камянямі, каб быў моцны. Дзяўчынцы перавязвалі пупавіну на грабяні, верацяне, нітках, кручках, ножніцах. Сэнс, які быў закладзены ў гэтых абрадавых дзеяннях, указваў на іх сувязь з земляробчым бытам народа, з існаваўшым у далёкім мінулым падзелам працы па полу.

Часам жартам, а часам усур'ёз вопытная павітуха загортвала хлопчыка ў жаночую сарочку, каб яго, як падрасце, кахалі дзяўчаты, а дзяўчынку — у мужчынскую, каб яе ў адпаведным узросце кахалі хлопцы. Новананароджанага адразу купалі ў розных лекавых духмяных травах, а каб быў багаты і шчаслівы, у ваду клалі сярэбраную манету і некалькі зярнят. У купель для дзяўчынкі дабаўлялі яшчэ крышачку малака, каб была белая тварам і прыгожая. А вось у гатаванай вадзе на Беларусі дзяцей не купалі, бо верылі, што яны ад гэтага будуць вельмі злымі, крыклівымі, няўважлівымі. Пра такіх людзей у народзе гаварылі: «Ён у гарачай вадзе купаны». Ваду пасля першага купання вылівалі ў ціхім месцы, дзе не хадзілі людзі і жывёла, часцей пад пладовае дрэва ці пад вугал хаты. На Палессі, калі купалі дзяўчынку, ваду вылівалі на ганак, каб яна, стаўшы дарослай, хутчэй выйшла замуж. Шырокае распаўсюджанне на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў мінулым стагоддзі мела павер'е,

што, калі дзіця пасля першага купання пакласці на правы бок, яно ў далейшым усё будзе рабіць правай рукой («будзе праўшаком»), а калі на левы, то, наадварот, усё будзе рабіць левай рукой («будзе леўшаком»).

Пэўныя абрадавыя дзеянні здзяйсняліся і пры першым укладанні дзіцяці ў калыску, каб, па народнаму меркаванню, забяспечыць здароўе і спакойны сон немаўляці. Так, паўсюль на Беларусі, каб адагнаць ад дзіцяці злыя сілы, у калыску клалі вугольчык, хлеб-соль, жалеза, ката. Шырокае бытаванне ў нашым краі мела вераванне, згодна з якім нельга было калыхаць пустую калыску, бо лічылася, што дзіця памрэ.

Управіўшыся з дзіцем, павітуха працягвала завіхацца каля парадзіхі. Паслед («дзіцячае месца») бабка абмывала і загортвала ў чыстую анучку, укінуўшы туды яшчэ некалькі зярнят ці кавалачак хлеба. Далейшыя дзеянні павітухі вынікалі з цвёрдага пераканання, веры ў тое, што, аказаўшы ўздзеянне на паслед, можна станоўча ці адмоўна паўплываць на само дзіця. Таму паслед акуратна закопвалі: калі нараджаўся хлопчык, то каля хаты, пад ганкам, або ў хаце, на куце, каб, як лічылі, перадаць яму любоў да роднага дома; калі дзяўчынка — пад яблыняй, вішняй, каб была такая ж прыгожая, або пад прыпечкам, каб была добрая гаспадыня. Часта дзіцячае месца закопвалі ў хляве, каб павялічыць пладавітасць жывёлы. Пазней сталі хаваць за абразы, каб «дзіцяці быў гонар», або закопвалі ў варыўні пад жорны, каб «дзіця было вёрткае і хітрае».

У мінулым на Беларусі шырокае распаўсюджанне мелі разнастайныя спосабы і прыёмы варажбы аб будучым лёсе дзіцяці ў першыя дні пасля яго нараджэння. Самым надзейным знакам шчасця і дабрабыту была, па народнаму меркаванню, так званая «дзіцячая сарочка» — рэшткі плоднага пузыра, які ў выглядзе тонкай плеўкі часам заставаўся ў нованароджанага на галоўцы. Яе акуратна здымалі і захоўвалі як талісман. Пра людзей, якім вельмі шанцуе ў жыцці, нездарма казалі і дагэтуль кажуць: «нарадзіўся ў сарочцы».

Вельмі разнастайнай і багатай была сістэма варажбы аб будучым лёсе дзіцяці ў залежнасці ад дня яго нараджэння.

Сялянская грамада ў беларускай вёсцы мінулага стагоддзя ніколі не пакідала без увагі такую падзею, як нараджэнне дзіцяці, бо яна, таксама як і бацькі, была зацікаўлена ў

з'яўленні на свет фізічна і псіхічна здаровага чалавека, будучага работніка. Найбольшую ўвагу парадзісе аказвала бабка як прадстаўнік сялянскай грамады. Звычайна парадзіха, калі роды прайшлі паспяхова, знаходзілася ў ложку ад трох да сямі дзён. І ўвесь гэты час, асабліва калі парадзіха была адзінай дарослай жанчынай у малой сям'і, бабка прыходзіла ёй на дапамогу, гатавала ежу, купала нованароджанага, даглядала старэйшых дзяцей. Па традыцыі ежу яна несла з дому, абавязкова ў гаршках, і на вёсцы, убачыўшчы яе, аднавяскоўцы казалі: «Во, баба ідэ з гаршкамі», што азначала: «Баба ідзе наведваць парадзіху». У абрадавых дзеяннях бабкі ўвесь час прысутнічала магічная лічба «тры»: яна павінна была тры дні пасля родаў насіць тры разы на дзень па тры стравы.

У хуткім часе пасля родаў да парадзіхі прыходзілі ў адведкі замужнія жанчыны: сваячкі і сяброўкі. Каб не стамляць парадзіху, у адведкі жанчыны хадзілі па дзве-тры, прыносілі самыя каларыйныя і смачныя стравы. Зноў жа, парадзісе, якая толькі што перажыла мукі родаў, боль, страх, хацелася пра ўсё гэта расказаць, выслухаць словы спачування, параду, а хто гэта мог лепей зрабіць, чым замужнія жанчыны? Пагэтаму, згодна з традыцыяй, наведваць парадзіху ніколі не хадзілі незамужнія дзяўчаты і мужчыны. Ісці наведваць парадзіху ні ў якім разе нельга было з пустымі рукамі, таму нават самыя бедныя неслі хоць кавалак хлеба і якую-небудзь старызну на пялёнкі.

У беларусаў здаўна адносіліся з вялікай адказнасцю да выбару імя для нованароджанага, бо ў народнай свядомасці з імем звязваліся далейшы лёс чалавека, яго шчасце, сіла ці, наадварот, няшчасце, хваробы. Як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы, на Беларусі было шырока распаўсюджана ўяўленне, што калі даць дзіцяці імя п'яніц, зладзеяў, гультаёў, якія жывуць паблізу, то дзіця пяройме гэтыя рысы.

У асобных сем'ях імя для хлопчыка перадавалася з пакалення ў пакаленне. Нованароджаным у беларусаў не давалі, як правіла, імён памёршых дзяцей, баючыся, што іх можа напаткаць той жа лёс. Паступова ўзніклі спецыяльныя звычаі і абрады імянарачэння з мэтай увесці ў зман злыя сілы, каб яны не маглі пашкодзіць дзіцяці. Адказы бацькоў на пытанні дзяцей, адкуль у іх з'явіўся брат (сястра): «бусел прынёс», «у капусце знайшлі», магчыма, былі выкліканы жаданнем паказаць, што гэта дзіця не іхняе, знойдзенае. З гэтай жа мэтай

дзіця да хрышчэння называлі ў беларусаў «лялечка», «багданька». Былі выпадкі, калі давалі імя першага сустрэчнага чалавека, якога бацька нованароджанага чакаў, стоячы на скрыжаванні дарог. Але асноўную ролю ў мінулым стагоддзі пры імянарачэнні дзіцяці адыгрывала царква. У адпаведнасці з царкоўнымі законамі ў час хрышчэння імя новаму хрысціяніну выбіралі са святцаў, з імён святых, што адзначаліся ў васьмідзённы тэрмін з дня нараджэння дзіцяці. У той жа час працягваў існаваць абрад імянарачэння дзіцяці бабкай-павітухай пад назвай «ахрысціць дзіця з вады». Калі яна купала першы раз нованароджанага, то па просьбе бацькоў ці па ўласнай ініцыятыве давала яму пэўнае імя. Кумы павінны былі ў гэтым выпадку ў царкве назваць дадзенае імя, і святар, як правіла, згаджаўся. Незаконнанароджаным дзецям часцей за ўсё давалі імёны Адам і Ева.

Вялікае значэнне ў тагачаснай беларускай вёсцы надавалася выбару кумоў (хроснага бацькі і хроснай маці нованароджанага), якія выконвалі перш-наперш патранажныя функцыі ў адносінах да дзіцяці. Але не толькі гэтыя абставіны вызначалі такое сур'ёзнае стаўленне да кумаўства беларускіх сялян. Яно было абумоўлена жыццёвым укладам беларускай дарэвалюцыйнай вёскі. Побач з суседскімі, сваяцкімі, сяброўкамі ўзаемаадносінамі, якія існавалі паміж жыхарамі пэўнага пасялення, значная роля адводзілася кумаўству. Так, рэзкае асуджэнне з боку аднавяскоўцаў выклікала сварка паміж кумамі. Яны павінны былі дапамагаць адзін аднаму пры выкананні сельскагаспадарчых работ, разам адзначаць святы і важнейшыя падзеі жыцця адзін аднаго. Часцей запрашаў у кумы бацька нованароджанага, але маглі гэта зрабіць таксама свякруха ці маці парадзіхі. Яны абавязкова неслі з сабою хлеб. Запрашэнне ў кумы суправаджалася рознымі магічнымі дзеяннямі. Так, той, хто запрашаў, не павінен быў садзіцца ў гэтым доме, інакш, лічылася, дзіця не будзе доўга хадзіць. Ніколі не бралі за кумоў бяздзетных людзей.

Згодна з народнымі звычаямі, адмаўляцца ад кумаўства нельга было, хоць такія выпадкі зрэдку і здараліся. Асабліва ахвотна ішлі хрысціць незаконнанароджаных дзяцей («байструкоў»), бо верылі, што кумам з гэтага моманту будзе ва ўсім удача. З гэтай мэтай кум запіхваў сабе за пояс аброць, каб у яго вяліся коні, клаў за пазуху каласы жыта, аўса, каб быў

багаты ўраджай. Кума брала з сабой лён, каб ён добра рос, за пазуху клала «цадзілку», каб у каровы было шмат малака, і г. д. У кумы да «байструкоў» імкнуліся ісці дзеўкі, якіх доўга не бралі замуж, бо існавала павер'е, што яна выйдзе замуж, як толькі яе хроснік пачне хадзіць. Згодна з народнымі вераваннямі, тая дзяўчына будзе мець шмат кавалераў, у якой першы хроснік быў хлопчык, і той хлопец будзе мець поспех у дзяўчат, у якога першая хросніца была дзяўчынка. У кумы запрашалі сваіх і чужых аднолькава. Гэту пару кумоў імкнуліся захаваць для ўсіх наступных дзяцей. Паўсюдна ў Беларусі ў мінулым стагоддзі пашыраным быў звычай, паводле якога адбывалася замена кумоў, калі папярэднія дзеці паміралі. У гэтым выпадку бралі за кумоў выпадковых людзей («стрэчных», «збожжых», «спатыканых»).

Калі па дарозе ў царкву ішоў снег або дождж, гэта лічылася добрай прыкметай, якая прадказвала для дзіцяці багацце і шчасце.

Шматлікія абрадавыя элементы, якія ўтрымліваліся ў святкаванні хрэсьбін, выяўляюць генетычную сувязь са старадаўнімі звычаямі і абрадамі, аднак у цэлым хрэсьбіны былі цесна звязаны з сацыяльным і гаспадарчым жыццём дарэвалюцыйнай беларускай вёскі, а таксама адчулі ўплыў хрысціянскай ідэалогіі. Хрэсьбіны, як правіла, імкнуліся адсвяткаваць у дзень хрышчэння дзіцяці ў царкве. На гэтую ўрачыстасць па запрашэнню прыходзілі жанатыя мужчыны і замужнія жанчыны, моладзь (за выключэннем кумоў) не ўдзельнічала там.

Кумоў, якія вярталіся з царквы, у дзвярах, на ганку сустракала павітуха ў вывернутым поўсцю наверх кажуху. Як вядома, у беларускай (шырэй — славянскай) фальклорнай і абрадавай традыцыі кажух мае некалькі семантычных значэнняў: з аднаго боку, гэта сімвал багацця, пладавітасці, з другога — сімвал абароны ад усялякага зла. У дадзеным выпадку кажух выкарыстоўваецца ў другім сваім сімвалічным значэнні, што бачна з тлумачэнняў інфарматараў: «каб дзіця засцерагчы ад сурокаў», «каб дзіця нічога не пужалася».

Усе прысутныя ўставалі, калі кумы з дзіцем вярталіся з царквы (касцёла), каб, як лічылася, дзіця хутка пачало хадзіць. Згодна з народнымі ўяўленнямі, кумы павінны былі, як толькі пераступяць ганак хаты, хутка назваць імя дзіцяці, якое яму далі пры хрышчэнні, інакш, калі яны заікнуцца, дзіця таксама

будзе заікацца. Разгледжаныя ў дадзеным выпадку абрадавыя дзеянні заснаваны на універсальным магічным уяўленні: падобнае выклікае падобнае.

Спецыяльнага абраду, які б адкрываў хрэсьбіны, на большай частцы тэрыторыі Беларусі, за выключэннем Палесся і некаторых раёнаў Паазер'я, не было. Па традыцыі самыя ганаровыя месцы за сталом належалі кумам і павітусе. Кумы ў час урачыстасці павінны былі прытрымлівацца пэўных правілаў паводзін, якія зноў жа зыходзілі з сусветнай магічнай універсаліі. Так, кумы імкнуліся сядзець як мага бліжэй адзін да аднаго, каб у дзіцяці ў далейшым былі густыя зубы і каб яно ўсё жыццё жыло ў згодзе з іншымі людзьмі. Таксама кумам раілі паболей гаварыць, жартаваць, смяяцца, каб іх хроснік (хросніца) былі прыветлівымі, вясёлымі, абаяльнымі. З мэтай жа засцерагчы дзіця ў будучым дарослым жыцці ад п'янства кумы не павінны былі напівацца, а выпіць толькі дзве чаркі, каб іх хроснік жаніўся («жыў у пары»).

Спецыяльнай абрадавай стравай на беларускіх хрэсьбінах была «бабіна каша», падзел якой з'яўляўся кульмінацыйным момантам урачыстасці. Сімволіка кашы (наогул хлеба) дастаткова падрабязна апісана ў навуковай літаратуры, у беларускай радзіннай абраднасці яна мела той жа сэнс, што і ва ўсіх народаў свету. Вялікую цікавасць уяўляюць імправізаваныя сцэны, якія суправаджалі абрад падзелу кашы. У іх праглядваюцца карнавальныя рысы народна-смехавай культуры (пераапрананне). Зафіксаваны намі ў Мінскай вобласці (Цэнтральная Беларусь) звычай прыходзіць на хрэсьбіны «буслу» (чалавек у вывернутым кажуху, зверху звязаныя рукавы нагадвалі дзюбу птушкі), які віншаваў бацькоў з нараджэннем дзіцяці і абяцаў насіць ім дзяцей штогод, мае глыбокі сэнс. Улічваючы, што ў беларусаў маленькім дзецям тлумачылі, нібыта нованароджаных прыносіць бусел, аналізуючы іншы фальклорны матэрыял, рызыкнём выказаць меркаванне аб існаванні ў старажытнасці ў беларусаў уяўлення аб татэме, якім, верагодна, лічыўся бусел.

Падзел «бабінай кашы» суправаджаўся разнастайнымі пажаданнямі дзіцяці, у якіх знайшлі адлюстраванне маральныя нормы і прынцыпы беларускага сялянства, яго каштоўнасныя арыентацыі: працавітасць, здароўе, дабрабыт — «каб ты быў

крэпак, як вада, багат, як зямля, вясёл, як пчала, а красен, як вясна» і г. д.

Акрамя слоўных пажаданняў на беларускіх хрэсьбінах выконваліся разнастайныя абрадавыя дзеянні, закліканыя спрыяць хуткаму фізічнаму і разумоваму развіццю дзіцяці. Так, у Мінскай губерні пасля таго, як кум разбіваў гаршчок з кашай, госці імкнуліся як мага хутчэй з'есці яе, каб дзіця хутчэй пачало хадзіць і гаварыць. У шматлікіх раёнах Беларусі баба-павітуха, атрымаўшы падарунак ад парадзіхі, перакручвалася на месцы тры разы, столькі ж разоў падскоквала ўверх, па магчымасці вышэй, стукала ў далоні і прыгаворвала разнастайныя пажаданні шчасця і здароўя свайму ўнуку (унучцы). На наш погляд, падскокі ўверх па закону імітатыўнай магіі закліканы былі садзейнічаць хуткаму росту нованароджанага. Трохразовыя перакручванні на месцы ў час танца і плясканне ў далоні, верагодна, сімвалізавалі адагнанне злых варожых сіл ад дзіцяці, з'яўляліся элементамі ахоўнай магіі. Аналагічны танец выконвала маці нявесты (жаніха) у самым пачатку вяселля. Агульнавядома таксама магічнае значэнне лічбы «тры», якое сустракаецца амаль ва ўсіх жанрах беларускага фальклору.

Спарадычна ў Віцебскай губерні на хрэсьбінах бытаваў абрад, звязаны хутчэй за ўсё са звычаямі кувады: бацьку нованароджанага давалі лыжку перасоленай кашы, сумесь гарэлкі, рэдзькі, солі, перцу, якую ён павінен быў праглынуць з задавальненнем, шчаслівым выглядам і пакласці для павітухі грошы на талерку.

Трэба адзначыць, што дзеці прымалі актыўны ўдзел у правядзенні хрэсьбін і выконвалі пэўныя абрадавыя дзеянні, што былі прыняты ў дадзенай мясцовасці. Часцей за ўсё дзеці, дачакаўшыся, калі баба-павітуха паставіць на стол кашу, хапалі яе і хутка беглі на двор. Згодна з народнымі ўяўленнямі, гэта спрыяла таму, каб дзіця, калі вырасце, хутка бегала. У Мінскай вобласці нам у час этнаграфічнай экспедыцыі ўдалося зафіксаваць цікавы звычай. У дзень хрэсьбін, перад тым як павінны былі прыйсці дарослыя госці, гаспадары збіралі дзяцей з усёй вёскі (ад тых, хто пачаў ужо хадзіць, да 6—7-гадовых) і частавалі іх кашай ці печывам (хрушчыкамі), каб, як казалі, «яны наша дзіця ў крапіву не садзілі». Па-першае, ва ўказаных абрадавых дзеяннях яскрава праглядаецца ідэя садзейнічаць фізічнаму развіццю нованароджанага (паводле

імітатыўнай магії). Па-другое, у наяўнасці элементы ініцыяцыйных абрадаў прыёму малога ў пэўны полаўзроставы калектыў. Па-трэцяе, частаванне дзяцей абрадавай кашай, згодна з народнымі ўяўленнямі, павінна было садзейнічаць іх росту і развіццю.

У большасці раёнаў Падняпроўя, Паазер'я, Цэнтральнай Беларусі, у некаторых раёнах Панямоння і Усходняга Палесся ў даследуемы перыяд завяршальным абрадавым дзеяннем на хрэсьбінах было «цяганне бабы на баране». Выглядала гэта наступным чынам. Бабу-павітуху выводзілі на вуліцу, усаджвалі на барану, якая была пакрыта кажухом, і цягалі вакол хаты па зямлі, як бы барануючы яе. Пры гэтым «гераіню» дня часта ўпрыгожвалі пер'ямі, вянком з хмелю, павязвалі на галаву шмат хустак, шчокі размалёўвалі ярка-чырвонай фарбай. У руках баба-павітуха трымала чырвоную стужку, зрэдку надзявала кажух, падганяла гасцей венікам ці галінкай. Госці, у асноўным жанчыны, у час шэсця па вуліцы, гучна спявалі, крычалі, ляпалі ў далоні, білі палкамі ў пустыя вёдры, гралі на піле, таньчылі. Яны часта пераапраналіся: мужчыны — у жаночае адзенне і наадварот, былі сярод іх «доктар», «салдат», «дзед», «баба».

Дзіця падрастала з кожным днём, а ў бацькоў з'яўляліся новыя нязвыклыя клопаты і праблемы. Традыцыйны разумна арганізаваны ўклад жыцця беларускага сялянства ў мінулым стагоддзі, нормы звычаёвага права прадугледжвалі ў гэты перыяд пэўныя абрадавыя дзеянні з нагоды першага кроку дзіцяці, першага яго слова, з'яўлення першага зуба і першага яго пастрыжэння.

Самым блізкім ад святкавання хрэсьбін быў абрад ачышчэння нованароджанага пасля царкоўнага мірапамазання, які на Беларусі насіў разнастайныя назвы: муравінкі, жмуркі, зліўкі, змурынкі і інш. У час царкоўнага хрышчэння дзіцяці разам з іншымі выконваўся і абрад мірапамазання, які павінен быў забяспечыць яму пры дапамозе наліпшага на цельца масла «благадаць боскую». І вось на трэці дзень пасля хрышчэння да бацькоў дзіцяці збіраліся зноў госці. У гэты час бабка-павітуха рыхтавала ваду для купання дзіцяці, дабаўляючы ў яе авёс, хмель, грошы. Стол засцілалі кажухом, на яго клалі голенькае дзіцятка і аблівалі падрыхтаванай вадой. Пасля купання гэтую ваду вылівалі ў такое месца, дзе ніхто звычайна не хадзіў: ні людзі, ні скаціна і куды не заглядвалі

сонца і месяц. Вадой, якая заставалася, бабка мыла твары ўсім прысутным, пасля выцірала іх ручніком. Госці кідалі грошы ў міску, гаспадары іх частавалі. На гэтым хрэсьбінныя ўрачыстасці заканчваліся.

Пачыналіся звычайныя сямейныя будні, але дзіця ўвесь час было ў цэнтры ўвагі дарослых. Пры з'яўленні першага зуба ў малога бацькі або бабуля саджалі яго ў рэшата і вазілі па падлозе, каб хутчэй раслі іншыя зубкі. А каб яны раслі моцнымі і не балелі, маці жавала часнок і хукала ў рот дзіцяці на яго першыя зубкі. На Палессі існавала павер'е, што для больш лёгкага і хуткага прарэзвання зубоў, каб аблегчыць у гэты час пакуты немаўляці, трэба было павесіць на шыю дзіцяці мяшочак з галавой мышы або воўчым зубам. Пры выпадзенні першага малочнага зуба яго кідалі на печ або пад печ. Пры гэтым дарослыя гаварылі: «Мышка, мышка, на табе касцяны зуб, дай дзіцяці жалезны» (у сэнсе моцны).

Першы крок дзіцяці выклікаў у сям'і ўсеагульную радасць. Найбольш вопытны з насельнікаў, калі дзіця рабіла першы крок, браў звычайна нож ці другі востры прадмет і праводзіў ім па падлозе паміж ножак дзіцяці («разразаў путы»). Інача́й, паводле народнага меркавання, дзіця доўга будзе хадзіць няўпэўнена, валіцца на падлогу. Выконваліся ў нашым краі і пэўныя магічныя абрады ў тым выпадку, калі дзіця доўга не хадзіла. Так, маці прыносіла ў падоле сарочкі некалькі камянёў з перасохшай крыніцы і, расклаўшы іх на падлозе, вадзіла па гэтых каменьчыках дзіця да таго часу, пакуль яно моцна не стамлялася. Калі ж існавала небяспека, што дзіця не пачне хадзіць («застанецца сідуном»), бацькі выносілі яго на толькі што ўзаранае поле і, пасадзіўшы на зямлю, абсявалі вакол канаплёй. Затым усе дарослыя з трывогай і спадзяваннем назіралі за раслінай, бо, згодна з павер'ем, калі канапля ўзойдзе, дзіця стане хадзіць у гэтае ж лета, не ўзойдзе — доўга яшчэ не будзе хадзіць. Таксама ў беларусаў добрым сродкам для таго, каб дзіця хутчэй стала на ножкі, лічылася катанне перад ім курынага яйка ў той час, як дзіця стане поўзаць.

Больш урачыста ў сям'і адзначалася першае пастрыжэнне дзіцяці («стрыжкі», «пастрыжыны»), якое здзяйснялася пры спаўненні яму года. У беларусаў лічылася, што, калі абстрыгчы дзіця раней, яно будзе жыць у вялікай беднасці. Абстрыганне валасоў у дзіцяці да спаўнення года нібыта па-

гражала і рознымі іншымі няшчасцямі: будзе дрэнная, кароткая памяць або валасы рэдкія, ці зусім лысы. Паўсюль на Беларусі валасы забаранялася кідаць абы-куды. Іх альбо спальвалі ў печы, альбо кідалі ў ваду, альбо затыкалі ў сцяну. Бо, паводле народнага меркавання, калі кінутыя абы-дзе састрыжаныя валасы падыме птушка і саўе з імі гняздо, у чалавека ўсё жыццё пасля будзе балець галава. Пры першым пастрыжэнні было прынята выказваць розныя добрыя пажаданні дзіцяці. Так, кідалі валасы на ваду, каб яны былі прыгожыя, доўгія, шаўкавістыя: «паплывуць валасы — коскі доўгія будуць». Затыкалі валасы пад страху і гаварылі: «Каб высокі рос». Пэўна, у сівую даўніну першае пастрыжэнне дзіцяці сімвалізавала пераход у новы ўзроставы перыяд.

У мінулым стагоддзі беларускія сяляне ўважліва сачылі за першым словам дзіцяці, бо лічылася, што, калі першае слова будзе «тата», наступным у гэтай сям'і народзіцца хлопчык, калі «мама», то народзіцца дзяўчынка.

З дня нараджэння беларуская маці спявала для свайго дзіцяткі цудоўныя калыханкі, укладваючы ў іх любоў, пяшчоту, замілаванне да яго. Часта спявалі калыханкі для малых іх бабулі і сястрычкі.

Прайшоўшы доўгі і складаны шлях узнікнення, фарміравання, развіцця, трансфармацыі, маючы беспамылковы механізм адбору і захавання найбольш каштоўнага з усяго таго, што стыхійна стваралі народныя філасофія, мастацтва, этыка, медыцына, традыцыйная радзінная абраднасць Беларусі ў сучасны перыяд уяўляе сабой даволі складаную і стройную сістэму, якая прыстасавана да сённяшніх умоў жыццядзейнасці яе носьбітаў і спажыўцоў.

Зараз комплекс радзінных звычаяў і абрадаў складаецца з двух узаемазвязаных і ўзаемадапаўняльных цыклаў: дародавага і пасляродавага. У параўнанні з мінулым стагоддзем поўнасцю знік родавы цыкл, у сувязі з тым што ўсе роды адбываюцца ў спецыялізаваных радзільных дамах.

Змешчаныя ў томе апісанні радзінных звычаяў, абрадаў, вераванняў сабраны ў апошнія дзесяцігоддзі XX ст. і прадстаўляюць усе гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны Беларусі і некаторыя месцы кампактнага пражывання беларусаў па-за яе межамі. Яны адлюстроўваюць сучасны стан традыцыйнай радзіннай абраднасці беларусаў, агульныя і лакальныя асаблі-

васці яе функцыянавання, а таксама фіксуюць звесткі, якія захоўваюцца ў сацыяльнай памяці інфарматараў, але не бытуюць у сённяшняй абрадавай практыцы. Наш і іншых даследчыкаў экспедыцыйны матэрыял падаецца з сучаснымі назвамі абласцей, раёнаў, населеных пунктаў Беларусі і іншых краін. Згодна з існуючымі правіламі, арыгінальныя тэксты пададзены паводле сучасных нормаў арфаграфіі з захаваннем лексічных, марфалагічных, сінтаксічных і некаторых фанетычных асаблівасцей мясцовых гаворак, якія зафіксаваны ў першакрыніцах.

Матэрыялы XIX — пачатку XX ст. змешчаны ў томе, каб паказаць дынаміку і характар трансфармацыйных працэсаў радзіннай абраднасці. Гэтыя запісы падаюцца з тагачаснымі адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі назвамі.

Пры ўкладанні часткі тома, прысвечанай апісанню радзінных звычаяў, абрадаў і вераванняў, істотную дапамогу аказалі дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка У. А. Васілевіч, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук І. В. Карашчанка, старшы навуковы супрацоўнік гэтага ж інстытута кандыдат філалагічных навук У. М. Сысоў, старшы навуковы супрацоўнік гэтага ж інстытута кандыдат гістарычных навук Т. А. Наваградскі, якія прадставілі шэраг уласных запісаў і запісаў, сабраных студэнтамі. Аўтар выказвае ім шчырую падзяку. Навукова-тэхнічную работу дапамагала выконваць Л. Ф. Тарайкоўская.

*Т. І. КУХАРОНАК*

# РАДЗІННАЯ ПАЭЗІЯ — НЕАД'ЕМНАЯ ВЕРБАЛЬНАЯ ЧАСТКА АБРАДУ

Сям'я — аснова кожнага этнасу, у складванні якога не апошнюю ролю адыгрывалі сямейна-абрадавыя традыцыі, звязаныя з важнейшымі вехамі жыццёвага шляху чалавека: нараджэннем, шлюбам і смерцю. Ва ўсіх народаў радзінны абрад, у тым ліку і яго неад'емная вербальная частка, мае свае традыцыйныя адметнасці, якія, аднак, неаднолькава захаваліся ў розных народаў. Менавіта радзінна-хрэсьбінная паэзія складае спецыфіку беларускай народна-паэтычнай творчасці. У параўнанні з радзіннай паэзіяй іншых славянскіх народаў радзінная паэзія беларусаў не толькі мела шырокае распаўсюджанне па ўсёй тэрыторыі Беларусі ў мінулым, але і добра захавалася да цяперашняга часу, пра што сведчаць шматлікія запісы выдатных узораў гэтых твораў у апошнія дзесяцігоддзі.

У 1971 г. быў выдадзены том з серыі «Беларуская народная творчасць» «Радзінная паэзія», складальнікі якога вядомыя беларускія вучоныя М. Я. Грынблат і В. І. Ялатаў адабралі і апублікавалі з друкаваных крыніц, з архіўных запісаў, запісаў у час фальклорных экспедыцый лепшыя ўзоры радзіннай паэзіі. Аднак, што яшчэ раз пацвярджае думку аб жывым бытаванні радзінный паэзіі, пасля выдання гэтага тома ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, у архіве Навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі пры Беларускім дзяржаўным універсітэце як вынік штогадовых фальклорных экспедыцый навукоўцаў і студэнтаў была назапашана вялікая колькасць выдатных узораў твораў гэтага віду, што і склала раздзел «Песні» дадзенага тома. У том увайшлі таксама лепшыя ўзоры радзіннай паэзіі з асабістых архіваў вучоных-фалькларыстаў А. С. Емяльянава, У. А. Васілевіча і інш. Гэтая кніга ў значнай ступені дапаўняе папярэдняе выданне перш за ўсё тым, што ў

ёй прыводзяцца апісанні радзінных абрадаў беларусаў, падрыхтаваныя да друку Т. І. Кухаронак. Грунтоўны ўступны артыкул Г. В. Таўлай «Беларускія хрэсьбінныя песні: пытанні гісторыі і тыпалогіі напеваў» значна пашырае і паглыбляе даследаванне напеваў хрэсьбінных песень.

Радзінная паэзія ўключае ў сябе прыгаворкі бабкі-павітухі, кума на хрэсьбінах, прыпеўкі, анекдоты, жарты, прыказкі. Аднак асноўны від радзіннай паэзіі — хрэсьбінныя песні. Хрэсьбінныя песні звязаны з важнейшай падзеяй — нараджэннем чалавека і ўрачыстым святкаваннем яе родам, сям'ёй. Чалавек нараджаецца ў пакутах, не заўсёды шчасліва пражывае свой век, таму ўсе хрэсьбінныя абрады і песні, што спяваліся ў час урачыстасці, у асноўным былі накіраваны на тое, каб засцерагчы чалавека на ўсё жыццё ад няшчасцяў, ліхой долі. Хрэсьбінныя песні вельмі разнастайныя па змесце, аднак у асноўным яны групуюцца вакол галоўных дзеючых асоб гэтай сямейнай урачыстасці: перш за ўсё песні да самога дзіцяці, да яго бацькоў, і асабліва многа песень да бабкі-пупарэзніцы, да кума і кумы.

Песні маюць розны характар: песні заклінальныя, апавядальнага характару пра бабку, пра яе дапамогу пры родах; песні велічальныя пра бацькоў, бабку, кумоў; песні жартоўныя да бабкі і кумоў і, нарэшце, бяседныя застольныя хрэсьбінныя песні. Па эстэтычна-функцыянальнаму прынцыпу радзінныя песні можна так і класіфікаваць: рытуальна-заклінальныя, велічальныя, гумарыстычныя (ці жартоўныя) і бяседныя. Як адзначалася і ў папярэднім выданні В. І. Ялатавым, найбольш старажытнымі і стабільнымі па вобразна-інтанацыйнай сістэме з'яўляюцца заклінальныя і велічальныя песні. На яго думку, «яны часцей за ўсё і вызначаюць эмацыянальны змест песень, якія прысвечаны рытуальным персанажам: парадзісе, нованароджанаму і бабцы»[1]. Па яго словах, «напевы заклінальнага складу, як правіла, накіраваны толькі да бабкі... Яны і складаюць абрадавую першааснову, адлюстроўваюць той непасрэдна функцыянальны сэнс, які некалі выконваў пэўную першабытна-магічную ролю. Сама функцыя заклінання дастаткова ясная і канкрэтная — гэта шматразовы і настойлівы заклік да знешніх сіл з мэтай атрымання ад іх вядомых

[1] Ялатаў В. І. Напевы радзінных песень // Радзінная паэзія / Склад. М. Я. Грынблат, В. І. Ялатаў. Мн., 1971. С. 40.

прэрагатыў»[2]. У семантычных адносінах рытуальна-заклінальныя песні маюць значна шырэйшую сферу, чым у інтанацыйных. Яны распаўсюджваюцца і на іншых важнейшых персанажаў радзіннай паэзіі. Тым не менш менавіта бабцы надавалася асаблівая роля — пасрэдніцы паміж таямнічымі сіламі прыроды і чалавекам, прычым таксама і пасрэдніцы паміж Богам і чалавекам, што з'явілася вынікам уплыву на радзінныя абрады і хрэсьбінную паэзію хрысціянскай рэлігіі. У шматлікіх песнях гаворыцца, што бабка просіць Бога даць нованароджанаму шчасце і долю:

А ў нядзельку, паранюсеньку,
Бабулька стаіць, дзіцяцю дзяржыць,
Богу радзіцца.
І з Богам радзіцца, долю просіць
І багавую і грашавую.

І сам Бог «едзець, долечку нясець гэтаму дзіцяці, гэтаму маленькаму. І хлебавую, і грашавую, і тую вянчальную». Аналагічны сэнс маюць песні, у якіх долю і шчасце для дзіцяці просяць кумы — бацькі-ўваспраемнікі:

Кум з кумою дзіця носяць,
У Бога долі просяць.
— Дай, Божа, гэтаму дзіцяці
Шчаслівую долю.
Каб расло, гадавалася,
Шчасцем, доляю надзялялася,
З хлебам-соллю зналася.

Даволі рэдка сустракаюцца песні, у якіх у Бога просяць добрай долі і будучыні бацька ці маці нованароджанага. Бацька ці сам непасрэдна звяртаецца да Бога, ці праз бабку з просьбаю пра шчасце-долю:

Пасадзіў бабульку на куце.
— Пі, бабулька, гуляй ты за мяне,
Звелічай ты дзіця маё.
Каб яно да вяліка расло,
Каб яно да шчасліва было,
Каб яму Бог долю даў.

---

[2] Ялатаў В. І. Напевы радзінных песень. С. 41.

Або:

А сам стаў ды шапачку зняў,
Стаў жа ён Бога прасіць:
— Каб маё ды дзіцятка расло,
Каб яно шчасліва было,
Каб яму ды Бог долечку даў,
Каб яму шчаслівую.

Цікавы прыклад хрэсьбіннай песні, у якой бацька магічна замаўляе і заклікае маці-зямлю, прыроду, якая родзіць жыта, на дапамогу сваёй сям'і, дзецям, што нараджаюцца, іх будучаму шчасцю:

Пасею жыта па ўсіх куточках,
Каб маё жыта тут урадзіла,
Каб наша сямейка ў золаце хадзіла.
Каб маё жыта ў трубы павілося,
Каб дзіцячае шчасце тут прыжылося.

Жыта паўстае ў песні не толькі крыніцай дабрабыту сялянскай сям'і, але, як і ў беларускім вяселлі, своеасаблівым магічным сімвалам шчаслівай долі нованароджанага і дастатку сям'і.

Паводле народнага ўяўлення, доля даецца чалавеку з дня яго нараджэння. Але існавала ўпэўненасць і ў тым, што з дапамогай асаблівых рытуальна-заклінальных песень, магічных дзеянняў можна палепшыць лёс нованароджанага. Больш надзеі на Бога было пасля хрышчэння дзіцяці ў царкве. Таму і просіць маці ў Бога здароўя свайму дзіцяці да хрэсьбін і на ўсё жыццё:

— Судзі, Божа, майму дзіцяці да хросту,
Ад хросту судзі, Божа, да вянца,
Да ад вянца судзі, Божа, да жыцця.

Просьбы маці сціплыя: хай дажыве да хрэсьбін, а як далучыцца да хрысціянскага свету, «згуляе хрэсьбіны» з усім родам, сваякамі, якіх абавязкова запрашалі на хрэсьбіны, то тады ўжо хай расце, сталее да вянца — важнейшай падзеі ў жыцці чалавека, а там і на далейшае жыццё. Маці ведае, што нельга прасіць усё адразу, каб не сурочыць дзіця.

З усіх хрэсьбінных песень песні пра дзіця і парадзіху вызначаюцца яшчэ вялікай блізкасцю да хрысціянскага свету і

тым, што сама Прачыстая, заступніца жанчын, дапамагае ім пры родах і просіць Бога дапамагчы парадзісе і дзіцяці:

Багародзіца Богу моліцца:
— Распрасці, Божа,
Да дзве душачкі.
Первую душу,
А й адну душу —
Малое дзіця,
А й другую душу —
Ды і Манечку.

Ёсць невялікая колькасць хрэсьбінных песень, якія спалучаюць у сабе і заклінальную семантыку і ўсхваленне рэальнай асобы, напрыклад «віноўніка» падзеі — бацькі:

Паздароў, Божа, таго каваля,
А хто скаваў мало дзіця.
Гута-та, гулі-ля, малюсенькае дзіця.

Жонкі і мужа:

Ды ў каго ж мы, ды ў каго ж мы
Бяседку гуляем,
Дзякуй Богу, дзякуй Богу,
Што сыночка маем,
А ён ляжыць у качэльцы,
Абманачку смокчыць,
А жонка з мужаньком
Бяседачку топчыць.

Аднак значнае месца ў радзінна-хрэсьбінным рытуале займаюць услаўленні важнейшых удзельнікаў абрадаў і адпаведныя велічальныя песні да парадзіхі, бацькі дзіцяці, бабкі-павітухі, кумы і кума. Велічанні парадзіхі і бацькі дзіцяці ў асноўным маюць апасродкаваны характар, таму што пра іх спяваюць песні іншыя ўдзельнікі хрэсьбін — госці. Яны сабраліся з нагоды вялікага сямейнага свята — радзін, таму і ўслаўляюць мужа і жонку разам і кожнага паасобку. Да сямейнай пары спяваюць, калі сядуць за святочны стол, такую песню:

Хто ж гэту чарачку поўну наліець,
Той з сваёй жаною хораша жывець.
Валодзька чарачку поўну наліець,
Ён з сваёй жаною хораша жывець.

У гэтай песні гучыць не толькі пахвала бацьку і маці дзіцяці, зладжанасці іх сямейнага жыцця, але выказваецца і радасць гасцей, якія ўпэўніліся ў іх шчасці.

Да парадзіхі спяваецца велічальна-заклінальная песня жанчынамі:

Радзіха, радзіха, каб жа ты жыла,
Каб яшчэ на лета дачку прывяла.
Мы ж будзем гулянку гэту гуляць,
Радзісе здароўя гэтым дапамагаць.

Маці нованароджанага — «віноўніца» свята, ёй асаблівая пашана:

Белая бярозачка, чырвоная вольха,
А хто справіў бяседачку?
Майго брата жонка.
Яна сядзіць на ложачку,
Як курачка, квокчыць,
А мой браток маладзенькі
Бяседачку топчыць.

Цудоўныя песні, поўныя замілавання, душэўнай цеплыні, спяваюцца нібы ад імя мужа да жонкі, якая толькі нарадзіла дзіця:

Ой, спасіба за сыночка,
За яснага сакалочка.
Ой, жонушка маладая,
Нарадзі шчэ й дачушку,
Як ясную сакалушку.

Муж, напрыклад, у песні «Піў бы я мёд ды віно», вядомай у многіх варыянтах, выказвае свае глыбокія пачуцці да жонкі такімі словамі:

Лучшэ на свеце не жыць,
Чым жану не любіць.
Жонка пацешыць у піру,
А дзеткі рассмешаць у даму.

Наогул песні, у якіх велічаюцца маці і бацька, часцей за ўсё прасякнуты цеплынёй, душэўнай чуласцю членаў сям'і адзін да аднаго. Муж і жонка цэняць і кахаюць адно аднаго, жонка шчыра разлічвае на дапамогу мужа ў такую адказную для яе часіну, як роды. Пасля цяжкіх родаў знясіленая, але шчаслівая жанчына спяшаецца парадаваць мужа весткай, што нарадзіла для яго сына:

— Мужанёк, мужанёк, прыйдзі ты ка мне,
Раскажу ўсё я табе,
Што я цяжка так прыбалела,
Але ўсё роўна сыночка для цябе займела.
Будзем з табой удваіх гадаваць,
Будзем яму здароўя дабаўляць.

Таму і муж спяшаецца парадаваць жонку:

Ой, люба, ой, люба Віцечку жана,
Пашыў шубачку з сямі сабалёў.
Ай, дай жа, Божа, гэту шубачку знасіць.
Гэтую знасіць, другую купіць.

Часта такія песні-велічанні маюць апавядальны характар і цяжка вызначыць, чаго больш у песні: велічання, адлюстравання пачуццяў або простага паведамлення пра героя (гераіню) песні, іх учынкі. Таму жанравая класіфікацыя радзінных песень умоўная. Гэта песні тыпу «У нас сягоння навіначка стала», у якой гаворыцца, што жонка просіць паклікаць мужа, які працуе на таку, каб ён прынёс ёй вішнёвага соку, на што муж адказвае:

— Калі на сына, мушу пастарацца,
Калі ж на дочку, — няхай выбачае.

Але жонка адказвае мужу:

— Колечка-душка, усе роўныя служкі.
Сыночкі будуць араць-баранаваці,
Дачушкі будуць, ой, шыць-вышываці.

Прычым і народная мараль як бы падводзіць вынік у гэтых песнях:

А ў нашым садзе ўсе роўныя кветачкі,
Сынкі і дачушкі — усе роўныя дзетачкі.

У песнях даволі выразна паказваецца стаўленне бацькі да нараджэння сыноў і дачок: у асноўным бацька жадае, каб нараджаліся сыны:

— Нарадзі мне дзевяць сыноў,
Дзевяць сыноў, дзесятую — дочку-швачку.
— Мужу ты, мужу ты мой,
Мужу, сардэчка маё,
Паставі ты дзевяць гарадоў,
А дзесяты — церам-церамок.
Тады раджу дзевяць сыноў,
А дзесятую — дочку-швачку.

Сапраўды, сялянская сям'я ўяўляецца як вялікая, мнагадзетная. Дзеці — гэта багацце, няма большай кары для мужа і жонкі, як бяздзетнасць. І ўсё ж перавага аддаецца сынам. Такое неаднолькавае стаўленне да нараджэння сыноў і дачок, магчыма, абумоўліваецца перш за ўсё нераўнапраўным становішчам жанчыны і мужчыны ў дарэвалюцыйным грамадстве. Па сведчанню А. Ф. Лісаўскога, «удаву, калі ў яе не было сына, а толькі дочкі, нават маглі выгнаць з дому і ніякай маёмасці, апрача адзення нябожчыка, ёй не давалі. У хату, дзе было двое мужчын, удава не магла браць прымака. Выганялі яе не таму, што існаваў такі несправядлівы закон: ёй стваралі невыноснае жыццё, і яна «воляй-няволяй» павінна была пайсці»[3].

Спецыяльных асобых велічальных песень пра бацьку нованароджанага выконваецца не так і многа. У асноўным гэта песні-«падзякі» гасцей бацьку-«кавалю», які «скаваў дзяціну».

Песні-велічанні мужа і жонкі, як і іншыя хрэсьбінныя песні, багатыя на сродкі мастацкай выразнасці. Пастаянныя эпітэты, метафары, параўнанні сустракаюцца амаль у кожнай песні: «каля месяца, каля *яснага* ўсё *дробныя* звёзды, каля століку ля *цясовага* ўсё *любыя* госці»; «нарадзіла маці сына, беленькага, як сыра»; «яна сядзіць на ложачку, як курачка, квокчыць»; «нарадзіла мне сыночка, як яснага сакалочка» і шматлікія іншыя. Шырока выкарыстоўваецца прыём паэтычнага паралелізму:

> А хто, хто каля рэчанькі свішчыць?
> Селязень сваю вутачку ішчыць.
> ..................................................
> Юзічак па новых сенях ходзіць,
> Ён сваю жоначку сочыць.

Ці вось такі:

> Салавей да й па трыснічку свішчыць,
> Ён сваю да й зязюльку ішчыць:
> — Ой, ка мне, мая зязюлька, ка мне,
> А ў мяне да ва гняздзечку мякка...
> ..................................................
> Млады Ванечка па хатаньцы ходзіць,
> Ён сваю да й Ганулечку просіць:
> — Ой, ка мне, мая Ганулечка, ка мне,
> А ў мяне да ў пасцеленьцы мякка.

---

[3] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1902. Т. 3. С. 22— 24.

У хрэсьбіннай абраднасці значнае месца займаюць песні да бабкі-павітухі. Некалі бабка-павітуха была незаменнай асобай, таму што практычна толькі яна магла аказаць жанчыне пры родах дзейсную дапамогу. У песнях пра бабку гаворыцца, што бацька нованароджанага «сцежачку вытаптаў да бабкі ходзячы, ды яе просячы». Пры набліжэнні родаў муж «ляціць-бяжыць» па бабку:

Ай, стуку-груку, ай, стуку-груку ды па вуліцы,
Бяжыць Ванечка па бабулечку.
— Ты, бабулечка, ты, Міхайлаўна,
Я прашу цябе, ты не 'стаў мяне,
Перабаб маё ты дзіцяцетко...

Бабка хуценька збіраецца, «бяжыць яна скарэсенька, просіць Бога шчырэсенька: «Дай жа, Божа, маёй унучцы лягесенька, дабрэсенька, скарэсенька». Песень, дзе б гаварылася, што бабка адмаўляецца дапамагчы ці робіць нешта не так, не сустракаецца. Бабка ведала ўсіх дзяцей на вёсцы, таму што кожнага прымала на свае рукі. І яе ўсе ведалі і шанавалі. Часам яна першая вучыла маладую маці купаць дзіця, лячыць яго народнымі сродкамі, давала нават парады па выхаванню. Да бабкі звярталіся не толькі пры родах, але і калі хто хварэў з дарослых ці дзяцей, бо яна мела некаторыя практычныя навыкі лячэння і таксама нікому не адмаўляла ў дапамозе. У песнях адносіны да яе раскрываюцца ў памяншальна-ласкальных назвах, эпітэтах, абмалёўваецца яна надзвычай каларытна: яна не гордая, дагадлівая, клапатлівая, мудрая і ўмелая. Называюць яе бабка, бабачка, бабулечка, бабуся, бабуська, бабусенька, бабушка, бабка-любка, бабка-любка вінаградаў цвет, бабачка-галубачка, бабусюхна-любусюхна, бабка — чырвоная ружа і г. д. Бабку, як і кумоў, у першую чаргу запрашалі на хрэсьбіны. У застоллі бабку, кума і куму садзілі на самае ганаровае месца — на кут, стараліся як мага лепш пачаставаць: бабка на куце, «як вінаград на дварэ»; «як золат персцень шаруюць, так бабку шануюць» — такімі трапнымі параўнаннямі характарызуецца бабка. Павага да бабкі-павітухі асабліва выразна выказваецца словам «ганараваць»:

У нашага Валодзі вінаград на дварэ.
Пасадзіў бабачку на самым куце.
Частуець, ганаруець, частуець, ганаруець,
Нікому — сам сабе.

З надзвычайным хараством і паэтычным майстэрствам велічаецца бабка ў розных варыянтах песні «Каб я знала, ведала», у якіх трапна выкарыстоўваюцца перыфраз, эпітэты, параўнанні («бабулька, пахнючая мята», «чырвоная роза», «красачка, чырвоная ягодачка» і інш.). Часам у велічальных песнях аб'ядноўваецца велічанне бабкі і кумоў, і гэта заканамерна, таму што не меншая роля на хрэсьбінах адводзілася і кумам. Лічылася, што ад кумоў, як і ад бабкі, залежаць лёс, доля і здароўе дзіцяці. Нездарма ж у песні спявалася: «Ці такія кумы бралі, шчасця-долі не давалі?» У велічальных песнях і да кумоў звяртаюцца ў такой жа ласкавай форме: кумочак, кумка, дабаўляючы яшчэ больш ласкавы зварот — галубок, галубка, любка, кумочак-васілёчак і інш. Звычайна ў велічальнай песні па чарзе звярталіся да бабкі, кума, кумы, услаўляючы іх. Песні такога тыпу пабудаваны па прынцыпу траічнага паўтарэння адной і той жа страфы, змяняецца толькі аб'ект услаўлення:

Над ракой вярба сукаватая,
На куце бабка ўсё багатая.
Над ракой вярба сукаватая,
На куце кума ўсё багатая.
Над ракой явар зелянюсенькі,
На куце кумок маладзюсенькі.
А ў бабкі кабат — сто рублёў аддат,
А ў кумы каралі — сто рублёў сталі,
А ў кума штаны — ім няма цаны.

Спяваліся і асобна велічальныя песні да кума ці кумы:

Я б свайго кумочка,
Свайго галубочка
За столікам пасадзіла.
Я б свайго кумочка,
Свайго галубочка
Харашэнька частавала...

Бацькі немаўляці праяўлялі асаблівую гасціннасць да бабкі і кумоў, прасілі іх не спяшацца дадому, пагуляць-пагасцяваць, а калі нагуляюцца, адвозілі дадому.

Нягледзячы на такія паважлівыя і шаноўныя адносіны да бабкі і кумоў, пра іх на хрэсьбінах спяваецца і найбольш жартоўных песень, якіх запісана вельмі многа. Хрэсьбіны — свята сямейнае, вясёлае, а беларусы пры радаснай нагодзе ўмеюць пасмяяцца, і паспяваць, і патанцаваць. На хрэсьбінах якраз і

спявалі самыя розныя жартоўныя песні. Ніхто на гэта не крыўдзіўся. Пасмейваліся незласліва, добразычліва, з лёгкім пакепліваннем з бабкі. У такіх жартоўных песнях бабка паказвалася нібыта гультайкай, п'яніцай, нядбайліцай, пражорлівай і г. д.: «Наша бабулька дай малімонка, не п'ець гарэлкі, кажыць, што горка»; «Упілася бабка, упілася, за столікам звілася»; «Да казалі, бабка цяжка ляжыць — па падарачкі аж бяжыць»; «Наша бабка падпіла, пад прыпечкам спаць лягла»; «Лянівa бабка, лянівa, бабкіна каша кастрыва»; «Запражыце й, запражыце казу смаленую, завязіце й, завязіце й бабу хваленую» і інш. Прычым жартоўны характар песень не перашкаджаў величанню ўдзельнікаў радзінна-хрэсьбіннай урачыстасці. Гэта адносіцца і да большасці песень пра кума і куму, пра іх узаемаадносіны, пра заляцанні кума да кумы. Звычайна такія песні спяваліся бліжэй да канца хрэсьбіннага застолля, калі пасля добрага пачастунку стваралася вясёлая атмасфера. Кум і кума — хросныя бацькі, якім хрысціянская рэлігія прыпісвае выключна духоўную роднасць. Але інстытут кумаўства ўзнік у далёкія часы, задоўга да прыняцця хрысціянскага абраду хрышчэння. Магчыма, некалі кумы выконвалі абрад увядзення, прыняцця новага чалавека (нованароджанага) у абшчыну, у род. Існуе версія, што намёкі на вольныя адносіны паміж кумамі (кумам і кумой) — гэта старадаўнія водгукі на жыццёвы ўклад родаплемяннога перыяду. Верагодна і тое, што такія паводзіны кумоў адыгрывалі некалі магічную ролю — нібы спрыялі жыццесцвярджальнай моцы, мелі прадуцыруючы характар. Аднак удавацца ў падрабязнасці гэтага аспекту кумаўства няма патрэбы, таму што ва ўступным артыкуле да «Радзіннай паэзіі» М. Я. Грынблат абгрунтавана асвятліў названую тэму.

Звяртаючыся да песень, можна адзначыць, што сярод іх ёсць даволі значная колькасць пра вольныя адносіны паміж кумамі: кум і кума парушаюць народныя маральныя нормы паводзін — уступаюць у грахоўную сувязь. Аднак у некаторых песнях гэта раскрываецца не адразу, не прамалінейна. Кум лісліва хваліць куму: «Кума мая, кумушка ты мая, чырвоная ягадка ты мая», частуе яе салодкімі ягадамі, гаворачы: «Салодкі для кумы, горкі для жаны. Еж, кумачка, успажывіся, а жоначка — удавіся». А бывае, што каханне кумы і кума падманлівае, як, напрыклад, у песні «Кум куме рад», дзе гаворыцца, што кум павёў куму ў сад, пасадзіў на «цвяту»:

— Пасядзі, кума,
Прынясу віна.
Сядзіць кума дзень,
Сядзіць і другі.
— Няма кума майго,
Ні віна яго.

Толькі тады і здагадалася кума, што падмануў яе кум, і абурылася. А часам яны ўзаемна падманваюць адзін аднаго. Узаемаадносіны паміж кумамі ў песнях адлюстроўваюцца па-рознаму: у адных песнях гаворыцца, што кумы па абаюднай згодзе ўступаюць у грахоўную сувязь, і людзі асуджаюць іх; у другіх — кума рэзка адмаўляецца ад нясціплых прапаноў кума і сарамаціць яго; у трэціх — людзі асуджаюць распусныя паводзіны кумоў і паказваецца жорсткае пакаранне грэшнікаў («Пасадзіла я квасоленьку, сама йду дадому»).

Жартоўныя песні, што спяваліся на хрэсьбінах, разам з жартоўнымі прыгаворкамі, прыпеўкамі, тостамі-зычэннямі і стваралі вясёлую атмасферу застольнай урачыстасці. Смех у іх адыгрываў магічную ролю: імітаваў шчаслівую вясёлую будучыню нованароджанаму і яго сям'і.

Таксама, як незласліва пацяшаліся з бабкі, высмейвалі і кума з кумою: «Кумок упіўся, за столікам ён звіўся. Мышы-шышы шалелі ... куму штаны праелі»; «Упілася кумка, упілася, пад парогам звілася. Ашалелі мышы, ашалелі, кумцы плацце праелі»; «Цалавала кума кума ў белыя пяткі: — Дзякуй табе, мой кумочак, што прывёз дахаткі» і інш.

Асуджэнне распусных паводзін кумоў у адных песнях, аднак, не выключала лёгкай усмешкі, гуллівага настрою у другіх, дзе гаворыцца пра сексуальныя адносіны паміж кумамі. Такія адносіны не асуджаліся і не лічыліся грахоўнымі:

А кум куму разуваў,
Да й пад ножку паглядаў.
— А кумачка, што за звер?
Я ж баюся, каб не з'еў.
Пакуль выняў пісталет,
Аглянуўся — звера нет.

Часам нават у велічальных песнях, празрыста выяўляюцца не проста сяброўскія адносіны паміж кумамі, а больш інтымныя, ці выказваецца жаданне, каб яны былі такімі: калі куму прапануюць ісці дадому, ён працівіцца, хоча застацца з кумою:

— Не ганіце далоў,
Я не пайду дамоў.
Я тут пасяджу,
На кумачку пагляджу.

Зразумела, што не смех і весялосць выклікалі паводзіны кума і кумы, напрыклад у песні «Кум з кумою гарэлку п'ець», а абурэнне. Кум падмаўляе куму кінуць дзіця ў каляіну, а самім уцячы на Украіну. Зрабіўшы злачынства, кумы апамятаваліся:

— А стой, кума, паслухаем,
Ці не шуміць дубровушка,
Ці не стогнець дарожанька?
— Шуміць, шуміць дубровушка,
Стогнець, стогнець дарожанька
Услед за намі, за кумамі,
За маленькім дзіцяценькам.

Асуджаецца не толькі злачынства ў дачыненні да дзіцяці, але і такі цяжкі хрысціянскі грэх, як спакушэнне чужой жонкі — кумы: «Чужых жонак не зваджывай, твая кума падхрёсная, мая жонка вянчальная».

Спявалася нямала і сугуба эратычных песень, прысвечаных бацькам дзіцяці і таксама кумам. Як і абрады, такія песні мелі поліфункцыянальнае значэнне, якое з часам змянялася. Магічная функцыя паступова перастала быць дамінантнай, уступіла месца іншым: цырыманіяльнай, геданістычнай, гульнёвай, эстэтычнай, дыдактычнай і інш.

На хрэсьбінах спяваліся фрывольныя і задзірыстыя прыпеўкі пра кумоў, многія з якіх выконваліся пры танцах. Некалькі такіх арыгінальных прыпевак запісаў фалькларыст У. А. Васілевіч у Новасібірскай вобласці ад беларусаў-перасяленцаў у 1990 г.:

Кум куму любіў,
Па саду вадзіў.

П р ы п е ў.

А чаго ж мне кумы
Да й не любіці,
Па зялёнаму саду
Да й не вадзіці.

А ў кумы сцягно,—
Сем паноў лягло.

П р ы п е ў.

І г. д.

Аднак большасць прыпевак, якія выконваліся, не мелі прамой сувязі з абрадам. Тэматыка іх разнастайная, ахоплівае амаль усе сферы чалавечага жыцця. Такія прыпеўкі спяваліся і на іншых святах, таму адносіць іх толькі да хрэсьбінных няма падстаў, нягледзячы на тое, што яны карысталіся вялікай папулярнасцю на хрэсьбінах.

Да гумарыстычных адносіцца пераважная большасць песень, якія спяваліся ў хрэсьбінным застоллі, у бяседзе. Гаворыцца ў іх пра радню гаспадароў, пра саміх гаспадароў, іх гасціннасць і шчодрасць, пра гасцей; песні запрашалі есці і піць, каб «весяленька сядзелі, добрыя мыслі мелі, харошыя песні пелі».

Хрэсьбіны звычайна гулялі адзін дзень, але ў песнях час святкавання «расцягваўся» аж на цэлы тыдзень. Любімая застольная песня «Ой, куме, куме добра гарэлка» спявалася на хрэсьбінах у шматлікіх варыянтах. З песні відаць, адкуль бралі грошы на гарэлку: пілі з панядзелка да аўторка, а потым «прадалі усюю чарэду», каб выпіць у сераду, а там: «Прадаймо, куме, міскі ды ложкі, вып'емо, куме, шчэ й у чацвер трошкі», на пятніцу прадавалі «рабую цяліцу», а на суботу: «Кідаймо, куме, усюю работу, вып'емо, куме, шчэ й у суботу». Папулярнасць такіх песень тлумачыцца не імкненнем беларусаў да п'янства, а дасціпным гумарам народа, што садзейнічала стварэнню вясёлай атмасферы ў час застолля. М. Федароўскі запісаў нават такую песеньку, у якой сцвярджаецца, што ад пэўнай колькасці выпітых на хрэсьбінах чарак залежыць дараванне грэху:

> Завітай, завітай,
> Келішэчэк зялёны!
> Хто вып'е дванасце,
> Тэн бэндзе збавёны.[4]

Бязмежнае жаданне працягваць застолле, нягледзячы на неадкладныя справы па гаспадарцы дома, дасціпна адлюстроўваецца ў многіх песнях. Такія застольныя бяседныя песні паказваюць асаблівасці частавання ўдзельнікаў хрэсьбін, малююць іх воблік, надзяляюць камічнымі рысамі, дзякуючы чаму таксама ствараецца вясёлы настрой ва ўсіх удзельнікаў свята. Яшчэ больш спявалася на хрэсьбінах бяседных песень,

[4] Federowski M. Lud bialoruski. Warszawa, 1960. T. 6. S. 555.

якія не звязаны з радзіннай абраднасцю і могуць выконвацца ў любых іншых абставінах, пры любым застоллі. Аднак амаль усе выканаўцы-інфарматары без ніякіх агаворак называюць фальклярыстам гэтыя песні як хрэсьбінныя. Таму невыпадкова такія песні і ўключаны ў том. Гэта песні пра жаночую долю, пра чужую сям'ю і нялюбага ці благога мужа; пра багатага брата і бедную сястру; нявернасць мужа ці жонкі і шмат іншых. Звычайна калі на хрэсьбінах бяседа і застолле зацягваліся, то спяваліся песні такога тыпу:

> Досыць нам, досыць нам
> У бяседзе сядзець.
> А пойдзем на вуліцу
> На людцаў глядзець.

А пры адыходзе гасцей дадому з хрэсьбін спявалі:

> Час дадому, час.
> Час, ды ўжо даўно.
> Будзе мяне мілы біць,
> Некаму абараніць.
> Час дадому, час.

Акрамя песень на хрэсьбінах шырока выкарыстоўваюцца застольныя тосты, жарты, прыказкі і прымаўкі, без якіх не абыходзіцца ні адна ўрачыстасць. У дадзеным томе яны не прыводзяцца з прычыны таго, што тэксты паўтараюць раней апублікаваныя ў томе «Радзіны», а новыя арыгінальныя запісы нешматлікія. Усе гэтыя творы, зразумела, цесна ўзаемадзейнічалі ў адзінай сістэме, якая карэліравалася рытуалам хрэсьбіннай урачыстасці і грунтавалася на традыцыях, што складваліся і развіваліся на працягу стагоддзяў і часткова дайшлі да нашага часу. Зразумела, што абрады і іх вербальная частка неаднолькавыя па ўсіх рэгіёнах Беларусі, маюць рэгіянальныя і лакальныя асаблівасці, аднак у сваёй аснове агульныя. Лепшыя ж традыцыйныя радзінныя абрады і звязаныя з імі паэтычныя творы, перш за ўсё песні, не толькі жывуць у народнай памяці, але ў розных месцах у большай або меншай меры выкарыстоўваюцца ў новых звычаях і абрадах, адраджаюцца.

Выказваем падзяку кандыдату філалагічных навук А. С. Емяльянаву за прадстаўленыя з асабістага архіва цікавыя і каштоўныя запісы хрэсьбінных песень, якія мы ўключылі ў том.

*Г. А. ПЯТРОЎСКАЯ*

# БЕЛАРУСКІЯ ХРЭСЬБІННЫЯ ПЕСНІ: ПЫТАННІ ГІСТОРЫІ І ТЫПАЛОГІІ НАПЕВАЎ

Даследчыкі, якім даводзілася вывучаць напевы песень радзіннага цыкла, аднадушна адзначалі іх адметнасць у традыцыйных жанрах беларускай абрадавай песні, своеасаблівую няўлоўную тэндэнцыю да «невызначальнасці» ўстойлівых музычна-жанравых адзнак, процілеглую той рэальнасці, якую ўвасабляюць іншыя абрадавыя песні беларусаў — вясельныя, веснавыя, купальскія.

В. Ялатаў у артыкуле «Напевы радзінных песень»[1] акцэнтуе той факт, што «агульнастылістычныя рысы, якія праяўляюцца ў мелодыцы радзінных песень, дазваляюць адносіць іх да найбольш ранніх інтанацыйных пластоў... тут мы выявілі... шматлікія паўторы простых інтанацыйных ячэек... і рытмы, якія трымаюцца на моўнай дэкламацыі, і, нарэшце, раннія віды гетэрафаніі... Але гэтыя сродкі ў асноўным так і засталіся... на ўзроўні абагульненых для пэўнай эпохі стылістычных адзнак народнай музыкі». Толькі асобныя групы хрэсьбінных песень, запісаных пераважна ад аднаго выканаўцы, у агульным, зусім невялікім аб'ёме музычнага матэрыялу адпаведнага тома утвараюць, на думку даследчыка, варыянты так званага тыпавага напеву. Пераважаюць у выданні 1971 г., паводле таго ж аўтара, напевы «бяседных» песень з перавагай «застольных» эмоцый.

Тым не менш В. Ялатаў прапанаваў сур'ёзную і досыць нечаканую на той час ідэю функцыянальнай тыпалагізацыі радзінных напеваў з вызначэннем характэрных сфер інтанацыйнай выразнасці, з якіх дзве найбольш стабільныя і традыцыйныя: заклікальная і велічальная. У мелодыцы гэта з'ява знаходзіць увасабленне ў шматразовых паўторах пэўных, дакладна акрэсленых інтанацыйных пабудоў адпаведнага прызначэння.

[1] Ялатаў В. І. Напевы радзінных песень // Радзінная паэзія: Беларуская народная творчасць. Мн., 1971. С. 38.

Беларускі этнамузыколаг З. Мажэйка ў музычным зборы, выдадзеным дзесяццю гадамі пазней, адзначае, што «... у адрозненне ад іншых этнаграфічных раёнаў Беларусі, дзе радзінныя (хрэсьбінныя) песні спяваюцца на агульныя для ўсіх «бясед» напевы, «хрэсьбінам» Паазер'я ўласціва спецыфічнасць традыцыйнага музычнага афармлення з яркімі тыпавымі напевамі ў мностве іх разнавіднасцей і варыянтаў»[2]. У паўночнабеларускім радзінным цыкле аўтар вылучае тры асноўныя тыпалагічныя групы, акрэсленыя паводле характарыстык мелодыкавершавага рытму, адпаведнай складавай структуры верша, досыць «размытых» у межах тыпалагічных адзнак, але з дадатковымі паасобнымі гукарадавымі тыпалагічнымі арыенцірамі. У радзінных песнях (дваццаць натаваных З. Мажэйка транскрыпцый, выкананых дакладна і поўна разам з адпаведнымі паэтычнымі тэкстамі) упершыню навукова фіксуецца паўночнабеларуская хрэсьбінная традыцыя.

Нягледзячы на існуючыя публікацыі, беларускія хрэсьбінныя песні як з'ява абрадавай культуры вывучаны досыць фрагментарна. Існуе шмат чаго не высветленага навуковай практыкай, і таму асноўнай сваёй мэтай мы палічылі публікацыю нотных запісаў хрэсьбінных песень з сучаснай экспедыцыйнай практыкі (у нашай натацыі) разам з паэтычнымі тэкстамі, якія б сталі асновай для даследаў самага рознага профілю. Разам з тым прапануем яшчэ адну спробу класіфікацыі адпаведнага матэрыялу.

Канцэпцыя тыпалогіі ўвогуле з'яўляецца надзвычай вострай для радзінных песень. Як метад класіфікацыі тыпалагічныя рады шырока выкарыстоўваюцца ў розных навуковых дысцыплінах (філасофія, біялогія, гісторыя і інш.) у храналагічным зрэзе ад антычнасці да нашага часу. Першапачаткова тыпалагічныя рады выкарыстоўваліся для простага ўпарадкавання вялікай колькасці аб'ектаў, з'яў і не мелі гістарычнага падтэксту, разглядаліся як часавыя паслядоўнасці, што дэманструюць пэўны ўзровень развіцця на працягу пэўнага перыяду. Менавіта ў такім сваім значэнні мелодыка-вершавыя рытмавыя паслядоўнасці, якія склаліся ў традыцыйнай песеннай культуры на працягу пэўнага адлеглага часу ў якасці найважнейшага стылістычнага прынцыпу абрадавай песеннасці, працягваюць сваё існаванне (тыпалагічныя рады) у музычнай фалькларыстыцы.

---

[2] Мажэйка З. Я. Песні беларускага Паазер'я. Мн., 1981. С. 27.

У сучаснай навуковай практыцы (з блізкіх дысцыплін — музычная археалогія, музычная антрапалогія) істотным стаў гістарычны акцэнт канцэпцыі тыпалогіі, пошукі магчымай пабудовы непарыўнай паслядоўнасці фрагментарных крыніц без храналагічных разрываў. У класіфікацыйных сістэмах, як лічыць музычны археолаг А. Аблава[3] (прыводзячы ва ўласным перакладзе з англійскай, нямецкай, французскай, фінскай моў сучасныя навуковыя першакрыніцы), адбыліся базісныя змяненні: таксанімічныя рады саступілі месца генетычным.

Марфалагічнае падабенства як базісная даследчая стратэгія — заўсёды галоўны аргумент для пабудовы тыпалагічных радоў. Гэта падабенства можа існаваць як тоеснасць, блізкасць ці як аддаленая марфалагічная сувязь на падставе супадзенняў асобных элементаў структуры. У музычнай фалькларыстыцы тыпалагічна блізкія матэрыялы адбіраюцца звычайна згодна з метадам аналогіі — свайго роду агульным лагічным базісам пры абмежаванасці ці адсутнасці магчымасці пабудовы часавай, храналагічнай рэтраспектывы ў адабраных па прыкметах марфалагічнага падабенства матэрыялах (як гэта адбываецца ў археалогіі, біялогіі і іншых навуковых дысцыплінах) і існаваннем толькі прасторавай, так бы мовіць, «геаграфічнай» перспектывы. Такая з'ява існуе з-за адсутнасці практыкі запісвання музычнага фальклору традыцыйных культур да XIX стагоддзя.

Ідэя гамалагічнай (катэгорыя гамалогіі падкрэслівае, з аднаго боку, аспект генетычных суадносін[4], а з другога — аспект дыяхранічнай серыяцыі) тыпалогіі найбольш удала, на наш погляд, адпавядае даследаванню беларускіх хрэсьбінных песень, даючы мажлівасць зразумець вытокі іх своеасаблівай «невызначальнасці» ў межах таксанімічных радоў, пра што сведчаць навуковыя доследы. Яна ж адкрывае новыя ўяўленні пра гэты жанр сямейна-абрадавай традыцыі, узбагачае даследчы апарат, пашырае тэорыю жанру.

Здавалася б, існуе пазітыўны аргумент позняга паходжання хрэсьбіннай традыцыі, які адпаведным чынам тлумачыць

[3] Аблова А. Р. Литофоны в музыкальной культуре: Автореф. дисс. ... канд. искусствоведения. Л., 1996.

[4] Аспект генетычных суаднясенняў у межах розных рытмічных складовых форм (5+5), (5+2), (4+3) падкрэслівае ў сваіх працах К. Квітка (Наспіви жнівних пісень північно-західних районів території поширення української мови // Вибрані статті. Київ. 1985. Ч. 1).

блізкасць радзінных і бяседных песень, а таксама адсутнасць патрэбы шукаць музычна-стылявыя праявы абрадавай (магічнай у сваёй аснове) скіраванасці хрэсьбінных песень. Само хрышчэнне нованароджанага — з'ява, апасродкавана звязаная з хрысціянствам. Узрост яе не перавышае 1000 гадоў. Але абраднасць, адпаведная моманту нараджэння дзіцяці, пачатку новага жыцця, безумоўна, старэйшая за сваю «хрэсьбінную» мяжу.

Жанравая сістэматызацыя радзінных напеваў — адно з найскладанейшых і найменш вырашаных на сённяшні дзень пытанняў беларускай сямейна-абрадавай песеннай традыцыі. Аб'ектыўныя прычыны, акрамя названых, — адметнасць крытэрыяў вызначэння тыповых хрэсьбінных традыцый у межах абрадавай песеннасці.

Першасны магічны сэнс функцыянавання хрэсьбінных песень як песень рытуальнай дзеі ў значнай меры перакрыты побытавымі сітуацыямі, звязанымі з колам песень, функцыянальнае прызначэнне якіх — ажыццяўляць, спрыяць музычнай камунікацыі паміж удзельнікамі сямейнай урачыстасці. У галіне формаўтварэння названая заканамернасць выяўляецца як шматаблічнасць напеваў, якія захоўваюць тым не менш марфалагічнае падабенства асобных праяў структуры.

Гукавыя комплексы клічнага зместу ў радзінным цыкле — адначасна знакі-сігналы той адметнай з'явы, што непасрэдна ў дадзены момант адбываецца, і магічныя звароты да сіл прыроды ахоўнага прызначэння. Інфармацыйны сэнс сігнальных інтанацый радзіннай абрадавай музыкі можа быць розным: «усё спакойна», «увага», «важны момант цырыманіялу», «віншаванне», суправаджэнне рытуальнага руху, танцаў.

Важная функцыя хрэсьбінных песень іншай, вельмі ёмістай групы — песні для слухання; дыдактычныя павучанні; песні, прызначаныя выклікаць катарсічнае ачышчэнне асобы як пэўнай сацыяльнай адзінкі.

Важная функцыя песень яшчэ адной, таксама пашыранай у радзінным цыкле групы — песні танцавальныя, у якіх сінкрэтычна аб'яднаны рух, слова і музыка. Цесна звязаныя з метрычным пульсам, квадратнасцю структуры, спрошчанасцю меладыйнай лініі танцавальныя песні маюць як рытуальны, так і звычайны побытавы характар як абрадавых (бабка, кумы), так і пазаабрадавых адрасатаў. Іх функцыянальнае пры-

значэнне — даць выхад адчуванню магічных патаемных цырыманіялаў у саматычных праявах, дынаміцы харэаграфічна зафіксаваных рухаў, адкрытых эмоцыях.

Сярод асноўных тыпалагічных «вузлоў» беларускіх хрэсьбінных песень вылучаем пяць, адабраных згодна з крытэрыямі рытміка-складавай формы як агульнага першапачатковага прынцыпу класіфікацыі:

— з пяціскладавай мелодыка-рытмавай формулай як падмуркам для існавання спецыфічных тыпалагічных груп, а таксама для спалучэнняў яе з іншымі мелодыка-рытмавымі «вузламі»;

— з трохскладавымі пабудовамі як асновай пэўных тыпавых хрэсьбінных напеваў, дадзеных як у «чыстым» выглядзе, так і ў спалучэннях;

— чатырохскладавыя формульныя пабудовы, спалучэнні іх з іншымі рытмавымі хрэсьбіннымі тыпамі;

— сямiскладавая мелодыка-рытмавая форма са структурай 4+3, спалучэнні яе з іншымі хрэсьбіннымі структурнымі радамі;

— шасціскладавая рытмавая форма, сплучэнні яе з іншымі рытмавымі тыпамі.

Істотна, што гэтыя «марфалагемы» ахопліваюць увесь корпус абрадавага меласу розных жанраў каляндарнай і сямейнай абрадавых традыцый беларусаў, тыпавыя напевы, уласцівыя кожнаму з іх паасобку.

Але ў тыпалагічных групах, акрамя вызначальнай квантытатыўнай формулы, заўсёды існуюць раўназначныя па сваім месцы ў хрэсьбіннай традыцыі рытмавыя варыянты, у якіх суадносіны доўгага і кароткага часу будуць іншымі (у межах дадзенай складавай формулы), адпаведнымі зноў-такі тыпалагічным заканамернасцям акцэнтнай структуры слоў, якія ўтвараюць тую або іншую музычна-вершавую пабудову. У азначанай заканамернасці выяўляецца суіснаванне ў межах аднаго тыпалагічнага раду жанраў «моўнай» і «рухавай» дынамікі (тэрміны В. Ялатава) адначасна.

Адно з першых меркаванняў пра тыпалагічныя характарыстыкі хрэсьбінных песень знаходзім у працы К. Квіткі «Напевы жніўных песень...», напісанай у апошні, маскоўскі, перыяд навуковай дзейнасці вучонага: «...на ўкраінскім этнічным грунце дзесяціскладавы верш, які змяшчае і пяціскладавыя паўвершы (схема 5+5), у класе абрадавых песень —

з'ява звычайная для калядак і для песень, якія «выконваюцца на «бяседах» пры нараджэнні дзіцяці». І далей: «Музычна-рытмавая форма пяцiскладавага паўверша «хрестынных» песень характарызуецца павелічэннем удвая сярэдняга складу: ♩ ♩ 𝅗𝅥 ♩ ♩ »[5]. Нягледзячы на тое што гаворка ідзе толькі пра

паўночна-заходні «ўкраінскі этнічны грунт», навуковыя інтарэсы вучонага тычацца дзяржаўных межаў сённяшняй Беларусі. Азначаны песенны тып — адзін з найхарактэрных для беларускай хрэсьбіннай традыцыі як цэласнай з'явы, але найбольш распаўсюджаны ў паўночнай Беларусі[6].

Калі прыняць гэту складавую рытмавую пабудову як вызначальную для пэўнай групы хрэсьбінных тыпавых напеваў (маючы на ўвазе, што побач з ёю амаль як раўназначныя існуюць іншыя формы рытмавага ўвасаблення пяцiскладавай), магчымы наступныя яе «выпраменьванні» ад простых да складаных форм: дакладная адпаведнасць двухвершавай паэтычнай страфы простай двухчасткавай кампазіцыі напеву, які захоўвае адасобленасць двухчасткавай музычнай будовы «пытанне-адказ» — (5+5):



Я ў пі-ру бы-ла,
Не ўпі-ва-ла-ся

(№ 617). Падваенне прыведзенай рытмавай квантытатыўнай формулы ў больш разгорнутай парнай меластрафе (5+5)2 маем у хрэсьбінных песнях № 151, 166, 708, 578. Своеасаблівы кантэкст мае страфічная форма 5+(5+5)+5 — № 546, 547.

Паводле мелодыка-інтанацыйнага зместу сярод вышэйпамянёных ёсць і напевы паўторнай формульнай будовы, заклічнага, непрыхаванага, тройчы дадзенага на працягу чатырохзвеннявай мелодыка-вершавай страфы функцыянальнага прызначэння (смаргонскія прыклады); і тыпавыя напевы, у якіх захоўваецца двойчы праведзены на працягу страфы структурны прынцып «пытанне-адказ», але, як гэта часта бывае ў традыцыйнай песеннай культуры, з перабудовай пры паўторы

---

[5] Гл. зноску 4.
[6] Першая тыпалагічная група ў класіфікацыі З. Мажэйка.

мелодыка-хвалевай паслядоўнасці кампазіцыйных звенняў (адзін з варыянтаў рэалізаваны: у № 134 — «пытанне-адказ-адказ-адказ»; у № 546 — «адказ-пытанне-адказ-адказ»).

Паводле ж семантыкі, у прыведзеных напевах спалучаюцца сігнальныя квартавыя або квінтавыя інтанацыі (з падоўжаннем адпаведна квартавага або квінтавага тону) і так званыя «віншавальныя» інтанацыі (паступовы ход па ступенях лада: IV-III-II-I.)

Звычайна ў хрэсьбінных мелодыях «клічавая» пабудова праводзіцца хаця б раз на працягу страфы, у астатніх канструктыўных звеннях мелодыка-інтанацыйнае станаўленне ажыццяўляецца ў пашыраных ладава-гукарадавых межах (у розных выпадках — адна-, двухразовае ўжыванне VI, II, IV ступеняў), але заўжды з захаваннем перавагі найбольш пашыранага для хрэсьбін ладава-інтанацыйнага стэрэатыпу — тэтрахорду ў квінце, радзей — трыхорду ў кварце, якія звычайна ў сваім «чыстым» выглядзе даюцца ў адным з пачатковых звенняў складанасастаўной структуры з амаль што абавязковым развіццём мелодыі ў верхняй зоне ладавай структуры напеву (верхнятэрцавай ячэйцы адносна тэтрахорду ў квінце).

Разглядаючы ладава-інтанацыйную будову пяціскладавых хрэсьбінных напеваў, якая, дарэчы, з'яўляецца вызначальнай і ва ўсіх іншых рытміка-складавых формулах беларускай радзіннай музыкі, трэба адмаўляцца часам ад традыцыйнага ліку ступеняў ладу, каб зразумець сэнс моўных інтанем. У гэтых напевах увасоблены сэнс клічу, які заўсёды акцэнтуе ў агульнай структуры больш высокі інтанацыйны пласт. У напевах гэта заканамернасць праяўляецца больш традыцыйна, зваротам пасля падкрэслення «верхняй» інтанацыйнай зоны ў межы «ніжняга» апорнага тону (I-й ступені лада):





або менш традыцыйна (№ 140):



з кадансам на «высокім» узроўні IV ступені.

Ёсць напевы, у якіх падкрэсліваюцца па чарзе два ўзроўні ў адваротным парадку: спачатку «высокі» інтанацыйны пласт, потым «нізкі» (№ 560).

Азначаная вышэй квантытатыўная мелодыка-вершавая пяціскладавая формула можа існаваць не толькі ў межах парнай страфы, але ўвасабляцца і ў трохвершавай кампазіцыйнай пабудове (№ 5, 334, 645, 623). Дарэчы, у № 5 — архаічны, хаця і хрысціянізаваны, сюжэт вобразна адпаведны семантыцы тыпавага напеву (кліч-зварот да прыроды за дапамогай у час нараджэння новага жыцця); маленне «Прачыстай» за дзве душачкі — малое дзіця і яго маці: «Адну душачку — малое дзіця, другую душу — да і Манечку». Кампазіцыйную чатырохвершавую будову рэфрэннага тыпу (А/АВ/В) з аналізуемай квантытатыўнай пяціскладавай формай у аснове маем у № 340, шасцівершавую структуру страфы АБВГВГ (тэкставая страфа) — у № 224.

Спалучэнні вызначальнай пяціскладавай формы з двухскладавымі, якія звычайна ў сістэматызацыі абрадавых напеваў трактуюцца як элемент дапаўнення да пяціскладавай, ёсць у № 139, 140, (5+5)+(5+2)+(5+2):



Ці-раз рэ-ча-чку, ці-раз бы-стру-ю Гі-бка кла-да-чка ля-жыць.

Спалучэнні ў адзінай форме пяціскладавай з падаўжэннем розных складоў (сярэдняга, трэцяга, другога) у пяцівершавай страфе (5+5)+(5+5+5) маем у № 662. Аб'яднанне ў адзінай складанасастаўной кампазіцыі сяміскладавай хрэсьбіннай формы з пяціскладавым рытмам азначанай будовы — у № 116 (4+3)+(5+5):



А Йвань-ка-ва ха-та-чка На га-ры ста-іць.

Спалучэнні вызначальнай квантытатыўнай формы пяціскладавай будовы з чатырохскладавай структурнай адзінкай — у № 654, 593, 153. Рытмавая форма чатырохскладавай будовы можа быць пры гэтым ізарытмічнай у рытмава-складавай кампазіцыі (4+5)2 (№ 654):



Ай, ра-дзі-ла Мя-не ма-ма-чка

або гетэрарытмічнай (№ 153):



Ня-хай йі-на Да ска-рэй і-дзець.

У межах тыпавай складанасастаўной формулы тут адвольна можа змяняцца знаходжанне цэзуры (4+5)2 або (5+4)2 — № 596.

Прымае трохі іншы рытмавы выгляд (з распевам усіх складоў пасля 3-га ў вызначальным квантытатыўным пяціскладавым рытме) дадзеная рытмаформула ў № 485, 566:



Пя-тух пя-ець, Я ■ да-моў не йду.

Прыклады «падвойнага» спалучэння пяціскладавай азначанай квантытатыўнай формы з тыпалагічна вызначальнымі для хрэсьбін чатырох- і пяціскладавымі мелодыка-рытмавымі вузламі маем у структуры (5+5)+(4+6), увасобленай у № 239:



Да каб я зна-ла, Да каб я зна-ла



Да хто ў мя-не Да ба-бка-ю бу-дзе.

Хрэсьбінная пяціскладавая будова, рытмавая квантытатыўная форма якой фіксуе падаўжэнне другога складу, увасоблена ў структуры . Наяўныя запісы хрэсьбінных песень даюць узоры ўжывання яе толькі як звяна складанасастаўной структуры. Вось прыклад спалучэння яе з чатырохскладавымі хрэсьбіннымі «вузламі» — (5+5)+(4+4+5)2:



Даў-но я, даў-но У ма-мкі бы-ла



У-жо ма-я Да-ро-жань-ка Тра-вой за-ра-сла.

Дапаўненні пяцiскладавай формулы двухскладавай структурнай адзінкай маем у № 85 — (2+5)2:



Жо-нка — па-кра-са ма-я.

Адначасовае падваенне другога і чацвёртага складоў пяцiскладавай будовы ў спалучэнні з адной трохскладавай групай — у № 231, 417, 418, 462, 412:



Ба-хма-та ве-рба ў са-до-чку (№ 231).

Квантытатыўнае падаўжэнне чацвёртага склада пяцiскладавай будовы мае формы простыя — (5+5)2:



Да быў у мам-кі

у № 672, 609, 685, 686, 716 або састаўныя формы. Спалучэнне з адной трохскладавай групай маем у № 92 — рытмаваскладавая форма (5+3)2:



А са-да-ва-я яб-лань-ка.

Складанасастаўную структуру з дзвюма трохскладавымі групамі, што ідуць пасля азначанай пяцiскладавай 5+(3+3)2:



Ой, за-шу-ме-ла Бе-ла-я Бя-ро-за

паказваюць № 109, 244, 268. Злучэнні з шасцiскладавым хрэсьбінным «вузлом» іншых рытмава-складавых форм маем у № 377:



Ай, за-пра-жы-це Ка-ня ва-ра-но-га.

а таксама ў № 260, 100, 103, 112, 606.

Састаўная структура з чатырохскладавай увасоблена ў № 30 — (5+4)2:



Ся-го-дня у нас Го-сці бу-дуць.

Існуюць формы з вельмі рэдкім для хрэсьбін падаўжэннем першага складу пяцікладавай — (5+5)+(6+6):



До-бра-я до-ля, До-бра-я до-ля. А ле-пша-я шча-сце

(№ 487). Сярод простых форм такога класа вылучым спалучэнне двух рознаакцэнтных пяціскладавых у страфічнай кампазіцыі ў № 577 (5+5)2:



Мя-не се-я-лі Шу-ры да бу-ры

або іншы прыклад у № 616:



Я ў пі-ры бы-ла, Не ўпі-ва-ла-ся.

Вельмі распаўсюджана рытмава-складавая група мелодый (5+4)2, якая мае наступны выгляд:



А ў по-лі жы-та Не я-ры-цца

у № 693, 692, 698, 599, 698, 694. Ёсць прыклады трохразовага паўтору ў межах страфы састаўной структуры (5+4)3 — № 697. Яшчэ адна складаная састаўная форма мелодый азначанага класу мае выгляд у межах страфы (5+4)2:



Як за-ка-за-лі За Дзві-но-ю.

Значна часцей у хрэсьбінных песнях ужываецца пяціскладавая структура з падаўжэннем апошняга, пятага, складу, які ў нескладаных састаўных формах можа мець выгляд (2+5)2 — № 478:



А кум ку-мо-ю быў рад

або, наадварот, (5+2)3 — № 196, 197, 545, 329:



Дзед ба-бу та-піць Вя-дзе.

Структура (5+5)+(3+4)2 увасоблена ў № 598.

Складанасастаўныя формы з ужываннем у дадатак да квантытатыўнага пяціскладавага чатырохскладавых мелодыка-рытмавых хрэсьбінных «вузлоў» маем у страфічнай кампазіцыі ў № 699 (5+5)+(4+4+5)2:



Ой, бэ-да, бэ-да, Лі-хы чо-ло-вік —



Ой, сам пой-шоў До кор-чом-кі, А мне нэ вэ-лыт.

Суіснаванне ў адзінай песеннай страфе пяціскладавай азначанай акцэнтнай структуры з шасціскладавымі формамі хрэсьбінных звеннявых структур дэманструе № 440 — (5+5)+(6+6)2:



Да за-пра-жы-це, Да за-пра-жы-це Ка-зла ра-га-та-га.

У этнаграфічных звестках пра хрэсьбіны відавочна засяроджанне ўвагі на трохразовых паўторах розных абрадавых цырыманіялаў: пастукванне тры разы нагамі па падлозе, абыход тройчы вакол стала, пераступанне тры разы праз парог як зварот да дамавога за дапамогай. На ўсходнім Палессі павітуха тры разы на дзень тры дні насіла парадзісе па тры стравы. На Гомельшчыне і Магілёўшчыне існаваў звычай гатаваць на хрэсьбіны тры кашы — бабцы, куму і куме; на ўсе тры кашы збіраліся грошы, а потым усе тры гаршкі разбіваліся. Трохразовыя пракручванні на месцы падчас рытуальнага танца павітухі, трохразовыя падскокванні як мага вышэй — «каб унучак вялікі рос і шчаслівы быў», — усе гэтыя абрадавыя дзеянні маюць асаблівы магічны сэнс, які надаваўся

лічбе «тры» ў хрэсьбіннай традыцыі, што, на думку даследчыкаў, ёсць знак адвольнага пераходу з адной прасторы ў другую. «Зямная троіца — трохкутнік, запаўняе стагоддзі. Гэты трохкутнік страшны для злых сіл. Чалавечая сям'я — бацька, маці, дзіця. Святое сямейства — Дзіця, Маці і Бацька. Усё тое ж і ўсё інакш, так застаецца тым самым і становіцца новым пераўтвораны свет»[7].

Звычайна этнаграфічнае дзеянне не ўвасабляецца ў музычным песенным кантэксце неапасрэдавана. Аднак супадзенні пэўных абрадавых дзеянняў з трохразовасцю пэўных рытмавых тыпавых фігур у музыцы радзін не павінны застацца па-за ўвагай.

Страфічныя формы трохскладавых рытмічных пабудоў выглядаюць па-рознаму, ад простых (3+3)+(3+3)+(3+3) — № 575:



Бе-ла-я бя-ро-за, Бе-ла-я бя-ро-за Па-між гор ста-я-ла

да складанасастаўных (3+5)2 — № 148:



Ох, хто, хто Да паў-но-чы хо-дзіць.

У № 269, 300, 186 — (3+3)+5; рытмавая фігура мае выгляд:  Зменлівая квантытатыўная акцэнтнасць пяціскладавай формулы:  раўназначная тыпаваму напеву «талакі» (№ 635):



Ня-шча-сце, Ня-шча-сце, Ня-до-ля ма-я

з паўторам усёй кампазіцыі ў страфічнай форме двойчы — у № 523, 346, 661, 676, 225, 634, 522, 536, 589.

Злучэнне трох- і шасціскладавых рытмавых фігур набывае выгляд (3+3)+6)2 — у № 464:

[7] Честертон Г. К. Вечный человек. М., 1991. С. 120.



І-шоў кум Да ку-мы, Люль-ку за-па-ліў-шы,

у № 134, 128, 126, 386, 387.

Люстэркавай ў адносінах да разгледжанай з'яўляецца рытмавая састаўная структура 6+(3+3), увасобленая ў № 430:



Ба-бу-ля у-нуч-цы Два ба-ран-кі не-сла.

Сямiскладавы хрэсьбінны «вузел», паяднаны з двума трохскладавымі, — у № 185 (3+3)+(4+3):



Пі ж. ма-я Ба-бу-ся. І га-рэл-ку і ві-но.

Спалучэнне чатырох- і трохскладавых рытмавых фігур дае формы рытмава-складавага віду (4+3+3)2 — № 707:



У-пі-ла-ся да мя-ду-са-ла-ду

або (4+4)+(3+3), таксама як і (4+4)+(3+3)2, — № 285, 431, 309, 381, 200, 170, 435, 404:



Наш І-вань-ка. Наш І-вань-ка За ба-бу-сяй бя-жыць

або з падоўжаным апошнім складам чатырохскладавай групы ў кожнай з чатырохскладавых форм — у № 261, 436.

Мікраінтанацыйная будова тыпавых хрэсьбінных мелодый дадзенага класа, спецыфіка рытмавага строю трохскладавых хрэсьбіных «вузлоў» з рытмічным падаўжэннем 3-й адзінкі спрыяюць адасобленасці, інтанацыйнай завершанасці трохскладавых груп, дазваляючы адрозніваць напевы дадзенай

групы ад блізкага складанасастаўнога ўтварэння (4+4)+6 або (4+4)+6)2, у якіх спецыфіка рытмава-інтанацыйных умоў, мікрахвалявай будовы не дазваляе падзяляць шасціскладавую групу.

Невыпадкова адным з найважнейшых хрэсьбінных рытмавых «вузлоў» выступае чатырохскладавы, часцей — пара чатырохскладавых, якія ўжываюцца або самастойна як вызначальная і адзіная рытмавая тыпавая фігура, што «цэментуе» мелодыю тыпавага напеву, або як звяно розных складанасастаўных рытмавых структур, некаторыя з якіх разглядаліся вышэй.

Абыходы, урачыстыя шэсці, цырыманіяльны крок — менавіта такую першасную функцыянальнасць маюць парныя чатырохскладавыя формы, якія з'яўляюцца важнай часткай шматлікіх хрэсьбінных рытуалаў. Павітуха разам з кумам тры разы абыходзіла стол, на якім ляжаў хлеб, тройчы гэты хлеб цалуючы. Святочны ўваход, шэсце кумоў у царкву і з царквы з дзіцем на руках, потым урачысты ўваход, вяртанне ў хату, калі кумы перадавалі дзіця бацьку, абрад «цягання» бабы на баране, накрытай кажухом, у якую былі запрэжаны мужчыны, або катанне на санках, калясцы — усе гэтыя абрадавыя моманты аб'яднаны перыядычным рытмам руху, пранізаны вобразнай семантыкай руху.

Госці падчас шэсця па вуліцы, як вядома з этнаграфічных крыніц, гучна крычалі, пляскалі «пад крок» у далоні, білі палкамі ў пустыя вёдры, igралі на піле. Бабка ў час «паездак» паганяла дубцом, венікам гасцей, пераапранутых у «салдата», «доктара», мужчын — у жаноцкае адзенне і наадварот.

Своеасаблівую групу чатырохскладавых структур утвараюць хрэсьбінныя прыпеўкі і жартоўныя песні-танцы, якія пяадноўваюцца часта з рытмавым хрэсьбінным «вузлом» (4+3). Менавіта ім уласціва найбольшае захаванне раўнамернага «пульсу» рытмавых адзінак. Часам, і гэта зноў характэрна для хрэсьбін, вершы песеннага тыпу перамяжаюцца вершамі-прыпеўкамі, якія суправаджаюцца прытанцоўваннем спевакоў: такім чынам чаргуюцца вершы адной страфы, часам — суседнія строфы. Яскравы прыклад апошняга — № 481:



Хто ж гэ-та йдзе? Кум да ку-мы.
Што ж ён ня-се? Куль са-ло-мы.



А што у том ку-лю, ку-лю?
Ча-ра-ві-чкі ку-ме, ку-ме.

Самую значную групу песенных чатырохскладавых форм утвараюць хрэсьбінныя тыпавыя напевы з рытмаформулай (4+4)2:



У-пі-ла-ся — аж ва-лю-ся

ў № 618, 567, 674 са спарадычным падаўжэннем у дадатак да трэцяга і чацвёртага яшчэ і другога склада ў другой чатырохскладавай структуры. Песенны ўзор з рэалізацыяй у распеве толькі чатырохскладавых форм з падаўжэннем трэцяга і чацвёртага складоў маем у № 518, чаргаванне чатырох непадоўжаных з чатырма падоўжанымі складамі ўвасоблена ў № 613.

Складанасастаўную структуру, у якой паяднаны чатырохскладавыя «вузлы» з пяціскладавымі, маем у № 26 — (4+4+5)2:



А каб я-го дзя-ці-на-чка Шча-слі-ва бы-ла,

у № 660:



Пі-це, бра-тцы, га-рэ-ла-чку, Па-стаў-лю ві-на.

Перыядычнае чаргаванне кароткай і доўгай адзінак у пары чатырохскладавай з пяціскладавай формай рознага квантытатыўнага зместу маем у № 584:



А гля-ну я У свой ба-чок — Ві-шнё-вы са-док.

у № 643:



Зме-ра-на-я Бя-се-ду-шка, Дзе ба-цю-шка п'е.

у № 580:



Ся-стра хо-дзіць Па го-ра-ду, Бра-тка па мо-сту.

Састаўную страфічную форму з рытмаформулай (4+4)+ +(5+3) у № 97:



Ма-ла-да-я Ла-ры-са-чка Я па са-до-чку ха-дзі-ла.

Кампазіцыйнае спалучэнне чатырохскладавых рытмавых хрэсьбінных «вузлоў» з шасціскладавымі, у якім усё яшчэ выразна захоўваецца семантыка чатырохскладавых рытмавых формул, тыповых для хрэсьбін, маем у структуры (4+4)+6 або (4+4)+6)2. Квантытатыўныя выявы чатырохскладавых форм тут зноў-такі самыя разнастайныя. У шасціскладавых утварэннях пераважае:  — № 187, 624, 586, 569, 677, 558, 559, 723, 625, 604, 590, 720, 687, 562, 677:



Ні-хто та-го Не ве-да-е, Аб чым я га-ру-ю.

Але гэтая рытмавая фігура мае тэндэнцыю і да квантытатыўнай формы:  — № 242.

Значна менш выразнай і тыпалагічна пазнавальнай (як хрэсьбінная абрадавая) становіцца складанасастаўная хрэсьбінная структура з адной (замест пары) пачатковай чатырохскладавай у спалучэнні з шасціскладавай рытмавай формулай, прадстаўленая ў тыпавым напеве як свайго роду скарочаны варыянт ужо разгледжанай структуры. Аднак пазбаўлены нават мінімальнай (двухразовай) паўторнасці кароткай, магічнага прадвызначэння інтанацыйнай фігуры, тыпавы напеў хрэсьбінных мелодый успрымаецца як блізкі да пазаабрадавай лірыкі (4+6) або (4+6)2 з супастаўленнем ізарытмічнага і гетэрарытмічнага шасціскладавых утварэнняў у межах страфы — № 684, 719, 671, 656:



По-зна й, по-зна З ве-ча-ра не спа-ла,



По-зна, по-зна З ве-ча-ра не спа-ла

або з захаваннем нязменнасці другой з вызначаных у прыведзенай форме страфы шасціскладавай квантытатыўнай формы — № 486, 539. Своеасаблівасць напевам № 675, 542 надае падоўжаны другі склад шасціскладавай часткі страфічнай кампазіцыі:



Бы-ла ў му-жа Сва-рлі-ва-я жо-нка.

Спалучэнне пары або аднаго чатырохскладавага ўтварэння з рытмавым хрэсьбінным «вузлом» (4+3) у агульную складанасастаўную страфічную кампазіцыю (4+4)+(4+3) — № 538, а часцей у больш пашыраную 4+(4+3) або (3+4) — № 110, 376:



За-пра-гай-це Да ка-ня ва-ра-но-га

выводзяць наша даследаванне на яшчэ адзін вызначальны для беларускіх радзінных песень рытмава-складавы код, якому падпарадкоўваецца адасобленая група песень (4+3) з падвоеным, патроеным або праведзеным чатыры разы на працягу песеннай страфы рытмам. Дадзены рытмавы «вузел» мае два функцыянальныя выйсці ў хрэсьбіннай традыцыі: песеннае (большае) і танцавальна-песеннае (меншае).

Форма раўнамернага данясення ўсіх складоў сямескладавага верша з зацягваннем апошняга, сёмага —



Дзя-куй та-му ка-ва-лю

распаўсюджана ў беларускай радзіннай песні — № 60, 117, 467, 591, 477, 476, 472, 82, 425, 701. Квантытатыўныя ва-

рыянты гэтага рытмавага «вузла» маюць выгляд у № 568:



Раз-ві-вай-ся, ка-лі-на.

у № 653



Пу-шчу ка-ня у га-род.

У асобных дыялектных традыцыях хрэсьбінныя песні часта інтанацыйна блізкія да абрадавых віншавальных песень: ёсць значны шэраг песень, інтанацыйна падобных да мелодый-галашэнняў (№117) і да так званай «святочнай славянскай інтанацыі» (Ф. Рубцоў): № 467 і інш.

Сярод магчымых квантытатыўных розначытанняў песенных напеваў абазначым № 96:



Са-да-ва-я я-блань-ка,

№ 86, 85:



Піў бы ■ мёд і ві-но.

Складанасастаўныя структуры, у якіх спалучаецца дадзены рытмавы «вузел» з іншымі, у № 718 — (5+5)+(4+3):



Е-ха-ла ўда-ва З но-ва-га два-ра Мёд-ві-но та-рга-ва-ці.

Своеасаблівая рэфрэнная кампазіцыя (4+3)+3:



Бы-ло ў ма-ткі два сы-ны на ра-ду.

Асобным раздзелам падаём танцавальныя песні, якія ўваходзяць у тыпалагічны «вузел» (4+3), пры гэтым, як звычайна,

тут прадстаўлены побач з азначанай структуры парных перыядычнасцяў (4+4):




— № 401, 581, 455. «Хрэсьбінная» выразнасць з'яднана тут з інтанацыямі «Яблычка»; у № 443 меладычны змест ужо зусім «Яблычка», амаль без хрэсьбінных прыкмет у мелаінтанацыйнай сферы; у № 514 функцыянальная мелодыя агульнага ўжытку; № 538, а таксама № 402 — узоры захавання ў хрэсьбінных прыпеўках інтанацыйнай спецыфічнасці радзінных песень.

Як унікальны ўзор хрэсьбіннай прыпеўкі, што цалкам існуе ў межах хрэсьбіннага тыпавага напеву з пераменнай структурай, пераўтвараецца ў залежнасці ад структуры паэтычнага тэксту, то пашыраючыся да памераў 6+4, 5+4, то, наадварот, звужаючыся да складавай рытмавай формы 4+4 з адпаведнымі змяненнямі ў мелодыка-інтанацыйнай сегментацыі пры зададзенай страфічнай форме (5+3)2, падаём № 416.

Трэба меркаваць, у хрэсьбінным тыпалагічным коле шасціскладавая формула невыпадковая. Найбольшае абрадавае яе вызначэнне маем у страфічнай кампазіцыі 6+(6+6)+6 — № 159. Тут, што характэрна для іншых абрадавых, перш за ўсё каляндарных, песень (гл. разнавіднасць IVа выкананай намі тыпалогіі купальскіх напеваў)[8], даюцца рытмавыя, у тым ліку «люстэркавага» тыпу, пераўвасабленні шасціскладавай рытмавай формы:




[8] Купальскія і пятроўскія песні: Беларуская народная творчасць. Мн., 1985.

У гэтым узоры захавана і інтанацыйная, абрадавага паходжання, будова: паступовы рух ступеняў: IV—III—II—I. У іншых хрэсьбінных мелодыях, якія ўваходзяць у кола названага складавага рытмавага «вузла» радзінных песень, мелодыка-інтанацыйнае разгортванне ажыццяўляецца па канонах хвалявай будовы: у межах паступеннага развіцця ў напрамку вяршыні, а потым адпаведнага сыходнага паступеннага руху, як гэта адбываецца (№ 581) у мелодыі страфічнай чатырохвершавай будовы:



Вот ся-стры-ца бра-тка Ха-ра-шэнь-ка про-сіць:
Ха-ра-шэнь-ка про-сіць, «Ты ма-я на-ра-ва».

Аналагічную кампазіцыйную будову (6+6)2 мае і песня хрэсьбіннай традыцыі № 565, па ўсіх канонах тыповая лірычная песня.

Сярод складанасастаўных форм, вызначальнай форматворчай і семантычнай адзінкай якіх выступае шасціскладавая, адзначым пашыраную структуру (6+4)2 — № 543:



Ой, жы-ла я ў ба-цькі На вы-го-дзе.

У № 585 «запраграмавана» тыпалагічная структура 6+(4+4), якая ў рэальным увасабленні напеву рэчытатыўнай прыроды выліваецца ў страфічныя варыянты 5+(5+2), (4+4)+(4+5), (4+4)2, (4+3)+(5+3):



Да ка-за-лі лю-дзі Да што мой брат Ка-су ку-піць,

а таксама рытміка-складавую будову (3+4)+6)+6:



Ба-буль-ка мі-лень-ка-я, Едзь жа ты да-до-му.



Едзь жа ты да-до-му.

Вызначаныя рытмавыя складавыя «вузлы» беларускай радзіннай песні дазваляюць зразумець досыць неардынарную з'яву функцыянавання сістэмы тыпавых напеваў хрэсьбіннай традыцыі, яе адзінства як сістэмы жанравай, непарыўную злучанасць, еднасць з усёй абрадавай песеннай культурай беларусаў, а таксама своеасаблівасць гэтай з'явы ў цыкле сямейных абрадавых цырыманіялаў.

Існуюць некаторыя аналогіі пры параўнанні тыпалогіі, выкананай на аснове рытмава-складавых крытэрыяў, з ладаваінтанацыйнай класіфікацыяй, якую мы ажыццявілі ў томе «Сямейна-абрадавыя песні»[9]. Асноўныя рытмічныя «вузлы» маюць тую ж тэндэнцыю да досыць свабодных структурных аб'яднанняў, у чым мы схільны бачыць праявы агульных законаў станаўлення традыцыйнай песеннай культуры.

*Г. В. ТАЎЛАЙ*

---

[9] Сямейна-абрадавыя песні: Беларуская народная творчасць. Мн., 1984.

## РАДЗІННАЯ АБРАДНАСЦЬ У в. ЗААЗЁРНАЕ ОЛТУШСКАГА СЕЛЬСАВЕТА МАЛАРЫЦКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

**Што нельга рабіць цяжарнай**. Пры пажары нельга глядзець і хапацца за што на целе, а то ў тым месцы будзе чырвоная пляма. Калі звера ўбачыш, то хапацца нельга за сваё цела, а то там дзікія валасы будуць расці. Калі што смярдзіць, то нельга закрывацца, а то ў дзіцяці будзе смярдзець з рота. Калі даеш свінням есці, то нельга іх біць нагой, а то дзіця будзе плаксівае, непаслушнае, будзе енчыцца ўвесь час.

Калі паліш рускую печку, то кожны раз трэба падмятаць прыпечак, каб дзіця не было смаркатае. Нельга цяжарным красці, хлусіць.

Калі наступаў дзень родаў, то пры цяжкіх — прасілі адчыніць «райскія дзверы» ў царкве, каб лягчэй прайшлі роды.

У кумы бралі хто каго хацеў (а мо хто папросіцца). Да дваіх-траіх дзяцей бяруць адных кумоў, а потым мяняюць. «У мяне на 10 дзяцей было тры пары кумоў і тры бабкі».

На хрэсьбінах пелі песню:

Як я сівы волы маў,
Па ўсім сяле кумаваў,
Сівы волы пазбуў,
То й кум мяне пазабуў.
У кума былі хрысціны,
Та й не выслаў ён дзяціны.
Як пайшоў я па месцы,
Купіў валоў за дзвесце.
Стаў я барыш вупіваць,
Стаў і кум мой прыбуваць.
— Ой, дзе ж ты, кумок мой, буў,
Што ты волікі набуў?
— Я, кумоўку, рана ўстаў,
То мне Бог Бацька шчасце даў.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. КАБЁЛКА БРЭСЦКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную жанчыну звалі ў нас «грубая». Ёй нельга было пры пажары хапацца за цела — будуць плямы, праз вяроўку пераступаць — будзе пупавіна закручаная.

Раджалі ў хаце, пупавіну завязвалі лёнам. Бабка купала адразу ж, пры гэтым магла даць імя, што ў нас называлася «ахрысціць дзіця з вады». Поп пасля даваў тое ж самае імя часта, толькі куму трэба сказаць: «Бабка дала такое-та імя». У адведкі жанчыны неслі ўсякую яду. За бабку бралі тую, што роды прымала, ці іншыя бабкі. За кумоў бралі толькі сваіх. Дзіця пакупаюць і вязуць хрысціць у царкву ў в. Чэрск. Гэта ў нядзелю, тады ж і хрысціны гуляюць. Бабіна каша была і з пшана, і з грэчкі. Каша з пшана была рэдкая, яе елі ў пачатку хрысцін усе госці. А з грэчкі была крутая, яе елі ў канцы, перад тым, як ісці дадому. Гаршчок не білі. Спявалі хрэсьбінныя песні, але я ні адной не помню. Дзіця стрыглі ў год, бацька стрыг. Валасы палілі ў печы.

У сям'і лічылі, ці сын народзіцца, ці дачка — усё роўна. Пра дзяцей гаварылі: «Колькі Бог дае, толькі іх і е». Дачцэ давалі прыданае — карову, зямлю.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. МЕЛЬНІКІ БАЧЫНСКАГА СЕЛЬСАВЕТА КОБРЫНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «бярэменна». Пры пажары ёй нельга было хватацца за цела — будуць чырвоныя плямы, праз вяроўку пераступаць — пупавіна закруціцца, на парозе стаяць — цяжкія роды будуць, красці нельга, маніць.

Калі цяжарная хадзіла «рабая»*, то казалі, што народзіць хлопца, калі «чыстая»** — народзіць дзеўку. Лепш хлопца любілі, чым дзеўку, бо «хлопец шчаслівейшы, чым дзеўка». Дзеўцы пасаг трэба даваць, карову, як замуж ідзе. Пажаданымі лічыліся трое дзяцей. Калі ўжо забярэменела чацвёртым і болей, то жанчына ўжо недавольна.

У час родаў выганялі дзяцей з хаты. Дзве бабкі было. Адна роды прымала, другая пупавіну перавязвала. Бабцы-павітусе давалі падарунак. Дзіцячае месца закопвалі каля парога.

У адведкі ішлі па адной 2 нядзелі. Хрэсьбіны былі праз 2—3 нядзелі пасля родаў. У дзень хрэсьбін сама парадзіха купала дзіця, аддавала бабцы, бабка аддавала куме. Кума і кум з дзіцем ехалі да царквы ў в. Чэрвачча хрысціць дзіця. Кум там свае грошы плаціў. Бабка варыла рысавую або пшонную ка-

* З плямамі на твары.
** Чысты твар.

шу. Рэдкую зразу елі — у пачатку, а крута звараную — у канцы. Бабка сама разбівала гаршчок з кашай, гаворачы дзеўцы: «Каб да нашай дзеўкі хадзілі кавалеры», хлопцу: «Каб жаніўся, у пары жыў». Пелі хрэсьбінныя песні: «Як сёма нядзеля настане, радзільна сама ўстане». Бабіну кашу бралі ў платок, а астатнюю выносілі на двор дзецям.

Дзіця стрыглі першы раз у 4 месяцы, да года трэба было пастрыгчы 3 разы. Сама маці стрыгла. Валасы палілі ў печцы.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. РАДАСТАЎ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «тоўстая». Ёй нельга было красці, хлусіць, на пажар глядзець — будуць чырвоныя плямы, праз вяроўку пераступаць — пупавіна закруціцца, нельга разбураць птушыныя гнёзды. Мужу тоўстай нельга было сварыцца «матам», бо дзіця можа нарадзіцца мёртвым.

Бабка, што роды прымала, звалася «бабка-прыродзіва» або «бабка-ражона». Яна пупавіну льном завязвала. Як першы раз купала дзіця, бабка магла даць імя: «ахрысціць дзіця з вады». Тады папа прасілі, ён тое самае імя даваў. Ей давалі падарунак, частавалі. За кумоў бралі сваіх. Перад тым як несці у царкву, бабка купала дзіця, абносіла вакол стала, на якім ляжаў хлеб, тры разы. Кумы прыносілі падарункі — плат*.

Наведваць парадзіху («на радзіны») ішлі жанчыны, прыносілі боршч, кашу пшонную на малацэ, гаршчок «узвару» (сушаныя чарніцы ў кіпятку), цэлую макітру галушак з цеста, мёд.

Была другая бабка-«хрышчоная», яна кашу варыла на хрэсьбіны з рыса і пшонкі з малаком, маслам і цукрам. На кашу госці клалі грошы для дзіцяці. Гаршчок з кашай не разбівалі.

Першы раз стрыглі ў год, маці сама стрыгла. Валасы палілі ў печцы.

## РАДЗННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ВУЛЬКА СІМАНАВІЦКАЯ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную жанчыну звалі «тоўста». Ёй нельга было пры пажары хватацца за цела, асабліва твар — у дзіцяці будуць

* Палатно.

чырвоныя плямы на целе, праз вяроўку пераступаць — дзіця народзіцца з закручанай пупавінай. Нельга, як выцягнеш вады з калодзежа, адліваць ваду назад, бо дзіця будзе слюнявае. Нельга красці, пазычаць. Нельга пакідаць смецце, як паліш у печы, — будзе дзіця смаркатае.

Тоўстыя лезлі біцца, але іх ніхто не чапаў. Нельга. Пагэтаму іх пасылалі туды, дзе сварацца, яны як падымуць крык, лямант, дык усё адцягаюць у пользу* грамады.

Пры родах пуп** бабка адразала, якая роды прымала. За хрышчоную бралі другую, раднейшую. У адведкі прыходзілі жанчыны па адной, ягад варылі, кашу з проса, куццю з ячменю, яечню.

Дзіцячае месца закопвалі каля парога хаты, туды ў ямку клалі яшчэ хлеб, соль, жыта.

Хрэсьбіны былі праз тыдзень-два. За кумоў бралі толькі з родных. Кумоў мянялі, але новых бралі таксама з родных. У дзень хрышчэння бабка хрышчоная купала дзіця, аддавала яго куме, і тая з кумам ехалі ў царкву. На хрэсьбінах была бабіна каша з проса, гаршчок не разбівалі.

У год першы раз стрыглі, у печы палілі валасы.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. МОТАЛЬ ІВАНАЎСКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «тоўстая», «чэрэвата». Ёй нельга было шыць у нядзелю, на святы, праз вяроўку пераступаць — пупавіна будзе закручана вакол шыі дзіцяці. Нельга тоўстай ідучы есці, бо дзіця будзе завідным*** .

Баба, якая хадзіла да родаў, прымушала парадзільку**** пераступаць праз парог, расшпіляла ўсе гузікі на адзенні, развязвала шнуркі, косы ёй расплятала. Баба малілася Богу і шаптала замову. Муж у час родаў прысутнічаў, каб жонцы лягчэй было раджаць. А яшчэ, каб лягчэй радзіць, трэба было на свайго мужыка казаць дрэннымі словамі. Парадзілька ляжала ў час родаў на саломе. Пупавіну завязвала ці родная маці, ці свякруха лёнам. У адведкі ішлі толькі жанчыны. На-

* На карысць.
** Пупавіну.
*** Зайздросным.
**** Парадзіху.

вараць гаршчок кашы, баршчу, пірагоў напякуць, кампоту з сушаных чарніц (звар). У адведкі ішлі па адной 2—3 нядзелі, каб парадзільку пакарміць.

За кумоў бралі сваіх. У каго дзеці ўміралі, бралі чужых (каго першага сустрэнуць на вуліцы). У дзень хрысцін дзіця купала бабка і аддавала куме. Калі першыя дзеці ўміралі, то другое перадавалі праз вакно. Хтось, у каго шмат дзяцей, падыходзіў да вакна і даваў грошы, а яму ўзамен дзіця. Потым ён прыносіў яго назад у хату і казаў: «Выгадуйце яго, зара гэта дзіця маё».

На хрысцінах была бабіна каша з проса. Гаршчок не білі. Госці клалі грошы на кашу. Мужчыны неслі гарэлку; хто бяднейшы, то і без гарэлкі прыходзіў. Парадзіха давала падарункі бабцы, куму і куме — па кавалку палатна.

Хлопца стрыглі ў год, дзяўчат наогул не стрыглі. Валасы палілі ў печы.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ГАНЦАВІЦКІМ РАЁНЕ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Чэраватай* нельга было хадзіць пазычаць, бо хто секане сякерай у вушак — дзіця з рассечанай губой будзе, кіне ўслед пясок або гліну — дзіця ў беднасці жыць будзе. Калі дзіця народзіцца ў сяле ў той дзень, як хто памрэ, яно будзе нешчаслівае, у вялікае свята народзіцца — таксама будзе нешчаслівае (в. Раздзялавічы). Чэраватай нельга было насіць крупы ў фартуху, а то ў дзіцяці будуць болькі, нельга, пачуўшы як нешта смярдзіць, заціскаць нос, а то ў дзіцяці ўвесь час з рота смярдзець будзе (в. Хатынічы).

Раджалі ў хаце, звалі бабу, каб дзіця бабіла. На саломе ў хаце, каб ніхто не знаў, хату зашчэпяць, вяроўку прывяжуць, і трымаецца за вяроўку. Пры цяжкіх родах бабка поясам з царквы абвязвала кругом парадзелью** па жывату, валасы распускала, вузлы развязвала, комін адчыняла. Бабка шаптала замову: «Сам Бог на таку ходзіць, пшаніцу сее, па пшаніцы сіні цвет, радзі, Божа, ангеліка на гэты свет». Парадзелья хадзіла па хаце, пакуль не родзіць. Бабка цягне дзіця за галаву. Ра-

* Цяжарнай.
** Парадзіху.

джалі ў стопцы, у хляве, на полі, на сенажаці. Пасцель* з хлебам і соллю ўкруцяць у анучку і закапаюць у стопцы пад парогам. Каб наступны хлопец радзіўся, трэба гэтага дзіцяці пасцель пупавінай уніз закапаць. Пупавіну адразалі дзяўчыне на верацяне, хлопцу — на дубовай кары, бо «яму па лесу хадзіць». Загортвалі ў старую сарочку, пакупаюць, ізноў хлопца ўкруцяць у мужчынскую сарочку, дзяўчынку — у жаночную сарочку. Пры першым купанні сыпалі попел з печы на 4 вуглы начовак, потым сыпалі дзіцяці на спінку і змывалі (гэта для таго, каб дзіця не часалася: калі жанчына хадзіла чэраватая то кот, то сабака, то свіння патруцца каля ног). Калубель вісячая з хваёвых дошак, у ёй дзіця спала 1—2 месяцы, пасля пераклaдвалі ў стаячую калыску, якую з дрэва рабіў абавязкова бацька. Калыскі і зараз ёсць. Бабцы пасля таго, як пабабіць дзіця, давалі ў падарунак плацце** і хустку. Яна тры дні хадзіла да ражаніцы*** і прыносіла ёй яйкі і пірагі. У в. Раздзялавічы бабка абавязкова хадзіла тры дні, насіла кашу з проса, квас з грыбамі, хлеб, блінцы, калатушу (малако, крупы патоўчаныя, яйкі — і ў печ, скварак напячэ і туды ўвалье). У сяле казалі: «Баба ідзе з гаршкамі». Баба ішла рана, купала дзіця гэтае тры дні, і нядаўна яшчэ хадзілі. Ваду пасля купання бабка вылівала пад печ, «каб дзіця не было ліхое». Бабка пры гэтым прыговорвала: «Хай, унучак (ці ўнучка), куры крычаць, а ты спі». Імя дзіцяці выбіралі бацька ці старэйшыя дзеці. Найбольш пашыраныя імёны ў сяле былі Ганна, Мар'я, Домна, Пелагея, Абрахім, Іван, Міхал, Пракоп, Хвёдар. Жанчыны ідуць на «радзіны», ці на «вответкі», прынясуць квасу з грыбамі, кашы салодкай, хлеб, звар (ягады чорныя, цукар). Раней казалі: «Хто прыходзіць на вответкі, тыя пападуць у рай».

Парадзелья іх частуе.

Пасля на радзіны завуць сваіх — бацькоў, брата, сястру. Гэта бывае, калі дзіцяці споўніцца тыдзень або два. Нясуць падарункі, кашу нясуць, і ўсе елі яе.

Некаторыя бралі адну пару кумоў, некаторыя — да кожнага дзіцяці сваю. Мужык зваў ці сама ражаніца. Ад кумаўства няможна адмаўляцца.

---

* Дзіцячае месца.

** Сукенку.

*** Парадзіхі.

Вельмі баяліся прызору*. У калубель клалі крыжык, ладун, «каб што з ветру не зрабілася», іголку. Ражаніца 12 дзён насіла іголку жалам** уніз, бо на «яе 12 дзён магіла адкрыта». Агонь 12 дзён не палілі, пялёнкі не вешалі на вуліцы пасля заходу солнца. Ад прызору маці праводзіла рукой у сябе паміж ног, потым па твару дзіцяці і прыгаворвала: «Чым радзіла, тым адхадзіла» (в. Раздзялавічы). Або ноччу маці выходзіла на двор, станавілася тварам да зорак і казала: «Начныя зарніцы-сястрыцы, вазьміце нашы крыксы-плаксы, а дайце Колю (ці другое імя дзіцяці) сон». І так тры разы. Гэта маці рабіла, калі дзіця спала (в. Хатынічы).

Дзіця сама ражаніца карміла; толькі ў першародзячай калі не бярэ грудзі, то завуць сваіх.

Дзіця хацелі пахрысціць хутчэй, бо ў поле трэба хадзіць, работу рабіць, а нехрышчонае дзіця нельга на вуліцу насіць. Хрысціны гулялі, калі прыпадзе, у свята, а так у нядзелю. Перад тым як ехаць у царкву, кумы абойдуць тры разы кругом стала. Ад прызору бралі з печы гліну (пячыну), соль і завязвалі ў падол дзіцяці. Калі мярцу*** абівалі труну наміткай і кавалак заставаўся, трэба было з яго дзіцяці сарочку пашыць, каб яно не памерла. Папу везлі намітку, ручнік, хлеб, сала і грошы. Ручнік тканы, перабіраны. Хазяін заве на хрысціны вечарам, калі дзіця прывязуць ад хрыста. Як дзіця прывязуць з царквы, кумы «прадавалі» яго бацькам, тыя грошы плацілі, каб падмануць злых духаў. Гасцей вечарам пасадзяць. Адразу ядуць усе абавязкова кашу рэдкую з малаком. Жанчыны неслі яду, мужчыны — грошы. На хрысцінах былі закускі: сала, блінцы, яечня, малако кіслае, сыр, мёд. Бабка кашу варыла з проса з цукрам ці з мёдам. Гаршчок не білі, верх зрэжа з кашы бабка і аддае маці з бацькам. Астатнюю лыжкай гасцям раздавала, тыя грошы клалі дзіцяці «на мыла». Бабка, раздаючы кашу, гаварыла: «Каб Бог гадаваў унучка». На хрысцінах песні ўсялякія пелі, радзінных не было. На баране не цягалі бабку.

Дзіця стрыглі ў год бацька ці маці, валасы ў печ кідалі. Як выкінеш валасы на вуліцу, птушка падбярэ ў гняздо, каўтун будзе.

Ражаніца ішла ўводзіцца праз 4 тыдні.

---

* Сурокаў.

** Вострым канцом.

*** Нябожчыку.

На Вялікдзень бабка нясе ўнукам валачонныя яйкі, пірагі, мяса. Унучка ёй дае падарунак: намітку, хустку.

На Вялікдзень або на Тройцу бабка заве ўнучак да сябе ў госці. Унучкі ідуць з мужыкамі, нясуць падарункі, гарэлку, гуляюць там.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ПІНСКІМ РАЁНЕ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Чэрэватай нельга было на пажар глядзець, на падаль пляваць — у дзіцяці будзе з рота смярдзець; пазычаць нельга, бо кінуць пясок, гліну, мел, нож — дзіця ў вялікай беднасці жыць будзе (а кінуць, каб мышы адзенне не з'елі). Як гром грыміць, нельга ў люстэрка ўсім глядзецца, бо дзіця труслівае будзе; каб кот у чэрэватай паміж ног не пралазіў, бо дзіця будзе часацца; трэба заўсёды есці толькі каля стала, бо дзіця будзе жаднае, крыклівае. Калі цяжарная ехала на жаробнай кабыле, пасля яна павінна была даць кабыле аўса са свайго фартуха, «каб не насіць так доўга, як кабыла». Да мерцвяка нельга заходзіць — дзіця будзе бледнае, хваравітае.

Твар чысты — родзіцца хлопец, плямісты — дзеўка. Як чэрэватай прысніцца курка — у яе народзіцца дзеўка, як петушок — хлопец. Муж інфарматаркі М. К. Ражэнскі з в. Невель, як яна расказвала, «прысніў, што злавіў двух пташачак і задавіў іх, і я радзіла дзвюх мёртвых дзевачак».

У час родаў звалі бабку-пупавязніцу, ці бабку-колородову. Маці інфарматаркі М. К. Ражэнскай з в. Невель была бабкай-пупавязніцай і прымала роды ў вёсцы яшчэ пасля вайны, памерла яна ў 1968 г. Лазняў у іх не было, раджалі ў хаце. Пупавіну хлопцу бабка адразала даўжэй, каб палавы член быў у яго даўжэйшы, а дзеўцы — карацей, лёнам перавязвалі. Дзіцячую пасцель закопвалі пад печ, на двары, дзе людзі не ходзяць. Купаюць у вадзе з браткамі і рамянкай, як хворае — у ваўчках. Адварам маку напояць, каб добра спала, асабліва байструкоў пояць.

Люлька была з палатна, дзе да паўгода ці года спала дзіця, пасля чаго яго перакладвалі ў плеценую з вербалозу калубель. Стаячыя калыскі з'явіліся пасля вайны. У люльку вугольчык, хлеб-соль клалі. Калі дзіця крыклівае, пранік закручваюць у пялёнкі і да ўсходу сонца выкідаюць праз акно, каб дзіця не крычала. Калі дзіця крычыць, вечарам пасля заходу сонца,



3—1527

калі зоры ўсходзяць, жанчына з дзіцем ідзе на сметнік і кажа тры разы: «Зорнічкі-сестрычкі, вазьміце ад маёй дзіціны крычкі». Калі ў дзіцяці малочніца, трэба ў роце выцерці сваімі валасамі, два-тры разы так зрабіць. Пялёнкі не вешаюць пасля заходу сонца, ваду пасля купання выліваюць пад печ або ў іншым ціхім месцы. Пакуль дзіця не пахрысцяць, у хаце гарыць лампадка.

Імя дзіцяці бацюшка даваў. За кумоў святар браў тых, хто ўмее Богу маліцца. «Любімчыкам» даваў тое імя, якое яны хочуць: Вера, Надзя, Соня, Тэкля, Насця, Антося, Іван, Мікалай, Карней, Сцяпан. Байструкам даваў імя Адам і Ева. Імя ніхто не мяняў. У адведкі («нясуць звар») хадзілі жанчыны без запрашэння па адной-дзве на працягу 2 тыдняў. Нясуць ягады чорныя адвараныя, кашу пшонную, яечню, булачкі пшанічныя мелюсам* памажуць. Бабка таксама ходзіць тры разы з той самай ядой, купае. Гэта бабка была на хрэсьбінах. Зараз таксама пасля бальніцы пякуць яечню або сырыя яйкі даюць. Жанчыны ходзяць у адведкі і нясуць пялёнкі.

Радзіны — тое ж, што хрысціны, найбольш у той дзень, што хрысцяць, бывала і праз тыдзень-два. Пачыналі гуляць радзіны гадзін у 12 дня, гасцей звалі, без запрашэння ніхто не прыходзіў. Перад адпраўленнем у царкву бабка купала дзіця і разам з кумам і кумою тры разы абыходзілі кругом стала, цалавалі хлеб, што ляжаў на стале. Кумы бралі з сабой у дарогу «куклу» (хлеб, соль, вугалёк, загорнутыя ў анучку) і кідалі гэту куклу на скрыжаванні дарог. Папу неслі хлеб, кавалак палатна, грошы.

На радзіны грошы неслі мужчыны і жанчыны. Гаспадыня кашу прасяную сама варыла. Кашу не дзялілі. Госці збіралі грошы на талерку, некаторыя прыгаворвалі: «Каб большы рос, да шчаслівы быў, умны, спакойны». На абедзе былі наступныя стравы: сала, мяса, каша, капуста, малако, сыр, масла, гарэлка куплёная.

За кумоў раней бралі чужых, зараз сваіх. За кумоў запрашаць хадзіў бацька дзіцяці, браў хлеб, загорнуты ў тканы ручнік. Да аднаго дзіцяці бралі адну пару кумоў, калі ж нараджаліся блізняты — дзве дзеўкі, тады бралі дзве кумы і аднаго кума, калі ж блізняты — два хлопцы, тады бралі адну ку-

* Мёдам.

му і двух кумоў, калі ж блізняты — хлопчык і дзеўка, тады брали дзве пары кумоў. Як пасварацца, то мяняюць кумоў. Калі дзеці паміралі, тады брали стрэчных кумоў і дзяцей прадавалі праз вакно, «каб дзіця жыло».

На хрэсьбінах спявалі ўсякія песні. Зараз усе хрысцяць, на стале — усё з магазіна, кашу не вараць.

Жанчына лічылася «нячыстай» на працягу сарака дзён пасля родаў, а таксама — калі ў яе «на рубашцы»*. Ёй у гэты перыяд нельга было ісці хрысціць дзяцей, бо, казалі старыя людзі, калі яна пахрысціць дзеўку, то ў той у дзень вяселля стане «на рубашцы». Таксама нельга было на бяседу хадзіць, з прадуктамі вазіцца. Казалі так: «Людзі ідуць у цэркаў, а ты — у свінец».

У год стрыжкі былі: дзіця стрыг родны або хросны бацька. Валасы палілі ў печы, а то «пцічкі кубла в'юць, валасы вылезуць».

На Пасху** парадзіха насіла ларэц (яйкі — 1 дзесятак і пірог) куму, куме і бабцы. На Пасху дзеці ішлі да сваіх хросных бацькоў за чырвонымі яйкамі.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў СТОЛІНСКІМ РАЁНЕ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Чэрэватай копы насіць нельга, цяжкую работу рабіць, на пажар глядзець, на падаль пляваць. Нельга пазычаць, бо калі не дадуць, то кідаюць услед пяском, глінай, каб у іх мышы ўсё не паелі. І дзіця тады будзе жыць бедна. Чэрэватай нельга булаўку на грудзях зашпіляць, бо ў дзіцяці пераноссе перабіта будзе; нельга пры ёй сячы сякерай на ганку — у дзіцяці будзе рассечана губа; у люстэрка глядзецца — касавокае дзіця; не здароўкацца з кавалкам ежы ў роце — дзіця шапялявіць будзе; не смактаць косці — дзіця будзе ўсё ў рот цягнуць; праз бочку перагібацца — будзе знак на целе ў дзіцяці; нельга насіць што-небудзь у фартуху — дзіця лянівае будзе. Калі ў чэрэватай плямы на твары — будзе дзеўка, калі твар чысты — хлопец. У панядзелак народзіцца — будзе нешчаслівы (у дарогу нельга выязджаць у панядзелак — не пашанцуе).

---

* Менструацыя.

** Вялікдзень.

Лазняў не было, раджалі ў хаце, у полі. Калі дома, звалі бабку, калі ў полі — сама родзіць і прыйдзе. Казалі: «прывяла дзіцёнка». У в. Велямічы была адна бабка, што пупы вязала, — бабка Таццяна да 1939 г. і хадзіла да ўсіх парадзелляў, і ўсе дома раджалі. Гэта бабка Таццяна была потым усім дзецям у вёсцы хрышчоная бабка. Раджалі на далу*, на саломе. Пуп адразалі хлопцу на кніжцы, на нажы, дзеўцы — на верацяне, грабёнцы, штоб прала добра. Пры цяжкіх родах бабка вяла парадзеллю ў поле на «расходныя дарогі» і вадзіла яе там, пакуль не родзіць. Яшчэ ў такім выпадку абвязвалі яе поясам з царквы. Царскія вароты адчынялі, расшпілялі гузікі, распускалі валасы.

Дзіцячае месца разам з хлебам і соллю загортвалі ў тканіну і закопвалі пад печ. Дзіця загортвалі ў старую сарочку. Купала бабка дзіця ў начоўках, клалі туды травы (браткі). Калыбель была з палатна, вісячая, дзіця там спала да года.

Бабка хадзіла ў вотвяды тры дні і абавязкова насіла тры стравы: кашу з пшана, квас з ігруш, яечню. Жанчыны таксама ў вотвяды хадзілі па адной 2—3 тыдні. Прыносілі блінчыкі, хлеб, соль (абавязкова), вараныя чарніцы, яечню. Зараз таксама ходзяць і носяць тыя самыя прадукты.

Імя даваў поп ці самі выбіралі і прасілі папа даць такое-та імя. Былі частыя імёны: Іван, Даніла, Пятро, Павел, Міша, Ілля, Макар, Сцяпан, Дзяніс, Грыпіна, Варвара, Фядора, Марта, Сцепаніда, Ева, Яўдока, Паўліна, Лісавета.

Перад хрэсьбінамі гулялі радзіны, звалі толькі свой род. На радзіны кашу варыла парадзілля ці хто-небудзь з гасцей. Кашу елі, парадзілля першая, потым астатнія і пры гэтым гаварылі: «Каб моцны рос» (дзіцяці), «Каб малако было» (парадзіллі).

За кумоў раней бралі толькі чужых, зараз сваіх. Бралі да аднаго дзіцяці 2—3 пары кумоў: старшыя кумы ў царкве, малодшыя — дома. Колісь за кумоў бралі багацейшых, зараз таксама, «шчоб прыяцельства больш было». Калі дзеці паміралі, бралі стрэчных кумоў або «прадавалі» дзіця: «Пазаве на вуліцы чалавека і праз вакно з ім гаворыць: «На, пагадуй, маё дзіця», дасць падзяржаць праз вакно, той бацькам дасць рубаль» (в. Велямічы). Як кумы адпраўляліся ў царкву, ім таксама дзіця перадавалі праз вакно. Зараз гэтага няма.

---

* На падлозе.

У царкву бабка дзіця купае, спавівае і абвязвае павівачом або крайкай (гэта спецыяльны паясок дзіця спавіваць) і аддае куме. У царкву ідуць пяшком: кум нясе пад левай рукой хлеб, кума — дзіця, гарэлку, грошы. Зараз таксама робяць.

Бывала, хрэсьбіны гулялі і не ў той дзень, як хрысцілі. На хрэсьбіны бацька дзіцяці зваў, жанчыны неслі проса, чарніцы, мятлікі, балабушкі, мужчыны — нічога. Як кумы з царквы прыйдуць, адразу імя павінны сказаць, каб дзіця хутка стала гаварыць.

На хрэсьбінах былі закускі наступныя. Квас кісне з хлеба, потым зварашь з мясам ці рыбай і грыбамі, каша з пшана, тварог з салодкім малаком («мачанне»), пампушкі (булачкі з жытняй мукі), каноплі тоўчаныя са смятанай і сахарынай, бутэлька купленай гарэлкі. У багатых тыя самыя закускі і яшчэ мяса. На хрэсьбіны баба з дзедам несла бабіну кашу з проса, кум — хлеб, кума — хлеб і мятлік для дзіцяці. Спявалі радзінныя песні. За сталом кумы павінны былі шмат жартаваць, каб дзіця было прыхільнае да людзей, гаваркое, ласкавае. Гаршчок з кашай не білі, за кашу не плацілі, бабу на баране не цягалі (гэта на Украіне). Зараз б'юць кашу і грошы збіраюць для парадзіллі.

У шэсць тыдняў парадзілля з дзіцем ішла ўводзіцца. Пасля родаў 12 дзён «нячыстая», на яе гроб адкрыт, к калодзежу хадзіць нельга, зараз тожа. Зараз таксама ідзе ўводзіцца праз шэсць тыдняў, «усе дзяцей хрысцяць зараз, і парцейныя, бывае, і вянчаюцца праз 1, 2, 6 год пасля сельсавета».

У год стрыглі, бацька стрыг, і гэта называлася «стрыжкі». Валасы за вугал у дзірку запхнуць, каб нідзе не валяліся.

Калі прарэжуцца зубы, трэба пажаваць часнок і пахукаць у рот дзіцяці — зубы будуць крэпкія.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. РЭНІЧЫ БАРАНАВІЦКАГА РАЁНА БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Калі ў жанчыны наступаў час родаў, гаспадар ішоў па бабку, што мела вопыт у гэтай справе. Прыводзіў яе, бабка прымала роды. Гаспадар пасля ўсяго яе частаваў, ставіў на стол салянку, аладкі, у багацейшых — яшчэ смятану, цукар. Назаўтра гэта бабка зноў прыходзіла да парадзіхі і прыносіла ёй аладкі ў смятане.

Праз тры дні рабілі адведкі. Прыходзілі радня; прыяцелі (іх гаспадар не клікаў, яны самі прыходзілі). Гаспадар частаваў іх. Усе сядзелі кругом на лаве, ад акна да акна. На стале стаяла бутэлька і чарка адна, і талерка з сырам. Абносілі чаркай 2—4 разы.

Усіх, хто быў у адведках, запрашалі на радзіны. Радзіны праходзілі праз 2—3 тыдні. У нядзелю кума з кумам ехалі ў царкву на конях (калі кумы былі маладыя, з імі ехаў бацька дзіцяці). Пасля хрышчэння ў царкве прыязджалі дахаты, дзе ўжо сабраліся госці. Яны сядзелі на лавах. У вуглу стаяў стол, на якім былі талеркі з нарэзаным салам, сырам, капустай, хлебам, бутэлька гарэлкі. Гаспадар браў бутэльку і частаваў з адной чаркі ўсіх гасцей па-парадку. Якая-небудзь жанчына брала са стала закуску і падносіла да таго, хто ўжо выпіў чарку. Так гаспадар абыходзіў з чаркай па крузе 2—4 разы. Потым бабка падносіла дзіця да кумы. Кума пакрывала дзіця палатном, а потым брала дзіця на рукі, тры разы падымала ўгору. Пры гэтым госці тры разы спявалі «Многае, многае лета».

Пасля гэтага парадзіха абвязвала кума такім кавалкам палатна, каб хапіла на сарочку. Куме падарунка не давала. Спявалі на радзінах такую песню:

А я п'яна, п'яненька, не зайду я дадому,  
Накажыце таму салавейку, што ў вішнёвым саду.  
А ў вішнёвым саду зязюля кавала, няверная дзяўчына  
мяне завязала.

Калі ён у дарозе, памажы яму, Божа.  
Калі ў мілай на пярыне, пакарай яго, Божа.  
Пакарай яго, Божа, да маімі славамі,  
Што пакідае ён мяне з малымі дзяцямі.

Гэтую песню спявалі на радзінах і тады, калі гаспадар адсутнічаў, а яго жонка нарадзіла дзіця.

У канцы бабу-павітуху абвязвалі палатном і вазілі па сяле на санках, на якія зверху клалі барану. Вазілі як зімой, так і летам па пяску, з песнямі. Везлі пад вінапольку (карчму), калі тая была па дарозе. Бабку як пакатаюць, яна павінна даць гарэлкі тым, хто яе катаў, ці таму, хто сустрэне і запыніць яе. І потым разыходзіліся.

1440*. Калі над хатаю летае ды крычыць сава, то кажуць, што там маладзіца ці дзеўка зачаравацела.

1441. Калі ў каго нарывае палец, то ўсе прыглядаюць, якая гэта дзеўка панесла да цішком таіцца. Калі тое вывесці на свет, то палец прарве і ён хутка загоіцца.

1442. Калі жанчына сніць маленькіх дзетак голенькімі, то яна, пэўна, панесла ці хутка зачаравацее.

1443. Калі жанчыну часто нудзіць і верне блеваць, то бачно, што яна зачаравацела.

1444. Чараватуй жанчыне часто чаго-небудзь вельмі хочацца, от затым і кажуць: зажадаласо, бы на маладое.

1445. Як жанчына зачаравацее ды яшчэ першым дзіцем, та к ёй вельмі лашчацца каты ды сабакі.

1446. На чараватую жанчыну не брэшуць нават самыя паганыя сабакі. Кажуць, што яе не зачэпяць ні ваўкі, ні мядзведзі.

1447. Кажуць, тут недалёка памёр адзін чалавек. Засталася яго жанчына маладою ўдавою. Яна вельмі кахала свайго гаспадара і не хацела ні з кім знацца. Але вось і прычапіўся к ёй нячысцік ды й пачаў прыходзіць к ёй немаль кожную ноч начаваць. прыходзіць у пастаці гаспадара. Яна думала, што гэта такі сон. Павесялела тая ўдава, годзі плакаць да ўбівацца. Не могуць жонкі дзіву дацца, што гэта зрабілася з тою маладзіцаю. Пачалі яны падглядаць да падслухоўваць, ці не знаецца яна з кім — дак не, жыве адна, бы былінка на полі. Прайшло мо нядзель пяць, бачыць тая ўдава, што ёй усё якась гадзіць, якась з душы верне, як яна што з'есць. Паблевала яна раз-другі, да й пачала жаліцца жанкам. А тые кажуць, што гэта мабыць на малое ды і пытаюць яе, з кім гэта яна знаецца. Божыцца, клянецца тая жанчына, што жыве адна, але толькі сніць такія сны, што сорам і казаць. Пачалі яе распытоўваць, от яна й расказала жонкам усё як было. «Ну, — кажуць, — гэта ліхо, бо нідзе таго не было, каб змарлы гаспадар да меў з жанчынаю дачыненне». От і пачала тая жанчына чым далей, та ўсё больш таўсцець, нарэшце, падышла пара раджаць. Збегліся бабы на тое дзіво, аж і праўда — радзілася якаясь пачвара, а не дзіця. Кажуць, што яно было ўсё валасатае, бы

---

* Нумарацыя захавана А. Сержпутоўскага.

кот, і з доўгім хвастом. Схапілі яго жанкі, закапалі ў зямлю жыўцом, засыпалі пяском да й забілі асінавым калом, а жанчынку падкурылі свенцонымі зёлкамі, дак больш нячысцік не пасмеў прыходзіць.

*в. Рожан. РЫПІНА БУЦЬКАВА*

1448. Тоўстая жанчына не павінна садзіцца на парозе, бо вельмі цяжко будзе, як прыдзецца раджаць.

1449. Тоўстай жанчыне не можна доўгі час глядзець на мерцвяка і гарый усяго на яго твар, не можна й тагды, калі б гэто быў свой родны, бо тое дзіця, што яна родзіць, будзе тхварэць усю жытку. Усе людзі гэто добрэ знаюць, а затым такую жанчыну не будуць абгаворваць.

1450. Калі жанчына ў стане да будзе ў хвартуху насіць смецце, та тое дзіця, што родзіцца, будзе вельмі лянівае.

1451. Як тоўстая жанчына робіць што-небудзь ціхенько, каб не знаў гаспадар ці другія ў сям'і, то дзіця будзе злодзеем.

1452. Жанчына ў стане павінна сцерагціся, каб чаго-небудзь не ўкрасці, а больш усяго ойстрых рэчаў, бо яе дзіця будзе злодзеем ці такою пачвараю, што яго людзі будуць цурацца. Гэто не хібіць, калі тоўстая жанчына ціхенько возьме чаго-небудзь хоць чутачку.

1453. Жанчына ў стане не павінна не то што пазіраць, але і нюхаць падло да на яго плеваць, бо ў яе дзіцяці будзе смярдзець з рота.

1454. Як чараватая жанчына таўхане свінню нагою, то дзіця родзіцца, пакрытае шэрсцю.

1455. Як часам тоўстая жанчына спужаецца пажару да хопіцца рукою за голае цела, то ў дзіцяці на том самым месцы будзе на ўсю жытку краснуха.

1456. Як водзяць мядзведзя, то тоўстая жанчына не павінна на яго глядзець, каб не спалохацца, бо ў такім разе на дзіцяці будзе на целе лапікла, пакрытае мядзведжай шэрсцю.

1457. Жанчына ў стане не павінна дзівіцца кульгавым, або якім-небудзь іншым убогім, бо такое будзе дзіця, што ў яе родзіцца.

1458. Жанчына ў стане не павінна доўга ўглядацца ў люстру, бо яе дзіця будзе касавокае.

1459. Калі тоўстая жанчына з куском у роце каго-небудзь прывітае, то ў яе дзіця будзе шапялявае ці заікатае.

1460. Жанчына ў стане не павінна глядзець у калодзеж ці ў лужу, бо калі ўбачыць там сама сябе, то ў яе родзіцца сляпое дзіця.

1461. Калі жанчына ў стане паложыць што-небудзь сабе запазуху, а потым тое з'есць, то яе дзіця будзе вельмі вялікая пражора, так што яго нічым не наталіш.

1462. Калі тоўстай жанчыне не даць таго, што яна папросіць, то тое згрызуць мышы.

1463. Жанчына ў стане не павінна нікога дражніць ні гугнівого, ні шапляваго, ні заікатаго, ні нямога, не павінна нават дражніць і жывёлу, як, напрыклад, гаўкаць па-сабачаму, яўкаць, як кот, скрыгітаць, бы свіння, цыркаць, бы верабей, і другое, бо дзіця ў яе будзе мець ліхую гаворку. Калі ж такой жанчыне, канечне, тое не сказаць, то яна павінна перш прамовіць, што нікога не дражніць, а толькі кажэ, як той казаў.

1464. Тоўстая жанчына не павінна садзіцца на тыну калодзежа ці несці ад суседа агонь у сваю хату, бо яе дзіця ці ўтопіцца, ці згарыць.

1465. Жанчына ў стане не павінна дражніць другіх, напрыклад віхляцца, круціцца, кульгаць, шчурыцца, махаць рукамі ці як іначай смяяцца з другіх людзей, бо яе дзіця будзе такое самае. Праўду ж кажуць, што хто з каго смяецца, тое яму ймецца.

1466. Часам бывае, што тоўстай жанчыне вельмі хочацца што-небудзь украсці. У такім разе яна не павінна баяцца таго, што крадзе чужое, то ёй усё можна браць, чыё б яно ні было. Калі ж жанчына спалохаецца, то яе дзіця будзе зладзеяватае ці саўсем няўдалае да такое гультаяватае, што сабе хлеба не заробіць.

1467. Жанчына ў стане не павінна штурхаць ці біць ката, бо яе дзіця будзе такое збрудлівае, як кот.

1468. Жанчына ў стане не павінна дазваляць якой-небудзь жывёле праходзіць у яе паміж ног, бо ў дзіцяці на целе будзе шэрсць ці кароста, бы луска. Калі жывёліна цернецца аб ляжкі, то ў дзіцяці гэта застанецца на ўсю жытку.

1469. Тоўстая жанчына павінна сцерагчыся, каб не пераступіць цераз вяроўку, бо вельмі цяжка прыйдзецца раджаць.

1470. Тоўстая жанчына павінна высцерагацца, каб босай не ступіць на пілавіны або не плюнуць на іх, бо малое будзе вельмі кволае жыватом.

1471. Жанчына ў стане павінна сцерагчыся, каб не пераступіц, а яшчэ горш, каб саўсім не наступіць на аглоблю, абруч, дугу ці другое крывое, бо дзіця будзе гарбатае ці з крывымі нагамі.

1472. Як тоўстая жанчына стане ў сярэдзіну абруча, то яе дзіця будзе перацятае, бы аса.

1473. Тоўстая жанчына не павінна што-небудзь выліваць праз вакно, бо яе дзіця будзе часта ванітаваць.

1474. Тоўстая жанчына не павінна нічога ні падаваць, ні браць цераз агонь і не браць з агню нічога голымі рукамі, бо дзіця будзе красці, бы з агню хватаць.

1475. Вельмі добра тоўстай жанчыне пазычаць штонебудзь, бо тут яна можа трапіць на лёгкую руку, а гэта шмат памагае ў той час, як прыйдзецца раджаць.

1476. Жанчына ў стане не павінна сама на сабе штонебудзь зашываць ці прышываць, бо ат гэтага ёй будзе вельмі цяжка раджаць.

1477. Тоўстая жанчына не павінна есці мяса параненага звера жывёлы, бо дзіця будзе абжораю.

1478. Тоўстая жанчына не павінна есці стравы проста з гаршка, у якім тая страва варылася, бо дзіця будзе вельмі шпаркае і ні ў чым не ўрымсьціць.

1479. Тоўстая жанчына павінна сцерагчыся, каб нічога не з'есці ўпацёмках, бо дзіця будзе поўначы жахацца.

1480. Калі тоўстая стане есць раненько, пакуль другія яшчэ спяць, то яе дзіця будзе вельмі смуродзіць.

1481. Каб часам ліхія людзі не ўраклі, не зашкодзілі як самой, так і дзіцяці, тоўстая жанчына, як ідзе ў людзі на радзіны ці на вяселле, павінна апранаць на сябе ўсё па пары: пару сарочак, пару спадніц, хвартухоў, хустак, паясоў і другое, то ніхто не ўрачэ, хоць бы там быў самы моцны чараўнік.

1482. Тоўстая жанчына не павінна хадзіць у кумы, бо памрэ ці яе дзіця, ці тое, што яна хрысціць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1484. Калі тоўстая жанчына любіць смактаць косці, то ў яе будзе мала малака, так што дзіця заўжды будзе смактаць цыцку ды крычаць.

1485. Калі ў тоўстае жанчыны бывае печая, то яе можна суняць толькі тым. што з'есці сем зярнят гароху ці той хлеб, што прыстане к нажу.

1486. Калі ў тоўстае жанчыны дзіця трапечацца ў левым баку, то родзіцца хлопчык, а калі ў правым ці ў розных, то дзевачка.

1487. Каб ліхія людзі не зашкодзілі тоўстай жанчыне ці яе дзіцяці, павінна яна заўсёды насіць пры сабе чацвярговую соль.

1488. Тоўстая жанчына не павінна спаць перад вакном, каб на яе не свяціў месяц, бо дзіця будзе хадзіць па месяцу, бы непрытомнае.

1489. Калі хто швырне ў тоўстую жанчыну глінаю, вугаллямі ці зямлёю,то, радзіўшыся, дзіця будзе есці гліну, вугалле або зямлю.

1490. Няможна кідаць у тоўстую жанчыну жарам, гарачым жалезам, галавешкаю або лучынаю з агнём, бо радзіўшаяся дзіця цонгле будзе насіцца з вогнікам.

1491. Калі хто-небудзь сыпане на цяжарную жанчыну попелам, то яе дзіця будзе вуграватае.

1492. Цяжарную жанчыну няможна палохаць, бо яна з пуду можа скінуць, а калі не, то яе дзіця можа быць заікатым ці балбатуном.

1493. Часта жанчыны ў ценжы лезуць біцца, але іх ніхто не чапае і пальцам. Жанчыны гэта ведаюць і слепіцаю лезуць у вочы. Тады бяруць іх, толькі пamaленьку, за рукі да й кажуць: «Дзякуй Богу, што ты ў ценжы, а то б я табе паказаў».

1494. Як трэба на якое спорнае месца, напрыклад на поле ці на сенажаць не пусіць каморніка ці чужых работнікаў, то людзі пасылаюць туды сваіх тоўстых жонак. Тыя бягуць з качэргамі, вілкамі або з ажагамі, кідаюцца біцца, й ніхто адтуль іх не прагоніць, бо кожны знае, што жанчын у цяжку няможна чапаць.

1495. Як тоўстая жанчына ўкрадзе што-небудзь, то яе дзіця будзе злодзеем.

1496. Жанчына як толькі панясе да й ходзіць важкая, то на яе няможна кідаць чым-небудзь, бо яе дзіця будзе тое есці.

1497. Як брухатая жанчына сустрэне чалавека ў той час, як едзе сеяць ці вязе з поля хлеб, то яго мышы будуць есці.

1498. Калі хто тоўстай жанчыне атказа ў просьбе й не дасць чаго-небудзь, у таго мышы будуць грызці ўсё, што пападзе на зубы.

1499. Як у цэркві ляжыць мярцвец, то тоўстыя жонкі спяшаць хутчэй выйсці адтуль, каб былі лёгкія роды.

1500. Калі брухатая жанчына мае чырвоныя шчокі да выпуклае чрэва, то гэта значыць, што яна родзіць сына, а калі ў яе від бледны й жывот плоскі, то родзіцца дзевачка.

1501. Калі ў тоўстае жанчыны першы раз затрапечацца ў левым баку, то родзіцца хлопчык, а калі ў правым, то дзевачка.

1502. Як тоўстая жанчына чаго-небудзь спужаецца, яна павінна сцерагчыся, каб не лапнуць рукой за твар, бо ў дзіцяці на том месцы будзе чырвоная пляма — радзімы знак на ўсё жыццё.

1503. Каб тоўстай жанчыне не зашкодзіла, як яна спужаецца чаго-небудзь, то трэба, каб яна вялікі палец левай рукі заткнула за пасак.

1504. Як жанчына ў полазе, ёй кладуць на пасцель нож і суравыя ніткі, каб яна пры родах доўга не мучылася.

1505. Як родзіцца дзіця, баба стараецца перарэзаць яму пупавіну на ксёнжцы, каб яно было разумнае.

1506. Як родзіцца больш хлопчыкаў, чым дзевачак, кажуць, што будзе вайна, бо после вайны заўжды раджаецца шмат больш хлопчыкаў, чым дзевачак. Гэта ўжэ так дае Бог, каб запоўніць утрату, якую нарабіла вайна, знішчыўшы мужчын. Ведамо, што без мужчын і свет звёўся б спрэсу.

1507. У полазе жанчыну водзяць па хаце, падтрымліваючы яе пад рукі. Кажуць, што так яна лёгка раджае.

1508. Больш усяго жанчыны ў полазе ляжаць дагары, сагнуўшы ў каленках ногі. Пры патугах бабы даюць ёй пляшку, жанчына дзьмухае ў пляшку й надуваецца, ад таго хутчэй раджае.

1509. Калі ў роджаніцы мала патуг, то ёй даюць выпіць навар быльніку ці чарку гарэлкі, настаяныя ражкамі (споринья) ці жытняю красою.

1510. Калі жанчына не рабіла ўсё як трэба, не сцераглася, як кажуць людзі, то ёй бывае вельмі цяжко раджаць. Тагды бабы кажуць, што роды сапсаваліся, што тут іх трэба паправіць, дзеля гэтага баба дае роджаніцы святое вады, націрае ёй жывот перуноваю стралою, падкурвае свентаянскім зеллем, а калі роды бываюць вельмі цяжкія, так што бабы нічога не парадзяць, то тагды просяць папа, каб ён адчыніў у цэркві Царскія вароты. Кажуць, што гэта памагае лепш ад усяго.

1511. Каб вызваць патугі, гаспадар лажыцца ў хаце каля дзвярэй, а роджаніца пераступае цераз яго. Праз гэта хутко

будуць патугі, а потым і роды. Часамі гаспадар ляжэ на пол і стогне да ойкае, нібыто яму баліць, каб яго жонка хутчэй радзіла да не мучылася.

1512. Каб дзіця хутчэй і лягчэй выйшло, баба развязвае ў роджаніцы ўсе вузлы і завязкі, а таксама распускае ёй валасы. Валасоў не чэшуць роджаніцы ўвесь час, пакуль яна ў полазе, аж да дзевятага дня.

1513. Баба прымае дзіця не голымі рукамі, а пакрыўшы іх якой-небудзь старызнаю, каб дзіця ніколі не было голае, а заўжды жыло ў багацтве.

1514. Зараз после родаў даюць жанчыне чарку-дзве гарэлкі з перцам, а ў каго е, з баброваімі строямі і пазваляюць ёй спаць. После мук жанчына, лежачы дагары, засынае і часам спіць гадзіны дзве-тры. Праспаўшыся, яна трохі памацнее дзеля таго, каб яшчэ вынесці адну муку, гэта боль, як выходзіць места. Часамі места вельмі доўга само не выходзіць, тады баба сілком выцягвае яго, заматаўшы на правую руку пупавіну, а леваю ўпіраючыся ў жывот роджаніцы.

1515. Места роджаніцы баба закопвае ў зямлю так, каб пупавіна была зверху. Гэта робяць дзеля таго, каб у роджаніцы былі яшчэ дзеці. Калі ж места будзе закопана так, што пупавіна знізу, то ў той жанчыны больш не будзе дзяцей. Гэтаму так вераць, што адна роджаніца, не хацеўшы мець больш дзяцей, сама злезла з пасцелі да й перакапала сваё места пупавінаю ўніз, каторае ўжо баба схавала.

1516. Калі дзіця раджаецца відам уверх, то яно будзе даўгавечнае, калі ўніз, то скора памрэ.

1517. Калі дзіця як раджаецца да голасна закрычыць, то яно будзе гадавацца, а калі яно маўчыць і спакойнае, то, мабыць, хутка памрэ.

1518. Калі дзіця родзіцца тагды, як гарыць у печы, то ў яго можа быць вогнік.

1519. Калі дзіця родзіцца ў той час, як у сям'і мярцвец, то тое дзіця недаўгавечнае, а калі выжыве, то з яго будзе нехлямяжы чалавек.

1520. Калі ў дзіцяці жоўты відок, то яно хутка памрэ ат жаўтачкі ці другое хваробы.

1521. Часамі дзіця раджаецца ў чапцы, ці як жэ кажуць, у сарочцы. Гэта вельмі добры знак: з таго дзіцяці будзе вельмі шчаслівы чалавек, да не толькі ён сам, але і ўся сям'я будзе

праз яго меціь шчасце. У такім разе маці таго дзіцяці высушвае і хавае тую сарочку, а як тое дзіця вырасце, то дае яму, каб яно заўжды хавала пры сабе. Кажуць, што такая матчына сарочка перасцерагае ад хваробы, непрыяцеля і дае вялікае шчасце на ўсю жытку. Як той чалавек памрэ, та тую сарочку кладуць яму ў дамавіну, каб ён і на том свеце быў шчаслівы.

1522. Часамі дзіця родзіцца не ў поўнай сарочцы, а толькі ў шапачцы. Такое дзіця гэш* будзе шчаслівае, хоць і не так, як тое, што родзіцца ў поўнай сарочцы.

1523. Калі дзіця радзілася ў час ад поўначы да паўдня, то яно будзе ўдалае, а калі пасля паўдня ці пад вечар пры заходзе сонца, то з яго нічога добрага не будзе. Калі яно выгадуецца, то будзе нехлямяжым.

1524. Калі родзяцца блізняты — або хлопчыкі ці абедзве дзевачкі, то будуць гадавацца, а калі адзін хлопчык, а другая дзевачка, то з іх тое памрэ, каторае радзілася першым.

1525. Калі ў дзіцяці на галоўцы многа валасоў, яно будзе гадавацца.

1526. Як дзіця родзіцца з зубкамі, то будзе вельмі галодны год, будзе так галодны, што гаўядо самі ўсё паядуць.

1527. Самыя цяжкія роды бываюць пятым дзіцем. Калі жанчына тое вынесе, то ёй ужэ нема чаго баяцца — можэ раджаць, як хлеб саджаць.

1528. Як родзіцца дзіця, яго завінаюць у сарочку, калі дзевачка, то ў бацькаву, а калі хлопчык, то ў матчыну, каб дзіця было шчаслівае. Потым яго мыюць, ці, як жэ кажуць, купаюць. У воду кідаюць грошы й жуковіну, каб дзіця было багатае й шчаслівае ў пары. Тую воду пасля дзевачак выліваюць на парог, каб выйшла замуж, пасля хлопчыка — выліваюць пад печ, каб ён быў добрым гаспадарам.

1529. Як родзіцца дзевачка, то хутчэй выводзяць са стайні коней, а калі яны на пашы ці дзе-небудзь, то на каняку садзіцца дзяцюк і гарцуе па дарозе, каб тая дзевачка, як вырасце, хутчэй пайшла замуж.

1530. Панядзелак лічыцца нешчаслівым, нехарошым днём. Хто родзіцца ў гэты дзень, то будзе гультаёвы, хоць і скупы, але бедны, будзе задзірака, ні з кім у ладу не пражыве, але будзе вельмі лоўкі перадражніваць людзей і жывёл. Аўторак

* Таксама.

шчаслівы дзень. Хто родзіцца ў гэты дзень, то будзе працавіты, старанны, але пануры. Ён памаўчыць, але трох наўчыць, пражыве да вялікае старасці, калі ў срэднім веку яму не зашкодзіць агонь ці вада. Хто родзіцца ў сераду, той ва ўсём будзе, як жэ кажуць, ні ўзад, ні ўперад, а так сабе сярэдні чалавек, толькі ён будзе вельмі вяртлівы, бы ўюн, да задзіраха, бы дзераза, вельмі доўга не пражыве, бо як порсткі, то сам наскочыць на ліхо. Чацвер добры дзень. Хто ў гэты дзень родзіцца, той будзе белацелы, з рэдкімі зубамі. Пражыве ён вельмі доўга, калі з-за маладу пасцеражэцца жывёлы, як дзікай, так і хатняй. Пятніца нехарошы дзень. Хто ў гэты дзень родзіцца, то будзе п'яніца, гультай ці злодзей, але не будзе багат. Ён дома не памрэ. Хто родзіцца ў суботу, той будзе так сабе чалавек сярэдні, але ён будзе вельмі вясёлы і прыемны ў бяседзе. Яго ўсе будуць кахаць. Ён доўга пражыве, пакуль згубіць усе зубы. Нядзелька — радасны дзянёк усім. Хто родзіцца ў нядзельку, той будзе самы шчаслівы, бо яму ўсё будзе шанцаваць, будзе ўдавацца. Яго людзі будуць шанаваць. Ён доўга пражыве на свеце і яму другія будуць завідаваць.

1531. Хто родзіцца на маладзіку, таму ніколі не будзе старасці, ён усё жыццё будзе якісь неўгамонны, не сталы, бы блазан.

1532. Хто родзіцца пад поўню ці ў самую поўню, той будзе чалавекам сталым, разумным, у яго можа быць многа дзяцей.

1533. Хто родзіцца ўзімку, той усё жыццё будзе мярзлявы, але старанны і добры работнік. На такіх людзях свет трымаецца.

1534. Хто родзіцца ўлетку, будзе вельмі гарачы да сярдзіты, бы табе тая арабінавая ноч, толькі яго ніхто не будзе баяцца, бо, як жэ кажуць, з вялікага грому малы дождж.

1535. Марцовыя дзеці не бываюць сталымі людзьмі, яны ўсю жытку марцуюць да круцяцца, бы непрытомныя. На марцовых людзей мало надзеі, з марцовай жывёлы малая карысць. От затым гаспадар ніколі не аставіць на прыплод той жывёлы, якая родзіцца ў марцы.

1536. Маёвыя дзеці самыя нешчаслівыя, яны маюцца ўсё жыццё, з іх бываюць толькі добрыя музыкі да певуны.

1537. Калі дзіця родзіцца па восені, калі ўсяго многа на гумне і ў агародзе, то кажуць, што тое дзіця як вырасце, то будзе багата жыць.

1538. Перш усяго баба бабіць дзіця, для гэтага яна перавязвае дзіцяці пупавіну пасмай самага лепшага льну і адразае яго острым нажом, патрымаўшы яго над агнём, каб з яго выгнаць ліхое.

1539. Пупавіну хлопчыку баба адразае, палажыўшы на дубовую дошку, каб хлопец быў моцны, як дуб, ці на тапарышчы, каб ён добра трымаў сякеру да быў лоўкі работнік. А дзевачцы пупавіну баба адразае, палажыўшы на прасніцу або на чоўнік, каб яна, як вырасце, была ахвотніца да жаночай работы.

1540. Першыя дні баба сама купае дзіця, пакупаўшы яна трэйко сцепае яго над начоўкамі, каб сцякла брудная вада, трэйко цалуе ў спінку і трэйко сплёўвае, каб адагнаць ад дзіцяці нячыстую сілу.

1541. Пакуль дзіцяці не хрысцяць, яму няможна класці сарочачкі, яго толькі кладуць у пялёнкі, зробленыя са старызны, сарочак маткі, бацькі, бабкі, дзеда ці каго-небудзь са старшых. Робяць гэта дзеля таго, каб дзіця ва ўсём было, як яго бацькі, дзяды ці другія сваякі.

1542. Першыя дні дзіця няможна класці ў калыску да калыхаць, каб нячысцік не падкаснуўся.

1543. Каб не ўраклі дзіця, матка завязвае яму ў сарочку дроб солі і крошку хлеба.

1544. Каб перасцерагчы дзіця ад урокаў, матка выцірае яму твар падалом сваёй сарочкі.

1545. Як здзівяць ці ўракуць дзіця, то маці бярэ ў жменю соль, абносіць яе кругом дзіцяці тры разы і кідае на жар. Як соль там затрашчыць, то пройдуць урокі.

1546. Бываюць людзі, што ў іх ліхія вочы. Як такі чалавек толькі зірне на дзіця, то ўжэ яму зашкодзіць. Каб гэта не зашкодзіла, трэба матцы тры разы пацягнуць ротам з роціка дзіцяці да і сплюнуць.

1547. Калі дзіця, як хрысцяць, ды маўчыць, то будзе недаўгавечнае, а калі плача, то мае добра гадавацца.

1548. Тую ваду, у якой купалі дзіця, трэба хутчэй выліць, бо можа дзіцяці зашкодзіць.

1549. Пялёнак няможна ні качаць, ні магляваць, а трэба толькі памяць у руках, бо дзіця не можа ціхо спаць.

1550. Няможна дзіця класці ўпоперак пасцелі, а то яно захварэе.

1551. Пустой калыскі не калышуць, каб дзеці не ўміралі.

1552. Калі матка першы раз дасць свайму дзіцяці левую цыцку, то ў яго будуць ліхія вочы.

1553. Як хто спужае дзіця, трэба ў таго выстрыгці накрыж трохі валасоў і імі падкурыць дзіця, то перэпалах і пройдзе.

1554. Ад перэпалаху абкурваюць дзіця стопкам, які находзяць на дарозе, ці знятым з чатырох вуглоў павуціннем.

1555. Малому дзіцяці як не даюць больш цыцкі, падносяць на выбар тры рэчы: грошы, розгу і кніжку. Калі дзіця хапаецца за грошы, то будзе багатым, за розгу — паслушным, а за кніжку — разумным (шляхта).

1556. Калі дзіця ляжыць на зямлі ці поўзае, няможна цераз яго пераступаць, бо не вырасце, а застанецца каратышом (карлікам).

1557. Часам дзіця ўпадзе на зямлю. Каб ад таго дзіцяці не зашкодзіла, трэба на тое месца лінуць трэйко вадою і размесці венікам.

1558. Як дзіця ўдарыцца галавою і ў яго на ілбе ўсхопіцца гуз, то трэба баржджэй к яму прыціснуць мядзяк або штонебудзь жалезнае, каб яно выцягнуло боль.

1559. Калі дзіця не спіць, а ўсё крычыць, трэба ў гаршчок палажыць тры вугалькі, тры жытнія каласкі і тры драбінкі солі, наліць вадою, каб аж вада закіпела. Потым пад калыскаю паставіць начоў і выліць туды ваду і гаршчок перавярнуць уверх дном. Вада войдзе ў гаршчок, і дзіця будзе спаць.

1560. Як родзіцца дзіця, першыя тры дні няможна пазычаць людзям нічога з хаты, асабліва няможна даваць агню, бо дзіця, як падрасце, будзе цурацца сваёй хаты да можа зрабіцца спрэс валацугаю.

1561. Пакуль дзіця не хрышчано, яму няможна даваць імя, бо нячыстая сіла, пачуўшы тое імя, прычэпіцца к дзіцяці. От затым перш, чым хрысціць, кожная баба сама хрысціць дзіця, абліваючы яго свянцонаю вадою, тут яна дае дзіцяці імя, якое схочуць яго бацькі. Гэта кажуць «ахрысціць дзіця з вады». Часам як тое дзіця хрысціць поп, то ён дае другое імя, але бацькі называюць сваё дзіця тым, кім яго назвала баба. Часта кумы покуль вернуцца ад папа дамоў, то і запамятаюць, якое хітрае імя поп даў іх хрэсніку. От затым у многіх па два імёны, адным завуць дома і на вёсцы, а другое запісана ў папа да ў воласці.

1562. Пасцель рожаніцы і дзіцяці трэба рабіць так, каб яны не ляжалі галавамі на поўнач ці на захад. Ад ляжання на поўнач будуць хварэць, а на захад — саўсем могуць памерці.

1563. Пакуль жанчына ляжыць у полазе, трэба каб на яе дзіця не павеяў не толькі вецер, але нават самы малы рух паветра, бо з ім можа палкаснуцца нячысцік і зашкодзіць.

1564. Жонкі з радні, суседкі і знаёмыя прыходзяць да рожаніцы наведвацца і павіншаваць яе. Дзеля гэтага яны прыносяць рожаніцы на гасцінец розную яду, завіўшы яе ў палатно ці ў ручнік. Яны моўчкі ўваходзяць у хату, хутчэй падходзяць да полага і, прысеўшы на край ложка, разгортваюць тую яду. Толькі тады яны загавораць і пачнуць віншаваць. Рожаніца прымае гасцінец, а палатно ці ручнік аддае назад. Тут яна павінна чым-небудзь аддарыць тую жанчыну, што прыйшла ў праведы, даць ёй абаранак, кусочак цукру, жменю чарніц, гарбузікаў ці што другое. Калі гэтага не зрабіць, то як дзіцяці да рожаніцы, так і той жанчыне можа зашкодзіць.

1565. Парадуха, як прынясуць ёй узвар ці іншы гасцінец, павінна тады пры той жанчыне пакаштаваць і з'есці тое яды, яшчэ паказаць, што яна да густу. Гэта робяць дзеля таго, каб хутчэй набрацца сіл, хутчэй паправіцца да і каб дзіця было здаровенько, каб хутчэй у яго пайшлі зубкі.

1566. Калі парадуха і ўстала з пасцелі да пашла рабіць хатняе дзело, але як прыйдуць на проведы, то яна павінна легчы на пасцель, каб часам не ўраклі, што так рана ўстала.

1567. Калі ў каго не гадуюцца дзеці, то ў кумы просяць брата і сястру, лепш усяго, калі яшчэ гэта блізняты.

1568. Калі не гадуюцца дзеці, то бацька дзіцяці зладзіцца і ідзе на растанцы, там ён чакае, покуль хто падойдзе ці пад'едзе, от таго ён і просіць у кумы, просіць усякага, хто б ён ні быў. Калі там трапяцца старцы, то гэта яшчэ лепш. Толькі калі наедуць жыды, або цыганы, то той чалавек варочаецца дамоў, а потым зноў ідзе на растанцы, каб-такі найці кумоў.

1569. Душа дзіцяці, памёршага нехрышчоным, доўга не можа знайсці сабе супакой, яна ўсё пішчыць, усё просіць, каб хто яе ахрысціў і даў ёй імя. Такія душы нехрышчоных дзяцей на купальскую нядзельку часамі паказваюцца людзям. Іх няма чаго палохацца, бо яны нічога ліхога не зробяць, яны толькі просяць, каб іх перахрысцілі. Як хто ўбачыць такое дзіця, то трэба хутчэй зняць з сябе крыжык, накінуць на тое дзіця,

хрысціць яго і назваць па тры імёны мужчын і жанчын. Тады тая душа супакоіцца і пойдзе ў неба, а таму чалавеку будзе ва ўсім вельмі шанцаваць.

1570. У хрышчонага дзіцяці душа анельская. Яно як памрэ, то йдзе проста ў неба.

1571. Байстручкі, ці, як жэ кажуць, выблядкі, заўжды бываюць удалыя і шчаслівыя, не дарам жа людзі гавораць пра тых, каму шанцуе, што ім шчасце, бы выблядкам.

1572. Так у кумы не вельмі парываюцца ісці, бо з таго мала карысці, а яшчэ нават трэба патраціцца, затое ў кумы к байстручку дак ідуць з ахвотаю, бо ад таго й куму не міне шчасце, толькі яны павінны зрабіць знак, што ад яго не адпіхаюцца. Дзеля таго кум затыкае сабе за пояс аброць, каб вадзіліся коні, кладзе запазуху каласы збожжа, каб у яго быў вялікі ўраджай ці што другое. Кума ж падтыкае сабе палойку ільну, каб ён добра зарадзіў, бярэ запазуху цадзілку, каб у кароў было многа малака, ці яшчэ што-небудзь іншае.

1573. Калі кумою байстручка будзе нават ужэ заседзіўшаяся доўга дзеўка, то яна пойдзе замуж, як яе хрэснік пачне хадзіць.

1574. Як вязуць дзіця хрысціць, то яму ў пялёнкі завінаюць крошачку хлеба і нюшок солі, каб яно ўсё жыццё мело хлеб і каб яго ніхто не мог уракці, бо вядома, што соль заўжды добра памагае проціў урокаў; хто пахваліць, дак каб ён не здзівіў, яму кажуць: «соль табе ў вочы, дзеркач у зубы, таўкач пад бокі».

1575. Калі раджаюцца ўсе дзевачкі, а бацькі хочуць, каб радзіўся хлопчык, то яны, як выпраўляюць дзевачку хрысціць, завінаюць яе ў мужчынскую сарочку. Кажуць, што гэта вельмі добра памагае.

1576. Дзіця хрысціць лепш усяго везці на валах, яно будзе добрым гаспадарам ці гаспадыняю. Калі ж няма валоў, то вязуць на конях, каб ліхое за ім не ўгналася. Але ніколі няможна пешкі несці дзіця, як бы ні было блізка, бо гэта можа зашкодзіць.

1577. Каб дзіця не ўраклі як яго вязуць хрысціць, то яго перад гэтым падкурваюць свянцонымі зёлкамі.

1578. Як і пры ўсякім выездзе ў дарогу, кум і кума, сабраўшыся везці дзіця хрысціць, садзяцца на лаве, а гаспадыня

перад тым зачыняе печ заслонкаю і к коміну прыстаўляе вілкі і качаргу, каб у дарозе добра паводзіла.

1579. Часамі як вязуць хрысціць дзіця, то каля парога ў хаце кладуць сякеру, долата, калі гэта хлопчык, ці лён, іголку, калі дзевачка, каб яны, як вырастуць, былі добрымі гаспадаром і гаспадыняю. Кумы тройчы падымаюць дзіця над гэтым усім, а потым пераступаюць і выносяць дзіця з хаты.

1580. Як вязуць дзіця хрысціць, то бяруць з сабою хлеб і соль, каб дзіця было багатае.

1581. Калі ў дарозе, як вязуць хрысціць дзіця, да трапіцца які-небудзь выпадак ці прыгода, то тое дзіця ці памрэ, ці будзе вельмі нешчаслівае.

1582. Калі ў дарозе, як вязуць хрысціць дзіця, да распрагуцца коні, то дзіця будзе вельмі ўпрамае і непаслушнае; калі выпадзе загваздка да спадзе кола, то дзіця, як вырасце, будзе ўсё губіць, раскідаць і ніколі ў яго не будзе парадку.

1583. Калі ў той час, як вязуць хрысціць дзіця, да ідзе дождж або снег, то гэта добрая прыкмета, бо дзіця будзе багатым.

1584. Калі ў той час, як вязуць дзіця хрысціць, да пачнуць грукацець грымоты ці смальне пярун, то бадай што з таго дзіцяці будзе чараўнік.

1585. Калі, як вязуць дзіця хрысціць, да прыстануць коні, то, пэўна, з таго дзіцяці будзе знахар ці чараўнік.

1586. Як вязуць хрысціць дзіця да сустрэнуць каго з пустымі вёдрамі, то дзіця памрэ, а калі з поўнымі, то яму будзе харошае жыццё. Гэта заўсёды, калі сустракаюць з поўнымі вёдрамі, то кажуць, што добрая прыкмета, а з пустымі — ліхая.

1587. Як кумы едуць цераз растанцы, то яны дзеля прыліку сыплюць соль, каб засыпаць вочы ліхому.

1588. Калі дзіця, як яго хрысцяць, да крычыць, то з яго будзе заядлы, сярдзіты чалавек, а калі яно маўчыць ці спіць, то будзе недаўгавечнае, ці з яго вырасце чалавек ціхі, мяккі, бы каша.

1589. Калі часам поп, як хрысціць дзіця, да не памажэ яго бародку, то яно, як вырасце, не будзе мець валасоў на барадзе ці яны будуць вельмі рэдкія.

1590. Калі кумы запамятаюць, кім поп назваў дзіця, як яго хрысціў, то яно будзе з кепскаю памяццю.

1591. Калі дзіця з той вёскі, дзе поп, то пасля таго, як ён ахрысціць дзіця, кумы хоць дзеля прылікі спыняюцца каля якое-небудзь хаты або заходзяць у яе, там даюць дзіцяці соску, а самі ядзяць хлеб з соллю, каб дзіця было здарова да сыта, да ўрокаў не баялася.

1592. Як вязуць дзіця хрысціць, то знарок не едуць проста, а плутаюць па аб'ездах, каб ліхі не найшоў слядоў, а як варочаюцца назад, то едуць проста і ціхо, бо ўжо няма чаго баяцца.

1593. Калі дзіця ахрысціць сярдзіты поп ці ён на той час будзе п'яны да пачне злаваць, то тое дзіця, як вырасце, будзе вельмі сярдзітым чалавекам, але не так цвярозым, як п'яным.

1594. На хрысцінах кум з кумою павінны сядзець поруч, тады ў дзіцяці будуць густыя зубы, і яно, як вырасце, то са ўсімі будзе жыць у згодзе і ладзе.

1595. Кум і кума павінны на хрысцінах многа паміж сабой гаварыць, каб дзіця было гаваркое, да людзей прыхільнае.

1596. Кум і кума на хрысцінах не павінны вельмі ўпівацца, каб з дзіцяці не быў горкі п'яніца.

1597. Але кум і кума на радзінах і хрысцінах павінны піць чарак да пары, каб дзіця добра расло і было ў пары.

1598. Як ахрысцяць дзіця і кума ўносіць яго ў хату, то трэба, каб яна што-небудзь гаварыла нават тады, калі яе ніхто не слухае, то і дзіця будзе хутка гаварыць і не стане заікацца ці шапялявіць.

1599. Як кума ўносіць у хату ахрышчанае дзіця, то ўсе ўстаюць. Гэтым яны робяць павагу святому чалавеку, каторы яшчэ нічога не награшыў. Тут хто-небудзь пытае, як дзіця завуць. Кумы павінны хутчэй назваць імя дзіцяці, тады яно будзе хутка гаварыць і не будзе заікаю.

1600. Каб дзіця любіла сваю хату і пільнавалася яе, кума ахрышчанае дзіця, як прынясе ў хату, абносіць тры разы кругом стаўпа печы, пахістае перад чалешнікамі, тады аддае мацеры.

1601. Удалая кума, якая ўжо не раз была ў кумах, як хрысцяць дзіця, кладзе яго на кут, калі то хлопчык, каб ён быў добры гаспадар, а дзевачку на загнет, каб яна пільнавалася печы, як гэта павінна рабіць добрая гаспадыня.

1602. Узяўшы ад кумы дзіця, маці перш-наперш пакорміць яго, пры гэтым яна глядзіць, каб часам не даць дзіцяці перш левую цыцку, бо тады з яго будзе ляўша.

## МАЛІТВА. ХРЫСЦІНЫ

Баба апранаецца абавязкова ў намітку і ідзе з дзіцем да святара за малітваю, нясе яму хлеб, дзве грыўны (6 кап.) і крыху гарэлкі. Прыйшоўшы туды, яна становіцца на калені і гаворыць: «Кланяюся і хлебам, і віном, і сынам новарождзенцам». Святар, прачытаўшы малітву, адказвае: «Поздравляю тябе, бабо, з внуком Иваном». Гэты абрад здзяйсняецца яшчэ наступным чынам: перад тым, як баба ідзе да святара, муж частуе яе і парадзіху. Тады баба нясе дзіця да папа, «щобъ благословивъ зъ води». Бацюшка дасць імя, пакрапіць вадой і гаворыць: «Слава Богу, поздравляю тебе зъ новимъ семъяниномъ, з сыномъ Иваномъ». Пасля вяртання бабу зноў частуюць гарэлкай.

*с. Макрыны, Кобрынскі павет*

Нованароджанае дзіця, калі яно не пахрышчана, паводле народнага меркавання, знаходзіцца ў вялікай небяспецы ад чорта і ведзьмы і пагэтаму яго імкнуцца ахрысціць у дзень нараджэння. Карміць дзіця маці не можа да таго часу, пакуль яго не ахрысцяць, і пагэтаму калі няма святара і абрад хрышчэння трэба адкласці на 2—3 дні, то дзіця корміць якая-небудзь іншая жанчына.

Хрысціны пачынаюцца з запрашэння кумоў. Бяруць іх адну пару; толькі заможны бярэ зрэдку дзве. Калі папярэднія дзеці паміралі, бяруць стрэчных кумоў (першага, каго сустрэнуць на дарозе, калі яму дазваляе ўзрост). Але калі жанчына родзіць першы раз, то выбіраюць каго-небудзь са сваякоў: «Баба сужениі, куми люблениі». З жанчын не бяруць цяжарных, бо асцерагаюцца, каб дзіця не памерла. Запрашаць кумоў ідзе муж парадзіхі, а калі ён адсутнічае, тады той, хто ёсць у хаце. Ён ідзе з хлебам і соллю. Прыйшоўшы да кандыдата ў кумы, кладзе на стол хлеб і гаворыць: «Давъ Богъ сина, теперъ не одкажи мені, куме». Кум не адмаўляецца: забірае прынесены хлеб сабе, а свой кладзе на стол. Муж прыносіць яго хлеб дадому і затым нясе хлеб куме. У яе паўтараецца тое ж самае.

Кумы прыходзяць, апрануўшыся па-святочнаму, і прыносяць кавалак хлеба, бублікаў і крыжмо (палатно арш. 4). Пры ўваходзе гавораць: «Магай, Бігъ, кланяэмось вамъ хлібомъ». Садзяцца. Іх частуюць гарэлкай, пры гэтым той, хто п'е, гаворыць: «Дай, Боже, щобъ синъ да великій росъ, людзямъ на

славу, вам на помочъ і ўтіху». Застаўшуюся ў чарцы гарэлку выплёхваюць на столь для таго, каб «породилля дрикгала», і пры гэтым гавораць бабе, «щобъ ёго (г. зн. нованароджанага) одреклась, а до другого поволоклась».

Пасля баба купае дзіця ў вадзе, якую яшчэ ніхто не піў.

Пакупаўшы хлопчыка, спавівае ў сарочку бацькі, разрэзаўшы яе перад тым у трох месцах: дзяўчынку — у сарочку маці; завязвае ў рукаў кавалак «печины» (гліны з печы), вугаль і дробныя грошы, аддае куму і гаворыць: «Нате вамъ, нарожене, нам принесіть хрешне». Кум перадае куме. Калі хлопчык, яго перадаюць на ганку, калі дзяўчынка — праз грэбень. Баба дае куму печыну і вугаль, завязаныя ў асобны вузельчык, і кажа: «Якъ дийдешъ до роспуття, да й кинь керезъ плече и скажи: на тобі, чорте, плату». Ці баба бярэ дзіця і падносіць яго да бацькі, той блаславўляе яго і гаворыць: «Няхай тебе Богъ благословитъ и поможе тобі війти въ християнську віру, дай, Боже, щобъ ти росло велике та шасливе було». Гэта ж гаворыць і маці. Тады баба аддае куме: «Занеси, Боже, до хреста святого, позволь, Боже, во християнську віру ввести. Приведи, Боже, и породіллю до першого здоровья; дай, Боже, шобъ вона его охрестила и до розуму довела і на весіллі погуляла».

*Пінскі павет*

## ХРЭСЬБІНЫ Ў в. КРЫВЫЯ ТАЛАЧЫНСКАГА РАЁНА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Хрэсьбіны гулялі ці ў дзень хрышчэння дзіцяці, ці пазней, каб прыгатавацца добра людзей пачаставаць, каб не было сорамна («не горш, чым у людзей»).

За кумоў бралі лепшых сяброў, бо кумы — гэта найлепшая радня. Хрышчоная бабка гатавала кашу: яечню ў вялікай місцы. Як кашу падзеляць, парадзіха давала бабцы падарунак: намітку ці проста палатно. Атрымаўшы падарунак, бабка скакала па лаўках і прыгаворвала:

А я бабка з Забор'я,
Гоц на ўсю моц!
Прынясла ўнуку (унучцы) здароўя,
Гоц на ўсю моц!
Намётачка на кут,
Гоц на ўсю моц!
Каб праз два гады мы зноў былі тут.
Гоц на ўсю моц!

У канцы хрэсьбін былі муравінкі. Як сказала інфарматарка, яна з расказаў сваёй бабулі памятае, даўней муравінкі спраўлялі на трэці дзень пасля хрэсьбін, але на яе вяку ўжо ў дзень хрэсьбін. Бабка брала вядро з вадою, бярозавы венік і пырскала на кожнага госця. Перад гэтым да яе звяртаўся кум з наступнымі словамі: «Бабулька! Я ўжо нядзелю не мыўся, усё чакаў, калі ты будзеш муравінкі змываць». Бабка яму адказвала: «Я зараз усіх памыю». І ішла да гасцей з вядром вады. Жанчыны ў гэты час звычайна спявалі песню:

Ішлі мы дарогаю,
Ішлі мы шырокаю,
Зеллейка збіраючы,
Муравінкі змываючы,
Каб ты быў бялюсенькі,
Дзевачкам мілюсенькі.

Кожны госць, якога памыла бабка, даваў ёй грошы (а за кашу тут грошы не збіралі).

У хуткім часе госці пачыналі разыходзіцца дадому. На прыканцы хрэсьбін заўсёды спявалі гэту песню:

Дзякуй таму кавалю,
А што здзелаў нам гульню,
Ён у ручачкі не хукаў,
Малаточкам не стукаў,
Без молата, без кувадла
Выйшла дзіця дужа ладна.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ГЛЫБОЦКІМ РАЁНЕ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Пра цяжарную жанчыну казалі, што яна «ў палажэнні». Ёй нельга пазычаць, на пажар глядзець, пужацца, трэба хадзіць паважна. Можна было толькі красці гарох, каб у дзіцяці былі кучаравыя валасы (в. Верхняе). Калі шавяленне ў правым баку — хлопчык, у левым — дзяўчынка, твар чысты — хлопец, рабы — дзеўка, бо «дзеўка красату ў маці забірае». Калі на пытанне: «Каго родзіш?» — цяжарная адказвала смела, чакалі нараджэння хлопца, калі чырванела, саромелася — чакалі нараджэння дзяўчынкі.

Раджалі ў хаце або ў лазні, звалі да парадзіхі бабушку*. Бабушка несла с сабой пялёнкі, адзеяльца. Пупавіну хлопцу яна перабівала камянямі, «каб сільны быў»; перараэала на кніжцы, «каб граматны быў», і дзеўцы таксама. На сякеры хлопцу не перараэалі, каб не быў разбойнікам. Дзіця бабушка прымала ў сарочку бацькі або маці. Дзецкую пасцель** закопвалі пад яблыню, пад вугал, у істопцы пад жорны, каб быў хітры (в. Корабы-1), клалі за ікону, каб быў пачот (в. Верхняе).

Пры першым купанні ў ваду нічога не клалі, пасля купання яе вылівалі пад печ. Калыска была з дрэва — вісячая. Як кармілі дзіця, трэба мацеры пад задніцу нож палажыць ад пуду***. Пялёнкі, рубашкі, шапачкі да хрышчэння нельга было на вуліцу вывешваць.

Імя даваў святар па календары або якое бацькі хацелі. У адведкі (адведзіны) усе разам ішлі або па адной. Неслі булкі, яйкі, каўбасу, сыр, масла, мёд, хлеб. Бабушка ходзіць тры дні, дапамагае радзісе, як нікога няма. Былі бахуры****, да гэтых няшчасных і іх маці ніхто не хадзіў, ні ў якія адведкі, акрамя адной-дзвюх лепшых сяброўак.

У кумы бралі каго хочаш. Ішоў запрашаць хоць хто, браў с сабой хлеб-соль і ручнік. Прыйдзе ў хату і моўчкі пакладзе хлеб-соль з ручніком на стол, г. зн. запрашае ў кумы. Ад кумаўства нельга было адмаўляцца, грэх вялікі. У в. Корабы-1 так расказвалі: «Гэта маці, каторая да веры даводзіць, глаўнейшая, чым тая, што радзіла. З вялікай павагай адносіліся дзеці да сваіх хросных, руку цалавалі, звалі «татусь», «матусь». Бралі кумоў з дарогі, калі дзеці паміралі. Ад'язджалі кумы з дзіцем у царкву, жанчыны зрывалі шапкі з мужчын і кідалі іх на воз, каб дзіця ціхае было і людзі яго не абгаворвалі (в. Корабы-1). Перад храстом бабка пакупае дзіця, абойдзе кругом стала тры разы, потым куме аддае.

Хрысціны (ксціны, хрэсьбіны) гулялі ў нядзелю, звалі шмат вельмі людзей, да 60 чалавек. Жанчыны падарункі неслі, яду, мужчыны — паўлітра, грошы «на мыла». Бабіна каша была з яек, малака, цукру, баранак і ўпрыгожвалася зверху маленькімі баранкамі, запякалася ўсё гэта ў печы (в. Корабы-1). У в. Верхняе бабка варыла кашу з ячменных круп у гліняным

* Павітуху.
** Паслед.
*** Ад сурокаў.
**** Незаконнанароджаныя.

гаршку. Спачатку кашу з'ядуць, потым міску гэту кум б'е аб стол або кіне на падлогу і топча нагамі. Затым радзіха дае бабцы і куме на сукенку, куму — рубашку. Пелі песні і ў хаце, і на вуліцы, як бабу цягалі. Вось адна з гэтых песень:

Кумачка на кут падзвігаецца,
Да чарачкі дабіраецца.
А кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград.
— Шчыплі, кума, ягадкі,
Каторыя салодкі,
Каторыя горкі,
Тыя маёй жонке.

У канцы ксцін бабу вазілі на баране, на тачцы, на кані. Яна ўсіх гарэлкай частуе.

Радзіха 40 дзён лічыцца нячыстай. Як радзіха зойдзе ў лазню, то ўсе выходзяць, а потым зноў заходзяць і так робяць, як у жанчыны мясонцныя*. Як да 40 дзён радзіха ідзе да суседзяў, трэба ёй хлеба ўзяць і на прыпечак у іх палажыць, каб пасуда ў людзей не білася.

Пупавіну, як адваліцца, завяжуць у чыстую анучку і схаваюць за бэльку, а ў 2—3 гады даюць дзіцяці развязаць, каб хітрае было (в. Верхняе). У в. Корабы-1 пупавіну давалі хлопцу, як ён ішоў у армію, каб шчаслівы быў, а дзевачцы — як замуж ішла, таксама каб шчаслівая была. Калі дзіця нараджалася ў рубашцы**, гэту рубашку захоўвалі, такі чалавек лічыўся вельмі шчаслівы.

Як першы зуб з'явіцца ў дзіцяці, то нельга матцы лазіць у рот, а то зубы будуць дрэнна расці ў дзіцяці. Да года нельга стрыгчы, бо бедны будзе. У в. Корабы-1 стрыглі ў тры гады, каб памяць добрая была. Валасы затыкалі ў сцяну. Стрыглі матка ці бацька. Пры першым кроку сімвалічна разразалі путы — нажом праводзілі рыску па падлозе паміж ножак дзіцяці.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ПОЛАЦКІМ РАЁНЕ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «тоўста». Казалі, калі ў левым баку першы раз дзіця зашавеліцца — народзіцца дзеўка, калі ў правым —

* Менструацыя.
** Рэшткі пасleду.

хлопец. Калі тоўста седзячы выцягвае правую нагу — народзіцца хлопец, левую — дзеўка. Тоўстай нельга на пажар глядзець, праз вяроўку пераступаць, тушыць нагамі галавешку, што з печы выпала, калі збіралася пячы хлеб, бо, казалі, у дзіцяці жывоцік будзе балець увесь час. Нельга на «несуразных» людей глядзець, бо дзіця будзе такім, красці нельга, нават у сям'і добра сябе паводзіць, у вялікія святы не шыць, праз ката пераступаць — дзіця часацца будзе (ад гэтага купалі, попел сыпалі на начоўкі, на 4 вуглы, ваду пасля купання вылівалі на двор, пад дрэва); нельга грызці ногці — у дзіцяці будзе грыжа, жабу калечыць нельга ці пераступаць праз яе — дзіця будзе гарбатае і доўга не навучыцца хадзіць.

У час родаў звалі бабу, што бабіць дзеці. Яна першнаперш расшпіляла на радзісе ўсе гузікі, адчыняла куфры, дзверы, замкі, пасля малілася Богу і шаптала замову: «Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Божай Мацеры пакланюся. Я — са словамі, Бог — з помаччу рабе божай Алене роды адкрываці. Залатыя ключы адамкніцеся, царскія вароты адчыніцеся. А ты, анёл, шавяліся, ножкамі ўпірайся, ручкамі памагайся, даверху дабірайся». Калі нараджалася дзяўчынка, баба загортвала яе адразу ў старыя бацькоўскія штаны, каб яе мальцы любілі, а мальца — у мацярынскую кашулю, каб яго дзеўкі любілі. У в. Булаўкі звалі бабку, што пупок адразала. Такіх павітух у вёсцы было 1—2. Пупавіну хлопчыку нельга было адразаць на сякеры — будзе разбойнікам. Часам пупавіну яму перабівалі камянямі, каб быў моцны.

Дзіцячае месца закопвалі пад вугал хаты або пад печ. Як баба купала першы раз, то клала манетку ў ваду або бурштын, калі ў каго ён быў. Не купалі дзяцей у гатаванай вадзе, бо яно будзе «кіпець» усё жыццё, злавацца без дай прычыны. Пупок, што адваліўся, загортвалі ў чыстую тканіну, завязвалі ніткамі і засоўвалі за бэльку. Калі дзіцяці спаўнялася сем, або радзей тры гады, яму давалі гэты «пупок» развязаць, каб «добры ум быў».

У адведкі прыходзілі толькі жанчыны без запрашэння, мужчыны не хадзілі, а зараз, смех сказаць, ходзяць, абы чарку выпіць. Баба хадзіла да парадзіхі тры дні, насіла ёй ежу: супчык там які зварыць, ладак напячэ, у смятану памакае, яечню.

Імя дзіцяці даваў поп. Калі яно не падабалася або такое ж было ў якога-небудзь п'яніцы або злодзея ў сяле, тады прасілі

папа даць іншае імя. Перад тым як ехаць у царкву, павітуха купала дзіця, клала яго ў падушку і абносіла вакол стала тры разы, за ёй следам ішлі кумы. Усе цалавалі тры разы хлеб, які ляжаў на стале

На хрэсьбіны то ўжо толькі запрошаныя, каго пазавуць, ішлі: муж з жонкай. Бабка кашу варыла ў гаршку, а каторая яечню спячэ ў вялікай місцы. У в. Булаўкі бабіна каша — хрушчыкі, пасыпаныя цукрам. Тады ўжо падзеляць гэту кашу, а мужыку радзіхі намяшаюць ужо гэтай кашы, солі, гарчыцы ці перцу і прымусяць з'есці. Ён аж плача, а бабы смяюцца: «Так жа ж жонцы тваёй лёгка раджаць было». Бабіну кашу (хрушчыкі) давалі дзецям, ім ета радасць. Яны цэлы дзень там верцяцца, як кашу на стол паставяць, яны схопяць і бягуць на двор, каб дзіця, як вырасце, хутка бегала.

У в. Азіна, калі ўносілі гаршчок з кашай, завязаны ў хустку, глядзелі, куды вузел ад хусткі пахіліцца: калі ў бок ложка — наступная ў гэтай сям'і народзіцца дзеўка, калі на покуць, то родзіцца хлопец. Пасля радзіха дае падарункі бабе, куме і куму; матэрыял, сарочку куму. Баба абкруціцца ў матэрыял і тры разы падскоквае пасярод хаты, каб ужо ўнук ці ўнучка вялікія раслі. Ну, а тады ўжо вып'юць, паядзяць, ды скачуць і спяваюць. Як ужо дамоў адходзіць, дык спяваюць:

Да спасіба кавалю,*
Што ўстроіў нам гульню.
Малаточкам ня стукаў*
І ў ручанькі ня хукаў,*
Ён лучынку не паліў*
І сямейку ня будзіў,*
Пад дзяружкаю ляжаў,*
Сваё дзела выпалняў,*
Без молата, без кавалла,*
А дзіцятка дужа ладна.

*в. Бабынічы*

У в. Азіна спявалі іншую песню:

— А ў каго, каго
Вінаград на дварэ?*
— У Рыгора
Вінаград на дварэ.
Сабраў ён пір не людзём.

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Сам сабе.
Пасадзіў сваю куманьку
На куце.
— Пі й гуляй ды, куманька,
У мяне.
Звелічай ты мальца
Майго.

Зараз хрэсьбін мала гуляюць, «бо дзяцей не раджаюць, якія дзеці, дзяцей жа пальцам не зробіш, мужыка трэба».

У канцы ксцін бабку цягалі на баране, падаслаўшы кажух. Бабка памяло чыстае возьме, іх падганяе, усе смяюцца і крычаць (в. Булаўкі).

У в. Рудня адзін мужчына, 1927 г. н., расказваў пра «чырвоныя» хрысціны: «Мой бацька быў камуністам і не хацеў хрысціць сына, майго брата, і тады ў сельсавеце правялі «чырвоныя» хрысціны. Выступілі прадстаўнік райкома, члены сельскай парт'ячэйкі, аднаго з іх выбралі «красным кумам». Пелі «Інтэрнацыянал». Для дзіцяці падарылі адрэз сукна. Гэта было ў 1933 годзе, праз год мой брат памёр нехрышчоны, і калі павезлі хаваць на могілкі, там сабраліся людзі і не пускалі на могілкі. Бацька дастаў пісталет, і толькі пасля гэтага іх пусцілі з праклёнамі, і ўдалося пахаваць дзіця».

Дзяцей да года не стрыглі, каб галава не балела. Бывала, што стрыгла бабка, тады садзілі дзіця на стол, пад жопку капейкі кінуць ці кнігу, калі стрыглі хлопца, або кудзелю, ніткі, — калі дзеўку. Валасы хавалі ў шчыліну ў сцяне, у хаце ці ў сенцах. Зараз таксама стрыгуць дзіця пасля таго, як яму споўніцца год.

Калі жанчына, што корміць дзіця грудзьмі, нясе ваду, нельга даваць другой такой жа кармячай піць ваду са свайго вядра, бо малако пяройдзе ад першай да другой (в. Булаўкі).

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. КУРЫЛОВІЧЫ ШАРКАЎШЧЫНСКАГА РАЁНА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Тоўстай нельга на пажар глядзець, на несуразных людзей, калі тоўстая прыдзе пазычаць, трэба ёй даць, бо ўсё роўна тое мышы з'ядуць: нельга красці, нават у сям'і харашо сябе весці, у святы не работаць. Раней жанчыны раджалі па 10—15 дзяцей.

Калі дзіця родзіцца ў панядзелак — будзе нешчаслівае. Раджалі ў аўчарніку ці ў хаце на саломе, куток занавешвалі,

муж мог быць пры родах, а мог і не быць. Бабку-павітуху звалі «бабка, што пупок абразала». Такіх павітух у сяле было 1—2. Пупавіну хлопцу пераразалі на сякеры, малатку, кнізе, дзеўцы — на нітках, іголках, кручках.

Пасцель закопвалі ў варыўні або ў хаце, нічога не лажылі. Пупок, што адваліўся, замотвалі і захоўвалі за бэлькай, а ў сем год давалі развязаць, тады «добры ум будзе». Пры першым купанні ў ваду клалі капейкі, зерне.

У адведкі хадзілі да хрысцін па 1—2 жанчыны, прыносілі крэндзелі, яечню, упрыгожаную зверху баранкамі, сыр, масла, мяса.

Бацькі маглі і самі імя выбіраць. «Поп на адных у нас сярдзіўся, дык даў дрэннае імя іх сыну — Кісар». Пахрысціць імкнуліся хутчэй, да двух тыдняў. У кумы бралі хто каго хацеў, адну пару. Бацька дзіцяці браў хлеб і ішоў запрашаць у кумы і пакідаў хлеб у той хаце. Ад кумаўства нельга адмаўляцца, толькі калі менструацыя ў жанчыны. Бралі стрэчных кумоў, з дарогі, калі дзеці паміралі. А яшчэ і імя давалі таго чалавека, якога першага сустрэнуць. «У нас быў такі выпадак, у адной сям'і двое дзяцей ужо памерла маленькімі, і дзеўка от зноў нарадзілася. Так ужо бабка, ета ўжо маці гэтага мужыка, кажа: «Схадзі ты на ростынькі і вазьмі там кумоў». Ён пайшоў і стаіць там, ідзе жанчына, ён так і так: «Пахрысці маю дачку». Ну, яна згадзілася, і імя ў яе было Настасся, і хрэсніцу гэту назвалі Насця. Вырасла гэта Насця, адна дачка ў бацькоў так і была, больш дзяцей у іх не было».

Перад тым як ехаць у царкву, павітуха купала дзіця, клала яго ў падушку і абносіла вакол стала тры разы, за ёй кумы ішлі, усе цалавалі тры разы хлеб, які ляжаў на стале, і ехалі ў царкву. Кумам у дарозе трэба было вельмі добра сябе паводзіць, нельга мачыцца па дарозе, а то дзіця ў ложак увесь час мачыцца будзе. А як з царквы прыедуць, аддаюць дзіця зразу бацьку, які кладзе яго на ганак, а потым бярэ зноў на рукі і нясе ў хату і аддае ўжо маці.

Хрысціны (ксціны) гулялі часцей у той дзень, як і дзіця хрысцілі. Бабіна каша была яечня з баранкамі, спечаная ў глінянай місцы. Міску гэту пасля разбіваюць, чарапкі кідаюць пад вугал амбара. На ксціны мужчыны неслі гарэлку, жанчыны — хто што меў. На бабіну кашу клалі ґрошы, бабка гэтыя грошы аддавала радзісе. Радзіха купляе бабцы падарунак,

кладзе яго на міску і перадае бабцы. Кума вялікі падарунак для дзіцяці рабіла, кум на «хрост» даваў, а радзіха давала куме — на плацце, куму — сарочку.

У канцы ксцін бабку садзілі на барану, яна брала чыстае памяло, падганяла гасцей, вельмі весела ў канцы.

Радзіха нячыстай была 12 дзён, нічога не рабіла, у лазню не хадзіла. Уводзіцца ў царкву (касцёл) і ў праваслаўных, і ў католікаў ішла праз 40 дзён разам з дзіцем.

Дзяцей стрыглі, каб год скончыўся, а то памяць будзе кароткая. Валасы спачатку паложаць за шалёўку, а пасля спаляць. А то, калі мышы ці птушкі возьмуць, чалавек будзе лысы, няпамятлівы. Стрыглі і хлопчыкаў, і дзяўчынак, стрыг хто-небудзь з сям'і: бацька, маці, бабка.

Калі прарэзваўся першы зуб, то трэба было мезенцам правай рукі павадзіць па дзясне, каб не балела. Ловяць галубка, лапку наразаюць і гэтай крывёй мажуць дзясну, каб лягчэй зубкі праразаліся.

Пры першым кроку нажом па падлозе праводзілі рыску паміж ног дзіцяці, перараззалі «путы».

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ШУМІЛІНСКІМ РАЁНЕ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «бярэменная» або «ў цяжары». Ёй нельга на агонь глядзець, праз вяроўку пераступаць. Бярэменнай трэба ўсё даць, бо мышы паядуць. Калі хто секане ў яе прысутнасці, у дзіцяці будзе губа рассечана.

Да родаў звалі бабку, што дзяцей бабіла. Такая бабка Еўдакея жыла ў Мерзляках, адна на ўсю акругу. Да 1940-х гадоў усе раджалі дома і звалі гэту бабку. Яна, як першы раз купала дзіця, манетку кідала ў ваду, купала ў драўляных начоўках. Як дзіця пакупае, перахрысціць і імя скажа, бо папоў не было. «У нас у той год радзілася пяць дзевак і ўсіх бабка назвала Каця, бо вельмі ж любіла гэта імя» (в. Боськава). У адведкі прыходзілі нязваныя, ішлі з ядой, адзін раз. Зараз адведкі званыя. «Бабка Еўдакея таксама ў адведкі прыходзіла, прыносіла стакан мёду, бо ў яе пчолы былі» (в. Боськава).

За кумоў бралі каго хацелі, да кожнага дзіцяці новых кумоў. Хрысціны гулялі ў той дзень, як дзіця хрысцілі, або пазней. На хрысціны ішлі толькі званыя, жанатыя, парамі — муж

і жонка. Моладзь, крый Божа, ніколі не хадзіла. Толькі калі за кумоў бралі брата і сястру маладых.

Бабка кашу салодкую варыла ў гаршку. Рабяты малыя казалі: «Пойдзем бабіну кашу есці». Ім у місцы паставяць на вакно, яны схопяць кашу, адбягуцца і ядуць. На хрысцінах пераапраналіся ў цыганоў, салдата, спявалі, танцавалі. Спявалі хрэсьбінныя песні:

Я б ету бабку, я б ету бабку
І ў бабкі не браў,
Не часта ходзіць,
Не праведваець.
Я б ету бабку, я б ету бабку
За бабку браў,
Часта ходзіць,
Мёд носіць.

*в. Боськава*

Або:

Я ў піру была,
Я ў пірушачцы,
Я і мёд піла, і гарэлачку.
А здаецца ж, я не ўпівалася,
А дамоў ішла, не шаталася.
Проці сеначак — нахілілася.
А ў хатцы — завалілася.
Як завідзеў жа мой свякратушка,
А свякратанька, то не татанька.
— А нашто, шэльма, напівалася,
На каго, шэльма, спадзявалася?
— На цябе, цябе, мой свякратушка,
На тваю кудравую галовушку,
На шаўковую, на бародушку.

*в. Дабея*

Або:

Сядзіць кумок на куце,
Што галубок у гняздзе.
Яго з кута піхаюць,
Ён ім атвячаіць:
— Я із кута ні пайду,
Бо за еты кут, кут,
Заплаціў я рупь, рупь.

Сядзіць кумка на куце,
Што галубка ў гняздзе.

Яе з кута піхаюць,
Яна ім атвячаіць:
— Я із кута ні пайду,
Я за сты кут, кут,
Палажу ласкут.

Сядзіць бабка на куце,
Як сава ў гняздзе,
Яе з кута піхаюць,
Яна ім атвячаіць:
— Я із кута не пайду,
Я за сты кут, кут,
Адразала пуп, пуп.

*в. Боськава*

У канцы хрэсьбін бабу вазілі на санках, проста за кашу вазілі, яна гарэлку не ставіла.

Да года не стрыглі, новае не надзявалі, трэба крыху адзенне парваць.

Бабка, што дзяцей бабіла, на Вялікдзень давала яйкі чырвоныя ўнукам. Цэлую сяваўку наварыць і носіць па вёсцы.

## ХРЭСЬБІННЫ АБРАД У в. ДОЎБЫ УШАЦКАГА РАЁНА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Вот у нас такі закон. На хрэсьбінах, як пасядзяць за сталом, тады баба берыць сваю кашу і абходзіць усіх, сабіраючы «на мыла». Но перш таго, як ісці сабіраць «на мыла», яна берыць і з калоссіка дзелаіць такое, як памазок, берыць ваду ў чашку, берыць адзекалон, памаду берыць губную. Ну і ідзець. Ну вот, падходзіш к чалавеку, хто там сядзіць. Перва начынаеш з кумоў. Ну і тады пяецца песня на каждае імя. Ну вось, напрыклад:

Ой ты, Ванька, дзельца знай,
дзельца знай,
А на мыла рубля дай, рубля дай.
Ой ня маеш рубля даць
Хоць капеечак пяць.
У нас радзілася панечка,
Хочыць мыцца беленька.

Нада так абысці і кожнаму чалавеку прапіяць. Там падкрасіш яго, пабрыіш. Возьмеш нож, такі каб большы нож быў. Добра

напужаць, каб многа грошай палажыў, але каб ні зарэзалі яго, гэтага чалавека. Тады ён дае ад душы грошы «на мыла».

У нас хрэсьбіны гулялі тры дні. На першы дзень садзяцца за стол, гуляюць, пяюць радзісе, бабе, баба адпейвае, на баране бабу возяць. На другі жа дзень ужо пахмелкі. А на трэці дзень тады ўжо мятлу ў рукі, бабу пасадзяць і возяць. Трэба ж каб баба дала пахмелкі. Тады баба, бываіць, іх к сабе вязець. І гулялі дзянёк.

## РАДЗІННЫ АБРАД «ШАРСЦІНКА» Ў в. МАЛІНАЎКА РАСОНСКАГА РАЁНА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Калі дзіцё не спіць, варочаецца з боку на бок, крэкча, выгібае спінку, нібы яму нешта чэшацца, тады ў карыта з цёплай вадзічкай апускалі вузельчык з попелам і ў кожны вугал карыта клалі хлебны мякіш. Купалі дзіцёнка так два разы: раніцай — і ваду вылівалі на ўсход, і вечарам, а ваду — на захад. А перад тым, як выліць ваду, збіралі ў жменю хлебны мякіш, адціскалі і рабілі камок. Пры гэтым казалі, што калі яго разламаць, то ўнытры поўна доўгіх валасоў. Таму цяжарнай жанчыне не дазвалялася, каб ля яе ног круціліся каты ці сабакі.

## ЦЯЖАРНАЯ І ДЗІЦЯ Ў ПРЫКМЕТАХ І ПАВЕР'ЯХ

Калі цяжарная штырхне («штырхнець») нагамі ці рукамі якую-небудзь жывёліну, то дзіця будзе мець асаблівасці гэтай жывёліны, напрыклад пражорлівасць свінні, нязграбнасць каровы, забітасць курыцы, «зброрлівасць» кошкі. Акрамя таго, замест звычайнага дзіцячага плачу нованароджанае дзіця будзе выгукваць рэзкія гукі і крыкі.

Калі цяжарная перакіне праз сваю галаву вяроўку, нітку, вязку лёну ці каноплі, сноп, то на шыі ў дзіцяці застанецца шрам ці хрыпатасць голасу, картавасць, маруднасць у словах.

Цяжарнай нічога нельга зашываць на сабе — будуць цяжкія роды.

Цяжарная асцерагалася, каб не надзець адзенне навыварат або мужчынскае, а то дзіця можа пасля перамяніць пол ці быць двухполым, што з'яўляецца карай для ўсёй сям'і і роду.

Цяжарная павінна часцей хадзіць у царкву і станавіцца там наперадзе, каб не маліцца ў патыліцы і спіны іншых, бо дзіця будзе ў «паследышах».

Цяжарная павінна ўстрымлівацца ад ежы і піцця ўпацёмку, бо дзіця будзе мучыцца «начніцамі».

Цяжарная не павінна есці з гаршка, бо дзіця будзе мець цёмную («чарнявую») скуру, асабліва твар.

Калі ў цяжарнай апухаюць ногі, дзіця доўга не пражыве.

Калі цяжарная спіць моцна і падоўгу, дзіця будзе спакойным.

Цяжарная ў другой палове вельмі баіцца сурокаў; каб засцерагчыся ад іх, увесь час павінна насіць з сабой «чацвярговую соль».

Іншым людзям нельга кідаць на цяжарную гліну, мел, вугаль, бо дзіця будзе гэта есці, твар у яго будзе ў вуграх.

Калі цяжарная залезе ў чужы сад, яе нельга палохаць, бо яна «скінець»; дзіця будзе картавым, заікай.

Каб выклікаць патугі, муж «радзішкі» кладзецца каля ганка хаты з унутранага боку і праз яго і ганак жанчына пераступае 9 разоў.

Для гэтай жа мэты яна павінна была моцна абхапіць шыю мужа, які маўкліва стаіць, сагнуўшыся, да канца родаў, пацерці жывот і спіну каменем, які знойдзены ў мышыным гняздзе.

Бабка прымае дзіця, абгарнуўшы рукі кавалкам новага палатна, «каб дзіця не жыло з голымі рукамі».

Бабка аддае маці адваліўшуюся пупавіну не голымі рукамі, а трымаючы яе фартухом ці падалом сукенкі. Маці прымае яе таксама «не голаруччу». У 5—7 гадоў дзіцяці прапануюць развязаць вузельчык з пупавінай.

Каб дзеці жылі дружна і «не дзяліліся», маці непрыкметна дае ім з'есці ў якой-небудзь страве іх жа «пупкі», якія спецыяльна захоўваюць для гэтай мэты.

Калі дзяўчына не была ні разу ўдзельніцаю хоць аднаго вяселля, яна не мае права быць кумою.

Калі нарадзілася дзяўчынка, а бацькі хочуць наступнага сына, маці загортвае яе «да кста» ў бацькоўскую сарочку.

Дзеці будуць жыць дружна, калі іх вазілі «да кста» ў адной і той жа сарочцы.

Калі адпраўляюцца хрысціць дзіця, то абносяць яго вакол стала тры разы, хлеб цалуюць, перадаюць дзіця куму праз акно.

Перад дарогай кум садзіцца на лаўку, а кума — на тачыльны камень — тады дзіця будзе здаровае, моцнае.

Каля ганка хаты кладуць сякеру, пілу, долата, кнігу; кумы, адпраўляючыся ў царкву, праз гэта пераступаюць, каб дзіця было майстрам, разумным.

Калі кума стане на кола, як садзіцца ці злазіць з воза, то пазней, калі яе хроснік (хросніца) уступяць у шлюб, у іх столькі год не будзе дзяцей, колькі было спіц у коле.

Калі едуць у царкву хрысціць дзіця і ў гэты час ідзе снег або дождж — гэта добра.

На перакрыжаванні дарог («на ростыньках») кумы выкідваюць гліну і соль, каб дзіця не баялася сурокаў.

Калі кумы вернуцца з дзіцем пасля яго хрышчэння, усе прысутныя ў хаце, і родныя, і госці, устаюць, каб ушанаваць у ім святога чалавека і каб дзіця не было «сідуном».

Кума кладзе спачатку дзіця ў падпечак, а пасля толькі аддае маці; калі кума вопытная, то яна яшчэ кладзе хлопчыка на «гаспадарскае» месца, дзяўчынку — на загнет, каб яна любіла кухарыць.

«Спраўляць калыску» і ўстанаўліваць яе на месца павінны староннія людзі, інакш дзіця хутка памрэ.

Рэшткі ежы, што засталіся ад хрысціннага стала, трэба старанна сабраць і на працягу трох дзён даваць курам, пазбавіўшы іх усялякага іншага корму, — тады будуць рэдкія дзеці.

Хоць і не існуе пэўнага тэрміна для адняцця дзіцяці «ад грудзей», аднак рабіць гэта трэба толькі тады, «калі дзіцёнак станіць на дыбкі». Пасля малітвы маці з дзіцем садзіцца на ганак, на вачах у дзіцяці мажа саскі сажай, плюе на іх і гаворыць: «А вось кака!» Пасля падае дзіцяці праз рукаў сваёй сарочкі варанае яйка і гаворыць: «А сто — цаца!» Да гэтага дзіцяці нельга даваць яйка, бо яно не хутка загаворыць.

Існуе павер'е: калі дзіця пачынае «бавіцца цацкамі», бацькі кладуць на стол кнігу, грошы, сякеру, зерне і глядзяць, за што яно возьмецца. Маці паўтарае гэта выпрабаванне пры першай выпечцы хлеба, робячы з цеста кнігу, грошы, сякеру і інш. Калі ізноў дзіця ўхопіцца за той жа прадмет, то і будзе займацца тым рамяством у жыцці.

Першыя самастойныя вырабы дзіцяці трэба спаліць (знішчыць) не на вачах у дзіцяці — тады яно будзе ахвочае да працы.

Пакуль дзіця знаходзіцца ва ўзросце «блызняненках», на яго трэба як мага менш звяртаць увагі: не выводзіць на людзі,

не дзівіцца з яго спрыту, не «прысіліваць» дужа да працы, якая пачынаецца з пастушаства. У гэтых выпадках «блазін» лёгка можа падвергнуцца сурокам.

Стрыжка малых дзяцей дазваляецца ў выключных выпадках. Дзяўчаткі зусім не стрыгуцца, а ў хлопчыкаў валасы «падсікаюцца». Хлопчык ставіцца на дзежку-хлебніцу, а адрэзаныя валасы старанна збіраюцца і захоўваюцца да новай «падсечкі» і потым кідаюцца ў чыстую праточную ваду.

З двух гадоў да шасці-васьмі дзіця лічыцца «блызнюк». У 6—8 гадоў на хлопчыка надзяваюць штаны, на дзяўчынку — спадніцу. Чым болей дзіця будзе ўпарціцца пры першым апрананні, тым болей яно пражыве.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ

Цяжарная амаль да самых родаў выконвае ўсе цяжкія хатнія работы: жне, зграбае сена, цягае з печы цяжкія гаршкі і г. д. Часта ў час працы наступалі роды. Пры родах прысутнічала бабка-павітуха — звычайная вясковая жанчына, немаладая, якая карыстаецца ўсеагульнай павагай. У час родаў павітуха трымае перад тварам парадзіхі запаленую васковую свечку і ў той жа час стукае памялом у столь хаты. Адразу пасля родаў парадзісе даюць піць траянку, г. зн. падагрэтае віно з дабаўленнем чырвонай гліны, мёду, перцу і масла. Як пройдуць 2—3, радзей 4 тыдні пасля родаў, жанчына зноў пачынае выконваць цяжкую працу.

Пасля таго як бабка пакупае дзіця, спаўе яго, яе частуюць гарэлкай і закускай. Дні праз 2—3 бацька адпраўляўся запрашаць кумоў, якія часцей за ўсё выбіраліся з людзей заможных ці сваякоў, але, бывае, бяруцца старцы з перакрыжавання дарог, калі не вядуцца дзеці. Запрошаных частуюць гарэлкай, перад адпраўленнем «да хрэсту» кума падыходзіць да парадзіхі, тая перадае ёй дзіця і кладзе ёй пад правую руку, запазуху кавалачак хлеба з соллю, загорнуты ў тканіну, каб дзіця, як лічыцца, не жыло ў беднасці. Пасля хрышчэння кума надзявае на дзіця кашульку, загортвае ў пялёнкі, спавівае поясам. Вярнуўшыся дадому пасля звычайных прывітанняў і аб'яўлення імя дзіцяці, кума перадае яго мацеры, пакрыўшы яго кавалкам тканіны ў 1,5—2 аршыны. Пры гэтым кумы

прыгаворваюць: «Дай Бог твайму сынку (доцке) стаяць так пад вянцом, як пад хрэстом». Затым кумы і, калі ёсць, госці садзяцца абедаць.

Калі ўсе, хто сядзіць за сталом, вып'юць па чарцы гарэлкі, кум (хросны бацька) «перапіваецца» з кумой (маці нованароджанага), а кума (хросная маці) — з кумам (бацькам нованароджанага). Пасля гэтых цырымоній павітуха прыносіць прыгатаваную дома кашу, ставіць на стол і прапануе гасцям яе выкупіць: тыя спачатку адмаўляюцца, а затым згаджаюцца і кладуць па 1—2 капейцы. У гэты час хто-небудзь з дзяцей, якія стаяць каля стала, хапае кашу са стала і бяжыць на двор; гэта робіцца для таго, каб дзіця, як падрасце, таксама хутка бегала. Дзецям даюць некалькі капеек і яны вяртаюць кашу.

Калі кумы збіраюцца ісці дадому, маці дзіцяці ці хто-небудзь з яе блізкіх сваячак падае куму і куме па пірагу, які загорнуты ў кавалак палатна аршыны па 1,5—2. Пасля выказвання добрых пажаданняў свайму хрэсніку кумы ідуць дадому.

З дня радзін на працягу тыдня парадзіху наведваюць яе сваячкі і сяброўкі. Незамужнія дзяўчаты, хоць і хрысцяць дзяцей, але парадзіх не наведваюць, гэта — непрыстойна. Наведванне называецца — «навіды», «наведы». Жанчына, якая ідзе ў «навіды», нясе пірог ці гаршчок якой-небудзь смачнай стравы, што і аддае непасрэдна парадзісе ў рукі. Узаемнасць «навід» строга кантралюецца «законам»*. Пра жанчын, якія гэтага не выконваюць, гавораць з асуджэннем.

У некаторых месцах на 2-і дзень пасля хрэсьбін госці, што збіраюцца разам, упрыгожваюць павітуху вянком з хмелю і, пасадзіўшы яе ў начоўкі, з песнямі абносяць вакол карчмы, пасля чаго бабка частуе ўсіх на тыя грошы, што ўчора атрымала за кашу.

У католікаў абрад хрэсьбін мала чым адрозніваецца ад такога ў праваслаўных. Розніца толькі ў тым, што ў католікаў у падарунак кумам (хросным) не даюць палатна, а абмяжоўваюцца толькі прадуктамі харчавання і не ходзяць у «навіды».

На працягу 2—3 гадоў дзіця пастаянна знаходзіцца пры мацеры: жаць, зграбаць сена ідзе яна, бярэ яго з сабой і яно ляжыць побач з ёю, загорнутае ў якое-небудзь адзенне. Гадоў з 6—7 дзіця патроху ўдзельнічае ў лёгкай хатняй працы: калыша

* Нормамі звычаёвага права.

меншых братоў і сясцёр, пасвіць скаціну і г. д., а затым, паступова падрастаючы, уцягваецца ва ўсе цяжкія віды працы.

## АБРАД ХРЭСЬБІН У МЯСТЭЧКУ ЧАШНІКІ ЛЕПЕЛЬСКАГА ПАВЕТА ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ

Хрысцяць на другі дзень пасля родаў. Перад гэтым купаюць, і парадзіха кідае грошы для бабкі. Апошняя дастае дзіця з купелі і аддае парадзісе, якая бярэ яго кашульку і загортвае ў яе дзіця, паклаўшы ў рукаў хлеб-соль...

У нас хрысцяць вечарам, звычайна ў хаце святара. Пасля прыходу дадому частуюць вячэрай. Лік страў на хрэсьбінах павінен быць няцотны: ці 3, ці 5, ці 7. Першая страва — «поліўка» (кіслая), затым «лапша», густая або «бабка», пасля «халадзея», «жаркое», апошняя ж — каша ячная або грэцкая з маслам. Парадзіха («палагавая кума») перапіваецца са старшай кумой, якая несла дзіця пад хрэст, тая ёй адлівае, кладзе ў чарку срэбныя грошы і пернікі або цукеркі зверху на чарку. Такім манерам парадзіха перапіваецца з усімі кумамі. Пад канец вячэры ставяць на стол міску з грэцкай кашай, на якую ставіцца талерка. У гэту талерку ўсе госці кладуць грошы для бабкі. Затым, памаліўшыся Богу, разыходзяцца па хатах.

На трэці дзень усе кумы зноў сходзяцца і іх частуюць абедам. Бабцы парадзіха дорыць намітку, яна ёю абкрываецца. Баба бярэ міску, сыпле ў яе авёс, налівае туды ж вады, выламвае з новага веніка галінку і ёю размешвае авёс з вадою («мур») і затым мажа ўсіх кумоў, якія кідаюць ёй за гэта грошы. Затым на стале зноў ставяць міску з кашай, накрываюць талеркай, куды госці кідаюць грошы. Парадзіха пасля гэтага дае двум кумкам і бабцы па пірагу («кумавіку») і выпраўляе іх.

## АБРАД ХРЭСЬБІН У ПОЛАЦКІМ ПАВЕЦЕ ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ

Святкаванне хрэсьбін працягваецца 3 дні. У першы дзень сяляне збіраюцца ў хаце парадзіхі і адразу ж садзяцца вячэраць. Пасярод вячэры бабка бярэ 3 галінкі з веніка, кладзе іх крыжападобна на падлогу і разам з парадзіхаю становіцца праваю нагою на гэтыя галінкі. Пасля здзяйснення гэтага абраду бабка бярэ кубак з вадою, ідзе да парадзіхі і разам з ёю

мые рукі. Парадзіха: «Прасці, мяне, грэшную», а бабка адказвае: «Бог прасціць». Гэта паўтараецца тры разы. Пасля абмывання рук парадзіха бярэ кавалак палатна ці каленкору і кладзе яго на шыю бабцы і абедзве выціраюць ім рукі. Палатно гэта ці каленкор называюць намёткаю. Затым бабка бярэ галінкі, на якіх яна з парадзіхаю стаяла, і ваду, якой яны мылі рукі, і адпраўляецца да стала, дзе піруюць госці, і пырскае на іх гэтаю вадою, асабліва ж на кумоў. Пад канец вячэры на стол прыносіцца каша, накрытая талеркаю, і лыжка з перамешанай напалову з соллю кашай. Каша з лыжкі аддаецца бацьку дзіцяці, які кладзе грошы на талерку. Затым усе госці кладуць грошы на талерку. Гэта называецца адкупленнем кашы. Бабка бярэ з талеркі грошы сабе і адкрывае кашу. Госці п'юць гарэлку за ўсіх здароўе і закусваюць адкупленай кашай. Пасля гэтага куму і куме даюць пернікі ці пірагі, якія называюцца «кумавікамі». Затым госці разыходзяцца па хатах.

На 2-і дзень раніцай збіраюцца госці, п'юць і закусваюць. Затым усе госці робяць «складку» на гарэлку. Далей бяруць павівальную бабку, прыбіраюць яе (улетку) кветкамі, (узімку) лентамі і істужкамі. Потым бяруць перакуленую ўверх зубамі барану (улетку) ці сані (узімку), садзяць бабку на барану ці сані і вязуць яе на сабе ў бліжэйшую карчму, і спяваюць песні. У карчме госці п'юць гарэлку на бабіны грошы, што былі сабраныя напярэдадні за кашу. Потым разыходзяцца. Гэта называецца пахмелкамі.

Трэці дзень называецца муравінкамі. У гэты дзень вечарам прыходзяць кум, кума і бабка. Бабка купае дзіця, а кум і кума кідаюць грошы ў ваду. Так заканчваецца святкаванне хрэсьбін.

## РАДЗІНЫ І ХРЫСЦІНЫ (КСЦІНЫ, ХРЭСЬБІНЫ) У ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ

Жанчына, якая адчула набліжэнне родаў, перадусім клапоціцца аб тым, каб, пакуль яшчэ ў сілах, падрыхтаваць усё патрэбнае для гэтага: цёплую ваду, мыла і г. д. Калі ж наступяць самі роды, тады муж ці старэйшы ў хаце, хто даведаўся аб гэтым раней за іншых, пад рознымі акалічнасцямі выпраўджваюць з хаты сям'ю, пакідаючы толькі тых, у дапамозе якіх будзе патрэба. Гэта тлумачыцца тым, што прысутнасць кожнага лішняга чалавека павялічвае ўдвая той пэўны тэрмін

радзільных мук, якімі, паводле меркавання сялян, радзіха павінна адмучыцца... Месцам для родаў выбіраецца нежылая хата, лазня, якую запіраюць як мага мацней, сведкамі ж радзільных мук застаюцца толькі павітуха і вопытная маладуха. Мыццё дзіцяці бабка не пачне да таго часу, пакуль бацька не паложыць у начоўкі некалькі срэбраных манет, бабка ж са свайго боку кладзе туды бурштын, крыху сала і ўлівае некалькі кропель гарэлкі. Пры гэтым назіраюць, каб абмываемае дзіцё тварам ляжала да заходняга ці паўночнага боку. Абмытае такім чынам і загорнутае ў пялёнкі дзіця падносіцца бабкаю да бацькі і маці, пры гэтым ім аб'яўляецца пол нованароджанага. Гэта аб'яўленне складае другі ўрачысты момант задачы павівальнай бабкі ў радзільным памяшканні. У гэты час яна імкнецца сказаць што-небудзь у пахвалу нованароджанага, як, напрыклад: «Во ён, паскуднічак — якей плюгавенькій! Няхай ён лепшы ляжыць с Хрыстом!» Бабка паспешліва бярэ дзіця ад бацькоў, якія не паспелі да яго яшчэ і прыглядзецца, і ўкладвае яго, але толькі не ў калыбель, туды дзіця кладзецца пасля «хрэсту», да таго ж часу на дзіця не надзяваецца кашулька.

Пасля цяжкай працы бабка на радасцях перапіваецца, наколькі хапае сіл, і рассыпаецца перад сваімі субяседнікамі ў расказах аб сваіх павівальных подзвігах: «Хула* табе, Божухна! — гаворыць яна, — ета яшчо нічаго, а во як я была ў Мікішыхі, дык іна пярвосінка — во дзе було працы!» і г. д. Ва ўсіх падобных выхвальных расказах бабкі ясна відаць яе імкненне выставіць сябе геніем павівальнага мастацтва, і, да гонару слухачоў трэба сказаць, гэтыя расказы не сустракаюць ні пярэчанняў, ні насмешак, і асоба бабкі застаецца недатыкальнаю на першым і ганаровым месцы. Яе роля заканчваецца з заканчэннем хрысціннай пірушкі.

Аж да хрышчэння дзіцяці да радзіхі прыходзяць у «провідкі»** яе замужнія сваячкі, суседкі і знаёмыя. Кожная наведвальніца прыносіць ёй які-небудзь гасцінец, у асноўным бліны, радзіха дае кожнай госці самую падрабязную справаздачу аб перанесеных муках і аб усім іншым, звязаным з родамі, пры гэтым і ўсе ўспамінаюць аб падобных абставінах як са свайго ўласнага жыцця, так і з жыцця сваіх блізкіх знаёмых, час ад часу частуючыся гарэлкай за кошт парадзіхі. Як

---

* Хвала.

** Адведкі.

бы апошняя ні была здаровая і чым бы ні займалася, але, заўважыўшы суседку, што ідзе ў «провідкі», яна тут жа кідае работу і кладзецца ў ложак, прымаючы выгляд хворай, такім чынам яна абавязана прымаць кожную наведвальніцу аж да хрышчэння дзіцяці. Мужчыны і дзяўчаты ў «провідкі» не ходзяць. Трэба сказаць, што кожная наведвальніца цікавіцца часта дробязямі ў адносінах парадзіхі і разам з тым амаль зусім не цікавіцца нованароджаным, зрэдку нават не ведае, хто нарадзіўся ў гаспадыні — хлопчык ці дзяўчынка. Няглед-зячы, аднак, на гэта, бабка пастаянна знаходзіцца пры дзіцяці, як бы для абароны яго ад дурнога вока.

Калі наступіць дзень хрышчэння дзіцяці, кума і кум вязуць яго да «хрэсту», да папа, абавязкова пад вечар. Перад сваім адпраўленнем туды яны разам з гасцямі і членамі сям'і садзяцца на лаўкі, назіраючы пры гэтым, каб ніхто не садзіўся супраць дзвярэй*. У гэты час у хаце ўсталёўваецца поўная цішыня. Кум устае першым, за ім усе астатнія, моляцца перад абразамі, але без зямных паклонаў. Бабка выносіць нованароджанага і, аддаючы яго куме, гаворыць: «На, бяры няхрышчоныя, а прывязі пысвяшчоныя!» Бацька і маці блаславяюць дзіця на дарогу хлебам-соллю, які зрэдку складаецца з самага маленькага ломціка хлеба. Пасля хрышчэння дзіцяці кумы абавязкова закусваюць у тым «нагашчанскім» доме, які яны выбралі сваёй часовай кватэрай, хоць бы хата нованароджанага знаходзілася непадалёку... Перад заканчэннем закускі кума вынімае з-за пазухі ці кармана кавалак каленкору, ці ручнік, ці простае палатно, у залежнасці ад свайго маёмаснага стану і, аддаючы іх куму, гаворыць: «Вой, кумочак, я чуць ні пазабыла пра пыдарунычэк!» Прымаючы падарунак, кум, аглядзеўшы яго, кладзе перад сабой і стараецца не заўважаць. Пасля заканчэння закускі ён, як бы незнарок заўважыўшы падарунак, які ляжыць перад ім, гаворыць: «Во, кумка мыя любыя, чуць ні забыў адспасібаваць табе», і з гэтымі словамі ён у сваю чаргу ўручае куме крыху грошай, але ў такой колькасці, якая б адпавядала каштоўнасці атрыманага падарунка... Кумы аддзяляюць невялікі кавалак кожнай стравы і вязуць з сабой, заўсёды пры гэтым жартоўна прыгаворваючы: «Наш маладзец, можа, есці захочыць у дарогі».

---

* Такі кароткі прысест выконваецца пры ўсялякім выпраўленні ў дарогу.

Між тым госці, што сабраліся ў хаце парадзіхі, і сям'я часта паглядаюць у акно і ўважліва прыслухоўваюцца да шуму на вуліцы. Пры ўваходзе кумоў у хату размова імгненна заціхае, усе пачціва ўстаюць і хто-небудзь абавязкова скажа: «Авой, кумочкі! А мы тут сусім замурдуваліся! ... Як вы там?» Агульны смех пакрывае гэтыя словы і говар прымімае самы ажыўлены характар. «Як жа ж імя нашаму нованарождзіннаму?» — запытае хто-небудзь, і адказ кумоў імгненна абляціць усіх гасцей.

Дзіця ўручаецца бацькам, якія благаслаўляюць яго «крэсным знаменем» у ахову ад поглядаў дапытлівых. Затым прыступаюць «к сталу».

Пры шматлікасці гасцей і пры цеснаце хаты нельга паставіць сталы ў адну прамую суцэльную лінію, як гэта патрабуецца звычаем, каб жыццё нованароджанага было доўгае, таму сталы ставяць так, што атрымліваецца ці просты вугал ці падабенства друкаванай літары «Н». І ў гэтым выпадку месца злучэння сталоў старанна хаваецца пад абрусам.

На пакрыты стол ставяцца сальніцы, рэшата, запоўненае лустамі хлеба і блінамі і кладуцца лыжкі па колькасці гасцей, пасля чаго гаспадар запрашае садзіцца за стол, і перш за ўсё кумоў: «Вы, кумкі, сянні зымурдуваліся, — гаворыць ён, — садзіцеся ў кут!» Але калі сярод гасцей ёсць хто-небудзь знатны, тады кутняе месца ўжо не належыць кумам, і яны ў такім разе садзяцца каля ганаровага госця.

Усеўшыся за стол, госці захоўваюць самую строгую цішыню. Гаспадар надзяляе ўсіх гарэлкай, пачаўшы з кутняга месца. Падносячы першую чарку да сваіх вуснаў, гаспадар гаворыць: «Ну, бабка (парадзіха, якая ляжыць у ложку)* і вы, кумочкі, і ўсе дарагія госцікі! Будзьце здаровенькі!» Прымаючы чарку, госць гаворыць: «Відзелі мы пыд хрястом, дай Божа відзіць пыд вянцом!» Пры гэтым ніхто з гасцей не прымаецца за стравы, пакуль апошні не атрымае гарэлкі.

Гэта надзяленне першай чаркай гарэлкі ёсць уступленне да таго, што сяляне называюць «стол», пасля чаго гаспадар і паварыха, што займае месца гаспадыні, просяць дарагіх «госцікаў прымацца за што Бог паслаў» — і рукі ўсіх гасцей разам працягваюцца да хлеба і лыжак...

---

* У Лепельскім павеце яна называецца полагавай кумой.

Колькі б ні падавалася страў, гаспадар пасля кожнай змены надзяляе гасцей чаркай гарэлкі ... Кожную страву госці ядуць вельмі марудна: з'еўшы лыжку, селянін старанна яе аблізвае, кладзе перад сабой на стале, апускае рукі на калені, доўга жуе і размаўляе з суседам ...

Колькасная, таксама як і якасная, вартасць страў залежыць у большай ці меншай ступені ад дабрабыту гаспадароў. Перш за ўсё падаецца студзень, пражаніна з блінамі, юшка з мясам, клёцкі і каша ... Такім чынам спраўляюцца разнастайныя сялянскія «сталы», як посныя, так і скаромныя, і толькі хрысцінныя, вясельныя, жалобныя сталы маюць нязначныя адрозненні ў стравах. Такой асаблівасцю на хрысцінным стале служыць бабіна каша.

Перад гэтай заключнай стравай роля гаспадара як наглядальніка за гасцямі, заканчваецца, і сам ён становіцца разам з іншымі «бабіным госцем», г. зн. садзіцца за стол. Бабка ставіць на стол кашу ці ў чашцы ці проста ў гаршку, якія павінны быць (у Полацкім павеце) абгорнуты палатном, і ўласнаручна надзяляе гасцей гарэлкаю. Пры выглядзе кашы госці пачынаюць гаварыць, што яна ўжо па выгляду не зусім добрая, калі ж паспытаюць хоць па адной лыжцы, то кожны знойдзе абавязкова, што каша або недасоленая, або перасоленая, ці горкая, ці кіслая і г. д.

У такім выпадку бабка павінна быць знаходлівая і, як кажуць, не лезці за словам у карман: яна павінна даць хуткую і разам з тым някрыўдна жартоўную параду кожнаму госцю, як, напрыклад: «А ты намачы язык у салонку — і каша будзіць солана» ці: «Пачашчэ цалуй жонку — будзіць каша не горка» і г. д.

Нягледзячы на незадаволенасць бабінай кашай, госці, аднак, з'ядаюць яе ўсю і ў пустую чашку кладуць грошы, гэтыя грошы часткова ідуць парадзісе «на мыла», часткова бабцы.

У Полацкім павеце, у вёсцы Марынькіне, падаўшы кашу і надзяліўшы гасцей гарэлкаю, бабка, пакрытая хусткаю, падыходзіць да стала, становіцца на лаўку і, прыгаворваючы розныя добрыя пажаданні нованароджанаму, тры разы перакручваецца на сваім месцы, і пакрытая ж саскоквае на падлогу, пры чым яна некалькі разоў пляскае рукамі ...

Пасля «стала» гасцям даецца поўная свабода. Пісклівымі, бязладнымі галасамі жанкі спяваюць песні, ім падцягваюць мужчыны, пачынаюцца самыя непрыстойныя жарты не толькі

словам, але і справай — у чым не можа быць сораму, бо на хрэсьбіны збіраюцца толькі жанатыя ... Зразумела, што наладзіць застолле, на якім «усяго было давольна», каштуе не танна: такое застолле ў стане зрабіць толькі багаты ці сярэдняй рукі сялянскі дом. Забіць адну ці дзве каровы, некалькі авечак, свіней і пры гэтым купіць 3, 4, 5 вёдзер гарэлкі і ў багатым сялянскім доме складае прыкметны расход у гаспадарцы.

У заключэнні застаецца ўпамянуць аб цяжкай і пасіўнай ролі так званых «светачэй». Так як амаль кожны «стол» ідзе вечарам, пры штучным асвятленні, то для больш зручнага падтрымання ў хаце асвятлення загадзя выбіраюцца два-тры хлопчыкі, у абавязак якіх уваходзіць трымаць у час абеду лучыну, якая гарыць, бліжэй да стала, адкідваць і тушыць лучынныя вуглі. Гэтыя хлопчыкі і ёсць «светачы» ...

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. МАЛЕЙКІ БРАГІНСКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Да пародухі, родухі* клікалі бабу. Раджалі ў хаце, лазняў было мала. Пуп адразалі хлопцу на кніжцы, каб граматны быў, дзеўцы — на грабянцы, каб добра працавала, перавязвалі льняной ніткай. Купалі ў драўляных начоўках, у ваду дабаўлялі мяту балотную, каб дзіця добра спала. Калыска была драўляная, вісячая, у ёй дзіця да 3 гадоў спала.

Імя дзіцяці выбіраў бацька. Часта сустракаліся жаночыя імёны: Ефрасіння, Соня, Ганна, Улляна, мужчынскія: Іван, Сямён, Пятро, Андрэй, Сяргей.

Хадзіць наведваць парадзіху называлася «ісці на красную». Жанчыны неслі яечню, каржы, хлеб, соль, вараную локшыну. Раней мужчыны ніколі не хадзілі на «красную», сорамна было, а зараз ходзяць.

За кумоў бралі «хто каму наравіцца», адну пару. Калі дзеці паміралі, бралі стрэчных кумоў. Бацька загортваў у ручнік акрайчык хлеба і ішоў на перакрыжаванне дарог і першых стрэчных прасіў быць за кумоў. Хрысцілі дзіця праз 1—3 тыдні пасля нараджэння. Раніцай прыходзіла бабка, купала дзіця, спавівала яго і пасля тройчы абыходзіла вакол стала

* Парадзіхі.

разам з дзіцем, каб яно любіла родны дом, малілася перад абразамі. У царкву дзіця вазілі кумы. Кума брала з сабой палатно («хрэшчык»), на якім трымала дзіця ў час абраду хрышчэння. Папу везлі паўлітра гарэлкі, хлеб, кум купляў за свае грошы крыжык для дзіцяці. Як вярталіся з царквы, дзіця аддавалі маці і гаварылі: «Паздраўляем з імем Іван (Ганна)».

Хрысціны гулялі або ў дзень хрышчэння дзіцяці, або пазней, каб паспець падрыхтавацца да іх правядзення. На хрысціны прыходзілі толькі па запрашэнню. Жанчыны неслі прадукты харчавання, часцей за ўсё коржыкі або хрушчыкі, мужчыны — грошы, якія яны клалі, калі «перапівалі» кашу. Баба варыла кашу з пшана. Як трэба было дзяліць кашу, хтонебудзь уносіў у гаршку бульбу, ката, і ўсе смяяліся. За трэцім разам уносілі сапраўдную кашу, на якую збіралі грошы. Кум клаў болей за ўсіх грошай, браў гаршчок з кашай у рукі, звяртаўся да бацькоў дзіцяці з наступнымі словамі: «Ацец, маці, благаславіце кашу разбіваці». Пасля дазволу разбіваў гаршчок аб вугал стала, а бабка раздавала па кавалку кашы ўсім гасцям, якія выпівалі «на кашу». Родуха раздавала падарункі куму, куме, бабцы, часцей за ўсё палатно. Іншыя госці лезлі пад стол, каб украсці гэтыя падарункі і сарваць з іх уладальнікаў магарыч. Як украдуць падарункі, тады жартуюць, смяюцца. Радзінных песень не было.

У канцы хрысцін на калясцы або санках везлі бабку дадому, яна ставіла ім бутэльку гарэлкі. Зараз таксама хрысціны гуляюць, хто кашу варыць, хто прыносіць цукеркі і пячэнне. Як дзеляць кашу, у гаршку ці ў каструлі спачатку прыносяць бульбу. Бабу амаль не возяць, вельмі рэдка.

Шэсць тыдняў родуха лічылася «нячыстай». Пасля гэтага тэрміну ішла з дзіцем «уводзіцца» ў царкву. У гэты ж дзень несла куму, куме, бабцы пірагі з жытняй мукі па 9 штук кожнаму. Потым яны спраўлялі бяседы, якія называліся «зваць за пірагі». Зараз гэтага звычаю няма, ён стаў знікаць яшчэ да вайны.

Грудных дзяцей бралі з сабой у поле, і калыску з «казлом»* і 6-клінны полаг. Інфарматарка расказала, як яна аднойчы несла ўсё гэта, была вельмі стомленая і не заўважыла, як згубіла дзіця па дарозе, толькі дома агледзелася, вярнулася, а яно ляжыць у пяску і плача. Грудзьмі кармілі дзяцей да 3 гадоў.

* Тры палкі, адны канцы якіх звязвалі ўверсе, а другія ўтырквалі ў зямлю.

Стрыглі дзяцей першы раз у год, маці стрыгла. Валасы палілі ў печы, або на ваду пускалі. Зараз таксама стрыгуць у год і з валасамі так робяць, як і раней.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. АЗЯРАНЫ ЖЫТКАВІЦКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Звалі цяжарную «тоўстая». Ёй нельга было красці, на пажар глядзець, маніць, нагой свіней біць, дражніць іншых. Калі першае шавяленне было ў правым баку — народзіцца хлопчык, у левым — дзяўчынка.

Раджалі ў хаце, звалі бабку, што пупы вяжа. Яна несла з сабой кавалак хлеба. У час родаў муж мог прысутнічаць, павітуха загадвала яму, каб вадзіў жонку па хаце, тады ёй лягчэй будзе раджаць. Адразу, як дзіця родзіцца, хлопца закручвалі ў старыя мужчынскія штаны, дзяўчынку — у жаночую сарочку, пры гэтым гаварылі: «Каб ва ўсім былі падобныя на старэйшых». Калі выходзіла дзіцячае месца, баба завязвала яго разам з гваздзём і алоўкам, калі нарадзіўся хлопчык, або з іголкай і ніткай, калі дзяўчынка, і закопвала пад печ. Пасля баба купала дзіця, спавівала яго і аддавала бацьку, а той перадаваў маці. Пасля баба яшчэ тры дні хадзіла да парадзіхі, прыносіла ёй ежу, купала дзіця, дапамагала па гаспадарцы. У люльку, дзе спала дзіця, лажылі нож ад «урокаў».

У адведкі («на радзіны») прыходзілі ўсе жанчыны разам. Прыносілі пшанічныя пампушкі, кампот з чарніц, кашу з пшана, тварог, яйкі, коржыкі, сыр, смятану, паўлітра (бутэльку самагонкі). Іх частавалі.

За кумоў бралі больш сваіх; калі дзеці паміралі, бралі стрэчных кумоў. Імя даваў поп. Хрысціны гулялі ў той дзень, калі хрысцілі дзіця. Гэта была нядзеля. У дзень, гадзін у 12, пачыналі гуляць. Мужчыны неслі грошы і паўлітра, а жанчыны — прадукты харчавання і матэрыю. Баба варыла ў гаршку бабіну кашу з пшана. Багацейшыя збіралі больш гасцей і гатавалі больш страў, давалі лепшыя падарункі бабцы і кумам. На хрысцінах спявалі песні:

Ой, на бары агонь гарыць,<br>
У дзяўчыны жывот баліць,<br>
Казачанька ратуй, ратуй,<br>
Калысачку гатуй, гатуй,<br>
Калысачку валаўнянанчку<br>
Гадаваць маю лялечку.

На баране бабу не цягалі.

Стрыглі ў год, каб валасы былі густыя. Пасля стрыжкі валасы затыкалі ў сцяну, каб птушкі не падабралі, бо будзе ў дзіцяці балець галава.

Калі з'яўляўся першы зуб, то дзіця садзілі ў рэшата і каталі па хаце, каб зубы хутчэй прараzaліся. Калі дзіця рабіла першы крок, яму сімвалічна разразалі путы. Калі дзіця першае слова гаварыла «тата» — наступнае дзіця ў гэтай сям'і павінна быць хлопчыкам, калі гаварыла «мама» — наступная дзяўчынка.

Бяздзетным жанчынам раілі перад Новым годам абліць грушу, што ніколі не цвіла, той вадой, у якой была памыта сарочка пасля менструацыі, і вясной назіраць: калі груша зацвіце — у яе народзіцца дзіця, калі не — ніколі ўжо не народзіцца.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ЛОЕЎСКІМ РАЁНЕ ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Пузатай, грубай* нельга было праз вяроўку пераступаць, пажара лекацца**, бо дзіця будзе красці, завідаваць*** нельга, пазычаць нельга, бо кінуць гліну, трэску на пузатую — дзіця ў беднасці жыць будзе. Калі ж пузатая прыйшла ўсё ж пазычаць, трэба даць, бо мышы з'ядуць плацце.

Калі яна пачуе першае шавяленне ў правым баку — будзе хлопец, калі ў левым — дзеўка. Лазняў тут не было, раджалі ў хаце. Мужык ішоў і клікаў бабку-прыродуху (в. Колпень), бабку, якая роды прымае (в. Перадзелка). Бабка несла з сабой вытканы пояс («акрайку») даўжынёй 1,5—2,5 м. Пуп перараzaлі на грабёнцы і перавязвалі льняной ніткай. Закручвалі дзіця ў сарочку.

Першы раз дзіця купалі ў вадзе з дабаўленнем лекавых траў («цвятоў пасвяцоных»), сабраных на Макавея. Гэта рабілі для таго, «штоб дзіця добра спала, штоб здаровае было». Ваду пры купанні налівалі ў драўляныя начоўкі.

Калыска («колыска») была драўляная, вісячая, абвешаная палатном.

---

* Цяжарнай.

** Пужацца.

*** Зайздросціць.

У «водведы», «у водведкі» прыходзілі жанчыны праз тыдзень пасля нараджэння дзіцяці. Неслі з сабой сала, аладкі, яечню, хлеб, проса ці жыта, пялёнкі. Зараз таксама. Бабка-прыродуха адзін раз толькі дзіця купала, пасля чаго ёй давалі падарунак: матэрыял, булку хлеба.

Імя даваў поп. У гэтых вёсках найчасцей сустракаліся наступныя імёны: Галя, Міша, Мікола, Хадора, Палашка, Мар'я, Аўдзёха, Хвёдар, Фама, Даніла, Яўсей. Было імя Пуд, бо поп быў сярдзіты на бацькоў гэтага дзіцяці.

Гулялі радзіны аддзельна, г. зн. свой род збіраюць, кумы рэдка прыходзілі. Калі багацейшыя, дык больш людзей збяруць, бяднейшыя — «хто ёсць у хаце, ды яшчэ бабка прыйдзе» (в. Перадзелка).

За кумоў бралі і сваіх, і чужых. Адну пару. Калі дзеці паміралі, бралі стрэчных кумоў: бацька ішоў з хлебам на перакрыжаванне дарог і чакаў, хто першы з'явіцца, таму з просьбай аддаваў хлеб. Калі чалавек той адмаўляўся, хлеб назад бацька забіраў і чакаў наступнага. У царкву ездзілі ў в. Казіміраўка, папу везлі грошы, тканы ручнік, хлеб. А ў гэты час бацька дзіцяці зваў на хрэсьбіны чалавек 20—30. «Няпрыглашонныя ня йдуць, а прыглашонныя неслі сваю яду і выпіўку», мужчыны яшчэ грошы, а жанчыны — матэрыял.

Як прыедуць з царквы, то кладуць дзіця напроціў печы на кажух, разасланы на падлозе, на некалькі хвілін (в. Колпень).

На хрэсьбіны бабка варыла кашу з пшана. Грошы збіралі на талерку, верх кашы зразалі і аддавалі разам з грашыма «парадусе». Кашу ўносілі «задзеланыя»: мужчына, пераапрануты ў жанчыну, і жанчына, пераапранутая ў мужчыну. Але спачатку, каб усіх пасмяшыць, уносяць гаршчок з катом, каменем, гарбузом, кролікам. Гаршчок накрываюць зверху хусткай і прапануюць яго куму купіць, расхвальваюць «кашу» на ўсе лады: «Наша каша з-за граніцы, стоіць 5 тысяч»; «Кулічы харошыя, выкупляй, кум, не скупісь». І толькі за трэцім разам уносілі гаршчок з сапраўднай бабінай кашай. Кум клаў грошы і разбіваў гаршчок. Спецыяльных радзінных песень няма. Пасля хрэсьбін везлі бабку на баране ў яе хату, яна там усіх частавала (в. Колпень). У в. Перадзелка бабку на баране не вазілі.

Праз 40 дзён парадуха ішла з дзіцем у царкву «ўводзіцца».

Дзіця стрыглі ў год. У в. Колпень валасы насілі і пускалі на ваду на Вялікдзень (і зараз так робяць). У в. Перадзелка стрыгла маці і валасы спальвалі ў печы (і зараз таксама).

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ГЛІНІШЧЫ ХОЙНІЦКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Лазняў тут не было, раджалі ў хаце. Цяжарную звалі «чараватая», «у палажэнні». Калі яна што просіць у каго, трэба даць, інакш мышы з'ядуць усе сарочкі. Калі сварыцца чараватая з кім-небудзь, нельга абзывацца дрэннымі словамі. На пажар ёй нельга глядзець, за цела хапацца — у дзіцяці будуць чырвоныя плямы, праз вяроўку нельга пераступаць, праз дзяркач, праз венік, свінню і ката біць нагамі, а то дзіця будзе смаркатае, слюнявае, красці будзе. У святы працаваць нельга, не прысутнічаць, як труну выносяць, а то дзіця будзе «белае, як смерць».

Роды прымала баба-прыродуха. Пуп яна пераразала дзяўчынцы на грэбні, хлопчыку — на тапарышчы. Пупавіну перавязвала кужэльнай ніткай. Часта жанчыны раджалі ў полі без усялякай дапамогі. Пры першым купанні ў ваду клалі траву рамонак і чыстацелу. У гатаванай вадзе не купалі, лічылася, што дзіця тады будзе злое і крыклівае. Пасля купання загортвалі дзіця ў пялёнкі, зробленыя з бацькоўскай кашулі, і спавівалі тканым поясам («крайкаю»). Калыскай служылі драўляныя невялікія начовачкі, падвешаныя на вяроўках, і палажок, які спецыяльна ткалі для малых. Ад сурокаў («уроку») у калыску ўтырквалі шпільку. Акрамя таго, гаспадар забіваў у ганак 2 цвікі перад тым, як жанчыны павінны былі прыйсці ў адведкі («у водведы», «на радзіны»). З гэтай жа мэтай парадзіха («парадуха») заколвала іголку ў адзенне. Паслед («дзіцячае месца») закопвалі пад печ. Калі дзіця «нарадзілася ў сарочцы», то пасля гэтую «сарочку» дзе-небудзь хавалі. Лічылася, што такі чалавек будзе вельмі шчаслівым у жыцці.

У водведы сваячкі, суседкі прыходзілі ў дзень родаў ці назаўтра. Прыносілі пшонныя крупы, па 2 яйкі, муку, бабка-прыродуха варыла суп з курыцай (пеўнем), «патраўку», пякла каржы.

За кумоў бралі радню («сваіх»), запрашаць у кумы ішлі муж парадзіхі ці яе маці або свякруха, хлеб неслі, казалі: «Ідзіце к нам дзіця хрысціць» ці: «Пойдзем к нам за куму (кума)». Калі той, каго запрашалі, згаджаўся, ён забіраў сабе хлеб, а калі адмаўляўся, што здаралася вельмі рэдка, то не браў хлеб. Калі папярэднія дзеці паміралі, то да наступнага бралі стрэчных кумоў або маладых па ўзросту брата ці сястру. Калі ж дзеці не паміралі, то кумоў не мянялі, была адна пара.

Перад тым як ехаць у царкву, бабка хрышчоная (не прыродуха) купала дзіця і аддавала куме. Папу везлі ў падарунак хлеб і палатно або ручнік. У гэты час бацька дзіцяці ішоў па вёсцы зваць гасцей на хрэсьбіны. Госці-жанчыны неслі каржы, а мужчыны — грошы. Калі кумы з дзіцем вярталіся з царквы, кума абносіла дзіця тры разы вакол стала, на некалькі секунд клала яго пад прыпечак, затым аддавала маці. Лічылася, што тады дзіця будзе любіць свой дом.

У вёсцы часта былі імёны: Мікалай, Іван, Пятро, Алена, Таццяна, Марыя. На хрэсьбінах было тры кашы: бабіна, кумава і куміна. Яны неслі кожны сваю кашу ў спецыяльнай лазовай каробцы, а бабка і кума — яшчэ хлеб і падарункі. Госці клалі грошы на ўсе тры кашы, і гэтыя грошы пасля аддавалі парадусе, а яна давала падарункі (хлеб і палатно) бабцы хрышчонай, бабе-прыродусе, куму і куме. Кожны ўносіў сваю кашу ў гаршку і расхвальваў яе, як мог: «Каша тысячы стоіць»; «Смачная каша, паспытайце, хто купіць, той паб'е». Радзінных песень спявалі мала: куму, куме, бабцы, бабцы-прыродусе, напрыклад:

Ой, куме, куме,
Смачна гарэлка,
Будзем мы піці
Да панядзелка.

Піла, упілася,
Чапец згубіла,
А дамоў прыйшла,
Мужа набіла.

Ідзі ж ты хутка
Чапца шукаці,
У добрых суседзяў
Трэба пытаці.

— Ой вы, суседзі,
Добрыя людзі,
Кеб чапец знайшлі,
Гарэлка будзе.

У канцы абеда бабка хрышчоная, бабка-прыродуха, кум і кума ўставалі, паднімалі хлеб, абгорнуты падарункамі, і казалі: «Каб вялікі (ая) рос (расла), шчаслівы (ая) быў (ла)». Пасля клалі хлеб і падарункі ў свае каробкі і ішлі дадому. На хрэсьбінах

дзецям давалі кашу. Хрышчоную бабу госці садзілі на барану, на санкі, на посцілку і цягнулі да яе хаты, яна там усіх частавала. Праз тыдзень пасля хрэсьбін хрышчоная бабка ішла адведваць унучку, несла ёй каржы і патраўку.

Калі дзіцяці спаўнялася шэсць тыдняў, парадуха несла куму, куме, бабцы пірагі і падарункі. Глядзяць, каб свята было ці нядзеля.

Да года дзіця нельга да люстэрка падносіць, бо яно будзе баяцца. Стрыглі ў год, бацька стрыг. Валасы на ваду пускалі.

Калі ў дзіцяці выпадзе малочны зуб, яго кідалі на печ («у мыйку»), дарослыя пры гэтым прыгаворвалі: «Мышка, мышка, на табе касцяны, дай мне жалезны».

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ГАЛОЎЧЫЦЫ НАРАЎЛЯНСКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «чаравата». Ёй нельга было на пажар глядзець, у вялікае свята працаваць, свіней нагой нельга біць, каб дзіця не стагнала і не чухалася, красці і маніць нельга.

Калі ў дзеўкі першы раз пачыналася менструацыя, трэба было памыць сарочку ў вадзе і выліць гэту ваду праз калясо, тады яна будзе доўжыцца мала дзён, калі ж выліць на двор, то шмат дзён будзе.

Па знешняму выгляду чараватай прадказвалі пол будучага дзіцяці: калі твар чысты — будзе хлопчык, калі рабая — дзяўчынка. Калі яна ў сне бачыла курыцу, плотку — чакалі нараджэння дзяўчынкі, калі пеўня, акуня — чакалі нараджэння хлопчыка.

У час родаў клікалі бабу-пупоўніцу. Яна несла хустачку, пялёнкі. Роды прымала, абавязкова пакрыўшы рукі якой-небудзь тканінай. Пры першым купанні ў ваду сыпалі пшонную крупу, каб у дзіцяці не было жаўтухі, і крыху попелу на 4 вуглы драўляных начовак. Пасля купання бабка загортвала дзіця ў старое адзенне бацькі або маці, каб яно любіла бацькоў і родны дом, і спавівала яго поясам чырвонага колеру. Да 6 месяцаў дзіця спала ў вісячай люльцы (калысцы), потым яго перакладвалі ў стаячую калыску.

У адведкі прыходзілі жанчыны: суседкі, сваякі, сяброўкі, прыносілі розныя стравы. У адведкі ішлі на другі або трэці дзень пасля родаў.

Хрысціны імкнуліся зрабіць хутка. За кумоў бралі і сваіх, і чужых. Бацька хадзіў запрашаць: «Хадзіце пахрысціце дзіця». Звычайна ніхто не адмаўляўся. Калі дзеці паміралі, бралі кумоў на вуліцы, якіх называлі «крэсныя кумы», або родных брата і сястру, маладых па ўзросту. Кумы везлі ў царкву пірог, грошы і ручнік. Перад тым як ехаць у царкву, бабка купала дзіця, клала яго на кажух, разасланы каля ганка або печы, і пераступала туды-сюды тры разы, прыгаворваючы: «Каб вялікае расло, каб добра спала». Затым аддавала дзіця куме. Імя дзіцяці выбіралі бацькі і прасілі кумоў, каб сказалі бацюшку. Ён звычайна згаджаўся і запісваў гэта імя. Найчасцей у вёсцы сустракаліся наступныя імёны: Вольга, Марыля, Кацярына, Дзям'ян, Рыгор, Сцяпан. Як кумы паедуць у царкву, старэйшыя дзеці ў сям'і бягуць па вёсцы запрашаць гасцей на хрысціны. Падбягуць пад акно, пастукаюць у шыбу і кажуць гаспадыні ці гаспадару, якія выглянулі ў акно: «Матка казала, каб ішлі на зліўкі». Бабка варыла кашу з пшана, боршч, пірагі пякла, ставіла ўсё гэта ў сплецены лазовы кош, які меў прамавугольную форму. Адзін пірог паложыць на гаршчок з кашай, ён пасля застанецца радзільніцы*. Госці нясуць грошы, а жанчыны — яшчэ проса і ссыпаюць яго ў начоўкі, якія стаяць у сенцах. Кум нёс для радзільніцы грошы, кума — матэрыял, бабка — мятлік для дзіцяці.

Як толькі кумы прыедуць з царквы, адразу аддаюць дзіця маці і пачынаюцца хрысціны. На сталах была бульба, тушаная з мясам, аладкі, агуркі, кіслая капуста, яешня, гарэлка купленая, яе пілі ўсе госці з адной чаркі. Бабы спявалі радзінныя песні:

Мышы шалелі, шалелі,
Хвартух бабе праелі,
Баба стала плакаць,
Няма чым дзірку латаць.

Тады бабка ўносіць гаршчок з кашай і ставіць на стол. Госці «тыркаюць» грошы ў кашу, верх зразаюць і разам з грашыма аддаюць парадзісе (радзільніцы). Потым пачынаюць збіраць грошы для бабы, кладуць іх у талерку, засланую хусцінкай. Хто болей паложыць грошай, той б'е гаршчок. Звычайна гэта робіць кум (а калі хто другі, тады куму сорамна).

---

* Парадзісе.

Кашу бралі па кавалачку рукамі і дзецям абавязкова давалі. Радзільніца давала падарункі бабцы, куме, куму, а яны ёй таксама давалі свае падарункі, кум — грошы.

Пасля 40 дзён быў увод. Жанчына з дзіцем стаяла ў «воўтары» (калідоры), а поп выходзіў, браў яе за руку і ўводзіў у царкву. Калі дзіцяці спаўнялася 8 тыдняў, радзільніца несла пірагі і падарункі (палатно) бабцы, куму, куме. Яны ёй давалі грошы, а ў хуткім часе назад неслі свае пірагі. Гэта называлася «аддзячыць пірагі». Пірагі пяклі з жытняй мукі. Зараз носяць батоны і падарункі больш дарагія.

Дзіця стрыглі ў год, часцей за ўсё маці. Валасы палілі ці на ваду кідалі. Дзяўчатак наогул ні разу не стрыглі. Лічылася, калі дзіця (хлопчык) да года пастрыжэш, у яго галава балець будзе.

На Вялікдзень дзеці, як падрастуць, насілі хрышчонаму бацьку і хрышчонай маці «валачобнае» (чырвоныя яйкі). А яны давалі хрышчэніку свой падарунак (чырвоныя яйкі, цукеркі, кавалак пірага).

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. СТАДОЛІЧЫ ЛЕЛЬЧЫЦКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарнай жанчыне («тоўстай», «бярэменнай») забаранялася пераступаць праз вяроўку, бо пупавіна ў дзіцяці закруціцца вакол шыі, праз парог ліць ваду, бо «дзіця слініць будзе»; ката біць ці пхаць нагой, бо дзіця нібы мяўкаць будзе; на паганае глядзець, бо і дзіця такое будзе; красці, бо дзіця будзе злодзеем. Можна было красці толькі гарох, каб у дзіцяці былі кучаравыя валасы. Нельга маніць, бо дзіця манюкай будзе. Калі ў цяжарнай быў чысты твар, казалі, што яна народзіць хлопца, калі твар у плямах — чакалі нараджэння дзяўчынкі. Калі цяжарная ў сне бачыла, што ловіць уюноў, казалі, што яна народзіць хлопца, калі — плотак, краснапёрак, то чакалі нараджэння дзяўчынкі. Інфарматарка расказвала, што бачыла ў сне толькі адных уюноў, у яе нарадзілася чатыры сыны.

Прадказвалі лёс дзіцяці па дню, калі яно нарадзілася. Лічылася, калі дзіця нарадзілася на свята, яно будзе шчаслівае; у панядзелак — будзе лянівае; у нядзелю — мала работы ў жыцці; у суботу — многа работы ў жыцці. У вёсцы ў кожнай сям'і нараджалася па 10—12 дзяцей, больш радаваліся нараджэнню хлопцаў, а зараз — дзяўчат.

Роды адбываліся ў хаце, «у сцёпцы», у хляве. Прымала роды «баба, што бабіць дзіця». Пры цяжкіх родах трэба было выпіць настой з 9 «рагакоў»*. Калі нечакана прыходзіла іншая жанчына ў хату, яна павінна была пакінуць да канца родаў фартух ці хустку. Пупавіну перараэалі дзеўцы на грабёнцы, хлопцу — на тапарышчы. Адваліўшуюся пупавіну завязвалі і пасля захоўвалі за бэлькай, а калі дзіцяці спаўнялася 6—7 гадоў, давалі яму яе развязаць, бо калі «пуп развяжа — разумнае будзе».

Калі першы раз купалі дзіця, у ваду клалі «свянцоныя травы», пад начоўкі клалі цвік. «Дзецка месца» закопвалі пад печчу. Забаранялася купаць дзіця ў гатаванай вадзе, бо «дзіця сярдзітае, кіпіць». Ваду пасля купання вылівалі пад печ. Вельмі ахоўвалі дзіця ад сурокаў (урокаў). У калыску клалі хлеб, соль, «пячыну»** . Калі ж дзіця плакала, лічылася, што дзіця ўсё ж ураклі, і тады яго лячылі: клалі на ганак і маці пераступала туды-сюды 3 разы, і прыгаворвалі: «Якая маці радзіла, такая і адхадзіла». Пялёнкі на двор не вывешвалі.

У водведы жанчыны хадзілі па адной на працягу некалькіх дзён. Лічылася, што тыя, хто ходзіць у водведы, пасля смерці «пападуць у рай».

Радзіны святкаваліся праз тыдзень пасля нараджэння дзіцяці, прыходзілі толькі сваякі («свой род»): і мужчыны, і жанчыны.

За кумоў запрашалі і сваіх, і чужых. Муж парадзіхі хадзіў зваць за кумоў. Ніхто на адмаўляўся. Бралі стрэчных кумоў, калі дзеці паміралі. На хрысцінах былі дзве бабы. Адна варыла бабіну кашу з пшана. Як ехалі хрысціць у царкву, з сабой бралі хлеб, соль, вугольчык ад сурокаў. Лічылася дрэннай прыкметай, калі двое дзяцей сустрэнуцца ў царкве. Тады кума павінна была 3 разы сказаць: «Што думаюць маткі, то маткам, што дзеткі, то дзеткам». Калі якая-небудзь кума жадае зла другому дзіцяці, яна можа сказаць: «Тваё казляня, маё ваўчаня, маё ваўчаня тваё казляня з'есць». Тады дзіця хварэе, плача, трэба лячыць у шаптухі.

Сем тыдняў пасля родаў жанчына лічылася нячыстай, у гэты перыяд нельга цяжка рабіць, спаць з мужыком. Праз 12 тыдняў жанчына ішла з дзіцем уводзіцца ў царкву.

Стрыглі ў год, валасы затыкалі ў сцяну.

---

* Чорнае зерне ў жыце.

** Кавалак гліны з печы.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. СКАРОДНАЕ ЕЛЬСКАГА РАЁНА ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Пра цяжарных жанчын гаварылі, што яны «ў палажэнні». Ім нельга было глядзець на пажар і хапацца рукамі за твар, бо і ў дзіцяці ў адпаведным месцы будуць чырвоныя плямы; праз вяроўку перастунаць, бо будуць цяжкія роды; на непрыгожых, калек нельга глядзець, бо і дзіця будзе такім. Лазняў не было, таму раджалі ў хатах, часта на полі. Да парадзіллі звалі «бабу, што бабіць дзеці»*. Такіх баб у вёсцы было некалькі. Акрамя гэтай бабы, звалі ў час родаў або на хрысціны хрышчоную бабку. Баба, што бабіць дзеці, несла з сабой крайку**. Каб дапамагчы парадзісе, яна расплятала ёй валасы, расшпіляла гузікі, адкрывала замкі. Пуп пераразала: дзяўчынцы — на грабёнцы, хлопцу — на сякеры. Пры першым купанні ў ваду клалі грошы, лілі адвар лекавых раслін: рамонку, чабрацу.

Адразу пасля родаў рабілі «зліўкі»: палівалі бабе вадой на рукі, дзякавалі, давалі падарункі: хустку, фартух, панчохі.

Жанчыны хадзілі ў адведы на працягу аднаго-двух тыдняў. Прыносілі сухарыкі з пшанічнай мукі і цукар, «каб дзіцяці было салодкае жыццё».

Хрысціны спраўлялі, калі дзіцяці было 2—4 тыдні, бралі да аднаго дзіцяці адну пару кумоў, выбіраючы іх сярод сваякоў і сярод сяброў. Калі папярэднія дзеці паміралі, да наступнага дзіцяці бралі т. зв. «устрэчных» кумоў, для чаго бацька ішоў раніцай на перакрыжаванне дарог і чакаў; першых, хто там з'яўляўся, запрашаў перахрысціць яго дзіця. На хрысціны, якія спраўлялі ў нядзелю, прыходзілі па запрашэнню і мужчыны, і жанчыны. Хрышчоная бабка варыла бабіну кашу абавязкова ў новым гліняным гаршку з проса, дадаючы малако і цукар. Пасля ўпрыгожвала кашу зверху і збоку папяровымі кветкамі, каснікамі, цукеркамі. Кашу бабка ўрачыста несла па вуліцы ў спецыяльным прамавугольнай формы новым кашы, сплеценым з лазы. Перад тым як унесці сапраўдную кашу, госці ўносілі гаршчок з бульбай, гарбузом ці катом і патрабавалі ў кума выкуп за яе, і толькі за трэцім разам уносілі сапраўдную кашу, кум плаціў грошы і разбіваў гаршчок. Кума давала ў падарунак дзіцяці мятлік, госці таксама клалі грошы

---

* Бабу-павітуху.

** Пялёнкі.

або падарункі і атрымлівалі кашу. Чарапкі ад разбітага гаршка клалі на галовы бяздзетным жанчынам, каб яны таксама ў хуткім часе нарадзілі дзяцей. Хрысціны пачыналі гуляць у абед і заканчвалі вечарам. Бабу на баране не цягалі.

Праз некалькі месяцаў парадзіха несла жытнія пірагі па 5 штук куму і куме і падарункі. Зараз парадзіха носіць па 5 штук батонаў.

Як дзіця зробіць першы крок, яму разразалі сімвалічна путы (нажом або рукой праводзілі па падлозе рыску паміж ножак дзіцяці). Стрыглі ў год хлопчыкаў і дзяўчат, валасы палілі ў печы. Адымалі ад грудзей пасля 1 года ў тую пару, калі дзень прыбывае, клалі каля грудзей чорную воўну, мазалі іх перцам, каб спалохаць дзіця і адвучыць яго ссаць грудзі.

## АБРАДНАСЦЬ ХРЫСЦІН Ў МЯСТЭЧКУ ЕЛЬСК МІХАЛКОЎСКАЙ ВОЛАСЦІ МАЗЫРСКАГА ПАВЕТА МІНСКАЙ ГУБЕРНІ

Часта здаралася мне быць васпрыемніцай у сялян, але ніякіх абрадаў я пры гэтым не сустракала, а па прыездзе ў Ельск пачула, што тут існуюць асобыя абрады на хрысцінах... Нарэшце, у адзін з дзён каля двух гадзін увайшла да мяне незнаёмая старая сялянка і сказала: «Дзень добры, паненцэ!» — «Здарова, галубушка, што добрае скажаш?» — «Усё добрае, паннaчка. Будзь ласкава, не пагардуй перахрысціць майго ўнучка». — «Добра, бабулечка, ад хрэста ніхто не адмаўляецца, ды вось бяда, я абрадаў вашых не ведаю». — «Калі не пагардуеш, дык навучым... От, панначко, азьмі булачку хлеба, драбок солі і палатна на рукавы ды трохі осьмакоў...* Азьмі з грывянку — поцаловаць куму да шэстака (3 капейкі) бабе на кашу. Да калі хочаш усе нашы мужыцкія парадкі рабіць, то скажы зварыць горшчык кашы ... Як прыйдзеш у хату, хлеб і соль палажы на стол да і скажы: «Няхай да добрае вядзецца!» Дай куме (парадзісе) грывянку — тагды ўжэ будзем збіраць несці дзіця хрысціць, толькі прашу цябе, панначко, як будзеш несці дзіця хрысціць, то не гавары з кумамі!.. Дзеля таго, штоб дзіця не було крыклівэ».

Калі я прыйшла ў хату, там было некалькі сялян і сялянак, запрошаных гасцей. Палажыўшы хлеб-соль і перадаўшы куме

* Грошай.

50 капеек, я заўважыла, што кума збянтэжылася, пазней я даведалася, што збянтэжылася яна ад таго, што ёй прыходзілася даваць падарунак, адпаведны грошам. У сялян звычайна даецца ў падарунак намётка (вузкі кавалак палатна, па краях затканы чырвонымі палоскамі).

Сабраліся хутка і трэба было адпраўляцца да святара. Тады бабка-павітуха вывела мяне за руку на ганак і перадала мне ў карман маленькі вузялочак, завязаны ў анучку, са словамі: «Глядзі ж, панначко, гэтый вузлік выкінь на крыжовых дарогах (на перакрыжаванні). Тут усякая пашня (насенне зернevага хлеба), печына (гліна, выкалупленая з печы) і соль. Выкінь дзеля таго, штоб ні было ліхой стрэчы» (сурокаў).

Пасля здзяйснення абраду хрышчэння, прынёсшы дзіця ў хату, я перадала яго парадзісе. У гэты час стол ужо быў накрыты, на ім ляжаў хлеб, прынесены гасцямі і стаяла вялікая бутэлька гарэлкі. Мяне і кума з гонарам пасадзілі на першыя месцы, а стары гаспадар, дзед нованароджанага, узяў чарку і, наліваючы яе, сказаў: «Боэ, баславі!» Наліў чарку гарэлкі, выпіў сам, а рэшткі выліў уверх са словамі: «Дай жа, Боэ, штоб наш унук вялік рос!» І палажыў капейку ў чарку, наліў яе гарэлкай і перадаў куму. Той прыняў чарку, прамовіўшы тыя ж словы, што і стары, выпіў чарку, дастаў адтуль капейку, выліў рэшткі ўверх, сказаў: «Штоб наш хрышчэннік так высока скакаў» і перадаў чарку старому. Стары палажыў у чарку срэбраны грывеннік, наліў гарэлкай і перадаў мне... Я ў сваю чаргу таксама выліла рэшткі гарэлкі ўверх і сказала: «Штоб наш хрышчэннік так высока скакаў». Тады пачалі частаваць усіх гасцей, толькі не кідаючы ў чарку грошай. Перадача ж чарак з грашыма кумам называецца «перапіваць кумоў».

Стравы звычайныя на хрысцінах. Квас (кіслы суп з парасёнка), млейцы (бліны), узвар (сушаныя плады, вараныя з чарніцамі), а пасля гэтага паставілі гаршчок з кашай. Гэта была бабіна каша. Тады баба падышла да стала і звярнулася да кума з такою прамоваю: «Кумочэк, голубочэк, соловейко, прохаю (прашу) цябе, не бі майго гаршка, бо ён жа ў мяне не простый, а срэбраный з залатымі беражкамі, дай не тут купований, я ж за ім ездзіла ў Альвово (горад Львоў)». Кум адказваў іранічна: «Бабко, і ты ўжо стара, трохі слепа, не дабачыш, гэта ж горшчок гліняны дай той расколаты». Баба адказвала: «Ты, куме, поп'ян, то і не бачыш!» — «Я хоць і поп'ян, але ж усё-такі бачу, што гэта чэрап, а не срэб-

ны, а калі срэбны, то ён не разаб'еціца». І з гэтымі словамі з размаху стукнуў гаршком аб стол. Гаршчок разляцеўся на кавалачкі. Тут з усіх бакоў пачаліся жарты: «Але ж ты, куме, добрэ б'еш гаршкі, каб ты так біў цэпам да касою». Ён адказваў: «Я майсцер на ўсё, а падчас, як п'яны з карчмы прыйду, то і жонцы ўсе гаршкі пераб'ю!» Тады баба паставіла талерачку, палажыла на яе капейку і пачала ўсім гасцям раздаваць па лыжцы кашы. Кожны рукой браў кашу з лыжкі, а ў лыжку клаў капейку. Сабраўшы ад усіх грошы і паклаўшы лыжку кашы, яна перадала яе з талеркаю парадзісе. Затым паставілі на стол маю (г. зн. кумы) кашу, але мая каша не была ў гаршку, а ў каструлі. Тады баба сказала куму: «Эге, куме, хоць жа ты здароў як мядзведзь, да гэтаго горшка не ўкусіш». Пасля гэтага баба надзяляла ўсіх прысутных кашаю, але грошай за гэта ўжо ніхто на плаціў. Паставілі на стол яшчэ трэці гаршчок, гэта была кумава каша. Пры гэтым баба сказала: «Ты ж гаршкі ўсе біў, попробуй жа свойго разбіць». — «Эге, бабко, якая ты разумная, добрэ, што я твайго разбіў, а яшчэ буду свайго біць». Калі з'елі кумаву кашу, усталі з-за стала, і паміж бабамі пачалася нарада: «Калі рабіць змуркі, бо заўтра кума-паненка не прыйдзе к нам, ей кончэ (абавязкова) трэба прамыць вочы» (змуркамі называецца змыванне святога мура, якім было памазана дзіцё пры хрышчэнні; інакш яшчэ называюць «зліўкі»). Баба ўзяла чашку і, трымаючы на руках распранутае дзіця, абліла яго вадой. Бацька дзіцяці прынёс 9 галінак з лісткамі. Калі ж «змуркі» бываюць зімой, то патрэбна, каб галінкі былі ўзяты хоць са старога веніка, ды толькі, каб былі з лісткамі. Палажылі галінкі ў чашку (9 галінак бярэцца таму, каб нованароджаны дасягнуў 90 гадоў). Стол пакрылі чыстым абрусам, на стале паставілі чашку з галінкамі і такую ж другую з салодкаю гарэлкаю і паклалі хлеб-соль. Тады баба першую падвяла мяне да стала пад руку і сказала: «Прамый жа, панначко, вочы і рукі, штоб твае вочы не балелі». Тады ўсё сямейства падыходзіла па чарзе, мылі рукі і твары, думаючы, што змытае муро дае незвычайна гаючую сілу, і пілі гарэлку. Пасля гаспадароў падыходзілі такім жа парадкам госці. Тут мяне з кумам пасадзілі на ганаровае месца, каля мяне села баба-павітуха, і госці пачалі спяваць хрысцінныя песні...

Баба пачала як бы капрызнічаць: «І хата ў цябе, унук, цесная, і паскакаць мне негдзе». Тады мужчыны запыталі гаспадара: «Чы ёсць у цябе коні, штоб повозіць нашу княгіню бабу?» Гаспадар адказваў: «І коні е, і карыта, пайду запрагаць!» У гэты час у хату

ўвайшоў малады мужычок з аброццю на шыі і сказаў: «Бабко, княгіне, паедам у карчму, там і паскачаш». І ўсе прысутныя кінуліся да акна глядзець «экіпаж». Каля ганка стаяла ручная каляска, на калясцы ляжала барана, пакрытая кажухом, і была пакладзена падушка. Двое з мужыкоў узялі бабу на рукі і пасадзілі на каляску, прытрымліваючы яе, каб яна не саскочыла. Некалькі чалавек узяліся за дышла і хутка пацягнулі бабу ў карчму. Усе госці пайшлі следам глядзець, як будзе баба танцаваць, а я стала развітвацца з парадзіхаю, яна прапанавала мне ў падарунак чырвоную шарсцяную хустку. Калі я адмовілася, тады стала мяне ўпрошваць і прасіць прабачэння, што падарунак вельмі нязначны, а калі я сказала, што не вазьму падарунка, то застаўшыяся ў хаце бабы сказалі, што будзе цяжкі грэх парадзісе і што яе падарунак абавязкова павінен быць у шэсць разоў даражэй тых грошай, якія яна атрымала ад мяне, пагэтаму сяляне ніколі не даюць парадзісе больш грывенніка пры пацалунку.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ГРОДЗЕНСКІМ РАЁНЕ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарнай жанчыне нельга было на пажар глядзець; як ваду дастае з калодзежа, нельга адліваць, бо дзіця будзе ўвесь час адрыгваць; як месіць хлеб, нельга цеста есці, бо дзіця будзе абжорлівае; ката нельга падбіваць нагой — будзе пляма на целе ў дзіцяці; на падаль нельга плявацъ, бо ў дзіцяці будзе з роціка смярдзіць; у час дажджу нельга хавацца пад паветкаю, бо дзіця будзе смаркатае.

У час родаў клікалі бабку-павітуху. Інфарматарка з в. Саволеўка Г. Т. Калюта расказвала, што, калі яна была малая, іх старая суседка была павітухаю і яна пыталася ў гэтай бабкі: «Бабачка, мілая, дзе Вы дзіця бярэце?» На гэта пытанне бабка, паказваючы на куст парэчак, адказвала: «Ось там, мне іх туды бусел прыносіць». «Так мы, — расказвала далей Г. Т. Калюта, — пасля палкай паролі туды, усё дзіця шукалі, думалі знойдзем самі». Звычайна ў вёсцы былі 1—2 бабкі-павітухі. Бабка, як прыме роды і пабабіць дзіця, «на радзіны» (в. Саволеўка) ідзе дамоў, пячэ яешню і ідзе да парадзіхі.

У адведкі хадзілі па адной, аладак напякуць, у смятану памачаюць, супчык зварацъ, хлебны квас.

Ваду пасля першага купання лілі на яблыньку, каб дзіця было прыгожае.

За кумоў бралі больш чужых, а не радню. Калі дзеці паміралі, то да наступнага бралі падлеткаў — брата і сястру. Хрысціны гулялі ў той дзень, як хрысцілі дзіця, або пазней. Бабка варыла бабіну кашу ў гаршку. На хрысціны прыходзілі толькі па запрашэнню жанатыя мужчыны і замужнія жанчыны. Частаваліся, спявалі песні:

Ой, кум куме рад,
Павёў куму ў сад.
Палажыў на дзераве,
Пагладзіў па чэраве.
Ой, кум куме рад,
Павёў куму ў сад.

*в. Жытомля*

Ты, арол, ты, арол,
Ты лятаеш высако,
І бываеш даляко.
Ці не быў ты, арол,
На маёй старане,
Ці не плачуць, арол,
Ацец, маці аба мне.
А матуля мая
Рана замуж аддала
У чужую старану,
Да ў бальшую сям'ю.
А бальшая сям'я
Позна вечарам была,
А мяне, маладу,
Пасылаюць па ваду.
Я па ваду іду,
Як зязюлька, гуду,
А з вадою іду —
Умываюся.
Падыходжу пад акно —
Паслухаюся.
Што-та ў хаце браніць,
Маці сына вучыць:
— Ах, сын, ты, мой сын,
Чаму водкі ня п'еш,
Чаму водкі ня п'еш,
Чаму жонкі ня б'еш?
— А на што водку піць,
А нашто жонку біць?
Яна ўмее ўсё рабіць:
І пашыць, і памыць,
І напрасці, і наткаць,
І са мною паспаць.

*в. Жытомля*

У час святкавання хрысцін бабка-павітуха выносіла да гасцей загорнутую ў пялёнкі ляльку (дзіця), на якую ўсе госці клалі падарункі і грошы (в. Вялікая Жорнаўка). У в. Гушчыцы, несучы ляльку, бабка знарок спатыкалася, валілася на падлогу і прыгаворвала: «Як мне цяжка ісці, я Вам дзіцятка нясу». Пазней, збіраючы падарункі, бабка прыгаворвала: «Каб ты быў крэпак, як вада, багаты, як зямля, вясёлы, як пчала, а красен, як вясна». Сабраныя грошы бабка аддавала парадзісе. Добра развесяліўшыся, жанчыны пачыналі спяваць прыпеўкі:

У гародзе, на мяжы
Расце цэнцалея,
А хто любіць ды пакіне,
Няхай ашалее.

У гародзе, на мяжы,
Бусел яйцы нясе,
А хто любіць ды пакіне,
Няхай трасца трасе.

Цераз рэчку ішла,
На кладачку села,
Пі, пі, гандзя, воду,
Бо каўбаску з'ела.

У канцы стаіць качэля,
Пайду пакачаюся,
Без пасагу выйду замуж,
Каму панараўлюся.

Парадзіха, атрымаўшы грошы ад бабкі, перавязвала падарункамі яе, кума і куму. У канцы хрысцін бабку вазілі на баране, перад гэтым размаляваўшы ёй твар чырвоным бураком або чырвонай губной памадай. Госці, што суправаджалі бабку, стукалі качалкамі ў вёдры, крычалі, гучна смяяліся. Бабкі-павітухі ўсяляк імкнуліся пазбегнуць гэтай «працэсіі». Як сказала З. Р. Карэла, «я была бабкай, мяне хацелі злапаць і на барану, а я ўцякла». Тых жа бабак, якім не ўдалося ўцячы, такім чынам дастаўлялі да хаты, дзе яны частавалі ўсіх гасцей гарэлкай.

Вельмі асцерагаліся, каб ніхто не сурочыў малое дзіця і парадзіху. Каб засцерагчы ад «урокаў», у калыску ўторквалі шпільку («графку») або апраналі сарочку навыварат. Каб паз-

бавіцца «ўрокаў», трэба было выцерці дзіця мужчынскай шапкай навыварат супраць гадзіннікавай стрэлкі («навотляг»).

Праз 40 дзён пасля родаў парадзіха з дзіцем ішла «ўводзіцца». Зрэдку ў вёсках дзяўчаты нараджалі незаконнанароджаных дзяцей («байструкоў»). Іх лёс і лёс іх маці быў незайздросны. Ад іх адракаліся родныя. У в. Гушчыцы адна такая маці з дзіцем, якіх выгналі з бацькоўскай хаты, цэлы год жылі ў лесе, у шалашы («шопе»). А пасля бацькі даравалі дачцэ і забралі яе дадому.

Пры першым кроку дзіцяці «перараазалі путца», каб лепш хадзіць. Першы выпаўшы зуб кідалі ў норку да мышы са словамі: «Мышка, мышка, на стары зуб, дай новы». Стрыглі дзяцей у год, валасы палілі ў печы.

Маленькіх дзяцей дарослыя або старэйшыя браты і сёстры забаўлялі. Стукаючы злёгку малое па ножцы, прыгаворвалі:

Кую-кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Дарожка крывая,
А ножка прамая.

Садзілі дзіця на калені і гушкалі яго са словамі:

Гута-та, гута-та,
Выйшла дзеўка за ката,
За ката катовіча,
За Пятра Пятровіча.

Дзіця казыталі двумя пальцамі і прамаўлялі:

Ішла каза рагатая,
Упарола дзіця пузатая,
Бэ-бэ.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. РУПЕЙКІ ВАЎКАВЫСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарнай жанчыне нельга свіней біць, красці, перадражніваць іншых людзей, на пажар глядзець. Калі ў цяжарнай рабіліся кругі ў вачах, слабасць — народзіцца хлопец. Бяздзетнасць бывае ў тых жанчын, якія нараджаюцца ў пару, калі адзін месяц сышоў, а другі яшчэ не ўзышоў.

Раджалі ў хаце. У адведкі на другі-трэці дзень усе разам стараліся прыйсці. Парадзіха, як убачыць, што ідуць жанчыны, хутчэй лажыцца ў пасцель. Жанчыны яду прыносілі. Калі хто бедны, то нясе хоць кавалачак хлеба і солі. А так нясуць яешню, сыр, мёд, у каго што ёсць, што-небудзь варанае. Муж парадзіхі частаваў абавязкова жанчын. Калі хто не прыйдзе ў адведкі, кажуць: «Яна задавацца стала, зазналася". А хто ходзіць у адведкі, той, лічылі, на тым свеце ў рай пападзе. Жанчыны аддавалі гасцінцы са словамі: «З'еш, хай месца ў жываце заложыцца"; «З'еш, хай малако прыбудзе".

Спала дзіця ў калысцы палатнянай або сплеценай з лазы. Калыску прывязвалі за бэльку. У полі палатно нацягвалі на казлы і там дзіця спала. Каб яно добра спала, трэба было спачатку палажыць ката ў калыску і палюляць яго, а потым дзіця. Калі дзіця плакала, яго працягвалі праз акно або праз хамут.

За кумоў бралі часцей чужых, чым сваіх. Бралі стрэчных кумоў, калі дзеці ў сям'і паміралі. Перад тым як ехаць хрысціць, бабка купала дзіця, спавівала ў чыстае і тры разы абносіла вакол стала, за ёй кумы следам ішлі. Усе цалавалі хлеб, які ляжаў на стале. Затым сядалі на лаву, зачынялі засланкай печ і, перахрысціўшыся, адпраўляліся ў дарогу. Адразу ж, у гэты дзень гулялі хрысціны. Бабка гатавала бабіну кашу з круп або яешню. Гаршчок з кашай не заўсёды разбівалі. За кашу госці збіралі грошы ў талерку. На баране бабу не цягалі.

Парадзіха з дзіцем ішла «ўводзіцца» ў шэсць тыдняў.

Да года дзіця не стрыглі, ногці не абразалі. Калі яно доўга не хадзіла, разразалі «путы» (нажом праводзілі рыску на падлозе паміж ножак дзіцяці).

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў ЗЭЛЬВЕНСКІМ РАЁНЕ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Грубай на пажар глядзець нельга, пужацца, красці, хлусіць, нельга праходзіць пад лейцамі, праз вяроўку пераступаць, бо пупавіна закруціцца; шыць на сабе, бо дзіцяці язык прышыеш; дзе піляць або сякуць, нельга хадзіць; праз граблі нельга пераступаць — у дзіцяці зубы будуць рэдкія. Каб вывесці пляму з твару дзіцяці («загарава»), трэба абнесці гэту пляму новай іголкай і забіць яе ў ганак (в. Крывічы). Як толькі іголка саржавее, пляма прападзе. Калі твар у грубай

быў рабы, казалі, народзіцца хлопчык, калі чысты — дзяўчынка. Калі ў яе падымаюцца грудзі — будзе дзеўка, калі жывот — хлопец.

Роды прымала бабушка. Калі цяжкія роды, яна давала парадзісе дуць у бутэльку. У гэты час муж адсутнічаў. Часта жанчыны раджалі ў полі, бо працавалі да апошняга дня. Пуп бабушка адразала хлопцу на сякеры, на кніжцы, каб быў граматны, вучоны; дзеўцы — на верацяне, на ножніцах, каб была швачка — гэта чыстая, добрая работа. Пупавіну завязвалі льняной ніткай. Пуп адразала і купала дзіця другая бабушка (не павітуха), яна ж была і на хрысцінах. Месца загортвалі ў чыстую тканіну і закопвалі ў хляве або ў такім месцы, дзе не аруць і не капаюць (в. Падгрушаны). Бабушка хадзіла купаць дзіця цэлы тыдзень, яду насіла, па гаспадарцы ўпраўлялася.

Спала дзіця ў калубелі, сплеценай з лазы, на поле насілі палатняную калубель. Ад урокаў прышпілялі дзіцяці шпільку ці вешалі на шыю ладанку. Імя самі выбіралі.

У адведкі прыходзілі без запрашэння жанчыны, кума і бабушка. З пустымі рукамі нельга ісці, трэба ўзяць хоць кавалачак хлеба і солі. А багацейшыя неслі яешню, муку, сала, дамашнюю каўбасу, сыр, пірог. Бралі матэрыю на пялёнкі дзіцяці. Парадзіха ў час адведак ляжала ў пасцелі, калі нават здаровая была, каб не сурочылі. Каб дзіця не сурочылі, пры ім увесь час адведак была бабушка. Жанчын частаваў гарэлкай і закускай муж парадзіхі.

За кумоў бралі толькі чужых, бо свой і так свой. Бралі тых, каторыя «наравяцца», каб болей радні было. Да кожнага дзіцяці стараліся ўзяць новых кумоў, каб тут прыяцельства болей было. Зваў бацька дзіцяці: «Будзеш у мяне за кума (за куму)?» Кум нёс у хату хлеб, з гэтым хлебам ехалі хрысціць дзіця.

Хрысціны гулялі заўсёды 2 дні, пачыналіся ў суботу вечарам. У бяднейшых хрысціны не гулялі, дзіця пахрысцяць, кумы і бабушка закусяць вечарам. У такім выпадку казалі: «Перахрысціў і пусціў». А калі хрысціны гулялі як нада, тады бабушка гатавала бабіну кашу з круп або яешню ў місцы. Госці кідалі грошы ў калубель або ў міску і прыгаворвалі: «Каб вяселля дождацца»; «Няхай Бог гадуе, шчасце-долю гатуе». У канцы хрысцін бабушку, кума і куму пасадзяць на воз і вязуць «тапіць на рэчку». Бабушка адкупляецца гарэлкай.

У шэсць тыдняў парадзіха з дзіцем ішла «ўводзіцца». Да гэтага часу ёй нельга было хадзіць да суседзяў; калі яна вымушана была ісці, трэба было ёй узяць кавалачак хлеба і пакласці ў той хаце, куды ішла, на прыпечак, каб там нічога не білася ў людзей.

Стрыглі ў год, кум і кума абавязкова прыходзілі, кума трымала, а кум стрыг, спачатку на макушцы, а потым з усёй галавы «налыса». Або ў час пастрыжэння садзілі на стол, «каб яму ў жыцці быў пачот». Потым сям'я і кумы пілі «барыш». Валасы палілі ў печы, кідаць абы-дзе іх нельга, бо «занясе птушка ў скрыпуча дзерава, чалавек будзе скрыпець» (хварэць) (в. Крывічы).

Дзён нараджэння раней дзецям не спраўлялі, а зараз спраўляюць.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ДЗЯРЭЧЫН ЗЭЛЬВЕНСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Бярэменнай нельга на пажар глядзець, пужацца. Звалі павітуху «бабушка». Такая бабушка была адна ў Дзярэчыне, тут шмат яўрэяў жыло, дык яна роды прымала і ў яўрэек. Каб места выйшла, застаўляла парадзіху дуць у пустую бутэльку. Места закопвалі на дварэ. Першы раз і ўсе наступныя бабушка купала дзіця ў чыстай вадзе. Яна некалькі дзён прыходзіла купаць дзіця і глядзець парадзіху. Як парадзіха ўставала, яна давала бабушцы падарунак. Як сказала С. І. Русецкая: «Я дала бабушке хустку, матэрыю і 2 злотых».

У водведы ішлі жанчыны ўсе разам на 3—4-ы дзень пасля родаў. Прыносілі цукеркі і пячэнне. Муж парадзіхі рыхтаваў гарэлку, закуску і частаваў іх.

Хрысцілі, як калі хто хоча. За кумоў бралі сваіх і чужых. Бяздзетных за кумоў не бралі, бо ў іх «дзеці не стаяць», г. зн. гадавацца не будуць.

Хрысціны (хрэсьбіны) спраўлялі ў нядзелю. Гасцей запрашалі ці муж, ці сама парадзіха. Заходзілі ў хату, віталіся і гаварылі: «Прыходзьце на малую (на малога) на баль». Кумы з дзіцем у касцёл заўсёды хадзілі пяшком. «У нашым мястэчку за бабку нікога не бралі, кашы ніякай не было. У нас забабонаў не было, верылі ў Бога, як Бог дасць, так і будзе». А ў навакольных вёсках павітуха варыла кашу ў гаршку, яго пасля разбівалі. Зараз і ў нас сталі варыць кашу або цукеркі ці торт дзеляць, і гэта называецца каша.

Валасы дзіцяці стрыглі ў год, палілі іх у печы.

## РАДЗІННАЯ АБРАДНАСЦЬ У в. АРЦЮШЫ ШЧУЧЫНСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Як хадзіла бярэменна, то трэба, каб маладзіца была добра акуратна. Абавязкова трэба было насіць на сабе фартух. Гэта для таго, каб потым можна было дзіцё накрыць фартухом і яно спала пад фартухом, тады не будуць мяшаць яму мухі.

Як навязаны конь на ланцуг, то нельга было бярэменнай пераступаць праз ланцуг, бо ў дзіцяці пупавіна будзе закручана за шыю.

Нельга было адліваць у студню з вядра ваду, якая застанецца, бо ў дзіцяці будзе адліваціа.

Радзілі ў хаце. У вёсцы была баба, якая прымала роды. Пасля прыняцця родаў яе частавалі і дарылі хусткаю. Баба хадзіла купаць дзіця да тых пор, пакуль парадзіха не ўстане на ногі. Перад тым як ехаць хрысціць, бабка абавязкова сама купала дзіця. А кум клаў яшчэ грошы і гаварыў: «Гэта табе, баба, на мыдла».

Гэту бабу абязацельна запрашалі на хрысціны. Яна заўсёды рэзала каравай або пірог. Каб нож быў востры, клалі грошы — «брус». Калі мала клалі, то казалі: «Слабы, тупы брус, не бярэ нож» і застаўлялі класці больш. Спачатку клаў бацька радзоны, тады хрышчоны.

Калі ішлі на хрысціны, то няслі міску кашы (рысавая, манная, з круп) і пірог, кілбасу, сыр салодкі. Найчасцей неслі рашчыну (з гарэлкі). Усё звязвалі ў вэнзал і з вэнзлам ставілі на стол. Баба развязвала пры ўсіх вэнзал, і ўсе бачылі, хто сколькі прынёс. Варылі ў сагане, а потым — у міску, і ў місцы неслі. А пры стале баба рэзала на кускі яе, а бо зусім міску пераварочвала і кашу выкідвала на дэнка і на ім рэзала.

Імя выбіралі бацькі, але найбольш давалі дзядоўскія, асабліва першым дзецям.

У кумы бралі больш сваякоў (фамільетаў), але хрысцілі і суседзі. За кумоў бралі акуратных, добрых, веруючых.

Потым хрышчоных бацькоў абавязкова прасілі на вяселле. Разам з радзонымі бацькамі яны благаслаўляюць да шлюбу.

Павіннасць хрышчоных — памагаць бацькам выхаваць дзяцей добрымі і веруючымі.

## ХРЭСЬБІНЫ Ў в. ПЕСКАЎЦЫ ЛІДСКАГА РАЁНА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Жанчыне, якая насіла дзіця, дазвалялася рабіць амаль усё, рабіла да пасledняга. І жала, і прала. А радзілі і ў дарозе, і ў полі — гэта не цяпер. Цяжкага не рабілі, не падымалі. Нельга глядзець на мярцоў, ну а калі бацька памрэ, як яна глядзець не будзе, мусіць.

Нельга глядзець на пажар. Прымалі дзіця бабкі. Звалі «бабка-бабуля». Бабка прымала дзіця, дапамагала маці. Яе ж запрашалі і на хрэсьбіны, дзе яна была жаданай госцяй.

У адведкі прыходзілі раднейшыя, а на хрэсьбіны ўжо запрашалі, назначалі на нядзелю, хросных выбіралі па жаданню.

Прыходзілі кумы, бабка. Бабка шые, кума нясе адзенне (бабка мые, кума дае на мыла). Дзіця вязуць хрысціць толькі кум з кумою, бацькі не едуць. У гэты час у хаце збіраюцца людзі, спецыяльна не гатовілі, толькі каб прыкусіць, а рабіліся абавязкова місы.

Міса: на абрусе клаліся 2 булкі, бабка з грэчкі, апараная малаком (залівалася ў чэрап і пяклася), сыр пазней пачалі печ, у абрус завязвалася.

Імкнуліся, каб свая міса была найлепшая і найвышэйшая. Абрус завязваўся і перавязваўся тканым поясам. Місы ставіліся ў спецыяльнае месца на лавы. Прыязджалі кумы. Даюць толькі крыху выпіць і прыкусіць, а тады ўжо неслі місы і разбіралі.

На стале развязвалі іх, разразалі і раскладвалі на стале.

І пакуль усе місы не перавяжуць, хрэсьбіны не скончацца.

На хрэсьбіны нічога не неслі, акрамя міс. Цікава было. Пасля застолля бабку везлі на баране па вёсцы, а бабка фундуе і спявае любыя песні.

Ой, мяту я хату,
Мяту ды думаю.*
Ах, хто ж мяне возьме,
Я поля не маю.
А той мяне возьме,
Хто поля не хоча.
Адзін кажа — бедна,
Другі — не хароша.

Спалі малыя дзеці ў калысках, якія плялі з лазы, і вешалі за бэлькі ў хаце. Выносілі гэтыя калыскі ў поле, ставілі тры рагачы і чаплялі калыску. Спявалі калыханкі.

* Кожныя два радкі паўтараюцца двойчы.

Казкі расказвалі ўжо бальшым. Напрыклад, «Як паехаў дзед рыбку лавіць»:

«Жыў дзед з бабаю. Паехаў дзед рыбу лавіць. Налавіў дзед многа-многа рыбы, едзе, а ліса бачыла, што дзед налавіў шмат рыбы. Яна прытварылася, выцягнулася на дарозе. Дзед убачыў яе, на воз ды едзе, сам у каня ды ў каня. Едзе, а ліса пагледзела, што дзед не бачыць, рыбку ўсю выкінула, сама скок і пайшла, пабрала тую рыбку, сядзіць і есць. А дзед прыехаў да кажа:

— Баба, я прывёз табе рыбу і лісу на каўнер!

Пайшла баба — ні лісы, ні рыбы. Давай тады яна плакаць, галасіць. А ліса пабрала рыбу, сядзіць есць. Бяжыць воўк:

— Кумка-галубка, што ты еш?

А ліса:

— Бачыш, рыбку ем.

— А дзе ж ты набрала? — пытаецца воўк.

— У рэчцы.

— Як?

— Пайдзі, хвост усадзі ў праломку, сядзі і кажы: «Бярыся рыбка бальшая і малая!»

Ён жа дурны, прыйшоў і сядзіць.

А ліса на беразе ўсё:

— Мерзні, мерзні, воўчы хвост! (2)

Воўк паглядзеў на лісу і пытаецца:

— Што ты гаворыш, кумка?

— Гэта я дапамагаю.

Воўк паглядзіць на хвост, шчэ мала, сядзіць далей.

Воўк сядзеў, сядзеў, пакуль хвост не прымёрз. Тады давай цягнуць той хвост. Цягне, цягне, не пацягне. Тады ліса пабегла ў вёску і давай крычаць:

— Людзі, людзі, воўк!

Людзі хто з калом, хто з чым. А воўк як убачыў, што людзі бягуць, як рвануў, без хваста пабег».

З дзецьмі гулялі, вадзілі карагоды, пелі, загадкі загадвалі.

## РАДЗІНЫ І ХРЫСЦІНЫ Ў ГРОДЗЕНСКІМ ПАВЕЦЕ ГРОДЗЕНСКАЙ ГУБЕРНІ

Адразу пасля з'яўлення на свет дзіцяці бацька яго адпраўляецца ў вёску да аднаго з сяброў і запрашае яго ў кумы. Увайшоўшы ў хату, ён гаворыць: «Панеус пахвалёны, Езус

Хрыстус!» На што звычайна яму адказваюць: «На векі вякоў, амон!» (а зрэдку і «мамон!») Затым паміж госцем і гаспадаром хаты адбываецца такая прыкладна размова:

— Добра жывы, ці здаровы?

— Шчэ па-маленьку, Бог ховая.

«Вот кажу, — працягвае той, хто прыйшоў, — нема часу. Я прыйшоў прасіць Бога і вас на хрысціны да нас».

— А што вам Бог даў: дзіця (г. зн. хлопчыка) альбо дочку?

— Але от што вы, дзяцько (ці братко, гледзячы па гадах), я прыйшоў прасіць вас за татко хрышчонаго.

— Што зробіць, — адказвае гаспадар, пачасаўшы галаву, — трэба паслухаці.

Атрымаўшы згоду, бацька дзіцяці адпраўляецца дадому. У хуткім часе прыходзяць да яго кумы. Бабка-павітуха бярэ галінку і, выламаўшы з яе вілачку, абносіць ёю тры разы вакол галавы парадзіхі, а затым бярэ на рукі дзіця са словамі: «Нейца*, Сына і Духа Святога, амон!» і аддае кумам і разам тры лусты хлеба, з якіх дзве застаюцца ў святара, а трэцюю прывозяць дадому. Кумоў, якія вярнуліся з царквы дадому, бабка ў дзвярах сустракае ў вывернутым поўсцю наверх кажуху, каб дзіця не было палахлівае. Затым пачынаецца пір трохдзённы, на які збіраюцца родныя і блізкія знаёмыя. Кожны госць прыносіць што-небудзь з ежы: хто кавалак хлеба, хто гаршчок грэчневай кашы, хто малака і яечню і г. д. Парадзіха, лежачы на ложку, прымае ад гасцей усё прынесенае і ставіць вакол сябе на ложку. Гаспадар налівае чарку гарэлкі і падносіць госцю. Апошні, прымаючы яе, гаворыць: «Няхай Бог гадуя, долю, шчасце готуя, бацьку мацеры на пацеху і людзям на славу». На гэта гаспадар і парадзіха адказваюць: «Дзякуй, дзякуй за добрае слова!»

На трэці дзень хрысцін здзяйсняецца «жмур» («муравінкі»). Гэта цырымонія складаецца з наступнага: бабка бярэ дзіця, пакупае яго і адразу затым, зачарпнуўшы рукой вады, у якой яго купала, прыкладна каля гарнца, выліваае яе ў міску, куды і насыпае каля кварты аўса. Змешвае і гэтай сумессю мые ўсім прысутным рукі і выцірае іх скарачом**. Некаторыя з гасцей пры гэтым кідаюць ёй у міску некалькі капеек. На гэ-

* Скажонае ад слоў: «у імя Отца (Ойца)».

** Ручніком.

тыя грошы бабка купляе гарэлку і частуе ўсіх. У заключэнне ўсе ідуць у карчму, робяць там складчыну і зноў п'юць і весяляцца.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў КЛІЧАЎСКІМ РАЁНЕ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Пузатай нельга было на пажар глядзець і хапацца рукамі за цела — у дзіцяці ў адпаведным месцы будуць чырвоныя плямы; на ганку стаяць — будуць цяжкія роды; праз вяроўку пераступаць — пупавіна ў дзіцяці вакол шыі закруціцца; па сцежцы як ідзе — нельга нікому саступаць дарогу, каб дзіця ў жыцці мела поспех і ўдачу, не было ў паследышах.

Жанчыны раджалі на падлозе, дзе была разаслана салома, або на ложку. Да парадзіхі звалі бабку-павітуху. Яна адразала пупавіну, падклаўшы кніжку, і перавязвала льняной ніткай. Пры першым купанні ў ваду лілі пасвяцоную на Вадохрышча ваду, на край начовак клалі кніжку, каля начовак — сякеру, каб быў добрым работнікам, або верацяно (дзяўчынцы), каб было добрай работніцай. Пасля купання бабка спавівала дзіця ў пялёнку, завязвала хусцінку, спавівала поясам і аддавала бацьку на правую руку, каб ён жалеў і любіў яго, а бацька нёс да маці. Маці таксама пры першым кармленні давала дзіцяці правую грудзь, каб дзіця было «праўшаком» (усё рабіла правай рукой). Дзіцячае месца, калі нарадзілася дзяўчынка, закопвалі на стол пад пясок або ў хаце пад падлогай, каб да яе ў будучым хадзілі сваты: калі нарадзіўся хлопчык — дзіцячае месца закопвалі ў стопцы.

Бабка прыходзіла да парадзіхі 7 разоў, прыносіла ёй ежу і купала дзіця. Бабка ягад зварыць, яблыкаў сушаных , кашу прасяную прыгатуе, макароны з малаком. Жанчыны прыходзілі ў адветкі (водведы) тыя, да каго ў свой час хадзіла парадзіха. «Як сама ідзеш у адветкі, дык й к табе прыйдуць, а не — дык не».

Да дзіцяці бралі адну пару кумоў: «хто каму наравіцца, або са сваіх». Калі папярэднія дзеці паміралі, тады да наступнага запрашалі «ўстрэчных кумоў», абавязкова, прывёўшы ў хату, іх кармілі перад адпраўленнем у царкву (касцёл). На хрэсьбіны бабка варыла пярловую або грэцкую кашу ў гліняным гаршчку. У хату, дзе гулялі хрэсьбіны, збіраліся дзеці, каб іх пача-

ставалі бабінай кашай. Спачатку бабка хавала сваю кашу ў каморы, адкуль яе маглі ўкрасці і патрабаваць выкуп ад бабкі. Госці, хто хацеў пажартаваць, спачатку ўносілі гаршчок з бульбай, капустай, буракамі і прапаноўвалі гэтую «загранічную» кашу купіць куму, які адмаўляўся. І толькі за трэцім разам уносілі сапраўдную бабіну кашу, якую кум выкупляў і разбіваў гаршчок аб вугал стала, прыгаворваючы: «Каб у майго хрэсніка харошая жысць была» (в. Будняў). Парадзіха давала бабцы падарункі: і «свойскія», і «купленыя», атрымаўшы якія, бабка тры разы падскоквала, перакручвалася на месцы і прыгаворвала: «Каб мой унук (унучка) вялікі рос і шчаслівы быў».

Госці, у асноўным жанчыны, спявалі хрэсьбінныя песні:

Ці багата, бабка, ці багата, любка,
У ватветках была,*
А сягонні бабка, а сягонні любка
Па падарак прыйшла.*
Бабка й унучцы*
Два гурочкі прынясла.
— Еш, мая ўнучка, еш, мая любка,
Агурочкі мае,*
Каб не балелі*
Жываточкі твае.

А ў Іванькі на дварэ
Стаяць коні ў румяне,
Гуляй, бабуля, гуляй.
Як жа бабка падап"е,
Унук дадому завязе,
Гуляй, бабуля, гуляй.

А ў Іванькі на дварэ
Стаяць коні ў румяне,
Гуляй, кумочік, гуляй.
Як жа кум жа падап'е,
Кум дадому завязе,
Гуляй, кумочік, гуляй.

А ў Іванькі на дварэ
Стаяць коні ў румяне,
Гуляй, кумачка, гуляй.
Як жа кума падап'е,
Кум дадому завязе.
Гуляй, кумачка, гуляй.

*в. Будняў*

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Бабка к унучцы*
Баразнёнкай ішла,*
Бабка ўнучцы*
Тры гурочкі нясла.*
— На табе, унучка,*
Тры гурочкі мае,
Каб не балелі*
Жываточкі твае.

*в. Слабодка*

Эй, кумушка да кума ішла,
Цэлу вязку гасцінцаў нясла,
Нясла курыцу жараную,
Трыбушыну пераварану ю,
Тры ячкі ў смятачку
І бараннюю лапатачку.
Кілаграмчык сялёдачкі
І бутылку крэпкай водачкі.

*в. Слабодка*

А кум і з кумой
Баразёнкай ішлі
Да пад саломкай нашлі,*
Да баціначкі куміны.

Ой, кум куме
І бацінкі надзяваў*
Да між ду ног разглядаў.

— Ай, кумка мая, ты, галубка мая,
А што ў цябе
Між ду ножак жыве?
А што жа ён ды мяне не з'еў?

— Ах, куме, мой куме,
Дурны ў цябе вуме,
Ці ты ў лесе не бываў,
Ці ты звера не відаў?

— Ах, кумка мая,
Ты, галубка мая,
А я быў у лесе,
А я бачыў барсука,
Дык у кумкі шэрсць не така.

— Ах, куме, мой куме,
Дурны ў цябе вуме,
Ці ты ў лесе не бываў,
Ці ты звера не відаў?

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

— А я быў у лесе,
А я бачыў ліса,
Дык у кумы лыса.*

А я быў у лесе,
А я бачыў воўка,
Дык у кумы ж лоўка.*

А, бабуля, бабуля,
Таўчы-малоць нядужа,*
А па падаркі дасужа,
Таўчы-малоць — дык няма,
Па падаркі — дык сама.*

*в. Слабодка*

Ой, ты, мілы мой, дружына мая,*
Дай завеш мяне, дзе роду няма,*
Мілая мая, няпраўда твая,
Цераз вуліцу — там кума твая,
Вой, во ж на вуліцы пагаворыце,
Дай журбу-печаль развяселіце.

*в. Віркаў*

У канцы хрэсьбін ці назаўтра бабу вазілі на калясцы, санках або насілі ў пасцілцы, за што атрымлівалі бутэльку гарэлкі. Ідучы па вёсцы, госці спявалі, крычалі, стукалі ў пустыя вёдры.

Як дзіця пойдзе, «пута» разразалі нажом, алоўкам і гаварылі: «Прыпускаем дарогу табе». Стрыглі ў год, хто-небудзь з маладзейшых сваякоў («так лепш»). Валасы палілі ў печы або затыкалі над дзвярыма, «каб прахадны быў».

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Пузатай нельга было на пажар глядзець і хапацца за цела — у дзіцяці ў адпаведным месцы будуць чырвоныя плямы; цалаваць мерцвяка — дзіця будзе халоднае; у прыбіральні нельга пляваццa — у дзіцяці з рота смярдзець будзе. Раілі пузатай есці крошкі ад хлеба — тады дзіця народзіцца прыгожым.

Звалі да парадзінухі дзвюх бабак: бабку, што дзіця спарадкуе, і бабку-пупарэзную (надалей хрёсную). Гэта апошняя па-

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

вінна была ўжо адмыцца, быць «чыстай». Паводле слоў А. С. Максіменка, «зараз у бабкі ходзяць неадмытыя, усё іспорцілі, і дзеці праз гэта плахія». Пупарэзная бабка адразала пуп і перавязвала льном, затым купала, паклаўшы ў ваду хлеб, і спавівала ў старое адзенне: дзяўчынку — у бацькоўскае, каб яе любілі хлопцы, а хлопчыка — у мацярынскае, каб яго любілі дзеўкі. Зверху спавівала спецыяльным тканым поясам для нованароджаных. Пры першым кармленні дзіцяці яму патрэбна было даць спярша правую грудзь, каб яно рабіла ўсё правай рукой. Бабка пупарэзная хадзіла да парадзінухі тры разы пасля родаў, купала дзіця і прыносіла для яе бліны. У сям'і парадзінухі смяяліся: «Зараз твая бабка прыдзя, ужо ладкі мачая». Жанчыны прыходзілі ў водведкі, прыносілі латушку*.

На ксціны пупарэзная бабка варыла пшонавую кашу ў гліняным гаршчку і хавала яе ў каморы ў хаце парадзіхі. Некаторыя з гасцей кашу гэтую кралі, а тры разы прыносілі ў гаршчку бульбу, бурак і прапаноўвалі куму купіць гэтую «заграгранічную кашу». Калі, нарэшце, падавалі сапраўдную бабіну кашу, яна гаварыла: «Мая каша з канапелькамі, а вы, госцікі, з капейкамі», пасля чаго госці збіралі грошы. Кум плаціў больш за іншых і разбіваў гаршчок з кашай, якой усе частаваліся.

Парадзінуха давала бабе ў падарунак намётку. Бабка, абкруціўшыся ў намётку, тры разы падскоквала і прыгаворвала: «Каб мой унук вялікі рос, вялікі рос, шчаслівы быў. Гоп, баба!» Намётку, якую баба атрымала ў падарунак, іншыя госці імкнуліся ўкрасці, каб пасля атрымаць ад бабы бутэльку гарэлкі.

Жанчыны на ксцінах у в. Асавец спявалі шмат хрэсьбінных песень:

Нямножка, бабка, нямножка, любка,
У адветках была,**
Ай, адзін разок**
І з пялёстачкамі,**
Ай другі разок**
І з патушачкамі.
Трэці разок**

---

* Яечню ў місцы.
** Радкі, пазначаныя дзвюма зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Па намётку прыйшла,*
Гаршчок кашы прынясла,*
З сабой дзеда прывяла*
І ўвесь кут заняла,*
Усю й гарэлку папіла,*
І закуску паела,*
Апільсінкі ня ўспела.*

А ў новай каморы нехта гавора,
Аляксей Галячку ўсю й навучае:*
— Галячка, жана мая, а ня будзь ты гарда,*
Сям'ёй жыць — трэба ласкавай быць,*
Дзетачак гадаваць — ночку не спаць,*
Дзетачак украсціўшы — ночку ўкараціўшы.

Ай, упілася кума,*
Пад парогам лягла,
Паглядзіце, хлопцы,*
Ці ў тонкай сарочцы.
А калі ў тонкай,*
Хай ляжыць шчэ й столькі,
А калі ў паскадной,*
Палажыце пад скам'ёй.

Ой, кум куме рад,
Павёй куму ў вінаград,
— Шчыплі, кума, вішні,
Каторыя кіслы,
Каторыя сладкі,
То для маёй маткі,
Каторыя горкі,
То й для маёй жонкі,
Каторыя гнілыя,
То й для маёй мілай.

Ой, у масце-масце сон-трава расце,
А пад мосцікам дай нагодачкі,
Ай, у Асаўцы добрыя жоначкі,
Ай, дзе мёд чуюць, дык там начуюць,
Дзе й гарэлачку — там нядзелечку,
Дзе салодкі мёд — дак там цэлы год.

А чаго ты, бабка,
А чаго ты, любка,
А нявесела сядзіш?*
Ці твая, бабка,
Ці твая, любка,

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

А намётка каротка?*
Ці твая, бабка,
Ці твая, любка,
Каша не ўдалася?

Бабка к унучцы*
Па гароду ішла,*
Бабка ўнучцы*
Два гурочкі нясла.*
— На табе, унучка,*
Два гурочкі мае,
Палячы, унучка,*
Жываточкі твае.*

Бабка к унучцы*
Па гароду ішла,*
Бабка ўнучцы*
Два бліночкі нясла.*
— На табе, унучка,*
Два бліночкі мае,*
Палячы, унучка,*
Жываточкі твае.*

Бабка ўнучцы*
Парасёнка нясла.*
— На табе, унучка,*
Парасёнка майго,*
Палячы, унучка,*
Жываточкі твае.*

У нядзелячку паранюсенька
Бяжыць каралёк па бабусеньку.
І без пояса, і без шапачкі,
Ён і сам бяжыць, і Бога просіць:
«Распрасці, Божа, дзве душачкі,
І старэнькую, і маленькую.
Маленькую гадаваць будзем,
А старэнькую паважаць будзем».

*в. Забалацце*

Запрагайце, запрагайце,
А дзвінаццаць валоў.*
Адвязіце, адвязіце
Ай бабусю дамоў.
Запрагайце, запрагайце,
А дванаццаць сабак,*
Адвязіце, адвязіце,
Вы кумоў у кабак.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Пасля гэтай песні госці ўсаджвалі бабу на каляску ці санкі і адвозілі дадому. Таксама і кумоў кожнага паасобку адвозілі дадому і патрабавалі з іх бутэльку гарэлкі. У час шэсця па вуліцы ўдзельнікі ксцін спявалі, ігралі на гармоніку і балалайцы, вось некаторыя з прыпевак:

Балалайка, ж ты мая,
Балалайка стукалка,
Хоць мой мілы нс харош,
А я сама кукалка.

А юбка мая,
Юбка ў точкі,
А пад юбкай сядзіць,
Вылупіла вочкі.

Дзіця стрыглі ў год бацька або дзед, валасы кідалі на ваду, каб раслі густыя доўгія косы.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў СЛАЎГАРАДСКІМ РАЁНЕ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

У в. Гіжэнка цяжарнай жанчыне («тоўстай") нельга было адліваць ваду у калодзеж — дзіця будзе слюнявае; нельга было стукаць чапялой аб падлогу — дзіця будзе губатае («грыбатае»); нельга было красці — дзіця будзе злодзеем; на пажар нельга глядзець — на целе дзіцяці плямы будуць; нельга было працаваць на вялікія святы, асабліва ў Каляды, — дзіця народзіцца ці крывое, ці сляпое, ці дурное; нельга было ваўка палохацца, бо на целе ў дзіцяці вырастуць плямы.

Да парадзіхі запрашалі бабу-павітуху; той, хто запрашаў, ішоў з хлебам, у хаце яго аддаваў і гаварыў: «Нацє Вам хлеб-соль, дайце нам бабу». У в. Урэчча запрашалі дзвюх бабак: адну — «прыродніцу», якая прымала роды, і другую — «пупырэзніцу», якая перараэала пуп і была затым галоўнай дзеючай асобай на хрэсьбінах, а пасля ўсё жыццё лічылася хроснай бабкай свайго ўнука або ўнучкі.

Бабка-прыродніца расплятала парадзісе валасы, расшпіляла гузікі, здымала ўсе шпількі з адзення, пры цяжкіх родах прымушала мужа даць парадзісе вады са свайго рота.

Бабка-пупарэзніца адразала пуп, падклаўшы сякеру, калі ў сям'і хацелі, каб наступны нарадзіўся хлопец, і пранік, калі наступную хацелі дзяўчынку.

Пры першым купанні дзіцяці ў ваду сыпалі мак, клалі лустачку хлеба, грошы, ваду перахрысціць тры разы. Пасля купання дзіця загортвалі ў пялёнкі, зробленыя са старога бацькоўскага адзення, і клалі ў люльку, якую перад гэтым тры разы перахрышчывалі і ўтыркалі ў яе іголку або шпільку, што засцерагала дзіця ад нячыстай сілы. Паводле народнага меркавання, спавіваць патрэбна было дзяцей як мага даўжэй, асабліва дзяўчынак, бо лічылася, чым даўжэй іх спавіваць, тым пазней у іх пачнуцца месячныя.

У адведкі ці на радзіны жанчыны хадзілі па адной, прыносілі разнастайныя мучныя вырабы і чарніцы, звараныя ў гаршку. Да ксцін баба-пупарэзніца павінна была абавязкова прыходзіць тры разы з ежай для парадзіхі і купаць дзіця.

За кумоў бралі «хто каму панаравіцца». Баба варыла кашу ў гліняным гаршку, прыносіла да бацькоў свайго ўнука (унучкі). У час ксцінаў госці імкнуліся ўкрасці гэту сапраўдную кашу, а на стол падавалі гаршчок з бульбай, бураком, жывым катом і толькі пасля гэтага ўносілі сапраўдную бабіну кашу, пра якую бабка гаварыла: «Мая каша з канапелькамі, а Вы, госцейкі, з капейкамі». Грошы збіралі на талерку, пакрытую хусткай. Гаршчок з кашай разбіваў кум, пакрыўшы рукі ручніком. Рабіў ён гэта трэцім разам, папярэдне два разы прыгаворваючы: «За первым разам — добрым часам, за другім разам — добрым часам». Парадзіха давала бабе ў падарунак намётку, абкруціўшыся ў якую, баба тры разы падскоквала і прыгаворвала: «Каб мой унук вялікі рос бацьке і матке на паслугу, а нам на пацеху».

У в. Гіжэнка некаторыя з удзельнікаў хрэсьбін пераапраналіся ў цыганоў і кралі бабіну кашу, а замест яе ўносілі гаршчок з курыцай, кошык бульбы, а баба на гэта гаварыла: «Гэта каша не мая, мая смачная, мы яе з дзедам ноч таўклі». Часта для аховы сваёй кашы баба нанімала «міліцыю» (двух пераапранутых мужчын, якія стаялі каля кашы з каромыслам). «Цыгане» варажылі, спявалі разам з іншымі гасцямі:

Кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград,
Шчыплі, кума, ягадкі,
Каторыя салодкі.
Каторыя горкі,
Гэта маёй жонкс,
Каторыя гнілыя,
Гэта маёй мілай.

А дзед бабку
Заматаў у трапку,
Паліваў яе вадой,
Кабы стала маладой.

У в. Урэчча спявалі хрэсьбінныя песні:

А ў нашага Сашачкі пір на дварэ,
Сабраў ён пір, а бяседачку,
Не для каго, сам для сябе.
А каб яго ды дзяцінaчка
А бальшая расла,
А каб яго ды дзяцінaчка
Ды шчаслівa была.

У в. Гіжэнка, акрамя хрэсьбінных прыпевак, спявалі сямейна-бытавыя песні:

А нашто ж ты мяне
Ды, мая мамачка,
Ды на гора радзіла?
А чаго ж ты мяне
Ды маленькую
Работачкі не вучыла?
Не наўчыўшы мяне
Тут работачкі
У чужы людзі аддала.
А ў чужых людзях
Б'юць, кыраюць*,
Работачкі навучаюць,
А цябе, мая родная мамачка,
Што дзянёчак ругаюць.

У канцы хрэсьбін бабу цягалі «на баране», г. зн., пасадзіўшы яе ў начоўкі, цягнулі па вуліцы да яе хаты. Госці, што суправаджалі бабу, вымазвалі твары сажай, іншыя пераапраналіся ў цыганоў, усе гучна крычалі, стукалі качалкамі ў пустыя вёдры. Баба іх частавала гарэлкай ў сваёй хаце. Кумоў такім жа чынам вазілі на другі дзень пасля святкавання хрэсьбін і атрымлівалі ад іх гарэлку на «пахмелкі».

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў БЫХАЎСКІМ РАЁНЕ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарнай жанчыне нельга было смецце выкідваць праз ганак, бо дзіця будзе слюнявае; на ганку стаяць, бо будуць

* Караюць.

цяжкія роды; на пажар глядзець і хапацца за цела — у дзіцяці ў адпаведным месцы будуць чырвоныя плямы.

Роды прымала хрёсная бабка, якая, ідучы да парадзіхі, несла кавалак палатна прымаць «маладзенца». У ваду пры першым купанні дзіцяці яго бацька клаў грошы для бабкі.

У адведкі хадзілі ўсе жанчыны разам у адзін дзень, неслі аладкі, халоднае, яечню, матэрыю на пялёнкі для нованароджанага.

Ксціны спраўлялі ў той дзень, як хрысцілі дзіця. За кумоў бралі «хто каму наравіцца». Баба варыла пшонную кашу ў гліняным гаршку, прыносіла ў хату да парадзіхі і хавала дзенебудзь у каморы. Пасля баба наймала двух ці трох рослых мужыкоў («міліцыю») сцерагчы сваю кашу. Яны бралі качаргу і ішлі ахоўваць кашу. Астатнія госці «чудзілі», спрабавалі кашу ўкрасці, тры разы ўносілі і ставілі на стол не сапраўдную кашу, а гаршчок з бульбай ці буракамі. Баба на гэта кожны раз гаварыла: «Гэта не мая каша, мая прасяная», а дзед (яе муж) дадаваў: «Я ўжо проса тоўк на кашу, не, не, гэта не наша каша». Нарэшце, як знойдуць кашу, адзін з мужыкоў («міліцыянераў») — самы дужы ўносіў бабу разам з кашай да стала. Баба ставіла яе на стол і прыгаворвала: «Я варыла кашу з лімонцамі, а Вы з чырвонцамі». Госці пачынаюць «набіваць»* кума, каб ён палажыў болей грошай на кашу. Кум аж «выпрастуецца», каб пакласці болей грошай, каб мець магчымасць біць кашу. Парадзіха давала бабе ў падарунак намётку, якую яна клала на галаву і, стоячы пасярод хаты, тры разы падскоквала і выказвала пажаданне дзіцяці: «Хай мая ўнучка (унук) вяліка расце і шчасліва будзе. Гоп!» Пасля гэтага пачыналі дзяліць кашу паміж гасцямі, якія клалі грошы на талерку. Тую жанчыну, што была ўкрала раней кашу, «міліцыя» арыштоўвала і гаварылі: «Яе арыставаць трэба, а не кашу ёй даваць, і не водку».

Спявалі хрэсьбінныя песні:

— Ой, кума, кума,
Добра гарэлка.
— Вып'ем, кумочак,
Мы з панядзелка.**

— Возьмем мы, кума,
Рублікаў сорак,

---

* Падбухторваць.

** Два апошнія радкі кожнага куплета паўтараюцца 2 разы.

— Вып'ем, кумочак,
Шчэ і ў аўторак.

— Прададзім, кума,
Тваю чарэду.
— Вып'ем, кумочак,
Шчэ і ў сярэду.

— Прададзім, кума,
Міскі ды ложкі.
— Вып'ем, кумочак,
У чацвер трошкі.

— Прададзім, кума,
Рабу цяліцу.
— Вып'ем, кумочак,
Шчэ і ў пятніцу.

— Не пойдзем, кума,
Мы на работу.
— Вып'ем, кумочак,
Шчэ і ў сыботу.

— Зрабілі ўсё мы,
Асталась кудзелю.
— Вып'ем, кумочак,
Шчэ і ў нядзелю.

Ад панядзелка
Да панядзелка,
Добрая з кумам
Была гарэлка.

Спявалі на ксцінах і сямейна-бытавыя песні:

Горя, горя мне з малойцам,*
Што ён дома не начуе,
Сваёй жонкі не пілнуе.

Сы вячера кудры чэша,*
Сы поўначы к дзеўкам ходзя,
На зорачку ў дом прыходзя.

Стучыць-гручыць у вaконца:*
— Адкрывай, мацi, вароты,
Падывай, сястра, вячерю.

Засцілай, шэльма, пасцелю.*
— Хадзі, міленькі, разую,
Хоць разочак пацалую.*

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

— Адыдзіся, нялюбая, бо ў мяне ёсць і другая,
Ой, яна ж мяне разуя,
Сколькі хочу, пацалуя.

Ой, другая — маладзенька*
І пасцель яе — бяленька.*

*в. Вараніно*

У канцы хрэсьбін бабу і кумоў падымалі «на ўра» на ўслончыку, за што апошнія давалі падарункі. Завяршаў ксціны абрад цягання бабы на баране (калясцы, санках). Бабу даставулялі да яе хаты і патрабавалі за гэта бутэльку гарэлкі.

Да года дзецям не стрыглі валасы і не абразалі ногці.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. МАЛЫЯ БОРТНІКІ БАБРУЙСКАГА РАЁНА МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Тоўстай нельга было на пажар глядзець — у дзіцяці будуць чырвоныя плямы на целе, праз вяроўку пераступаць — у дзіцяці пупавіна закруціцца; ката, свінню, сабаку варсаць** — дзіця будзе чухацца. Пры родах звалі бабку, яна несла пялёнкі, пояс. Пры першым купанні ў ваду клалі грошы.

У адведкі прыходзілі жанчыны, прыносілі падарункі для дзіцяці і булкі з белай пытляванай мукі, якія называліся «адведкі».

Хрысціны гулялі ў нядзелю, гадзін у 12 дня пачыналі. За кумоў бралі «хто каму панаравіцца». Бабка варыла кашу з розных круп, пазней купляла цукеркі. На хрысцінах спявалі хрэсьбінныя песні:

Наша бабка падпіла
І пад прыпечак лягла,
А мышы пашалелі
І бабе дырачку праелі.

Або:

Кум у кумы
Папрасіў чапялы.
Кума ножку падняла,
— Вот, кумочак, чапяла.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.
** Штурхаць нагой.

Або:

Штоб я знала, штоб я знала,
Хто ў мяне бабкаю будзе,
Пасадзіла б яе ў гародзе на градзе
Ды пахучаю мятаю.
Дожджык лее, сонца грэе,
Мая бабка маладзее.

Штоб я знала, штоб я знала,
Хто ў мяне кумою будзе,
Пасадзіла б яе ў гародзе на градзе
Ды пахучаю піжмай.
Дожджык лее, сонца грэе,
Мая кумка маладзее.

Штоб я знала, штоб я знала,
Хто ў мяне кумочкам будзе,
Пасадзіла б яго ў гародзе на градзе
Ды сіненькім васілёчкам.
Дожджык лее, сонца грэе,
Мой кумочак маладзее.

У канцы святкавання хрысцін бабка ставіла гаршчок з кашай на стол. Госці пачыналі таргавацца, каб купіць кашу: хто даваў 10 рублёў, хто 3, хто 5, хто 25, а кум — 50 рублёў і разбіваў гаршчок. Бабка разносіла кашу ўсім гасцям. Жанчыны клалі больш маладым ці бяздзетным таварышкам чарапкі ад гаршка на галаву і прыгаворвалі: «На табе чарапочак, каб і ў цябе праз год быў сыночак». Пад вечар бабу везлі на баране да магазіна, дзе яна на сабраныя грошы купляла гарэлку, зноў вярталіся да гаспадароў і пілі. На трэці дзень пасля хрышчэння дзіцяці спраўлялі «муравінкі». Бабка прыходзіла і купала дзіця, а пасля гэтай вадой, у якой было святое міро, пырскала на твары ўсіх прысутных у хаце. Ваду вылівалі ў такое месца, дзе ніхто не хадзіў.

Дзецям спявалі калыханкі:

Баю, баю, каточак,
Злізаў бабцы мядочак.
Сама бабка злізала,
Да на коціка сказала.

Або:

Пайшоў коцік пад мосцік,
Злавіў рыбку за хвосцік.

— Ці самому есці,
Ці дзіцяці несці?
І сам трошкі адкушу,
І дзіцяці прынясу.

Паміж кармленнем дзіцяці давалі суслу*.

Дзяцей стрыглі ў год, валасы спальвалі ў печы або на ваду пускалі, бо лічылася, калі дзіцячыя валосікі занясуць мышы ў норку ці птушкі гняздо саўюць, у яго будзе ўсё жыццё балець галава.

Калі дзіця пачынала хадзіць, яму «разразалі путы», г. зн. праводзілі па падлозе нажом або рукой паміж ног дзіцяці і прыгаворвалі: «Дай Божачка, у добры час». У выпадку, калі малое пыталася, адкуль яно з'явілася, старэйшыя тлумачылі наступным чынам: «Ляцела зязюля ды скінула»; «Унучачак, баба цябе ля вады знайшла». А зараз кажуць: «Ляцеў самалёт ды скінуў».

## ХРЭСЬБІНЫ Ў в. ВАРАТЫНЬ БАБРУЙСКАГА РАЁНА МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

З раніцы вязлі дзіцё хрысціць кум і кума. Для дзіцёнка ўсё купляла бабка. Напярэдадні вечарам бабка купала малое. Для гэтага ставілі стол пасярэдзіне, па вуглах клалі па кавалачку хлеба і солі. Бабка пакупае дзіця, спаўе яго і разам з кумамі абыходзяць стол тры разы, за кожным разам хрысцяцца. Як прыедуць з царквы, кум адразу аддае дзіця бабцы, а тая кладзе яго на караваць.

Госці пачынаюць збірацца на хрэсьбіны вечарам, толькі тыя, каго запрасілі. Бабка гатуе кашу, раней грэцкую ці прасяную, пазней рысавую. Для кашы яна купляе спецыяльна новы гліняны гаршчок на 1 ці 1,5 л. Гаршчок з кашай ўпрыгожваўся кветкамі, галінкамі дрэў — каліны, рабіны, вішні (для дзяўчынкі), клёна, дуба (для хлопчыка). Госці п'юць два разы — першы раз за дзіцёнка, другі раз — за бацькоў. Пасля гэтага бабка ўносіць сваю кашу і звяртаецца да гасцей з наступнымі прамовамі: «У маёй кашы з сямі палёў пшаніца, ад сямі кароў масліца. Я яе доўга сюды несла і на самалёці везла, і на параходзі, і на кані, і пешшу ішла аж 10 кіламетраў.

* Хлеб з цукрам ці мёдам, загорнуты і зашыты ў ільняную тканіну.

Нават чаравікі парвала». Госці крычаць: «Пакажы, бабка, нагу». Бабка паказвае босую нагу. Госці яшчэ мацней крычаць: «Вышэй пакажы нагу. Яшчэ вышэй!» А ў гэты час мужчыны, як іх тут называюць «рысакі», хочуць украсці ў бабкі кашу. Бабка і за імі сочыць, і нагу падымае, і з кумам дыялог вядзе: «Мая каша стоіць 10 тысяч. Давай, кум, плаці». Нехта з гасцей дастае 10 рублёў і аддае бабцы. Гэта пазор для кума. Тады ён павінен адкупіць кашу, для чаго дае бабцы 25 рублёў. Нарэшце каша ў кума, і ён заяўляе: «Я купіў кашу за 25 тысяч. Будзем біць?» Госці крычаць: «Бі кашу, паглядзім, што там унутры». Кум стукае ціхенька гаршчок аб вугал стала, адзін раз, другі раз. Разбівае гаршчок толькі за трэцім разам. Па сталу разлятаюцца чарапкі. У гэты час госці хапаюць чарапкі і кладуць іх кожны свайму суседу на галаву, пры гэтым прыгаворваюць: «На табе чарапочак, каб у цябе праз год быў сыночак». Тыя з гасцей, што маюць ужо па двое ці трое дзяцей, угінаюць галаву ў плечы, не хочуць ужо болей дзяцей. Тут госці пачынаюць бегаць адзін за адным, класці чарапкі на галаву, наробяць шуму і гвалту. Пасля ўціхаюць і садзяцца за стол піць трэці раз за бабіну кашу. Як вып'юць, кума пачынае дзяліць кашу, рэжа нажом і на талерцы падае кожнаму госцю па кавалачку. Госці ўзамен дораць грошы, сама болей дае дзед — муж хроснай бабкі (на апошніх хрэсьбінах, дзе я гуляла, дзед даў 50 рублёў). Песень спецыяльных на хрэсьбінах у нас не спявалі, а ўсялякія — і цяперашнія, і ракаведныя*.

У канцы хрэсьбін бабку цягалі на баране, а часта яшчэ і кумоў. Бабу ўпрыгожвалі пер'ямі, каснікамі, кветкамі, твар мазалі сажай, чырвонай фарбай, бураком націралі. Бабу цягнулі па вуліцы, усе госці крычалі, галёкалі, білі палкамі ў пустыя вёдры. Затым увальваліся ў магазін, бабка купляла гарэлку і аддавала гасцям. Пасля хрэсьбін гулялі яшчэ цэлы тыдзень па чарзе ў бабкі, у кума, у кумы.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў МСЦІСЛАЎСКІМ РАЁНЕ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную жанчыну тут звалі «тоўстая», «у палажэнні». Ёй забаранялася глядзець на пажар і асабліва датыкацца рукамі

* Даўнейшыя.

да свайго цела, бо ў дзіцяці ў адпаведным месцы будуць чырвоныя плямы; накідваць вяроўку на плечы, бо пры родах вакол шыі дзіцяці закруціцца пупавіна, і яно можа задыхнуцца; нельга было маніць, красці, бо і дзіця будзе манюкай і злодзеем; нельга на ганку або ў варотах доўга стаяць — будуць доўгія, цяжкія роды.

Да парадзіхі (радзіхі) звалі бабку, што дзяцей бабіць. Яна ішла са спецыяльным ручніком (радзільным палаценцам), з якім заўсёды хадзіла прынімаць роды. Пры цяжкіх родах радзісе на жывот клалі бутэльку з цёплай вадой. Пупавіну адразалі «на два пальцы ад жывата». Пасля таго як яна адвальвалася, пупувіну загортвалі ў чыстую палатняную тканіну, замотвалі ніткамі і клалі яе ў сундук, дзе захоўвалі на працягу трох гадоў. Па дасягненні трохгадовага ўзросту дзіцяці давалі гэты вузельчык з пупавінай развязаць, «каб развязаць яму розум». Паслед загортвалі ў чыстую палатняную тканіну і зарывалі ў кутку ў хаце.

Самы шчаслівы дзень для нараджэння хлопчыка лічыўся чацвер, для нараджэння дзяўчынкі — субота. Шчаслівымі лічыліся дзеці, якія нарадзіліся на каляндарныя святы — Вялікдзень, Сёмуху, Міколу і г. д. Сямімесячныя дзеці раней не выжывалі.

У хуткім часе жанчыны прыходзілі ў адведкі (адведзіны, даведкі). За кумоў бралі пераважна чужых людзей, «каго аблюбуюць». Калі папярэднія дзеці паміралі, да наступных бралі стрэчных кумоў. Калі нованароджаны быў хлопчык, бацька адразаў «крайчык»* хлеба, пасыпаў яго соллю, загортваў у ручнік, браў падпаху пад правую руку і ішоў на скрыжаванне дарог. Калі ж была дзяўчынка, бацька адразаў «скібку»** хлеба і, падклаўшы яе пад левую руку, ішоў туды ж. Сустрэўшы на дарозе мужчыну ці жанчыну, ён адламваў кавалак хлеба, даваў ім і казаў: «Я бяру цябе за хрёснага (хрёсную)». Звычайна ніхто не адмаўляўся.

Каб папярэдзіць смерць дзіцяці, калі ў сям'і папярэднія дзеці паміралі, для яго «з мёртвых знімалі імя», г. зн. давалі імя даўно памёршага продка.

Хрэсьбіны (ксціны) спраўлялі ў нядзелю. Кума брала ў царкву матэрыю («прокстак»), на якую клалі дзіця пасля

---

* Акраец.

** Адрэзаную па кругу.

хрышчэння. Бабка варыла прасяную кашу ў гліняным гаршчку. Госці імкнуліся ўкрасці кашу, а бабка яе «блюла»*. Пасля госці збіралі грошы на кашу, якія бабка разам з ручнікам аддавала радзісе. Радзіха ў сваю чаргу дарыла бабцы 4 м матэрыі, пасля чаго бабка танцавала і спявала прыпеўкі:

Ай, топну нагой
І прытопну другой,
Ах ты, мілый, дарагой,
Чаго ж ты любішся з другой?

Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў сад.
— Шчыплі, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі,
Каторыя горкі,
Кідай маёй жонке.

Гаварыла па любові
Не заплачу нікагда,
А ціпер слёзы ільюцца,
Як і з рэчачкі вада.

Пасля гэтых скокаў і прыпевак бабка вешала палатно на ікону. Радзіха таксама абменьвалася падарункамі і з кумам і кумой. У в. Сялец баба аддавала кашу куму са словамі: «Каша з канапелькамі, а ты, кумочак, з капейкамі». Ложаць на кашу капейкі, рублі, хто што, баба трохі аддасць парадзісе, а то — сабе пакіне. Акрамя кашы, бабка варыла курыцу цалікам, яе госці кралі, а замест яе ўносілі спачатку 2 разы жывую курыцу і прапаноўвалі дзеду** купіць яе, на што ён адказваў: «Гэта не маёй бабы курыца, не, не маёй. Мая рябенькая, за ету плаціць не буду». Баба плаціла грошы тым, хто ўкраў вараную курыцу, і яны яе ўносілі, павязаўшы на шыю банцік. Дзед казаў: «Во за ету заплачу і ўжо бабіну курачку з рук не выпушчу». Пасля гэтага курыцу дзялілі паміж усімі гасцямі, якія яе з'ядалі, і казалі: «Ой, смачная бабіна курыца, трэба ёй заплаціць». Збяруць грошы, з'ядуць, баба становіцца на калені і моліцца: «Госпадзі, падай маёй унучачцы яшчэ штук пяць унучкаў ці ўнучак, сколька ў гэтай хаце шчэлачак, каб столькі было дзевачак, а сколька сучкоў, каб столька было сынкоў». Як баба

---

* Ахоўвала.

** Мужу бабы-павітухі.

малілася, у гэты час хто-небудзь з гасцей падліваў пад яе ваду і казаў: «Ай, баба старая, апісялася», і ўсе на яе валіліся, а дзед абараняў: «Баба мне яшчэ трэба, ня трогайце яе, я за бабу гарой».

У в. Лар'янава баба несла на хрэсьбіны кашу, драчону (выпечку з белай мукі), курыцу (выпечаную з мукі), каўбасу і падарункі. Госці «маслілі кашу», г. зн. збіралі грошы для бабы. Радзіха давала ў падарунак бабе намётку, якую трэба было абавязкова «зарубляць» (піць гарэлку).

У в. Лютня баба несла кашу з пшонных круп і курыцу з мукі. Госці імкнуліся ўкрасці кашу і курыцу, уносілі спачатку жывую курыцу і прапаноўвалі купіць яе куму. Калі паміж гасцямі дзялілі курыцу, яны спачатку як бы не хацелі яе браць і гаварылі: «Ай, баба, голая твая курыца»; «Няўкусная, крывая, не хачу яе». Баба збірала грошы і падарункі ў фартух і аддавала іх парадзюхе*.

У в. Рубанаўка баба варыла кашу з пшанічных або прасяных круп у гліняным гаршку. Калі кум разбіваў гаршчок, баба прыгаворвала: «Сколькі будзе чарапочкаў, столькі будзе дзіцёначкаў». Пасля іх лічылі і па колькасці чарапкоў прадказвалі, колькі дзяцей будзе ў гэтай сям'і. Акрамя кашы, баба выпякала вырабы з мукі, якія называліся «курачкі», для кума і кумы — вялікую «курыцу» з «куранятамі». Парадзіха бабе і куме давала ў падарунак намёткі, якія яны вешалі на ікону, а самі скакалі на лаўках. Намёткі віселі 2 дні. Тут на хрэсьбінах былі разнастайныя гульні. Кума пераапраналася ў «цырульніка» і прапаноўвала ўсім гасцям пабрыць іх, за што тыя давалі ёй грошы, якія кума пасля аддавала парадзісе. Разыгрывалі і сцэнку «роды». Вось як гэта было: «Адна жанчына выконвала ролю парадзіхі, клала пад сукенку падушку, лажылася на лаўку і пачынала стагнаць. Бабка-павітуха падыходзіла да яе і пыталася: «Што з табой?» — «Ой, радзіць буду». Прыбягае другая жанчына, апранутая доктарам, шчупае жывот: «Паціша, паціша, скора будзя лёгка, яшчэ мінутачку пацярпіця». А парадзіха ўсё стогне. Тут і роды адбываюцца, на жывот кладуць ляльку, крычаць: «Дзіця, дзіця», яго спавіваюць у пялёнкі. Доктар кажа: «Усё, усё, радзіўся ў цябе сынок». Парадзіха супакоілася і ляжыць на койке. Усе яе віншуюць, потым яна ўстае».

---

* Парадзісе.

Госці спявалі «абы-якія» песні. Найбольш часта наступную:

Горачка мая, крутая,
Долечка мая, плахая,
Ніхто горачку не зрыець,
Ніхто горачку не змыець.
Горачку змыець вадзіца,
Долечку знімець сястрыца.

*в. Каробчына*

У в. Сялец спявалі хрэсьбінныя песні:

А ў Колі на дваре*
Паря коней у ремяне,
Пагуляй, мая бабачка, у мяне,
Пагуляй, Іванаўна, у мяне.

Парю коней запрягу,
Бабу двору завязу.
Пагуляй, мая бабачка, у мяне,
Пагуляй, Іванаўна, у мяне.

А ў Колі на дваре*
Паря коней у ремяне,
Пагуляй, мая кумачка, у мяне,
Пагуляй, Сямёнаўна, у мяне.

Парю коней запрягу,
Куму двору завязу,
Пагуляй, мая кумачка, у мяне,
Пагуляй, Сямёнаўна, у мяне.

А ў Колі на дваре*
Пара коней у ремяне,
Пагуляй, мой кумочак, у мяне,
Пагуляй, Іванавіч, у мяне.

Парю коней запрягу,
Кума двору завязу,
Пагуляй, мой кумочак, у мяне,
Пагуляй, Іванавіч, у мяне.

У в. Лар'янава спявалі прыпеўкі:

Ой, кум кумку
Пасадзіў у сумку,

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Сядзі, мая кумка,
Завязана сумка.

У в. Лютня на ксцінах спявалі наступную песню:

Ты, кума мыя,*
Ты, душа мыя,*
Ты прыйдзі ка мне,*
Пераксці дзіця*
Нараждзёнага,
Насаждзёнага.

Мы з табой, кума,*
Ды не знаемся.
Цераз тын жывём,*
Не вітаемся.

Между нас, кума,*
Працякла речка,
Працякла речка,
Речка быстрая.

А на той речке*
Селязень плывець,
Селязень плывець,
Селязенечка.

У в. Рубанаўка спявалі наступную песню:

Учора наша бабулечка
На радзінках была,*
Сёння наша бабулечка
Ды на ксцінкі прыйшла.

Пешша прыйшла*
Ды ня пешша пайду,*
Запрягі жа, мой унучак,
Ды дзвінаццаць коней,

Дзвінаццаць каней,*
Ды ўсё каренькія,*
Для мяне, для бабулечкі,
Усё для старэнькія*.

У канцы хрэсьбін госці цягалі бабу на баране, паклаўшы на яе спачатку дошку, а потым кажух, вывернуты поўсцю на-

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

верх. Барану цягалі тры разы ад хаты да брамы і зноў да хаты, пры гэтым прыгаворвалі разнастайныя добрыя пажаданні для нованароджанага: «каб шчасце было»; «каб здаровы быў, жаніўся»; «каб ціхі быў, спагадлівы» і г. д. Калі цягнулі першы раз, бабка сядзела на баране, а потым уставала і яе насілі стоячы.

У в. Сялец госці збіраліся назаўтра, бабу на санках ці калясцы вазілі ў магазін, па дарозе пяць разоў абураць, тады баба плаціць ім: купляе цукеркі, пячэнне, гарэлку на ўсе грошы, што ўчора ёй далі на кашу. Ідучы па вуліцы, госці спявалі, танцавалі, крычалі на ўсю вуліцу.

У в. Лютня бабу цягалі на баране, у якасці якой выступала лаўка ці зэдлік. У в. Рубанаўка твар бабы абавязкова вымазвалі сажай, садзілі на санкі ці ў каляску і з крыкам, галёканнем адвозілі дадому.

Да года дзіця не стрыглі, бо гэта лічылася грахом. «Первы волас здымалі» бабка і хросная маці дзіцяці, апошняя трымала яго на каленях, а бабка стрыгла, пачынаючы ад макушкі. Пры гэтым выказваліся пажаданні: «каб волас рос», «каб кудры завіваліся». Пры першым пастрыжэнні дзіцяці бабка і хросная маці прыносілі яму падарункі: для дзяўчынкі — па 2—3 м яркага квяцістага паркалю, для хлопчыка — па 2—3 м чорнага ці ў палоску. У гэты дзень бацькі ладзілі застолле.Калі ў дзіцяці пачыналі рэзацца першыя зубкі, патрэбна было адрэзаць шкурку ад сала і даць малому сассаць яе, тады, як лічылі, будуць расці крэпкія зубы.

Пры першым кроку «разразалі путы» і прыгаворвалі: «Хадзі роўненька, крэпенька, не валіся, будзь здаровы і шчаслівы».

Грудным малаком («цыцкой») кармілі дзіця да 1—2 гадоў, у прамежку паміж кармленнем давалі «соску» (хлеб з цукрам, загорнуты ў льняное палатно). Калі ў жанчыны не было груднога малака, дзіця кармілі кароўім малаком, разбаўленым вадой. Такіх дзяцей называлі «скусвеннікі», яны лічыліся разумнейшымі за тых, каго кармілі грудным малаком. Каб адвучыць дзіця «ад грудзей», жанчына клала туды воўну чорнага колеру або шчотку і казала малому: «Тут вова сядзіць, няльзя цыцу ссаць». Дзіця паплача-паплача ды супакоіцца.

Цяжарную жанчыну звалі «тоўстая». Ёй забаранялася ў час пажару хапацца за твар ці іншыя адкрытыя часткі цела, бо ў дзіцяці ў адпаведным месцы будуць чырвоныя плямы; з вядра піць ваду, бо дзіця будзе слюнявае; маніць, красці, бо дзіця будзе манюкай, злодзеем або касавокае.

Пры родах, якія адбываліся ў хаце на ложку, прыходзіла баба, каб «перабабіць дзіця»* . Пры цяжкіх родах баба з чапялой у руках вадзіла парадзіху 3 разы вакол стала і 3 разы паўтарала: «Памагі табе Гасподзь, апрастай цябе Гасподзь». Разрывала рукамі каўнер яе сарочкі. Пупавіну адразалі нажом: хлопчыку — на кнізе, штоб грамату знаў, а дзяўчынцы — на грабяні, штоб прала (в. Бяседавічы), і перавязвалі льняной ніткай. Першы раз купалі дзіця ў драўляных начоўках, ваду для купання грэлі, але ніколі не кіпяцілі. Пры першым купанні баба раўняла галоўку дзіцяці, правярала, ці не вывіхнуты ў яго ручкі і ножкі. У в. Бяседавічы твар нованароджанага бабка тры разы абмывала вадой з аўсом, каб яго «суроцы не бралі». Гэта называлася «зрабіць чэшчал». У ваду яна клала серабро, хлеба скарыначку і сыпала солі драбіначку. Дзяўчынку спавівала ў мужчынскую сарочку, каб яе любілі хлопцы, а хлопчыка — у жаночую, каб яго любілі дзеўкі. Пасля купання загортвала ў пялёнку, зробленую са старога бацькоўскага адзення. Малым дзецям, якія былі ў сям'і, пра з'яўленне брата ці сястры тлумачылі так: «Матка нашла ў канаплях» (в. Бяседавічы). На другі дзень пасля родаў і на працягу цэлага тыдня жанчыны хадзілі да парадзіхі ў адведкі («на радзіны»). Яны прыносілі з сабой матэрыю дзіцяці на пялёнкі, міску аладак, яешню, сырыя яйкі, тварог, масла. Калі ў гэты час у хату выпадкова заходзіў мужчына, з яго зрывалі шапку, выганялі, і пасля ў вёсцы доўга смяяліся, што «ён пуп аблізаў» (в. Ліпаўка). За кумоў бралі толькі чужых людзей, бо «кумаўство — любаўство». Лічылася ганьбай, калі пасля кум выпадкова сустракаў куму босую на вуліцы. Калі папярэднія дзеці паміралі, бралі «встречных кумоў». На хрэсьбіны прыходзілі толькі па запрашэнню. Бабка варыла кашу з пшонкі з да-

---

* Прыняць роды.

баўленнем малака і цукру ў «махотке»*. На стол сваю кашу бабка падавала на ручніку, пасля збірала шапкі ў мужчын, і яны павінны былі іх выкупіць, гэтыя грошы бабка аддавала парадзісе «на малага». Той з гасцей, хто болей пакладзе грошай, разбіваў гаршчок з кашай. Звычайна гэта быў кум, які разбіваў гаршчок за трэцім разам, прыгаворваючы: «Б'ю кашу за трэцім разам» (в. Ліпаўка). Жанчыны спявалі сямейна-бытавыя або любоўныя песні («абы-якія»), спецыяльных хрэсьбінных тут не было. Найбольш любімая песня, якую жанчыны спявалі на хрэсьбінах у гэтай вёсцы, была наступная:

Ды із-пад горкі, із-пад горкі
Вецер павявае,
А маці ў дочкі, а маці ў дочкі
Ды пра жызню пытае.
Да пытай, маці, да пытай, маці,
Ды ў серай гусяці.
А серы гусі, а серы гусі
Ды на моры начуюць,
Ды яны ж маё ўсё
Горачка чуюць.
Первае гора, а первае гора —
Ды свякруха ліхая,
А другое гора, а другое гора —
Ды дзяціна малая,
А трэцяе гора, а трэцяе гора —
Ды мой мілы раўнівы.
Сам ён едзе, сам ён едзе
Ды ў поле араці,
А мяне, маладу, а мяне, маладу
Валоў паганяці.
Валы ж мае, валы ж мае,
Валы палавыя,
А прайшлі ж мае, а прайшлі ж мае
Ды гады маладыя.

*в. Ліпаўка*

У в. Васілёўка спявалі вельмі цікавую старадаўнюю песню, з тэксту якой відаць, што тут калісьці існаваў абрад імянарачэння дзіцяці бабай-павітухай пры першым яго купанні:

Сама бабаю была,
Сама імя наклала
На Ванюшу й Васіля,

* Гліняны гаршчок.

На Дон-рэчку бросіла.
Ой ты, ціхенькі Дунай,
Вазьмі дзяцей, васпітай,
Васпітай маіх дзяцей
Да сямнаццаці ляцей.

У в. Бяседавічы на хрэсьбінах спявалі прыпеўкі:

Ой ты, кумачка мая,
Ты галубачка,
Мы паспім у клеці,
Ніхто не замецця.

У в. Бяседавічы несці гаршчок з кашай нанімалі мужчыну, і ён, спатыкнуўшыся знарок па дарозе два разы, за трэцім разам падносіў кашу і грошы парадзісе, якая сядзела разам з мужам каля люлькі, і частаваў іх. Пасля ён нёс кашу да стала і аддаваў куму, які разбіваў гаршчок за трэцім разам. Але перад гэтым кашу імкнуліся ўкрасці прысутныя жанчыны. У той час, калі разбівалі кашу, хто-небудзь з мужчын падносіў дзіця да стала. Пасля кашу дзялілі паміж усімі гасцямі, некаторыя з якіх адразу з'ядалі яе, некаторыя — загортвалі ў хусцінку і неслі дзецям дадому. Тут на хрэсьбінах, акрамя лірычных песень, спявалі каляндарна-абрадавыя: калі дзіця нарадзілася вясной — веснавыя, летам — летнія, восенню — восеньскія і г. д. Напрыклад, даведаўшыся, што я нарадзілася ў жніўні, інфарматарка Чыбусава М. Р. сказала, што ў іх вёсцы мне б праспявалі наступную «перадвосеньскую» песню:

Шчыбятала сінічачка,*
Усё на кусціку седзячы,**
Ды пад кусцічак гледзячы.
На кусточку ні лісточку,*
Пад кусцікам ні травіначкі.
А дзе ж маё лета дзелася,*
Лета, восень падскачыла.
Зялёная яварыначка,*
Што ты мала-невялічка.
А ці ў цябе явара многа?*
А ніводнага троднага,**
Ні яварочка плоднага.
А ты, красная дзевачка,*

* Радкі, пазначаныя адной зоркай, паўтараюцца 2 разы.
** Радкі, пазначаныя дзвюма зоркамі, паўтараюцца 3 разы.

А ці ў цябе бацек многа?
А ніводнага роднага,*
А парядачку нет воднага.

Вельмі любілі спяваць хрэсьбінныя прыпеўкі:

Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград,
Еш, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі,
Каторыя горкі.
Будуць маёй жонке.

Эх, кумка-кума,
Кума любленая,
Што ж у цябе рубашачка
Не падрубленая?
Буду кумку любіць
І рубашачку рубіць.

Эх, кума, не журысь,
Туды-сюды павярнісь,
Юбка зялёная,
Сама чарнабровая.

Сядзіць голуб на дубу,
Галубка на плеці.
Прыхадзі-ка ка мне, кум,
Паспім с табой у клеці.

Ой ты, кумачка мая,
Ты, галубачка мая,
Мы паспім у клеці,
Ніхто не замеціць.

На хрэсьбінах абавязкова прысутнічалі «цыганы» ці хто-небудзь з гасцей ці чужыя пераапраналіся, варажылі, танцавалі, спявалі прыпеўкі і адпраўлялі з хаты. Часта разам з «цыганамі», якія прыходзілі звычайна ў канцы святкавання, разыходзіліся і ўсе госці. На гэтым хрэсьбіны заканчваліся, на баране бабку тут не цягалі.

Да года дзіця нельга было стрыгчы, бо, лічылася, яно расці не будзе («няўрослае»). Калі стрыглі хлопчыка, валасы палілі ў печы, каб іх не падабралі птушкі і не занеслі ў гняздо, бо тады ў чалавека ўсё жыццё будзе балець галава. Калі стрыглі

* Радкі, пазначаныя адной зоркай, паўтараюцца 2 разы.

дзяўчынку, валасы кідалі на гной у хлеў, дзе стаяла карова, каб «косы раслі доўгія». Калі дзіця рабіла першы крок, яму хто-небудзь з дарослых «разразаў путы», г. зн. праводзіў рукой або нажом па падлозе паміж ножак дзіцяці, прыгаворваючы: «Во табе, сынок (дачушка), пута разрэзалі, цяпер ты пашоў (пашла)». Сачылі за з'яўленнем першага зуба, бо па ім, паводле народнага меркавання, можна было прадказаць лёс дзіцяці: калі зуб быў угары, лічылася, што дзіця хутка памрэ, калі ўнізе — будзе доўга жыць. Дачакаўшыся выпадзення першага зуба, яго кідалі на печ і прыгаворвалі: «Мышка, мышка, на табе прастэй, а дай залатэй».

## РАДЗІНЫ І ХРЫСЦІНЫ Ў в. ЗАБАЛАЦЦЕ РАГАЧОЎСКАГА ПАВЕТА МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ

У той дзень, як трэба хрысціць, рахуюцца мужык з жонкай, каго браць у кумы: ці з радні, ці каго чужога. Найболей з радні бяруць: ніхай, кажа, будзя сваё, родная! У кумы прося хто-небудзь старшый: ці свёкар ці свякруха, а калі німа іх, тагды мужык пойдзя. Возьмя з сабой хлеба акрайчык, пасыпля соллю, увойдзя ў хату:

— Здрастуй вам!

— Здароў!

— Прыміця маю хлеб-соль: жалаю вас узяць за кума, рабёначка ахрысціць!

— Хрысціць, дак хрысціць! Трэба іціць! Пайду! Калі хрэст будзя?

— А сягонні!

Тагды пойдзя звацъ куму, так жа сама, з хлебам-соллю. А калі яна бліжэй жыве, дак яе ўперад заве. Ну, калі сагласна, дак гавора: «Добра, пайду!» А калі ні сагласна, дак кажа:

— Шукай другой! Я ні пайду: дзіцёнак малый! А то скажа: «У хаці німа нікога, ненакага хату кінуць!»

Бяруць у кумы наболяй тых, што бралі к перваму дзяцёнку. Міняюць ніахвотна — калі памрэ ці калі пасварацца. Прыходзяць кумы ў той дзень, калі хрэсьбіны, к парадзісі і нясуць пірагі з жытняй мукі і соль. А кума і страву нясе: ці варава, ці крупнік, ці кашу. Яно жджэ там адно другога... Іх садзяць за стол, пачастуюць, гарэлкі дадуць да закускі — сала, хлеба, а ў пост — сялёдку, хлеба. Пакуль закусваюць, дак бабка пры-

бірая рабёнка, купая, надзявая мятлік*, абвяжа галоўку прыгалавешкам**. Пакупаўшы, трэба паціснуць за нос, каб прыгажэй быў. Кутаюць дзяцёнка ў мужчынскую рубаху і завязуюць у рукаў хлебіц і соль, і жыта, каб рабёнку нічога злога ні случылася.

Прыбраўшы дзяцёнка, бабка пупарэзная аддае яго куме, а сама аддвігая стол на сіродку хаты. Кум з кумою абойдуць тройчы вакруг стала і каждый раз моляцца пірад абразамі. З імі ўмесці моляцца ўсі, хто ёсць у хаці. Тагды кум з кумою ідуць ці едуць к бацюшку — кума на левый бок, кум на правый. Нясуць к бацюшку пляшку гарэлкі і кулідку хлеба. Ета ат хазяіна бяруць. У нас за хрэст ня плоціцца, а калі дзе плоцяць, дак ета ужэ кум плоця. Як выйдуць ат хрыста, дак рукаў у бацькоўскай рубахі развязуюць і хлеб і жыта кідаюць чыраз галаву назад.

Як прыйдуць дамоў да ўвойдуць у хату, дак кума гавора: «Як відзілі пад храстом, так дай Бог відаць пад вінцом!» Бабка бярэ ў яе дзіцёнка, пірахрысця: «Дай жа, Божа, каб вяліка расло, да здарова было, да шчасліва!» І нясе за полаг, парадзісе аддае.

А тым часам у хаці сабіраюцца госці, калі за храстом будуць хрысціны. Завуць гасцей хлопчыкі па-падваконню. Прызавуць якога хлапца, дадуць яму чарку гарэлкі і закусіць: «Бяжы, хлапчыня, па сялу, пазаві на хрысціны!» Ну, той і пабег. Падбяжыць пад вакно, пастукая і кажа: «Дабры вечар! Прасіў Апанас і Мар'я, і я прашу на хрысціны!», і пабег далей. І так аббяжыць усё сяло, калі ахвоту мая. А радню заве сам хазяін, хазяйка ніколі ня пойдзя.

Ну, калі хто хоча, дак і сабіраюцца. Бабы адзяюцца чысцей, нясуць хлеба па кавалку, хунты тры, чвэртку куска сала — з паўхунта, а калі сала ні нясе, дак бярэ зярняты — ці проса, ці каноплі, ці крупы якія-небудзь — і грэшныя, і яшныя. А мужыкі нясуць капейку, дзве.

Як прыйдуць у хату, паздароўкаюцца і аддадуць ета, што прынеслі, старусі ці дзяцям. А сама парадзіха ні бярэ. Як сабяруцца, іх садзяць за стол на лаўках, а калі ні памесцяцца, другій стол ставяць, услоны. Кум с кумою садзяцца на куце:

---

* Пялёнка з выразам пасярэдзіне, якую надзяваюць на дзіця пры хрышчэнні.

** Хустачкай.

кум на правый бок, кума — на левый, каля кума садзіцца бабка, каля іх радня, а после ўжэ чужыя...

Як сядуць, хазяін первую чарку сам вып'я: «Здароў будзьця, госці дарагія!» — «Пі на здароўя!» — тыя кажуць. Тагды падносяя гасцям па дзве чаркі. Напірод за ўсіх бабкі, тагды куму, куме, і так усім радам. Прымуць, кажуць: «Ну, ніхай жа наш хрэсьнік вілік расце, шчасліў будзя! — і выпіваюць...»

Парадзіха ляжыць каля дзяцёнка за полагам. Свая сям'я ні садзіцца за стол, а гатуюць, падносяць, чэсь даюць, як следуя быць.

Первая страва — боршч: ставяць па чашцы на каждый стол. Ці галодзін хто, ці ні галодзін, а чэсь прымі, і водку прымі, і стравы паспытай. А то скажуць: «Сердзіцца!» і «Злобу мысліць!»

Пасля баршча даюць прэсную страву: ці крупнік пшонный, грэцкій, ці яшный, ці лапшу... Тагды падаюць кашу грэцкую з салам, ці з алеем. І ўсё. Як паядзяць, баба кажа, каб падалі яе кашу, што яна зварыла дома. У нас вараць наболі грэцкую, з салам, а калі і з проса. Ёй падаюць гаршчок ладный, у паўвядра, а яна становя пасярод стала. «Ну, гаспада кумпанія, госці дарагія! Прасілі вас на хлеб, на соль, вот прашу і на бабіну кашу, прашу паклась па чырвонцу!» І закрывая кашу тарэлкай. Ну, тагды ўсе кладуць па два грошы ці па чатыры... У беднага наскідаюць так з грыянік, а ў багатага з палціннік. Тагды ета, што прыслугуя, сабярэ ето ўсё і атнясе за полаг к парадзісе: «Ета, — кажа, — табе на лебела сабралі!» Тая кажа: «Благадару ім, дзякую!»

А тым часам кум бярэ кашу, абкруціўшы гаршчок плацінкай якой-небудзь, падымя і аб стол ціхенька стук!

— Ой, баба, які гаршчок крэпкій у ганчара выбрала! Ніяк ні разбіць!

— Ну, кумок, у другій раз як пайду, дак ня буду браць такога крэпкага. Ужэ прыстаўлю дзіравый, абы кашу зварыць!

Тады кум б'е ціхенька гаршчок у другі раз.

— Ай, баба, ці ні зялезный твой гаршчок? Ніяк ні разаб'еш!

— Ну-тка бі, бі! Відна, кумок, мала еў!

Шуцяцца. За трэцім разам гаршчок разбіваецца. Калі ж б'юць кашу, тагды хто-небудзь ідзе на вуліцу і гукая:

— Дзеці, дзеці! Кашу бабіну б'юць! Бяжыця скарэй!

І іх сабярэцца поўна хата. Тады баба бярэ чарапочкі ад гаршка і кажа:

— На каго каша нахінецца, таму кварту гарэлкі купляць!

Той ёй кажа:

— А табе штонідзелі быць у етым дзелі!

Баба кладзе на чарапочкі кашу і раздае дзецям. Тыя тутака ж і ядзяць. А ўзрослыя бяруць і дамоў нясуць.

Тагды народ і дзеці разойдуцца, а бабку, і кумоў, і радню катораю частуюць. Тагды даюць па намётцы куму і куме, а бабцы паркалю. Кум кладзе на тарэлку пірог, кладзе рубь, п'е за здароўе кумы палагавыя і пасылая куме, а кума налівая яму і атсылая.

— Ну, ніхай жа наш хрэснічак вялік расце, шчасліў будзя! Аставайцясь жывы-здаровы! Прашчавайця!

І ідуць. А вышаўшы, крычаць гвалту: «На барану! На барану!» І садзяць яе на барану, ці на пірадок (ад калёс) і вязуць у каршму ці к жыдоўцы. Там бабка аткупаіцца квартаю гарэлкі.

На другій дзень бываюць пахрысціны. Бабку, кума і куму, радню якую пасадзяць. А чужых не ...

На трэцій дзень хадзяін ці хто з малых завуць бабку мур змываць. Ну, прыдзіш, пакупаіш, мур змыіш. Пачастуюць па змозі, чаркі дзве гарэлкі дадуць, закусіць што, ці сала, ці яешню.

На тым і канец. Скачы здароў, мой унучак!

## РАДЗІНЫ І ХРЫСЦІНЫ Ў в. ГАРАДЗЕЦ БЫХАЎСКАГА ПАВЕТА МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ

Да парадзіхі заве бабку ці муж, ці хто-небудзь са сваячак, але абавязкова жанчына, а не дзяўчына. Усе меры прымаюцца да таго, каб пра наступленне родаў ніхто не ведаў, асабліва дзяўчаты. Калі ж па няведанню дзяўчына выпадкова зойдзе ў гэты час у хату, яна павінна тут жа расплесці касу, набраць у рот вады і даць яе з рота ў рот парадзісе. Інакш роды будуць вельмі цяжкія, і ўсе будуць лічыць дзяўчыну вінаватай у гэтым.

У бабкі ідуць такія жанчыны, у якіх ужо не бывае дзяцей... Ідучы да парадзіхі, бабка моліцца Богу і просіць у яго дапамогі: «Стань, Госпадзі, на помач, а Божая Маці на раду!» У хату парадзіхі яна прыносіць пірог ці хоць кавалак хлеба.

Харошая бабка лічыць патрэбным даць парадзісе выпіць вады, злітай з усіх чатырох вуглоў стала, ці з абодвух бакоў

пячной засланкі, ці, нарэшце, з іконы. Гэта вада вельмі часта аблягчае роды і выклікае частыя патугі.

Прыняўшы дзіця і перабабіўшы яго, г. зн. перавязаўшы і адрэзаўшы пупок, бабка-пупарэзніца купае дзіця. Маці павінна тут жа даць ёй за гэта некалькі капеек, каб дзіця было багатае. Паслед бабка загортвае ў чыстую анучку, затым у бярозавую кару або лыка і закопвае ў зямлю. Выкапаўшы ямку, бабка перахрысціцца, адаб'е зямны паклон, пакладзе ў ямку тры трэскі, калі нарадзіўся хлопчык, на іх паслед і засыпае ямку. Затым шчыльна ўтоптвае гэта месца, зноў моліцца, атаб'е тры зямныя паклоны і ідзе дадому.

Дома яна гатуе стравы для парадзіхі, часцей за ўсё бліны, і прыносіць ёй.

Нованароджанага бабка ці шаптуха загаворваюць ад грыжы, для чаго кладуць яго дзе-небудзь перад сучком у бярвяне ці ў дошцы. Парадзісе таксама даюць загавораную ваду «ад залатніка».

## РАДЗІНЫ І ХРЫСЦІНЫ Ў с. ОСЛЯНКА МСЦІСЛАЎСКАГА ПАВЕТА МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ

Калі жанчына адчуе набліжэнне родаў, то ўсяляк стараецца, каб пра гэта ніхто не ведаў, акрамя самых блізкіх людзей — мужа і свякрухі. Калі на сядзібе ёсць іншая хата, то жанчына ідзе туды, а калі няма, то просіць ціхенька мужа ці свякруху выслаць з хаты усіх лішніх людзей... Робіцца гэта дзеля таго, каб ніхто не ведаў пра наступленне родаў, бо ёсць такія людзі, якія могуць пашкодзіць парадзісе не толькі дурным вокам ці словам, але і думкамі. Калі ўсе разыдуцца з хаты, тады муж парадзіхі ці свякруха адразаюць акраец хлеба, пасыпаюць соллю і з ім накіроўваюцца да даўно прыкмечанай, паважанай у вёсцы бабкі, якая славіцца ўменнем прымаць дзяцей і называецца бабкай-павітухай. Прыйшоўшы туды, муж ці свякруха аддаюць бабцы хлеб-соль і гавораць ёй на вуха шэптам: «Хадзі, бабулічка, к нам, нешто нашэй маладусі ня дужа ладно дзелаецца!» Бабка тут жа накіроўваецца ў гэту хату.

Увайшоўшы ў хату, яна адразу прымушае парадзіху сказаць: «Отчэ наш» і сама таксама моліцца. Затым, узяўшы хрышчэнскай вады, якая ў сялян захоўваецца на працягу года «на ўсялякі выпадак», акрапляе ёю парадзіху і ўжо пасля гэтага

здымае з сябе верхняе адзенне. Муж выходзіць, парадзіха распускае ўсе паясы і абавязкова расшпіляе каўнер сарочкі. Гэта ж робіць бабка і жанчыны, якія зрэдку застаюцца дапамагаць бабцы. Нават самым малым дзецям, якія знаходзяцца ў калысцы, расшпіляюць каўняры і развязваюць паясы.

Робіцца гэта з мэтаю аблегчыць пакуты парадзіхі. Калі ж роды замаруджваюцца, тады бабка прымушае парадзіху хадзіць па хаце, стукаючы нагамі аб падлогу, тры разы пераскочыць праз ганак, ставіць на драўляную калодку, на якой колюць лучыну, і прымушае адтуль саскочыць. Прымяняюцца і іншыя сродкі, каб «апрастаць маладзіцу-парадзіху», напрыклад выносяць усе вяроўкі з хаты, адчыняюць дзверы ў хаце, адчыняюць пячныя юшкі, просяць святара адчыніць у царкве Царскія вароты і г. д. Нарэшце, прымушаюць парадзіху насіць цяжкія прадметы, сціскаюць ёй жывот і г. д.

Пры цяжкіх родах парадзісе даюць таксама кавалачак пасвяцонай просфары ці артоса, акрамя таго, завуць шаптуху, і яна дапамагае парадзісе замовамі. За акушэркай пасылаюць мужа толькі ў самых цяжкіх выпадках.

Калі роды закончацца, бабка кладзе дзіця пры маці, накрывае лёгкім пакрывалам, а сама спяшаецца дадому прыгатаваць ежу «пакрапіцца парадзісе». Вярнуўшыся з ежай, яна прымушае парадзіху есці: «На-тка, мая ўнучачка, з'еш, пакряпіся трохі!..»

На другі дзень бабка кажа выпаліць лазню для парадзіхі, сама вядзе яе туды, сама мые і прыводзіць назад у хату. Наогул, з дня родаў бабка кожны дзень наведвае парадзіху, усяляк клапоціцца, каб ёй было зручна, купае дзіця і прыносіць парадзісе паесці.

... Бацькі дзіцяці доўга раяцца паміж сабой, каго «браць у кумы», і калі спыняюцца на кім-небудзь, бацька дзіцяці бярэ дзве вязкі абаранкаў і ідзе «зваць у кумы». Прыйшоўшы да будучага кума і аддаючы яму вязку абаранкаў, бацька гаворыць: «Радзіны ад мяне прымі, а ў кумы ка мне хадзі!» Кум бярэ абаранкі і гаворыць: «Добра, прыду!», і дамаўляюцца, калі хрысціць. Такім чынам просіць бацька дзіцяці і куму. Адмоў, за выключэннем самых важных выпадкаў, ніколі не бывае, таму што «ад хрэста грэх адмаўляцца, трэба душу ў хрысціянскую веру ўвесці...»

Вярнуўшыся «з-пад храста», кумы перадаюць дзіця маці і віншуюць бацькоў. «Паздраўляем Вас, ахрысціўшы дзіцёнка!

Як відзелі мы яго пад хрястом, каб даў Бог так відзець яго і пад вянцом!» Затым аб'яўляюць імя нованароджанага, якое даў яму святар, і некалькі разоў нагадваюць, каб яны яго не забылі.

У гэты час гаспадар пасылае каго-небудзь прасіць суседзяў і сваякоў на хрысціны. Калі запрошаныя збяруцца, гаспадар запрашае кумоў, а потым і астатніх гасцей «к сталу прысесць, хлеба-солі з'есць!» Калі ўсе ўсядуцца, захоўваючы ступень сваяцтва і старшынства, гаспадар падносіць гарэлку куму і куме, і ўсім астатнім па парадку. П'юць за здароўе бацькоў і «наварожздзенца»: «Дай жа, Божа, на жыццё, на быццё, на добрая здароўя, на доўгі век!»

Першай стравай падаецца кулеш з пшанічнай ці грэчневай мукі з салам ці з алеем, гледзячы ў пост бываюць хрысціны ці ў мясаед. Пасля куляша падаецца боршч з квашанай капусты, з мясам ці з салам, гледзячы па дастатку, ці з рыбай і алеем.

Перад баршчом таксама падаецца гарэлка. «Капуста любіць, каб яе палівалі!» Затым падаюцца і астатнія стравы. У канцы абеда падае сваю крута звараную з грэчневых круп кашу бабка. Яна ставіць яе на стол у гаршку з такімі пажаданнямі: «Дай жа, Божа, каб у етым домі было многа дзетык на палу, жырабятык с ціляткымі на двару, парасятык с ігняткымі на вару (у хляве) і ўсякыга дабра гэтыму двару!»

Гаршчок бабка перадае куму. Кум бярэ з яго тры лыжкі кашы і кладзе на талерку. Туды ж ставіцца і чарка з гарэлкай. Усё гэта кум падае парадзісе, кладучы на талерку і крыху грошай срэбраную манетай. Парадзіха дорыць яму кавалак палатна.

Вярнуўшыся за стол, кум зноў бярэ гаршчок у рукі і, паварочваючы яго, крычыць:

— Ай, гарача! Ай, гарача!

І пры гэтым як бы незнарок упускае гаршчок на стол так моцна, што ён разбіваецца. Бабка збірае чарапкі, а крута звараная каша стаіць і не развальваецца. Гэта лічыцца добрым знакам: нованароджаны будзе жыць у дастатку і доўга. Калі ж каша рассыплецца, то дзіця доўга не пажыве. Бабка кладзе тады на свае чарапкі па кавалку кашы і разам з гарэлкаю падносіць яе прысутным у такім парадку: спачатку бацькам дзіцяці, потым куму і куме, а ўжо затым іншым гасцям.

— На-тка, — гаворыць яна, — бабінай кашы! Паглядзім на рублікі вашы! Гарэлачку выпі, кашай заясі, тарэлачку пазалаці.

Запрошаны бярэ кашу, выпівае гарэлку і кладзе бабцы на яе чарапок некалькі капеек. Калі яна так надзеліць усіх кашай, тады госці ўстаюць з-за стала. Бабка налівае ў міску вады, пасыпае туды аўса і націірае ўсіх па твары гэтым мокрым аўсом, пачынаючы з парадзіхі, дзіцяці, бацькі яго і кумоў. Кожнаму яна гаворыць пры гэтым: «Дай жа, Божа, каб ты быў крэпак, як вада, багат, як зімля, вясёл, як пчыла, а красін, як вісна!»

Пасля гэтага бабка атрымлівае ад парадзіхі намётку, а ў прыгарадных мясцовасцях — паркаль на спадніцу. Намётку яна адразу надзявае на галаву, абкручваецца паркалем вакол і пачынае падскокваць сярод хаты ўверх, прыгаворваючы:

— Радзі, Божа, у маіх унучкаў жыта, пшаніцу і ўсялякую пашніцу. Дай, Божа, сколькі ў гэтай хаці сучкоў, каб у маіх унучкаў було дзіцючкоў, а сколькі дзірычык, каб столькі дзевычык!

Пабыўшы некаторы час, госці разыходзяцца.

На другі дзень бабка прыходзіць купаць дзіця, змываць «святый мур» (міро). З гэтай нагоды ўчарашнія госці зноў прыходзяць, і таксама п'юць і закусваюць, спяваюць дапасаваныя да гэтай падзеі песні. Гэта называецца «муравінкі гуляць». Муравінкамі і заканчваюцца хрэсьбіны.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў СТАРАДАРОЖСКІМ РАЁНЕ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарнай жанчыне нельга піхаць нагой свінню, бо дзіця будзе крахтаць, як свіння; нельга пераходзіць праз венік, бо будзе драцца цела ў дзіцяці; калі яна бярэ ваду ў калодзежы, нельга назад адліваць ваду, бо дзіця будзе адліваць. Адрыжка бывае такая ў дзіцяці, і яно адлівае. Нельга, каб хадзіў у яе між ног кот ці нават каля ног. Бо на дзіця тады нападае малочніца. Нельга што-небудзь рабіць на святы, там секчы, шыць і г. д. Калі цяжарная прыйдзе чаго-небудзь пазычыць, трэба абавязкова даць. «Еслі я не дам, у мяне ўсё паядуць крысы» (в. Аляксандраўка). Нельга красці, нічога браць і ў святы не рабіць, бо дзіця будзе красці. «Мая мама так казала: «Бярэменна еслі ходзіш, нічаво не бяры. Будуць тады дзеці красці ад цябе!» І не павідуй*, што бачыш, нічаво не хаці, а то

* Не завідуй, не будзь зайдрасным.

дзіця такое жаднае будзе». Пры пажары цяжарнай жанчыне нільзя ні за што брацца за сябе. А то будзе пятно аставацца... Асобенна, еслі спужацца, у рабёнка будзе пятно аставацца там, дзе дакранешся да сябе (в. Оршаль).

У адведкі прыходзяць звычайна ў нядзелю, як парадзіха прыедзе з бальніцы. Хто ідзе, бывала, наварыць ягад, бяруць каўбасу, аладак напякуць, на ягады пакладуць, яшчэ абаранкаў вясло. Іх садзяць за стол і частуюць.

Дзіця хрысцілі як хто калі, хто праз месяц, хто праз год хрысцяць. «Я сама радзіла ў сераду, а ў нядзелю павезлі хрысціць, а ў панядзелак ужо жаць пайшла пад Аляксандраўку. А цяперака, бачыце, па два месяцы, па тры не працуюць» (М. А. Жукавец, в. Шапчыцы). За кумоў бралі хто каму панравіцца. А бывая, што родных... там сяструшку, браценніка... такіх бралі.

Як везлі дзіця хрысціць? Прыйшлі кум з кумой у хату, і баба. Садзяць іх за стол, пачастуюць. І тады ўжо вылазіць кума, угортвае дзіця ў пялёначкі, надзявае яму рубашачкі. Тры разы абнясуць дзіця кругом стала. «Дай, Божа, добрую мінуту!» — ды і ўсё. А як прывязуць, уваходзяць і толькі вось гавораць: «Прынеслі Вам Івана там, ці Рамана, ці як. Наця Вам» (в. Шапчыцы).

На хрысціны неслі тое, што і ў адведкі. Ну, хто халоднае зварыць. У Мінску ж пляшку ў рукі ды й пайшоў, а тут жа трэба сумку накласці. Тут жа наварыла яна і ягад, і буракоў, і кашу. Баба варыла кашу. Селі за стол усе, пілі, гулялі, тады ўжэ кум гаворыць: «Давайце бабіну кашу». Тады ўжо баба, за сталом жа тожа сядзіць: «Прынясіце маю кашу». Гаршчок прыносяць, на стол платок рассцілаюць. Разаслала баба платок на гаршчок. Ну, і хто колькі пакладзе — хто руб, хто два, а кум ужо й сотню пакладзе, хто больш, таго каша. Дак за кума ж ужо ніхто больш не пакладзе. Усе кладуць, кладуць. Баба пытае: «Ну, шчэ кладзе хто? — ніхто не кладзе. А кум пакладзе йшчэ то хоць рубля пасля і за ету кашу — трах аб стол. Паб'е, і тады за тыя ўжэ чарапкі і кідаюць пад парог, каб ужэ пайшоў унучак ці ўнучка скоранька, як тыя чарапкі ляцяць... Кашу ж дзеляць, ужэ тады накладуць у міску на еты стол занясуць, на тэй стол. Па сталах раскладуць гэту кашу. Падзеляць кашу (в. Шапчыцы).

На хрысцінах спявалі радзінныя песні:

А ў нядзельку ж
Да й па раненьку
Прыйшоў Колечка
Да й па бабяньку.

Тая ж бабачка
Дагадалася,
Дагадаласа
Да й сабраласа.

Дагадалася ж
Да й сабраласа,
Да й адзін сапог
Да й бяз пояса.

Да й адзін сапог
Да й у ручаньку
А другі сапог
Да й на ножаньку.

А другі сапог
Да й на ножаньку,
Да й адведаці
Сваю ўнучаньку.

*в. Залужжа*

Або:

Вы, кумушкі, вы, галубушкі,
Падружкі мае,
Мае.
Вы куміцеся, вы любіцеся,
Любіце й мяне,
Мяне.
Як будзеця вянкі віць,
Завіця ж Вы мяне,
Вы мяне.
Як будзеця на Дунай пускаць,
Пусціця ж і мой,
І мой.
Да ўсе ж вянкі да паверх плывуць,
А мой жа патаў,
Патаў.
Да ўсе ж муж'я дадому йдуць,
А мой жа прапаў.

*в. Аляксандраўка*

На хрысцінах давалі падарункі бабе, куме і куму; бабе на сукенку мацер'ялу, куме — сукенку, а куму — рубашку.

Вазілі бабу на баране. «Бабу на баране за тоя возяць, што вот пілі, гулялі, здаецца ім, што йшчэ мала. Тады: «Давайця бабу на барану, а няхай гарэлку дае». Ета ж баба не захоча сесці на барану. Да тады паставіць літру, вып'юць. А на барану баба не сядзе. А калі і возяць, дак на санках, на калясках. Бабу вязуць у магазін, каб гарэлку брала» (в. Шапчыцы).

З першага дня дзецям спявалі калыханкі:

Баю, баю, дзеткі спаць,
Баба будзе калыхаць.
Люлі, люлі, люлі,
Пайшоў коцік у дулі.
Памарозіў лапкі,
Залез на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца.
Баю, баю, дзеткі спаць,
Баба будзе калыхаць.

Калі дзіця не спала, з ім гулялі:

Шлі кароўкі із дуброўкі,
Авечачка з поля,
Плача маці па дзіцяці,
Што горкая доля.

Чэк-чэк ладкі,
Пабіліся бабкі,
За якую прычыну,
За красную дзяўчыну.

Або другая забаўлянка:

Чэк-чэк ладкі,
Пякуцца аладкі,
Піражкі з алеем,
Есці не ўмеем.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ПЕТРЫШКІ МІНСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарную звалі «грубая». Ёй нельга было нікому зайздросціць, красці, нават яблыка чужога падымаць. Не глядзець на пажар, крычаць, плакаць там. Нельга хадзіць пазычаць, бо секануць на ганку — у дзіцяці губа будзе нібы рассечана.

Роды прымаць да парадзіхі звалі бабку, яна расплятала парадзісе косы, расшпіляла гузікі, вадзіла па хаце. Дзіцячае месца бабка загортвала ў кавалак тканіны і закопвала пад падлогай у хаце. Пры першым купанні ў ваду клалі срэбра, каб дзіця было чысценькае, ваду вылівалі на кут. Бабка прыходзіла купаць дзіця да таго часу, пакуль парадзіха не паправіцца. А як парадзіха ўстане, тады яна дае бабцы падарункі: матэрыю на кофту, на сукенку, булку хлеба і адпраўляе яе.

У адведкі прыходзілі два разы: адзін дзень родныя, другі — суседкі. Жанчыны прыносілі бліны, яешню, сала, каўбасы, матэрыю на адзенне дзіцяці.

За кумоў бралі і сваіх, і чужых. Стрэчных кумоў бралі, калі папярэднія дзеці паміралі. Бацька, маці з дзіцем выходзілі на вуліцу і ішлі або ехалі па ёй, і каго першага сустрэнуць, запрашаюць ехаць у царкву. Ніхто звычайна не адмаўляўся, бралі дзіця і ехалі ў царкву. Таксама, калі дзеці паміралі, за кумоў бралі маладых брата і сястру.

На хрэсьбіны бабка гатавала бабіну кашу з пярловых круп, туды дабаўляла яйкі, цукар, мёд і ставіла ў печ, каб каша «парылася». Спецыяльна для гэтага купляла новы гліняны гаршчок на 3 л. У гэтым гаршку бабка несла кашу на хрэсьбіны і ставіла яго ў каморы. Хрэсьбіны пачыналі гуляць у суботу вечарам, а ў нядзелю збіраліся зноў гадзін у 11—12 і працягвалі святкаванне. Спявалі шмат песень і хрэсьбінных, і «абы-якіх».

А кум куму*
У гародчык павёў,
А кум куме
Агурочкі давоў,
— Еш, кумачка,
Агурочкі мае,
Каб не балелі
Жываточкі твае.

Бабіну кашу дзялілі звычайна ў канцы хрэсьбін. Бабка перакладвала яе з гаршка ў гліняную міску (латушку) і падавала на стол. Побач ставілі талерку, накрытую хусткай, куды госці складвалі падарункі, а бабка давала кожнаму з іх па кавалачку кашы. У канцы сама бабка давала грошы «на дзіця». Кума,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

акрамя таго, давала падарунак парадзісе (звычайна матэрыю). А тая ў сваю чаргу давала падарункі куму, куме і бабцы. Бабка і кума, атрымаўшы падарункі, абгортваліся імі і тры разы падскоквалі, перакручваючыся на месцы зноў жа тры разы, стоячы пасярод хаты. Як падзеляць кашу, госці пачынаюць збірацца дадому, бо ўсе ведаюць гэты звычай, што «пасля кашы няма пашы». Найбольш актыўныя і дасціпныя з гасцей пачынаюць рыхтавацца, каб цягаць бабу на баране. Жанчыны спяваюць:

Запражыця*
Да дванаццаць сабак,
Завязіця
Нашу бабульку ў кабак,
Наша бабулька
Ды паязды любіць,
А яна ж нам
Гарэлачкі купіць.
Запражыця
Да дванаццаць валоў,
Адвязіця
Нашу бабульку дамоў.

Іншыя жанчыны ў гэты час упрыгожвалі («наражалі») бабку для паездкі і вымазвалі ёй твар і губы бураком, завязвалі хустку наадварот: канцамі спераду над ілбом. Калі на хрэсьбінах быў дзед (муж бабкі), яго таксама ўпрыгожвалі: твар вымазвалі сажай, прыклейвалі вусы з лёну або воўны. Вусы прыклейвалі тоўчанай варанай бульбай, якую варылі ў шкарлупе. Бабу і дзеда або адну бабу саджалі ў начоўкі і цягнулі на вуліцу з крыкам і смехам. Бралі пустыя вёдры, скавародкі і стукалі па іх качалкамі. Гэта была «музыка». Так цягнулі бабку да магазіна, дзе прымушалі яе купляць гарэлку і частаваць іх. На гэтым святкаванне хрэсьбін заканчвалася.

З першага дня дзіцяці спявалі калыханкі, каб яно добра спала:

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А што ж есці даці?
Далі курам грэчкі,
Каб неслі яечкі,
А куры грэчкі не ядуць
І яечак не нясуць.

Або:

А пеік, каток, пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток,
Ці самому есці,
Ці дзіцяці несці?
Я й сам разок укушу
І дзіцятку занясу.

Калі дзіця не спала, дарослыя або старэйшыя дзеці гулялі з ім, забаўлялі, робячы пры гэтым лёгкі масаж ступней ножак:

Кую-кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Дарожка крывая,
Кабылка храмая.

Або імітавалі рухі казы, якая хоча стукнуць рагамі, і шчыкаталі малое за жывот:

Ідзе каза рагатая,
Нясе дзіця пузатая,
Як ідзе — упадзе
І на рожкі паднясе.

У час выканання забаўлянкі гулялі з пальчыкамі дзіцяці:

— Чэ-чэ, сарока,
А дзе была?
— Далёка.
А ў пана на таку
Намалола на муку,
Дзецям кашку варыла,
На прыпечку студзіла,
Качаргою мяшала,
Усім дзеткам давала:
Я й гэтаму дала,
Я й гэтаму дала,
Я й гэтаму дала,
А гэтаму не дала,
І дубчыкам пацяла.
А ты й дроўцаў не насіў,
І ты кашкі не варыў.

Дзяцей стрыглі ў год, бацька стрыг, валасы затыркалі ў сцяну. Калі дзіця рабіла першы крок, яму сімвалічна разразалі путы: праводзілі рукой або нажом рыску на падлозе паміж ножак дзіцяці.

## ХРЭСЬБІНЫ Ў ВАЛОЖЫНСКІМ РАЁНЕ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

У нас, калі народзіцца дзіця, называюць гэта «хрэсьбіны». На хрэсьбіны завуць толькі парных: мужа і жонку. Яны нясуць падарункі дзіцяці. За кумоў бралі з радні ці лепшых сяброў. Ну і гуляюць хрэсьбіны. Спяваюць песні:

А кум куму
Пад кусточак вядзе,
А кум куме
Агурочак дае.

Або:

Кум з кумой дамаўляўся.
Сеяць лянок сабіраўся.

П р ы п е ў:*

А ён сеяў-засяваў,
Засяваючы, казаў:
— Ты, кума, ты, душа,
Ты кругом хараша,
А хто б табе засяваў,
Калі б не я.

Кум з кумой дамаўляўся,
Палоць лянок сабіраўся.

Кум з кумой дамаўляўся,
Рваць лянок сабіраўся.

Кум з кумой дамаўляўся,
Ткаць лянок сабіраўся.

*в. Сівіца*

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Або:

На вуліцы шум-шум,
Хто прыехаў? — Кум, кум.

П р ы п е ў:*

Гоп, чыкірда, кашавурда,
Чаму дрыкі, чырыкі,
Караінда, караінда,
Чапур-чапурайда.

Кум да кумы прыехаў,
Кума куму гарэхаў.

— Што ж прывёз ты ў сумцы?
— Чаравічкі кумцы.

А кум кумку абуваў,
Туды-сюды падглядаў.

— А, кумачка, што за звер?
Я ж баюся, каб не з'еў.

— Ці ж ты, кум, упіўся,
Ці ж ты ізбясіўся,
Ці ж ты ў лесе не бываў,
Ці ж ты выдры не відаў?

Гэта ж тая выдра,
Што на ночы відна,
Касматая, лахматая,
На дно вока зякратая**.

*в. Гарадзечына*

Потым «крыюць дзіця»***, а потым «крыюць бабку». Бабка ставіць булку хлеба на галаву, парадзіха кладзе наверх падарунак, і бабка з усім гэтым тры разы падскоквае па хаце і прыгаворвае: «Каб качаны віліся, каб унукі вяліся». Бабка ўсіх гасцей падымае, і яны танцуюць кружком. Пасля дзеляць бабіну кашу, як «пакрыюць» дзіця і бабку. Тады робяць «цыгана» і «цыганку» (мужчына апранаецца ў цыганку, а жанчына — у цыгана). Госці бяруць каляску ці санкі, прывязваюць да іх карыта, куды садзяць бабку, якую размалёўваюць

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
** Зякратая — сляпая.
*** Уручаюць падарункі.

сажай і бурачным сокам, на шыю вешаюць вянок цыбулі, у рукі даюць памяло і белы або чырвоны сцяг. Цыганы* бралі вёдры, качалкі, пілу і рабілі «здзельную», «свойскую» музыку, цягнулі бабку па вуліцы, спявалі, танцавалі, ігралі на «сваёй музыцы», і ўсіх, каго сустрэнуць («стрэчных і папярэчных»), частавалі гарэлкай. Спявалі часцей за ўсё наступную песню:

Ой, знаць, знаць,
Што хрысцінкі былі,
Ой, знаць, знаць,
Што гарэлку пілі:

Запражыця варанога каня,
Адвязіця маладога кума.
Запражыця залатую дугу,
Адвязіця маладую куму.

Запражыця да дванаццаць сабак,
Адвязіця да бабулю ў кабак.

Або:

Ой, кум да кумы
Баразнёнкай ішоў,
Ой, кум ды куме
Ды саломку нашоў,
Кума ножку падняла,
Вот табе і чапяла.

*в. Сівіца*

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. КЛІНОК ЧЭРВЕНЬСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Цяжарнай нельга было пераступаць цераз вяроўку, каб дзіця не было крывое, на пажар глядзець і рукамі за твар хапацца — будуць у дзіцяці барвовыя пятны на целе. Нельга ні за што на целе хватацца, калі ўбачыш воўка. Быў адзін такі выпадак у Волме (вёска за 4 км ад Клінка), і тады ў дзіцяці на тым месцы раслі сівыя валасы і быў плям. Нельга стаяць на парозе, бо будуць цяжкія роды, патугі схвацяць, а дзіця не раджаецца. Нельга красці, бо дзіця будзя злодзеем, нельга хлусіць, бо дзіця будзе хлусіць. Нельга стрыгчы валасы, а то

* Так у канцы хрэсьбін называлі ўсіх, хто цягнуў бабку па вуліцы.

ўкароціш дзіцяці розум. Нельга пераступаць праз сякеру, быць там, дзе сякуць дровы, бо ў дзіцяці будзе заячча губа. Як цяжарная пачуе, што смярдзіць, нельга нос затыкаць, бо ў дзіцяці будзе смярдзець з рота. Нельга хадзіць басяком па апілках — у дзіцяці будзе балець жывот. Не трэба было хадзіць пазычаць, бо ліхі чалавек кіне ўслед пясок або гліну, і дзіця будзе жыць у вялікай беднасці («будзе есці пясок і гліну»). Калі дзіця першы раз шавеліцца ў правым баку — будзе хлопец, у левым — дзеўка.

Раджаць цяжарная пераходзіла ад свякроўкі да маці і жыла ў маці пасля родаў нядзелю. У дзень родаў развязвалі вузлы. Адразалі пупавіну проста так, перавязвалі кужэльнай ніткай. Бабка Ганна Раманчык была ў сяле апошняй павітухай, хадзіла ўсім дапамагаць. Бабка давала рожаніцы піць ваду са сваіх рук і прыгаворвала: «Як вада лёгка сходзіць, каб так дзіця з цябе лёгка выйшла». Дзіцячае месца закопвалі ў стопцы. Бабцы пасля родаў палівалі на рукі хто-небудзь з жанчын, хто быў у хаце. Потым звалі бабку-пупарэзку, яна купала дзіця, спавівала. Гэта была хрышчоная бабка. У першую купель дзіцяці лажылі кавалак хлеба. Ваду пасля першага купання вылівалі пад печ. Закручвалі дзіця ў старую сарочку і спавівалі поясам. Як толькі родзіцца хлопчык, яго закручвалі ў андарак, каб дзеўкі любілі, а дзеўку — у мужчынскія штаны, каб хлопцы любілі.

Адсохшы пуп завязвалі ў белае палатно і засоўвалі пад «строп»*. Давалі дзіцяці развязаць гэты вузялок у гадоў пяць, бо калі яно «пуп развяжа, дак і розум развяжа».

Для маленькіх дзяцей рабілі калыбель-лубянку з кары ліпы. У калыбель не клалі нічога. Нячыстую сілу звалі «чорт», «урокі», «вохват».

У той жа дзень, як народзіцца дзіця, ідуць на радзіны ў любы час сутак. На радзіны неслі жанчыны хлеб, сала, каўбасу, палатно.

У кумы бралі хто з кім дружыць. Царква ў вёсцы была да 1938 года. Перад тым як ісці ў царкву, бабка-пупарэзка купала дзіця, спавівала і аддавала куме. Потым усе разам (кум, кума з дзіцем і бабка) абыходзілі вакол стала тры разы. У царкву кумы ішлі пяшком. Кум аддаваў бацюшку

---

* Траму.

хлеб, сала і грошы. Хлеб і сала закручвалі ў намёт і неслі падпахаю з правага боку.

На хрэсьбіны зваў бацька ў той жа дзень, як хрысцілі. Мужчыны, што прыходзілі, давалі рожаніцы грошы. Жанчыны неслі на хрэсьбіны аладкі, мачанку, хрушчыкі, сала. Бабка варыла кашу толькі з грэчкі. Гаршчок разбівалі, хто болей паложыць грошай; гэта кум найбольш рабіў, а то калі хто другі адкупіць, то яму будзе стыдна. Грошы госці кідалі ў платочак, які бабка клала на стале. Кашу па кусочку давалі кожнаму госцю, кашу неслі дамоў дзецям у платочку. На хрэсьбінах бабку садзілі на ўслон і гушкалі, за гэта яна павінна была купляць гарэлку. А калі не гушкалі, то цягалі на баране па вуліцы. Зімой возьмуць ды ў снег бабку ўкінуць.

Праз дзень пасля хрэсьбін бабка-пупарэзка ідзе мур змываць — купаць дзіця. Гэта жмуркі, сюды завуць адных жанчын.

Праз 9 нядзель маці і дзіця ідуць у царкву «ўводзіцца». Бацюшка хлопца нёс за Царскія вароты, дзеўку даносіў толькі да варот. Гэтыя 9 нядзель жанчыне нельга было жыць з мужам.

Як дзіця зробіць першы крок, трэба каму-небудзь з дарослых правесці нажом па падлозе паміж ног дзіцяці («разрэзаць путы»), каб дзіця скора і лёгка пайшло.

Дзіця стрыглі ў год — бацька або які-небудзь сваякмужчына. Валасы палілі ў печы, каб яны нідзе не валяліся, бо птушкі падымуць у гняздо, галава балець будзе. Гасцей у гэты дзень не збіралі.

Першы малочны зуб, што выпадаў, кідалі на печ ці пад печ, кажучы: «Мышка, мышка, на табе касцяны зуб, дай мне жалезны». І зараз так робяць.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ТУРЭЦ ЧЭРВЕНЬСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Бясплоднымі лічыліся тыя жанчыны, што родзяцца ў «межах» (калі квадры месяца мяняліся). Каб вылечыцца ад бясплоднасці, трэба было ў дзядоў дзяцей папрасіць або яшчэ, казалі бабы, дапамагае, калі вып'еш зародыш «курыных яек».

Калі жанчына зацяжарыла, яе пачынала муціць або каты пачынаюць к ёй лашчыцца. Канешне, хацелі ведаць, хто родзіцца, пагэтаму гадалі: калі першы раз таўкане дзіця ў пра-

вым баку, то будзе хлопец, у левым — дзеўка. Або глядзелі: калі ў цяжарнай шчокі чырвоныя, чыстае ліцо, ні ў каго не пытайся — будзе хлопец, а калі ліцо ў плямах — будзе дзеўка.

Калі ўжо бярэменная, то шмат чаго нельга рабіць: на пажар глядзець і хапацца за твар, бо будзе пляма ў тым месцы ў дзіцяці. Таксама ж калі сабакі спужаешся або заяц з-пад ног выскачыць, то нельга пужацца, бо будуць валасы расці ў дзіцяці ў тым месцы. На пакойніка нельга глядзець, вельмі гэта дрэнна для дзіцяці. Свіней нельга біць, калі ім есці даеш, бо, кажуць старыя, дзіця потым енчыцца будзе. Смяяцца з іншых нельга, есці шмат не трэба, бо цяжка ражаць будзе. Праз вяроўку пераступаць, праз аглоблю — пупавіна закруціцца, дзіця задыхнуцца можа. Пазычаць, кажуць, не вельмі добра, бо нехарошыя людзі кінуць гліну або пясок — дзіця ў беднасці жыць будзе. Калі бярэменная нешта садзіць — бульбу або буракі, агуркі — то ўраджай будзе вельмі добры.

Роды. Калі ўжо доўга мучаецца, то бабка валасы ёй распляце, у царкву ідуць, каб бацюшка Царскія вароты адчыніў. Пуп адразалі хлопцу на кнізе, на сякеры, дзяўчынцы на верацяне або грэбні, што лён часаць. Гэта бабка рабіла, ёй давалі грошы. А купала дзіця другая бабка, яна была хрышчонай, падаркі ўнукам насіла. Яна на хрэсьбінах кашу варыла.

Пуп завязвалі простай ніткай льняной, а як падсохне і адваліцца, тады хавалі яго на «бэльку» у хаце. Калі ўжо дзіця падрасце, гадоў мо да 3—5, тады даюць яму гэта разматаць, пуп развязаць, каб розум сабе развязаць.

Купала бабка першы раз, то грошы клала ў ваду, трошкі солі, а ваду потым вылівала пад печ, ці на дварэ, пад яблыню ці вішню, ці ў кутку ў хляве. Дзіцячае месца закопвалі каля ганка хаты. Назаўтра ці 3-і дзень ідуць ужо праведаць — на бабіны. Нясуць паесці яешню, спякуць нешта: ладкі, хрушчыкі, крупу якую возьмуць. Жанчын частаваў муж парадзіхі. А так мужчын не было на бабінах, сорамна ім хадзіць, усе потым смяюцца «пуп аблізаў».

У кумы бралі хто каго хацеў: і сваіх можна, і чужых. Калі дзеці паміралі, то бралі стрэчных кумоў. Гэта так рабілася. Бацька ідзе раніцай, дзе дарогі перасякаюцца, стаіць там, пакуль не сустрэне мужчыну і жанчыну, заве іх за кумоў. Амаль усе згаджаліся. У нядзельку едуць хрысціць, калі дзіця слабае, то хутчэй хрысцяць. Перад дарогай садзіліся, у дарогу бралі

соль, у рукаў закручвалі. Печ закрывалі засланкай. На хрэсьбіны мужчыны неслі грошы, гарэлку, жанчыны — ежу розную: ладкі, малако адтоплюванае* , сала кавалак. Бабка хрышчоная кашу варыла з пшана ў гліняным гаршку. Гаршок білі, кум біў. Госці смяюцца, бабка кажа: «Каб ты так цэпам біў добра». Па кавалку кашы ўсім гасцям. У канцы хрэсьбін бабку цягалі на баране, некаторыя госці пераапраналіся ў старое, ліцо намазвалі сажай і так па вуліцы цягаліся, крычалі, пелі. Дзеці прыбягуць на хрэсьбіны, і ім кашу дадуць.

На другі дзень ужо бабка ідзе на жмурынкі, дзіця купаць пасля хросту.

Як дзіця пачне хадзіць, хто-небудзь з дарослых возьме нож і правядзе па падлозе нажом паміж ножак дзіцяці — «путы» разразае, каб яно добра хадзіла. Як зубкі ў дзіцяці ішлі, то ў рот часныком хукалі. Як дзіця пачынала гаварыць, першае слова скажа «тата» — родзіцца наступны хлопец, скажа «мама» — родзіцца дзеўка. Стрыглі ў год, валасы палілі ў печы.

### ХРЭСЬБІНЫ Ў в. УЗЛЫ МЯДЗЕЛЬСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Спачатку прыходзілі ў адведзіны, а пасля на хрэсьбіны. Баба варыла бабіну кашу з любых круп, з маслам, салодкую. Як ставіла яе на стол, то гаварыла:

Бабуля к унучцы сабіралася,
Цэлую нядзелю гатавалася,
У панядзелак у млын ездзіла,
У аўторак з млына прывезла,
А ў сераду муку сеяла,
А ў чацвер цеста ўчыняла,
А ў пятніцу мясіла,
А ў суботу ў печ садзіла,
А ў нядзелю з печы выняла,
Ды да ўнучкі прыйшла,
Да ўнучкі прыйшла,
Піражок прынясла,
— А ўнучка, мая птушачка,
Мой піражок — сыр з маслам,
Каб расла здарова і шчасна.

---
* Тварог.

Тады госці збіраюць грошы дзіцяці «на зубок». Кум клаў болей за ўсіх грошай, каб разбіць гаршчок. Як пачыналі кашу дзяліць, якая-небудзь языкастая скажа: «Што за гаспадынька кашу варыла, Божа мой Божа, ды не пасаліла». А баба ёй скажа: «Насып солі на свой язык — будзе і салёная». Як грошы збіралі «на зубок», жадалі дзіцяці здароўя і шчасця: «Каб у вашага сыночка (дачушкі) былі чыстыя вочкі і моцныя зубочкі»; «Дару кніжку, каб вучыцца хацеў і лётчыкам паляцеў»; «Каб мая ўнучка не была беларучка, рана ўставала і добра працавала»; «Каб мой унучак здаровенькі падрастаў і бацьку з маткай шанаваў». Баба, надзяляючы кашай куму, казала да яе: «Пакаштуй кашы і кума, каб у гаспадароў дачка была не адна». Кум за сталом ухажваў за кумой, жартаваў, каб іх хрэснік быў вясёлы. Абнімаючы куму, кум гаварыў: «Хто кумы не цалаваў, той салодкага ня знаў». Тут хто-небудзь з гасцей апранаў кажух навыварат, звязваў рукавы над галавой, што нагадвала дзюбу, і гэты «бусел» падыходзіў да калыскі і клаў туды «другое дзіця» (ляльку) і казаў, звяртаючыся да бацькоў: «Калі будзеце прасіць, ды я іх (дзяцей) буду насіць, насіць і насіць».

У канцы хрэсьбін бабу цягалі на баране. Баба адзявала кажух абавязкова і трымала ў руках чырвоную стужку. На галаву ёй завязвалі некалькі хустак, размалёўвалі шчокі, бровы, праз плячо вешалі торбу і везлі бабу «тапіць». За ёй ішлі ражаныя: і мужчыны, пераапранутыя ў жанчын, і наадварот, доктар, дружыннік. Хто-небудзь надзяваў на галаву рэшата. Жанчыны пачыналі спяваць:

Запрагайце, закладайце,
Ды дванаццаць сабак,
Адвязіце, адвязіце
Ды бабулю ў кабак.

На хрэсьбінах не было музыкантаў: ігралі ў заслонку, у каструлю, на качалцы. Баба, каб яе не ўтапілі, адкуплялася гарэлкай.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў НЯСВІЖСКІМ РАЁНЕ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Маладым на вяселлі дарылі ляльку ў маленькай калубелі, каб хутчэй дзеці былі.

Калі цяжарная шкадавала забітага зайца, то ў дзіцяці магла быць касматая скура. Цяжарнай нельга спяшацца пры размове — дзіця будзе заікацца, сядзець на камені — у дзіцяці не будуць расці валасы (в. Вялікая Быхаўшчына). У прысутнасці цяжарнай нельга было калоць дровы, а ёй самой пераступаць праз сякеру, бо ў дзіцяці будзе «заячча губа»; нельга есці мяса забітай ці пакалечанай птушкі, бо ў дзіцяці будуць сударгі; цяжарнай нельга на пажар глядзець — «плямка» будзе ў дзіцяці; маніць нельга; калі што дзе-небудзь смярдзіць, ёй нельга пляваць — у дзіцяці з рота смярдзець будзе; нельга праз вяроўку пераступаць — цяжка ражаць; нельга глядзець на ўродлівых людзей; як кладуць мярцвяца, як яго нясуць па сялу, цяжарнай нельга спаць і маленькім дзецям таксама нельга спаць, іх будзілі, а пад падушку трэба нож пакласці (в. Ужанка). Калі жанчына не магла зацяжарыць, то піла лекавыя травы, прасіла нябожчыкаў паслаць ёй дзіця.

Калі ў цяжарнай шчокі чырвоныя —будзе хлопец, твар у плямах — дзеўка, першы раз шавеліцца ў правым баку — хлопец, у левым — дзеўка. Нельга пазычаць хадзіць цяжарнай, а то кінуць пясок — дзіця будзе ў беднасці жыць. Хацелі хлопцаў, як хлопец, то рады ўсе, а дзяўчаты шануюць бацькоў.

Раджалі ў хаце на саломе, муж зваў бабушку. Тая адразала пупавіну на кнізе, вузлы на радзільніцы развязвала, замкі адкрывала, з ганка застаўляла спрыгваць. Бабушка купала тры разы і яду насіла: баранкаў напарыць у малацэ ў гаршку, яшчэ кашу зварыць. Інфарматарка С. Г. Ціхон расказвала: «Я сама радзіла пяцера і ўсё дома. Ідуць на одвяды к паражніцы праз тры дні. У пост нясуць сялёдку, кашу, мёд, баранкі. Скаромнага не ела, а есці хочацца, агуркі з’ела» (в. Міцькавічы). Хто ў одвяды не прыдзе, каму «паложана», то кажуць: «пашкадавала падарунка прынесці», абгаворваюць між сабой, а ішлі, бач, суседкі, свае, ну яшчэ прыяцелькі.

Хрысцяць, тады і хрысціны (радзіны) гуляюць. С. Г. Ціхон расказвала: «Самасейцаў* лепей хацелі хрысціць, бо кумам удача. Было ў нас самасейца гэтага прывезлі хрысціць, а людзі кажуць: «Крапіўніка прывязлі хрысціць». Ёй як анучай па вачах. Ня нада так абзываць» (в. Міцькавічы).

* Незаконнанароджаных.

Бабіна каша ячменная з абаранкамі ў гаршку, гаршка не білі, так па лыжцы ў платочкі раздасць, мужчыны капейкі ў талерку скідвалі, рэдка і жанчыны. Госці жадалі дзіцяці шчасця і здароўя: «Няхай нашаму дзіцятку мір, шчасце, доля ў хатку»; «Няхай яму столькі год пражыць, колькі ў маёй чарачцы кропелек дрыжыць»; «Быць яму крэпкім, моцнае здароўе мець і ніколі нічым не хварэць». Паражніца давала падарункі бабушке, куму і куме. Дзіця пад сталом перадавалі, каб урокаў не баялася. У канцы хрысцін бабка мыла ўсіх гасцей вадой з аўсом і выцірала ручніком. А так п'юць, гуляюць, песенкі спяваюць:

Кум з кумою заляцаўся,
Сеяць каноплі абяшчаўся.
Ён сеяў-пасяваў,
Пасяваючы, казаў:

Прыпеў*:

Што кума, той душа,
Кумка кругом хараша.

Кум з кумою заляцаўся,
Рваць каноплі абяцаўся.
Ён рваў-прырываў,
Прырываючы, казаў:

Кум з кумою заляцаўся,
Слаць каноплі абяцаўся.
Ён слаў-прысцілаў,
Прысцілаючы, казаў:

Кум з кумою заляцаўся,
Прасці каноплі абяцаўся.
Ён праў-прыпрадаў,
Прыпрадаючы, казаў:

*в. Міцькавічы*

Кашка з маслам,
А я не хачу.
Ешце госці,
Бо я не люблю.

П р ы п е ў*:

Ён за мною ходзіць-ходзіць
Усё мяне просіць-просіць,
Не знаю чаго.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Ой, пайду ж я па цыбулю,
А ён кажа пацалую.

Ой, пайду я па часнок,
А ён кажа на часок.

Ой, пайду я па мякіну,
А ён кажа перакіну.

Ой, пайду я па пятрушку,
А ён кажа — падай падушку.

*в. Міцькавічы*

Кацярынка-бабка
У нашым сяле навізна:
Маладая дзяўчына
Сына радзіла.
Кацярынка-бабка
Кашу варыла,
Кашу варыла,
Унучку карміла.

*в. Міцькавічы*

Назаўтра збяруцца бабу цягаць на калясках, зімой на санках. Надзенуць ёй капялюш, пер'я ўставяць, па вуліцы ідуць, крык, смех, качалкай у вядро стукаюць. Калі ўжо тая бабка старая і не згаджаецца, то другую прыбяруць, маладзейшую (в. Вялікая Быхаўшчына).

Стрыглі ў год маці, бацька ці бабка хросная. Як стрыглі, на стол дзіця садзілі, пад яго соль у мяшочку, капейкі клалі, дзяўчынцы — ніткі, хлопцу — нож утырквалі збоку, абвязвалі чырвонай ніткай. Валасы палілі ў печы.

## РАДЗІНЫ Ў в. ЗААЗЕР'Е ЛАГОЙСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Калі нараджалася дзіця, места яго закопвалі пад парог, каб людзі таптaлі, каб ад жаніхоў адбою не было. А для дзіцяці варылі з рамонак піццё. Пакуль у мацеры паявіцца малако, давалі дзіцяці піць піццё з рамонак — 3 разікі па маленькай лыжачцы, каб жалудачак ачышчаўся. Дзіця купалі ў начовачках, клалі ў начовачкі золата: ці кальцо, ці серьгі, абязацельна рубль (мядзяк), каб храніўся мядзяк на ўсё жыццё. У начоўкі клалі ўсякія травы: мяту, рамонкі, чабарок, пералёт. Бабка

купае тры разы, на адведкі прыходзя. Як прыйдзе, так і купае дзіця.

Вадзічку, што дзіця купалі, вылівае дзе-небудзь пад плот, каб ніхто не таптаў, каб, барані Бог, дзіця слёзы не пралівала. Бабка, як ідзе першы раз у адведкі, нясе ленту, пялёнкі, пояс тканы.

— А пялёнкі якія?

— Кужалю на пялёнкі.

А каб дзіця не прэла, ножыкам кужалёк уздзярэш акуратненька, паскрабеш, ватка такая, перасыпем ножкі — сухое дзіця. Бабка ўсюды на першым месцы. Кумой прыглашаюць быць толькі не бярэменную. А калі дужа трэба, каб гэта жанчына была кумой, то калі дзіцятка хрысцяць, яна павінна дзяржаць дзіцятка паверх свайго жывата. Толькі не на гэта дзіця, а то памрэ, ці тое, ці тое дзіцятка, ой, помнілі — толькі паверх жывата дзяржаць.

## РАДЗІННАЯ АБРАДНАСЦЬ У в. ЖУРАВЫ КРУПСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Бегалі за бабкай, калі радзіць жанчына далжна. Бабка тады і купаіць дзіця. А як адкажацца другі раз ад бабства, другая прыходзіць, але яна ўсё раўно сядзіць і падказваіць.

Як хрэсьбіны былі, тады давалі падаркі, мацерыю давалі. Калі багаты, то дарагую, а хто бяднейшы, той сіцец дарыў. Пяклі ладкі, кілбасы, кашу, кусок сала давалі бабцы, булачкі пяклі. І з гэтымі падаркамі давалі. А кума за сталом булачку кожнаму дасць укусіць, каб дзіця быстрэй загаварыла. Чынёнікі, рулет дзелалі з мяса. Матка, бацька ці кума імя выбіралі. Прыводзілі бацюшку, а ён гаварыў, к якому празніку бліжэй радзіўся, такое і імя.

Калі жывот у жанчыны круглы быў, то дзяўчынка будзе, а як пляскаты, то малец. Як дзевак насілі, то дужа ташніла. Калі цяжка было работаць, то трэба было гарэлкі нашча выпіць. Як сабака ці жывёла якая навязана, нільзя цераз вяроўку пераступаць, а то дзіцёнак будзе каля шыі і пад пахай пупавінай абматаны. Шыць нільзя, а то калені будуць ззаду, а ікры — упераддзе. Адна шыла, дык цялёнак з дзвюма галовамі радзіўся, а ў другой — з чатырмя вухамі. Нільзя нічога прыбіваць, то ў дзіця будзе вуха падбітае, як шапка надутая. Вот гэта і саблю-

далі. На хрэсьбінах хросных на вазу, людзі запрэгшысь, дадому па вуліцы з песнямі вязлі.

## ХРЭСЬБІНЫ Ў в. ВАСІЛЁЎШЧЫНА ДЗЯРЖЫНСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Хрысцілі зусім маленькімі ад тыдня да некалькіх тыдняў. Лажылі дзіця на падушку, апраналі ці ўкручвалі ў адзёжкі, што дарыла кума. Кум у той час рыхтаваў коней: надзяваў на іх шаргуны (кальцо, а на ім званочкі, якія гучаць кожны пасвойму), упрыгожвалі павозку, а зверху на яе надзявалі курачнік таксама ўпрыгожаны, размалёваны, збруя была ўпрыгожана ў зялёныя або чырвоныя палоскі ці якія іншыя ўзоры. Да цяперашняга часу недзе ёсць у іх такая павозка, але ўжо абшарпаная.

Калі прыязджалі дамоў, іх віталі. Потым гатавалі бабіну кашу, а саму бабу (баба-павітуха) гушкалі, вазілі ў начоўках па вёсцы, скатвалі з горкі, баба ж моцна стукала ды грукала, каб усе чулі яе. Потым тым, хто вазіў яе, баба давала бутэльку гарэлкі.

А яшчэ ў час хрэсьбін хтосьці з гасцей скручваў з анучак ляльку ды даваў яе маладым або бяздзетным маці, каб у іх не зводзіліся дзеці.

## НАРАДЖЭННЕ ДЗІЦЯЦІ І ХРЭСЬБІНЫ Ў в. ПРЫСЫНАК УЗДЗЕНСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Калі пачыналіся роды, звалі бабку-павітуху, якая каля парадзіхі клала вельмі спелы агурок (калі да яго дакрануцца, то праз адтуліну палезуць зярняты). Гэты агурок клалі для таго, каб парадзіха хутка і лёгка нарадзіла дзіця.

Калі дзіця народзіцца, то бабка-павітуха павінна пакупаць яго першы раз. Пры гэтым у ваду сыпалі зерне, медныя грошы і лілі пасвянцоную ваду. Калі дзіця купалі, то яму спявалі песні-зычэнні на добрую долю і багатае жыццё. Затым бабкапавітуха спавівала дзіця і клала яму пад коўдру два маленькія вузельчыкі: у адным — зубок часныку (каб ліха не прычапілася), у другім — соты з мёдам (каб жыццё дзіцяці было такім жа салодкім, як мёд).

Праз тыдзень дзіця хрысцілі. У царкву яго везлі кум з кумою. Перад тым як паехаць у царкву, кума адзявала дзіця ў

тое адзенне, якое яна купіла сама на свае грошы. Пасля хрышчэння дзіця везлі дадому, дзе яго сустракалі маці з бацькам. Лічылася, калі ў гэты момант маці першая возьме дзіця на рукі, то яно будзе больш адданае маці, калі бацька, то бацьку.

Затым садзіліся за стол, выпівалі і закусвалі. Пасля ўсіх прысутных мужчын «брылі» трэскай (гэта брытва) і трымалі заслонку (гэта люстэрка). Пры гэтым спявалі песню:

Цёплая, добрая баня была,
У ручачкі стукала,
Ножачкамі грукала,
Цёплая, добрая баня была.

За гэта мужчыны давалі бацькам дзіцяці грошы. Пасля гэтага грошы клалі ў ваду для купання дзіцяці і затым захоўвалі ўсё жыццё.

У канцы хрэсьбін бабку-павітуху садзілі ў ночвы і везлі праз усю вёску да яе хаты, дзе яна павінна была ўсіх пачаставаць гарэлкай.

Калі бабка жыла надта далёка ці па нейкіх іншых прычынах не магла пачаставаць гасцей гарэлкай, яны аблівалі яе вадой з калодзежа.

## ХРЭСЬБІНЫ Ў в. УНТАЛЬЯНКА БАРЫСАЎСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ АКРУГІ

### Нараджэнне дзіцяці

Нараджэнне на свет новага чалавека з'яўляецца вялікай урачыстасцю для кожнай сям'і. Гэтую ўрачыстасць селянін не можа абыйсці моўчкі, не адзначыць у сваім штодзённым жыцці. Бядняк, які праклінае ў душы з'яўленне на свет новага дзіцяці, залазіць ў даўгі, але хрэсьбіны ладзіць. Лічыцца за ганьбу, калі хто не справіць хрэсьбін. Ды і стары, дзядоўскі, рэлігійны ўклад не дазваляе селяніну не рыхтаваць хрэсьбін. Па яго (селяніна) думцы, дзяцёнак на свет з'яўляецца без душы: «Пара адна, а ня душа».

Душа ж з'яўляецца пасля «хросту» ў папа. Выходзіць, што хрэсьбіны як бы з'яўляюцца актам прыняцця дзіцяці ў члены сям'і, у паўнапраўныя члены грамадства, у якой ён да гэтага часу не лічыўся. Хрышчэнне — не пазней 2—3 тыдняў ад нараджэння. Хрэсьбіны адкладаюць на 1—2 месяцы.

## Запрашэнне на хрэсьбіны

«Прасіў татка і мамка і я прашу на хрэсьбіны», — заходзячы ў хату да суседа ці да радні, запрашае старэйшая дачка. У тым выпадку, калі няма такой, запрашаць пасылаюць пляменніцу, цётку ці якую іншую кабету з блізкай радні парадзіхі. Мужчынам гэту справу не давяраюць. Атрымаўшы такую позву, гаспадыня і гаспадар пачынаюць збірацца, бо запрашаюць звычайна перад самымі хрэсьбінамі.

Не прынята, каб моладзь хадзіла (хлопцы). Збіраючыся на хрэсьбіны, кожны лічыць сваім абавязкам нарыхтаваць і занесці парадзісе падарунак, амаль што заўсёды што-небудзь смачнае з ежы. Багацейшыя к гэтаму часу спякуць пірог з пшанічнай мукі альбо нанясуць розных перапечак, аладак, хворасту, намачаюць іх поўную міску ці латушку ў сала, смятану ці сухімі нясуць. Бяднейшыя ж проста бяруць паўбулкі хлеба, пасыпаюць зверху жменю солі. Апошняе лічыцца больш прынятым у вёсцы.

## У доме гаспадароў

У хаце парадзіхі к гэтаму часу ўсё падрыхтавана. Напечана, насмажана розных закусак: піражкоў, перапечак, ладак, бліноў, блінцоў, хворасту, асушак, якія пад рознымі прыправамі (у смятане, творагу, масле, сале, абсыпаныя цукрам, намочаныя ў сыце) падрыхтаваны да падачы на стол. Сухія перапечкі ляжаць у рэшаце. За заслонкай у печы стаіць наваранае і ў розных выглядах насмажанае мяса, сала, кілбасы. А гаспадар пастараўся нагнаць поўны бачонак самагонкі. Парадзіха, якая к гэтаму часу ўжо на нагах (вясковыя кабеты пасля родаў больш 2—3 дзён, тыдню ў пасцелі не ляжаць), наводзіць парадак у хаце. Ёй дапамагае ў гэтым бабка, якая тут знаходзіцца з самага ранку.

## Збор гасцей

Увайшоўшы ў хату, кожны госць аддае падарунак гаспадару, гаспадыні, або кладзе на стол ці на лаву супраць печы. Кабеты цалуюцца з парадзіхай, нягледзячы на тое, што яны

мо сёння сустракаліся не адзін раз, пытаюцца ў яе пра здароўе і збіраюцца ў кучу каля запечку (звычайна месца калыскі). Мужчыны — на лаўках.

## За сталом

Самае пачэснае месца на куту займае бабка (павітуха) і кумы. Бабка на хрэсьбінах мае вялікае значэнне. Каля кумоў даюць месца самым пачэсным гасцям, якім у адзнаку іх годнасці і пашаны да іх даюць відэльцы ці нож. Астатнія карыстаюцца («відэльцамі на пяць зубоў») рукамі.

Першую чарку налівае і выпівае гаспадар дому да бабулькі:

— Будзем жывы і здаровы, бабуля!

— Сахарам на душу, галубок!..

Даюць піць і малым дзецям ад 1/2 да 2 чарак. Потым пачынаюць спяваць песні (тут шмат песень запісана).

Да бабкі і кумоў больш, чым да іншых гасцей, насядаюць, каб пілі яны гарэлку. Хто ж з гасцей не хоча піць, яго не прымушаюць:

А хто п'ець — таму налівайце,
Хто ня п'ець — таму не давайце!

## Намёткі

Тым часам гаспадыня пачала рыхтаваць намёткі. На гэта зварочваецца ўвага песняй:

— Паглядзі, бабка, паглядзі, любка,
Што твая ўнучка робя:
А за полажкам, а за белькім,
Ды за тонінькім
Табе намётку кроя*.
Паглядзі, кумок, паглядзі, галубок (усё тое і пра куму).

На намётку скарыстоўваюцца кавалкі звычайнага сялянскага палатна (кужаль), якія бяруцца такой велічыні, каб кум з яе мог пашыць штаны, кума з бабкай — сарочку ці спадніцу. У больш багатых хатах намёткі бываюць з купленага палатна.

---

* Радок паўтараецца 2 разы.

Даецца на намёткі рушнік, абрус, хустка ці што іншае патрэбнае ў гаспадарцы (але абавязкова з тканіны). У намётку заварочваецца хлеб, спецыяльна для гэтага спечаны з рознымі малюнкамі (шклянак, чарак ці розных іншых цацак) па верхняй скарынцы. Намёткі бабе і кумам перадае сама парадзіха, якая пры гэтым з кожным цалуецца па 3 разы.

Атрыманыя намёткі бабка і кумы кладуць за сабой на лаву ці даручаюць іх каму-небудзь з сваіх хатніх, каб яны занеслі яе дадому. Калі ж нельга адразу перасылаць дадому, гаспадары намётак пільна сочаць за іх цэласцю, бо госці стараюцца намёткі ўкрасці. Пускаюцца на розныя хітрыкі і каб украсці і каб усцерагчы. Калі ж намётку ўкрадуць, сярод гасцей падымаецца рогат: усе рады, што ім удалося гэта зрабіць. Пачынаецца продаж украдзенага, таргі за яго. Пацярпеўшы «ў канпузе». Ён у адместку стараецца намётку ўкрасці, вырваць з рук прадаўца, але гэта рэдка яму ўдаецца, бо за ім сочаць і не даюць намётку ўсе госці. Калі ўжо ўсе падходы без карысці, тады ён намётку адкупляе гарэлкай. Пачынаецца торг, і госці запрашаюць больш, ён дае менш. Сходзяцца звычайна на палавіне ці на цэлай бутэльцы гарэлкі. А гэта толькі і патрэбна было гасцям. Распіўшы выкуп, хто-небудзь з гасцей ізноў стараецца «падсаседзіцца» да намётак, каб зноў яе адкрасці. Адкрадаюць толькі тканіну, не крантаючы хлеба. Бывае так, што адну намётку адкрадаюць па некалькі разоў і кожны раз бяруць за яе выкуп. Калі ж пацярпеўшы ўрэшце адмаўляецца ад намёткі (бывае рэдка), то яна, па сканчэнні хрэсьбін, перадаецца гаспадыні хаты (парадзісе). Але такія выпадкі бываюць вельмі рэдка, бо на такога скупога глядзяць скоса, а ў некаторых мясцовасцях (Крупскі р-н Аршанскай акругі) іх стараюцца не браць за кумоў.

Працэдура з намёткамі дадае гасцям шмат весялосці. Госці могуць выпіць лішнюю чарку за кошт выкупу. Цягнецца яна аж да канца хрэсьбін. Кабеты без перастанку пяюць песні.

У вясковай сям'і мужчына займае больш важнае месца, чым кабета. Ён — галава хаты, кіраўнік гаспадаркі. Нараджэнне хлопчыка ў хаце сустракаецца з большай прыемнасцю, чым дзяўчынкі. Сын — будучая падмога гаспадаркі, бацькоў. А дачка прыносіць адны турботы. Гэты погляд выказваецца ў песні:

А на ложку, а на беленькім
Парадзінуха ляжыць.

Захацела, зажадалася
Вішнёвага соку.
А пазвала, запатрабавала
Свайго мужа з току:
— Ці ня знойдзеш, ці ня
Выстараесься
Вішнёвага соку.
— Як сына радзіла —
Соку дастану,
А як дачку радзіла —
І так абайдзесься!

Пяюць многа. Пяюць і спецыяльныя хрэсьбінныя песні, і піліпаўскія, вялікапосныя і розныя іншыя, абы толькі спяваць. Падвыпіўшыя цёткі ўжо не могуць усядзець за сталом: вылазяць з застолля і па адной ці, ўзяўшыся падпашкі, па дзве, па тры ці па чатыры пускаюцца ў скокі. Скачуць лявоніху, крутуху, мяцеліцу, падпяваючы замест музыкі розныя прыпеўкі і песні.

## Бабіна каша

А сядзеўшая да гэтага часу ціха і спакойна за сталом бабка паднімаецца і ідзе ў куток, дзе была да гэтага часу захавана бабіна каша. Раней, ды і цяпер, больш бяднейшыя бабкі бабіну кашу варылі з пшонных ці грэчных круп на малацэ з маслам ці на сале. Багацейшыя пякуць пірог («бабку») з купленай пшанічнай мукі. А звычайная бабіна каша пячэцца з пшанічнай мукі хатняга вырабу. Поўны гаршчок ці міску накладваюць рознымі невялічкімі асушкамі, перапечкамі, хрушчыкамі і іншым пячэннем. Усе яны сухія, так, каб можна было іх браць рукамі, насыпаць у кішэню. Каша падаецца на стол абавязкова ў якой-небудзь пасудзіне (часцей глінянай, таннай і няцэлай ужо).

— Да гэтага часу вы, дарагія госцікі, пілі-елі бясплатна, без грошай, а цяпер гэту кашу будзе есці тэй, хто адкупя яе! — кажа бабулька, ставячы кашу на стол.

Пачынаецца торг за кашу. Дзеля гэтага з гасцей выбіраецца адзін чалавек, які прадае яе, з хусткі робіцца звязак, які ставіцца на кашу і ў які купцы кладуць грошы за кашу. Каша застаецца за тым, хто апошні пакладзе ў гэтую хустку тую ці іншую манету. Дзеля гэтага кожны стараецца не куп-

ляць кашу з самага пачатку, каб дацягнуць да канца. А прадавец без перапынку выклікае, на ўсякі манер расхвальвае бабіну кашу.

«Каша застаецца за Рыгорам. Хто дае больш? Харошая, смачная каша і перапечкі хрышчыкі цукрам пасыпаны, есці да аблізвацца. Хто купляя: раз, два ...» Калі да слова «тры» хто справіцца пакласці ў хустку манету, каша застаецца за ім і торг пачынаецца спачатку. Торг цягнецца досыць доўга, бо кожны з гасцей як ехаў на хрэсьбіны, назапасіўся досыць капейкамі. Часцей за ўсё каша застаецца за кумам. Вельмі рэдка якая-небудзь кабета прымае ўдзел у таргу.

Грошы, вытаргаваныя за кашу, бярэ з хусткай баба, а кашу — новы гаспадар, купіўшы яе. З усяго маху стукае ён гаршком ці латушкай, у якой знаходзіцца каша, аб стол. Пасуда разлятаецца на дробныя кавалкі, каша рассыпаецца па сталу. Часта, каб пасуда засталася цэлай, бабка бярэ бляшчаную пасудзіну. Але і гэта не дапамагае. Знаходзяцца такія аматары, якія лоўка і спрытна падстаўляюць нож пад ніз, а зверху ўдараюць міскай. Міска — дзіравая. Каб захаваць пасудзіну цэлай, бабка пачынае прасіць гасцей не біць міску, адбірае кашу назад. Але пакуль яна справіцца, кожны з гасцей стараецца чым-небудзь ударыць па пасудзіне, і яна рэдка застаецца цэлай.

Разбіўшы гаршчок ці міску, гаспадар губляе ўжо сваё права на кашу. Яна становіцца агульнай. Кожны з гасцей пробуе бабіну кашу, а бабка надзяляе ёй усіх дзяцей, якія к моманту радзелу бабінай кашы збіраюцца сюды амаль што з усяе вёскі. Кабеты, у якіх дома засталіся дзеці, бяруць некалькі штук пячэнняў ад бабінай кашы ў кішэню ці запазуху, бо прыехаць дамоў з хрэсьбін без бабінай кашы лічыцца тое самае, што вярнуцца з горада к дзецям без гасцінца.

За кашу бабе падносяць чарку гарэлкі, якую яна выпівае напалову з пажаданнем унуку шчасця, багацця. Нявыпітую палову чаркі вылівае ўверх з пажаданнем, каб унук рос высок і здароў, як дуб у лесе.

### «Наезды бабы»

А падвыпіўшыя бабы і мужчыны абступаюць бабку і пачынаюць падпяваць:

Наша бабулька,
Наша галубка

А наезды любя*.
А ў каршомцы,
А ў новенькай
Нам гарэлкі купя*.
Запражом мы*
А дванаццаць валоў,
Адвязем мы
А бабульку дамоў!

Збіраюцца адвазіць бабку дамоў. Вязуць яе рознымі спосабамі: у начоўках, на баране, на санях, на калёсах, што скарэй пад рукі пападаецца. Калі вязуць на баране, на зубы рассцілаюць кажух ці світку, сілком садзяць бабку і трымаюць яе, каб яна не ўцякла. Цягнуць кабеты, ім дапамагаюць падвыпіўшыя мужчыны. У час «наездаў» пяюць розныя прыпеўкі, песні (няхрэсьбінныя). Бабку мучаюць, «здзекуюцца» над ёй да таго часу, пакуль яна не дасць выкупу гарэлкай. Некаторыя бабкі, каб адразу пазбавіцца ад «наездаў», яшчэ ў хаце ставяць абступіўшым яе кабетам выкуп. У гэткім разе яе не чапаюць — яна адкупілася ад «наездаў».

## Выпраўленне кумоў і раз'езд гасцей

Па сканчэнні торгу за бабіну кашу і падзелу яе гаспадар пачынае рыхтаваць падводу пад кумоў для таго, каб вязці дзіцё да хросту. У павозку запрагаецца ўласны конь гаспадара. Дзіцёнка туды і назад вязе кума, а кум кіруе канём.

У некаторых мясцовасцях Барысаўскага р-на (в. Веляцічы і інш.) за кумоў прынята браць падросткаў гадоў 13—15. Кумы, па мясцоваму звычаю, не маюць права брацца (жаніцца) паміж сабою. Гэты звычай зараз пачынае знішчацца і нярэдка бываюць выпадкі, калі не толькі кум з кумою, але і хросны бацька жэніцца на хроснай дачцэ.

Па ад'ездзе да папа кумоў хрэсьбіны лічацца скончанымі. Госці, забіраючы свае рэчы, пачынаюць разыходзіцца.

К прыезду кумоў ад папа часта завуць бабку і іх траіх садзяць за стол падмацавацца з дарогі. Але гэтая «падмацоўка» праходзіць ціха і спакойна, без песень і ўсялякіх звычаяў.

Увага! За бабку прынята браць кабету, якая сама мела дзяцей, але ўжо па старасці ці па іншай прычыне не мае надзеі іх мець больш.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

## НАРАДЖЭННЕ (ХРЭСЬБІНЫ) НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Так як на Беларусі, так і на Беласточчыне, захавалася дасюль абрадавая паэзія, звязаная з этапамі развіцця чалавека.

І так, першы этап — гэта нараджэнне. Яшчэ многа перад гэтым жанчыне, якая спадзяецца нараджэння, забараняецца пэўных дзеянняў. Гэтыя дзеянні, як гавораць старшыя людзі, могуць адмоўна падзейнічаць на новараждзённага. Забараняецца між іншым глядзець на прадметы, людзей і з'явы праз шчыліну ці то ў густым плоце, ці ў сцяне, як гэта тлумачыцца тым, што дзіцё, якое нарадзіцца, будзе мець папсуты ўзрок. Асцерагацца, каб гэткай кабеты ніхто не ўдарыў овашчам слівы — пятно, знак на целі ў новародка цераз цэлае жыццё. Нельга глядзець на нямога і смяяцца з яго, гэта ўплыве, што дзіця будзе нямое; нельга есці жанчыне над сундуком, скрыняй — гэта характарыстыка абжорлівасці, нельга пляваць — характэрны запах з рота дзіцяці; куме або куму забараняецца ў час, калі яны вязуць да хрысту і з хрысту, выходзіць за сваімі патрэбамі, так як гэта ўплыве на фізіялагічную невытрымліванасць дзіцяці. Калі нядоўга перад нараджэннем бацькі сустрэнуць першую кабету або мужчыну, абавязкова гэта будуць так называемыя ўстрэчныя кумы.

Галоўныя асобы падчас хрэсбін гэта: кум, кума, бацька і маці новараждзённага. Бабулька ў сучаснай хвіліне прысутнічае на хрэсьбінах, але яна не адыгрывае вялікага значэння таму, што ў большасці з'яўляюцца ёй сёстры паложныя ў бальніцах.

Устрэчных кумоў бяруць таму, што нібы гэтыя кумы могуць падзейнічаць на жыццё дзіцяці. Кум і кума дасюль займаюць галоўнае месца. Ім прысвечана таксама многа песень, дзе найбольш яны высмейваюцца. І так куме прысвечана:

Кума мая, кума мая,
Кума ўлюблёная,
Чаму ў цябе сарачына
Неадрубленая?
Сухе лета было,
Канапель не было,
Сарочына па калена
Рукавоў не стало.

У другой:

Прыйшоў кум да кумы,
Кума грэчку поле.
— Добра кум, што прышоў,
Мой пайшоў у поле.

Апрача такіх існуюць і жартаўлівыя песні, якія высмейваюць найбольш бацьку, калі нарадзілася дзяўчына, і гэта толькі ў выпадку, калі апрача гэтай нованароджанай ёсць ужо ў хаце дзяўчаты. Тады бацьку называюць «бабскім краўцом». Бывае і адваротна, калі яго і хваляць, а гэта ў выпадку, калі ён мае некалькі сыноў, а нарадзілася ім дзяўчына.

Да маткі новароджонага ўсе адносяцца з аднолькавай пашанай, ці яна нарадзіла хлопца, ці дзяўчыну.

Бацька ходзіць смутны, калі сярод дзяўчат прыбыла яшчэ дзяўчына, але і весяліцца, калі сярод хлопцаў паявілася дзяўчына. Калі народзіцца хлапец, бацька заўсёды вясёлы.

Перад хрэсьбінамі, заўсёды па нараджэнні дзіцяці адбываюцца яшчэ т. зв. адведкі. Гэта зыходзяцца звычайна суседкі, радня, але абавязкова самі жанчыны, каб адведаць — адсюль і адведкі — матку, якая нарадзіла дзіцё, і абавязкова пaглядзець і даведацца, каго яна нарадзіла. Тут бацька стараецца абавязкова іх пачаставаць, а падхмеленые жанчыны зачынаюць спяваць разнастайныя жартаўлівыя песні.

Хрэсьбіны звычайна адбываюцца пазней, гэта залежыць ад таго, як чуецца дзіцё. Галоўным уборам стала з'яўляецца каша, куцця пастаўленая толькі на стале, за якім сядзіць кума і кум. Каша ўпрыгожваецца галінкамі ліпы, бэзу, чаромхі, вішні і інш. Яны паасобна ўтыркаюцца ў кашу, і праходзіць торг. Усе прысутныя на хрэсьбінах па закліку кума і кумы мусяць падысці да стала, узяць гэтую галінку і абавязкова заплаціць за яе грошы. Пры тым кум у залежнасці ад таго, у якім веку пакупшчык, прыговорвае яму. І так, маладому мужчыне або жанчыне, якія ўжо пабраліся і не маюць дзіцяці, голька гэта прадаецца як «падваліна», г. зн. што яна можа прычыніцца і да нараджэння ў іх дзіцяці. У другім выпадку, калі гэта з'яўляецца муж жанчыны, якая спадзяецца нараджэння, прадаецца як матэрыял на калыску — г. зн. каб і ён хутчэй рыхтаваўся да хрэсьбін, іншому прадаецца як кветка — пажаданні, каб іх новароджаны(а) выглядаў, як кветка і г. д.

Прадаўшы ўсе голькі, кум разбівае тарэлку, на якой былі ўстрыпненые гэтыя голькі. Разбіццё тарэлкі мае сваю мэту. І так, калі гэта ў хлопца, дык гэта абазначае: на колькі лусткоў разбілася тарэлка, столькі дзяўчат у будучыні будзе біцца за яго; калі гэта ў дзяўчыны, абазначае, што столькі хлапцоў будзе біцца за яе.

У канцы гэтых абрадаў пяецца песня, якая ізноў высмейвае кума і куму:

Ой, куме, куме, добра гарэлка,
Будземо піці да панідзелка,
Зложымо куме па грошы сорак,
Вып'емо, куме, яшчэ й ў аўторак,
Прадамо куме раду чарэду,
Вып'емо, куме, яшчэ ў сярэду.
Прадамо куме рабу цяліцу,
Вып'емо, куме, яшчэ ў пятніцу.
Прадамо куме чашкі і ложкі,
Вып'емо, куме, у чацьвер трошкі.
Зложымо куме ўсю работу,
Вып'емо, куме, яшчэ ў суботу.
Наложым куме сарочку белу,
Вып'емо, куме, яшчэ ў нядзелю.
Ой, куме, куме, добра гарэлка,
Будземо піці да панідзелка.

Гэтую песню больш за ўсё пяе сама кума або ўсе прысутныя. Тут высмейваецца найбольш кума, якая пад уплывам хрэсьбін гуляла б са сваім кумам цэлую нядзелю, г. зн. цераз цэлы тыдзень, а наогул без канца.

Калі кумамі былі людзі маладыя, якія першы раз хрысцяць дзіця, абавязкова іх павозяць на баране. А гэта адбываецца наступным чынам. Паложаць барану на воз, пасадзяць кума і куму і вязуць у ваду. Ведама, не ганарова будзе злезці з воза, і таму кум выкупляецца, чым можа, каб назад прывезлі. Потым, калі прыбліжаюцца хрысціны да канца, бацька дзіцяці першы зачынае выкупляць у бабкі лес з кашы, кладучы там грошы. За ім усе госці выкупляюць лес. Калі ўжо ўсё выкупілі, ядзяць кашу, якая была ў місцы, і б'юць міску. Б'ючы міску, крычаць «мазалгоп», што азначае «няхай жыве». На гэтым абрады заканчваюцца.

## ХРЫСЦІНЫ

Дзяцей хрысцілі пераважна ў суботу або нядзелю праз тыдзень або два ад нараджэння. Здараюцца выпадкі, што хрысцяць і адразу пасля нараджэння, але гэта тады, калі дзіця хворае. У хрысціннай застольнай урачыстасці прымаюць удзел толькі замужнія і жанатыя. Кумы маглі быць і халастыя. Пры іх выбары кіраваліся пераважна матэрыяльнымі інтарэсамі або забабонным вераваннем. За некалькі дзён перад хрысцінамі бацька дзіцяці пачынаў запрашаць гасцей — сваякоў, суседзяў і тых, якія прымалі ўдзел у адведках. На хрысціны ўсе яны ішлі са сваім. Мужчыны неслі па бутэльцы гарэлкі, жанчыны ішлі з ежай (пераважна быў гэта пірог), а тыя, што не былі ў адведках, неслі падарункі дзіцяці. Абавязкам кумы было падрыхтаванне дзіцяці вопраткі на хрэст. Рыхтавала таксама яна «кашу». «Каша» складалася з цукерак і пранікаў. Абавязкам кума было адвезці ў царкву і ўладкаваць матэрыяльныя справы, звязаныя з хрышчэннем.

Настаў дзень хрысцін. Збіраюцца госці. Кума пачынае апранаць дзіця. Раней рабіла гэта бабка-павітуха. У час апранання ў некаторых ваколіцах, пераважна бліжніх гарадоў, запрошаныя госці падыходзяць і кладуць у дзіцячы боцік грошы, з якімі дзіця едзе да хрысту. Сімвалізуе гэта яго будучы матэрыяльны дабрабыт. Дзіця падрыхтавана. Час ехаць у царкву. І тут ёсць некалькі перасцярог. Абсалютна нельга нікога па дарозе падвозіць. Адганялі таксама малых, якія бегалі па вуліцы, каб не чапляліся на фуру. Бытуе перакананне, што калі б некага падвезці, то дзіця будзе дрэнна хадзіць. Наступная справа — не вяртацца назад з нехрышчоным дзіцём.

Дзіця ў час хрышчэння трымае ў асноўным кума. Толькі пад канец абраду надання імя бацюшка перадае малое куму. Калі хрысцяць хлопца, то бацюшка ўносіць яго за Царскія дзверы, калі дзяўчынка — толькі да іх даносіць. Гэта вынікае з таго, што жанчынам за Царскія дзверы ўваходзіць нельга. Вярнуўшыся дамоў, першае, аб чым пытаюць кумоў, дык гэта імя дзіцяці. Найчасцей адказваюць: Ціхон або Соня. А гэта таму, каб дзіця было ціхае і добра спала.

Распачынаецца застольнае гасцяванне. Кумы сядаюць разам, пераважна ў кутку пад абразамі. Падвыпіўшы, пачынаюць спяваць. Падкрэсліваліся высакародныя рысы характару маці, якія пяройдуць на дзіця. Ідэалізавалі розум дзіцяці. Песні,

прысвечаныя бацьку, гэтай ідэалізацыі не мелі. Ёсць тут і пахвала, але і ёсць гумарыстычныя адценні. Кум і кума прадстаўлены ў песнях сатырычна. Надзяляюць іх рознымі грахамі, пачынаючы ад п'янства, а канчаючы па схільнасцях да палавога збліжэння:

Одна кума лёдам,
А друга городом.
Як зышліся-напіліся
Гарэлочкі з мёдам.

Прышов кум да кумы,
Кума грэчку поле.
— Добрэ, кумэ, што прышов,
Мой пушов у поле.

Цэнтральным у застольным гасцяванні з'яўляецца «каша». У пэўны момант адна з жанчын пачынае спяваць:

Ой чыя то дыра нэ городжона,
Срэбром-золотом нэ абложана?
Трэба тую дыру загородіті,
Срэбром-золотом той абложыті.

Выкліканы кладзе грошы, атрымоўваючы за гэта кашу, г. зн. частку тых цукерак ці пранікаў, якія падрыхтавала кума. Хрысціны трываюць доўга. Разыходзяцца позна ўначы. На гэтым, аднак, хрысцінная абраднасць не канчаецца. Праз тыдзень, у нядзелю, сходзяцца на т. зв. «зборы». Сходзяцца самі, без запрашэння. Нічым спецыяльным яны не выдзяляюцца.

## РАДЗІННЫЯ ЗВЫЧАІ І АБРАДЫ Ў в. ХАЛМЕЦ АЛЕНЕНСКАГА РАЁНА ЦВЯРСКОЙ ВОБЛАСЦІ*

Як радзіла якая ў дзеўках, бацькі выганялі з дому. Жанчына, якая радзіла, называлася «радзіха». Бабка (што бабіла) была рэдка ў якой вёсцы. Пупавіну дзіцяці бабка адразала нажом. Завязвала пуп лянком (не ніткай). Тады ж бабка абмывала малога і пупавіну. Ваду пасля гэтага вылівала на вуліцу на кутны вугал. А паслед абмывалі, загортвалі ў чыстую анучку, клалі ў адзін лапаць, накрывалі другім (надо два атопкі). Пасля бабка лезла пад пол і пад кутнім вуглом хараніла. Пасля бабка і іншыя жанчыны прыходзілі «у навіды» — тыдзень не больш. Радзісе прыносілі «прінос» (хто яйкі, хто мяса). У

* Там жывуць беларусы-перасяленцы.

кожным прыносе, каб яна выздараўлівала, абавязкова павінны быць хлеб і соль.

Хрэсьбіны (іх тэрмін) рабіліся ў розны час. Усё залежала ад таго, якім нарадзілася дзіця — здаровым ці не. Калі дзіця нядужае, неслі хрысціць адразу. У кумаўё бралі не толькі блізкіх, але і дальню. На хрэсьбінах абавязкова павінны былі быць кумы, бацькі і бабка. Было, што запрашалі родных. Як ехалі хрысціць, хросная брала (сама вытыкала) чыстае белае палатно, т. зв. «рызкі». На гэтае «палаценца» пасля хрышчэння прымаў дзіця хросны (хрёсны), пасля перадаваў хроснай. Нясе дзіця хросная (хрёсная), і яны, хросны і хросная, «дзелаюцца раднымі». Як прыязджаюць дадому — кумаўе. Як кумаўё былі халастымі (дзяўчына і хлопец), яны не мелі права жаніцца, бо сталі роднымі. Перш чым сесці за стол, госці маліліся за дзіця і за рожаніцу, каб Бог даў дзіцяці розум і шчасце. На хрэсьбіны на стале абавязкова павінна быць каша. Дарэння на хрэсьбіны не было. На год дзіцяці, як рабілі застолле, кашу накрывалі ручніком, і госці кідалі грошы. Дзецям жа ў час хрэсьбін з застолля выносілі кашу на парог. Дзеці, як з'ядалі кашу, павінны былі пусціць (пакаціць) з парогу міску. Пры гэтым яны казалі: «Штоб так дзіцё скакала». Як дзіцё ішло першы раз (як станець станавіцца, ды ня можа ідзіць), казалі, надо «путы» рэзаць, бо ён «путаны» рябёнак. Ножыкам праводзяць па падлозе і прыгаворваюць: «Дай Бог час!» Як выпадае малочны зуб, яго кідалі дзеці (іх вучылі дарослыя) на печ, праз пляча, прыгаворваючы: «Мышка, мышка, вазьмі мой зуб репяной, а мне дай свой касцяной» (так трэба было рабіць і дарослым). Стрыглі дзіця пасля году. Састрыжаныя валосікі кідалі ў печку, прыгаворвалі пры гэтым: «Валосікі гарі, а галава не балі».

## ПЕСНІ ПРА ДЗІЦЯ І ЯГО ДОЛЮ

1. Новая птушачка на свет з'явілася,
На свет з'явілася,
Галаском прабудзілася.
Расці, расці, птушачка, вяліка,
Каб была кругом павіта.
Расці, расці, птушачка, здарова,
Каб была добра падмога.

2. А ў нашым садзе ды паспелі вішні,
Даў Бог нам пляменнічка
Ды пад нашы мыслі.
А ў нашым садзе ды паспелі дулькі,
Даў Бог нам пляменнічка
Ды пад нашы думкі.
А ў нашым садочку ды паспелі сліўкі,
Дай Бог сямейцы ўсягда быць шчаслівай.

3. Як у ціхай рэчанькі
Вутачкі ныраюць,
Ганулька з Іванам
Сыночка чакаюць.

— Ты прыйдзі, жаданы,
У акенца пастучыся,
Матульцы з татулькам
Нізка пакланіся.

З'явіўся сыночак
Ды такі маленькі:
— Вазьмі ж мяне, мамка,
На белы ручэнькі.

4. Ой, у замку на прыгорку,
Там вісіць калысачка на шоўку,
А ў той калысцы дзяціна.
Калыхалі яго два браты:
— Калышыце мяне высока,
Каб я чуў, бачыў далёка.
Калышыце мяне на ўвесь бор,
Каб я ўбачыў цесцеў двор,
Дзе сівая зязюлька кукуе,
Там мая мілая парадуе.

5




5. Міжа клетачак, міжа клетачак,
Міжа стопачак
Там Прачыстая, там Прачыстая
Паясы ткала.

Багародзіца, Багародзіца
Богу моліцца:
— Распрасці, Божа, распрасці, Божа,
Да дзве душачкі.

Первую душу, ай, адну душу —
Малое дзіця,
Другую й душу, другую й душу
Да і Манечку.

6. А ў сенечках аганёк гарыць,*
А ў Люсечкі жываток баліць.*
— Ой ты, Колечка, ты дружочак мой,

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Ой, ратуй мяне, маладзюсеньку,
Ой, ратуй мяне, маладзюсеньку.
Ты ж калысачку гатуй, гатуй,*
А за калысачку наймі нянечку,
Яе нянечка калыхаць будзіць,
Яе нянечка калыхаць будзіць.
А маці Прачыстая падкалыхаваць,*
Падкалыхаіць і папытаіць:
«Ты ж, дзяцятушка, хто твой бацюшка?*
Твая матушка?»
«А мой бацюшка — Мікалай Паўлавіч,*
Мая матушка — Люся Іванаўна».*

7. А як у сенечках, як у новенькіх
Вісіць люлечка маляваная.
За той люлечкай маць Прачыстая,
Яна люлечку падкалыхваець.
Яна ў дзіцяці ўсё выпытваець:
— А скажы, дзіця, а хто мамка твая?
А хто мамка твая, а хто родная?
— Мая мамачка, мамка Ганначка,
Мамка Ганначка, усё Іванаўна.

8. Што гэта ў небе зазвінела?
Сам Бог едзець, долечку нясець
Гэтаму дзіцяці, гэтаму маленькаму.
Ці хлебавую, ці грашавую,
Ці тую вянчальную.
Бабулечка ідзець, Богу моліцца:
— Дай, Божа, усякую:
І хлебавую, і грашавую,
І тую вянчальную.

9. Пасею жыта па ўсіх куточках.
Каб маё жыта тут урадзіла,
Каб наша сямейка ў золаце хадзіла.
Каб маё жыта ў трубы вілося,
Каб дзіцячае шчасце тут прыжылося.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

10. А ў нядзелечку параненечку
На небе зазвінела.
Госпад Бог ідзець, ключыкі нясець,
Неба адмыкае.
А кума стаіць, дзіцетка дзяржыць,
У Бога шчасця просіць:
«А дай жа, Божа, гэтаму дзіцяці
Тры шчаслівых долі:
І збажавую, і грашавую,
І тую вясельную».
А ў нядзелечку параненечку
На небе зазвінела.
Госпад Бог ідзець, ключыкі нясець,
Неба адмыкае.
А кумок стаіць, дзіцетка дзяржыць,
У Бога долі просіць:
«А дай жа, Божа, гэтаму дзіцяці
Тры шчаслівых долі:
І збажавую, і грашавую,
І тую вясельную».

11. А ў нядзельку параннюсеньку,
Бабуся стаіць, дзіцяцю дзяржыць,
Богу радзіцца.
І з Богам радзіцца, долю просіць
І багавую і грашавую.

12. Бабулечка на куце села,
Бабулечка песню запела:
А первую — ды раджоную,
А другую — ды суджоную,
А трэцюю — хрэсьбінскую.
— А дай, Божа, судзі, Божа,
Ды гэтага дзіцяці
Нам вяселля прыждаці.

13. Кума на куце села,
Кума на куце села,

Харошую песню спела.
Першую — хрэсьбінную,
Другую — вясельную:
— А дай, Божа, гэтага дзіцяці
І хрэсьбіны скакаці,
Хрэсьбіны скакаці,
Вяселля даждаці.
Судзіў ты яго відзець пад храстом,
Судзі, Божа, яго відзець і пад вянцом.

14. Кум з кумою дзіця носяць,
У Бога долі просяць:
— Дай, Божа, гэтаму дзіцяці
Шчаслівую долю.
Каб расло, гадавалася,
Шчасцем, доляю надзялялася,
З хлебам, соллю зналася,
Каб хутка расло, здарова было,
Мы яго хрэсьбіны адгулялі
І вяселля дачакалі.

15. А ў каго вінаград на дварэ?
У Валеркі вінаград на дварэ.
Сабраў пір, людзей сам к сабе,
Пасадзіў бабульку на куце.
— Пі, бабулька, гуляй ты за мяне,
Звелічай ты дзіця мае,
Каб яно да вяліка расло,
Каб яно да шчасліва было,
Каб яму Бог долю даў.

16. У панядзелак рана
Парошка напала.*
Там ішла старая бабка,
Слядочак праклала.*

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

А ідзе, а ідзе сам Бог сустракаецца
І ў яе пытаецца:*
— Куды ідзеш, старая бабка, у панядзелак рана?*
— А іду я, іду, святы Божачка, к сваёй унучцы,
Унучка даведаці.*
Ідзі, ідзі старая бабка.
Што гэтаму дзіцяці,
Што за долечку даці?*
Ці дзяцíнаю, ці скацíнаю,
Ці грашóвую, ці зернавýю?
— Дай, Божа, усякаю:*
І дзяцíнаю, і скацíнаю,
Дай, Божа, усякаю:*
І грашóвую, і зернавýю.
Дай, Божа, усякую.*

17. А ў каго вінаград на дварэ?
У Лёнечкі вінаград на дварэ.
Пасадзіў бабулечку на куце.
А сам стаў ды шапачку зняў.
Стаў жа ён да пана Бога прасіць:
Каб маё ды дзіцятка расло,
Каб яно шчасліва было,
Каб яму ды Бог долечку даў,
Каб яму шчаслівую.

18. А ў каго рамон на дварэ?**
А ў Іванькі да рамон на дварэ,
Сабраў пір не людзям, сам сабе.
Пасадзіў бабусю на куце.
— Пі, мая ты бабуся, віно,
Каб маё ды дзіцятка расло,
Каб яно ды здарова было,
Каб яно ды шчасліва было.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.
** Кожны радок, акрамя апошніх двух, паўтараецца 2 разы.

19. Цераз сеначкі, ды ў выстопачку,
Як ходзіць, ходзіць радзішанька,
А просіць, моліць Бога:
— А дай жа, Божа, гэтаму дзіцяці
Хрэсьбіны згуляці.
А каб наша радзіначка здарова была,
А каб наша радзіначка не балела,
Каб яна нам гарэлачкі ўволю дала,
Каб яна нам гарэлачкі не жалела.

## ПЕСНІ ПРА МАЦІ-ПАРАДЗІХУ І БАЦЬКУ

20. Каля месяца, каля яснага*
Усё дробныя звёзды.
Каля століку ля цясовага
Усё любыя госці.
Ты, Андрэечка, багатырскі сын,
Умей прыглядаці.
А ты, Валечка, мамчына дачка,
Умей прыглашаці.
А мы, госцікі, прыглашоныя,
Умеем выпіваць.

21. Коціцца чарачка па стале катком,
Хочацца, хочацца гарэлкі з мядком.
Хто ж гэту чарачку поўну наліець,
Той з сваёй жаною хораша жывець.
Валодзька чарачку поўну наліець,
Ён з сваёй жаною хораша жывець.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

22




22. Кацілася чарачка з куту на канец.*
А хто ж гэту чарачку мёдам наліець?
А наліець чарачку молад Колінька.
Падносіць, падносіць Клаўдзечцы выпіць.
— Выпі, выпі, Клаўдзічка, поўную чару.
Забудзь, маладзенькая, сваю старану.
— Хоць жа вып'ю поўную чару,
Век не забуду сваю старану.
А ў маёй старонцы зялёны сады.
Дзе зялёненькі явар — там татулька мой,
Белая бярозачка — мамулька мая.

23. А хто гэту чарку поўну наліець,
Той з сваёй жаною суветна жывець.
Іванька чарку поўну наліець,
Ён з сваёй жаною суветна жывець.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

24. Каціласяя чарачка з кутка на канец,
А хто гэту чарачку віном наліець?
Колечка чарачку віном наліець,
Ён са сваёй жаною хораша жывець.

25. Каціласяя чарачка з канца й у канец.
А хто ж гэту чарачку віном наліець?
Пецька нам жа чарачку віном наліець,
Ой, ён з сваёй жоначкай харашо жывець.

26




26. А ў нашага Сашачкі
Пір на дварэ,
Сабраў ён пір ды бяседачку
Не для каго, для сябе.

А каб яго ды дзяціначка
А бальшая расла,
А каб яго ды дзяціначка
Шчасліва была.

27. А ў гародзе рабінкі,
А ў нашай Манечкі радзінкі.
Будзем рабінкі ламаці,
Да будзем радзінкі гуляці.

28. У хлопчыка рабінкі,
А ў дзевачкі радзінкі.
Будзем рабінкі ламаці
Да будзем радзінкі гуляці.

29. Ой, даўно тут радзіны былі.
Ой, даўно тут гарэлку пілі.
А цяпер мы пабываем
І гарэлкі папіваем.

30




30. Сягоння ў нас імяніны[*]
Добрай жаны-гаспадыні.
Сягодня у нас госці будуць.
Першыя госці — дзед і баба,
Другія госці — кум з кумою,
Трэція госці — брат з сястрою.
Дзед і баба — ўся парада,
Кум з кумою — пагулянне,
Брат з сястрою — пагуканне.

31. А ў полі дажыначкі,
А ў доме радзіначкі.
Нарадзіла маці сына
Беленькага, як сыра.
Сыр белы на талерку,
А сыночка ў калыбельку.
А сыр будзеш калупаці,
А сыночка калыхаці.

32. У лугу, у лугу каліна расла,
Я гэту каліну рукамі ламала,
Я гэту бяседу шмат лет чакала.
Шмат лет і нядзелечку
Чакала бяседкі без спадзевачкі.

---

[*] Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Радзіха, радзіха, каб жа ты жыла,
Каб яшчэ на лета дачку прывяла.
Мы ж будзем гулянку гэту гуляць,
Радзісе здароўя гэтым дапамагаць.

33. У нашым гародзе
Урадзіла проса.
Прыехалі госцейкі
На радзінкі да Зосі.*

Як сабралася радня
Ды така вяліка:
Свёкар са свякроўкаю,
Дзевер і з залоўкаю.*

— Ой, нявестка Зося,
Ды й вазьмі падушку.
Пакажы маленькую
Нам сваю дачушку.*

34. Мы сустрэнемся, мы сустрэнемся
Ды на хрэсьбінах у Якімачкі,
Ды на хрэсьбінах ды у Светачкі.
Наша Светачка мае дочачку,
Мае дочачку ды прыгожую,
Усю на татачку ды пахожую.

35. Сягоння ў нас імяніны
Добрай жаны гаспадыні.
Сягоння ў нас госці будуць,
Госці будуць траякія:
Першыя госці — дзед з бабаю,
Другія госці — кум з кумою,
Трэція госці — брат з сястрою.
Брат з сястрою — размаўляці,
Кум з кумою — гуляці,
Дзед і баба — ўся нарада.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

36. У нас сягоння імяніны,
У добрай хаце гаспадыні.
Першыя госці — дзед і баба,
Другія госці — кум з кумою,
Трэція госці — брат з сястрою.
Мы сядзелі, гаварылі,
Што ў нас сягоння імяніны.

37. Сёння ў нас імяніны
Добрай жаны-гаспадыні.
Сёння тут госці будуць,
Госці будуць усякія:
Першыя — дзед з бабаю,
Другія — кум з кумою,
Трэція — брат з сястрою.
Брат з сястрою ідуць размаўляці,
Кум з кумою ідуць гуляці,
Дзед з бабаю — памагаці.

38. Прабачайце, гасціны, на маю чэсць,
Бо ў мяне гасціны шчэ й другія есць.
Первыя госцікі — бацька з маткаю,
А другія госцікі — брат з сястрою,
А трэція госцікі — кум з кумою.
Брат з сястрою — дружына мая,
А кум з кумою — гасціна мая.

39. Чаму ж наша хатачка
Ды такая вясёлая?
Мы сядзем за сталамі дубовымі,
За сталамі дубовымі.
Паважаем нашу Чэсячку
З яе маленькім сыночкам,
З маленькім сыночкам.
Каб заўсёды была гэта сямеечка
Ды такая дружная і вясёлая,
Дружная і вясёлая.

40. А ў рэчцы вадзіца быстра бяжыць,
А ў полазе радзіха ляжыць,
Дзіця нарадзіла, нам гулянку зрабіла.
Будзем піць-гуляць, радзіху ўхваляць.
— Самі налівайце, па ўсёй выпівайце,
Дзіця ўзвелічайце, мяне не забывайце.

41. А ў сеначках
У сеначках музыкі іграюць,
А ў хатаньцы,
У хатаньцы хрэсьбінкі гуляюць
За полагам
За полагам
Там радзішанька ляжыць,
А ў галавах,
А ў галавах
Мёду кубачак стаіць.

42. А ў гародзе бяроза,
Лісцейка да долу,
Час табе, Міколка,
Ехаць дадому.
Там Матруна сына радзіла,
Мёд-віно папіла
І кубачкі пабіла
І на Дунай пусціла.
— Плывіце, кубачкі, за вадою,
Плывіце, кубачкі, за быстраю ракою.

43. У нашым сяле стала навіна:
Маладая Гандзюленька сына ўпавіла,
Сына ўпавіла!
Сын ўпавіла, сама ледзь жыва,
Яна да сваё матуленькі голуба ўслала,
Голуба ўслала.
Ляціць галубок і голасна грача:
— Міла матуленька, кліча дачуленька,
Кліча дачуленька!
У твае дачкі стала навіна:
Твая дачка наймілейша сына ўпавіла,

Сына ўпавіла!
Матуля едзе, пялёнкі вязе,
Лістам, лістам дарожаньку сцяле,
Матуля сцяле.
У нашым сяле стала навіна:
Маладая Гандзюлечка сына ўпавіла,
Сына ўпавіла.
Сына ўпавіла, сама ледзь жыва,
Да свайго баценька яна галубка ўслала,
Галубка ўслала.
Галубок ляціць і моцна грача:
— Мілы баценьку, кліча дачуленька,
Кліча дачуленька!
У тваe дачкі стала навіна:
Твая дачка наймілейша сына ўпавіла,
Сына ўпавіла.
Баценька едзе, мёд-віно вязе,
Лістам, лістам дарожаньку баценька сцяле,
Баценька сцяле.

44. А наша Марыся сыночка павіла,
Яна сыноў навадзіла,
Як месяцаў, насадзіла,
Ой, сэрданька маё.*

А Васілька малады,
Па свяцёлцы ходзіць:
— Ой, вы пайдзеце, прывядзеце,
Каля мяне пасадзеце, ой, сэрданька маё!

45. А ў нашай Кацярынушкі,
А ў нашай Кацярынушкі
То хрэсьбіны, то радзінушкі.
Ой, на печы каравай месяць,
Сярод хаты калыбель весяць.
Жана мужу не прызналася,

* У кожнай страфе чацвёрты радок паўтараецца.

Само дзіця завязалася.
А яна яму на злосць
Накрахмаліла фартух, як тросць.
І ўсё кажа: «Буду дочкі вясці,
Каб цябе ды з гаспадаркі звясці».

46. Ходзіць бацька па гумну,
Глядзіць дзетку ў кутку.
Кладзе туды па куску, прыгаворвае:
— Трэба, трэба запас мець,
Бо яшчэ адзін ядак прыдзець.

47. Ды ў каго ж мы, ды ў каго ж мы
Бяседку гуляем,
Дзякуй Богу, дзякуй Богу,
Што сыночка маем.
А ён ляжыць у качэльцы,
Абманачку смокчыць,
А жоначка з мужаньком
Бяседачку топчыць.

48. А белая бярозачка,
Чырвоная вольха,*
А хто справіў патрэбачку?
Андрэева жонка.
Сама сядзіць у запечку
Гарэлачку смокчыць.*
А Андрэйка маладзенькі
Патрэбачку топчыць.*
Сама сядзіць у запечку,
Сыночка люляіць.*
А Андрэйка маладзенькі
Патрэбу спраўляіць.*
Дзякуй табе, Андрэечка,
Ды за ўсё за гэта.*

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

А каб зрабіў патрэбачку
Ды яшчэ на лета.*

49. Ты, белая бярозачка,
Чырвоная вольха,
А хто зрабіў патрэбачку? —
Колечкава жонка.
Сама сядзіць у запечку,
Гарэлачку лохчыць,
А Колечка-гаротнічак
Бяседачку топчыць.

50. А за белым бярэзнічкам,
Цёмная сасоначка.
Хто нам зрабіў бяседачку? —
Пецячкава жоначка.
Сама ляжыць у ложку,
Гарэлачку смокчыць.
А Пецячка-бядняжачка
Каля стала топчыць.

51. Белая бярозачка, чырвоная вольха,
А хто справіў бяседачку? —
Майго брата жонка.
Яна сядзіць на ложачку,
Гарэлкай шафуіць,
А мой браток маладзенькі,
Госцікаў частуіць.
Яна сядзіць на ложачку,
Як курачка, квокчыць,
А мой браток маладзенькі
Бяседачку топчыць.

52. Белая бярозачка,
Чырвоная вольха,*

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

А хто справіў бяседачку? —
Сярожкава жонка.*
Сама ходзіць ля століка,
Бяседачку топчыць.*
А міленькі ў бачоначку
Гарэлачку смокчыць.*

53. Ой, белая бярозачка,
Чырвоная вольха.
А хто зрабіў бяседачку? —
Колечкава жонка.
Сама сядзіць ля калыскі,
З бутэлечкі смокчыць,
А Колечка маладзенькі
Бяседачку топчыць.

54. Дзякуй таму кавалю,
Што зрабіў нам гульню.

А не то кавалі,
Што к печы кавалі.

А то кавалі,
Што к цёмнай начы.

Ён жа цяпельца не паліў,
І ручачкі не хукаў.

І ручачкі не хукаў,
І малаточкам не стукаў.

І малаточкам не стукаў,
А зрабіў нам гульню.

55. Ой, спасіба таму кавалю,**
Што скувала дзяцёну.
Малаточкам не стукуў,

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.
** Кожны радок паўтараецца 2 разы.

У ручачкі не хукуў,
А, ляжаўшы на палу,
Упіраўся у сцяну.
Цёплая, добрая кузня была!
Ой, спасіба кавалю,
Што скуваў дзяцёну...

56. — Выганяй, маці, каваля з хаты,*
Бо каваль малады хоча начаваці.
— Ой, дочка мая, хто па сенях ходзе?
— Ой, мамка мая, каваль каня водзе.
Ці я табе не казала, ці не гаварыла,
Не кладзіся са мной спаць, бо будзе Гаўрыла.
А ён мяне не паслухаў, усё пры боку клаўся.
Цяпер сама не знаю, скуль Гаўрыла ўзяўся.
Цяпер, мая маці, гані за кумамі,
А Гаўрыла на печы шоўгаіць нагамі.

57. Дзякуй таму кавалю,
Што нарабіў нам балю.
Малаточкам не стукаў,
Так, рукамі ашчупаў.
І лучынкі не свяціў,
У пацёмачку зрабіў.

58. Дзякуй таму кавалю,
Кавалю, кавалю.

А што зделаў нам гульню,
Нам гульню, нам гульню.

Малаточкам не стукаў,
Не стукаў, не стукаў.

У ручачкі не хукаў,
Не хукаў, не хукаў.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Сярнічкаў не паліў,
Не паліў, не паліў.

Сямеечку не будзіў,
Не будзіў, не будзіў.

59. А спасіба кавалю,*
Што скуваў нам гульню.
Ён у ручкі не хукаў,
Малаточкам не стукаў
І ўдаўся сын.

60




60. Дзякуй таму кавалю,*
Што ляжыць жа на палу.
У ручачкі не хукаў,
Малаточкам не стукаў,
Лучыначкі не паліў,
Сямеечкі не будзіў.
Лучыначка сырая,
Сямеечка чужая.
Лучыначка не гарыць,
Сямеечка не стаіць.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

61. Спасіба кавалю,
Што нам здзелаў гульню.
І ў ручкі не хукаў,
І малаточкам не стукаў,
І на кувадла не клаў,
І нам гульню саздаў.

62. Дзякуй таму кавалю,
Што здзелаў нам гульню,
У ручачкі не хукаў,
Малаточкам не стукаў.
Дзякуй за пірушку,
Што нам здзелаў гулюшку.

63. Дзякуй таму кавалю,
Што зрабіў ён нам гульню.
У ручачкі не хукаў,
Малаточкам не стукаў.
Толькі жоначку патрос,
Нам гарэлачкі прынёс.

64. Паздароў, Божа, таго каваля,
А хто скаваў мало дзіця.
Гута-та, гулі-ля, малюсенькае дзіця.

І лучынкі не паліў,
І сямеечку не будзіў.
Гута-та, гулі-ля, сямеечку не будзіў.

І молатам не стукаў,
І ў ручанькі не хукаў.
Гута-та, гулі-ля, і ручанькі не хукаў.

65. А спасіба кавалю,*
Што ўстроіў нам гульню.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Малаточкам не стукаў
І ў ручачкі не хукаў.

А не каваў ён удзень:
А стыдаўся ён людзей.

А каваў ён уначы,
Не паліўшы свячы.

66. На вуліцы чабор гарыць,
У дзевачкі жывот баліць.
Татка чуе, ды не ратуе.
— Іванька, братка, ратуй, ратуй,
Калыбелечку гатуй, гатуй.

67. А ў ліпнічку агонь гарыць, агонь гарыць,
У нашае Гэлечкі жывот баліць, жывот баліць.
— Ты ж, Валодзя, не бядуй, не бядуй,
Калысачку прыгатуй, прыгатуй.
Ой, калысачка дубова, дубова,
У Гэлькі дзіцятка гатова, гатова.

68. А ў балоце агонь гарыць,
У Анечкі жывот баліць.
— Ванечка, ратуй, ратуй,
Калысачку гатуй, гатуй.
Калысачку цясовую,
Пярыначку пуховую.
А мы будзем калыхаці
І дзіцятка гадаваці.

69. На балоце агонь гарыць,
А ў Манькі жывот баліць.
— А ты, Ванька, ратуй-ратуй,
Калыбельку гатуй-гатуй.
— Я не буду ратаваць,
Калыбелькі гатаваць.

70. А ў балоце й кулік крычыць,
А ў Ірачкі жывот баліць.
— Сярожачка, ратуй, ратуй,
Начовачкі гатуй, гатуй.
Дубовыя, кляновыя,
Дзіцятка ўжо гатовае.

71. А ў каморачцы аганёк гарыць,
А ў Манечкі жыватое баліць.
— Ты, Гнатачка, ты ратуй, ратуй,
Ты калысачку, ты гатуй, гатуй.

72. Дзіцятачка маленькае,
А ў дзевачкі жывот баліць:
«А, хлопчыку, ратуй!»
Калысачка новенькая,
Калысачка дубовая,
Дзіцятачка міленькае,
Дзіцятачка гатовае.

73. На поле цішком, цішком,
А з поля трушком, трушком.*
— Ты, мамаша, чуй, чуй,
Калыску гатуй, гатуй.*
Калыска новая,
Дзіцятка гатовае.*
Як яно раджаласё,
Яно ў яго ўдалосё.*
Як яго хрысціць вязлі,
То й яго імя далі.*

74. Вось пайшлі дзевачкі ў ягадочкі,
Ай-яй-яй, ў ягадочкі.
Вось адна дзяўчына прызасталася,

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Ай-яй-яй, прызасталася,
З сваім мілым спаткалася,
Ай-яй-яй, спаткалася.
Прыйшоўшы дамоў, разбалелася,
Ай-яй-яй, разбалелася.
— Мамачка мілая, баліць галава,
Ай-яй-яй, баліць галава.
— А ты, дачка, лезь на печку,
Ай-яй-яй, на печку.
— Мамачка родная, на печы дзіця,
Ай-яй-яй, дзіця.
— Дачушка мілая, дзе ты ўзяла,
Ай-яй-яй, узяла.
— Матуля мілая, пад плотам знайшла,
Ай-яй-яй, знайшла.
— А ты, дачка, навошта ўзяла?
Ай-яй-яй, навошта ўзяла?
— Матуля мая, жаль узяла,
Ай-яй-яй, жаль узяла.

75. Жана маладая,
Радасць мая дарагая,
Нарадзі ж ты мне сыночка,
Як ляснога сакалочка.
Нарадзі ж ты мне дачушку,
Як ясную сакалушку.

76. Травушка да муравушка.
Вецер траву да падвявае.
Коля маладу жану да пахваляе:
— Жана мая, маладая,
Ой, радасць мая да дарагая,
Парадзіла да мне сыночка,
Як у садзе сакалочка.

77. Сцелецца да ўецца
Па лузе траўка зеляная,
Ды па лузе траўка шаўкавая.

Цалуе да мілуе Ванечка
Жанушку, да сваю душку:
— Жана мая мілая,
Радасць мая дарагая,
Парадзіла мне сыночка,
Як яснага сакалочка.
Змоладу — на пацеху,
А на старасці — к перамене.
Ён нашы ручанькі пераменіць,
Ён нас к старасці пашануе.

78. Ой, сцелецца да ўецца
У садзе траўка зялёная.
Ой, цалуе да мілуе
Колічак жану маладую.
— Ой, спасіба за сыночка,
За яснага сакалочка,
Ой, жонушка маладая,
Нарадзі шчэ й дачушку,
Як ясную сакалушку.

79. А Іванька малады,
Яго розум залаты.
Сам ідзець па зямлі,
А жану вядзець па скам'і.

80. Іваначка малады,
Яго розум залаты.
Сам ён сядзіць на куце,
Жоначку садзіць ля сябе.
— Не гневайся, мая жана,
Што не ўся твая радня.
Будзем піва мы варыць,
Будзем сына мы жаніць,
Усю радзіначку прасіць.

81




81. А Васічка малады, яго розум залаты.*
А сам ідзець па зямлі, жану вядзець па скам'і,
Зажурылася жана, што не ўся яе радня.
— Цішай, жана, не тужы, будзець ўся твая радня.
А як дасць Бог летца, ой, збяром мы жытцо.
А я піва навару, гарэлачкі наганю!
Я ўсю тваю радзіначку ў госцікі пазаву.

82. Ай, скокну, скокну
Ды на бочку мёду,
Каб наша Ірачка
Радзіла году.
Ай, скокну, скокну
Ды на бочку вару,
Каб наша Ірачка
Радзіла пару.

83. Раса пала на травіцу.
Наша мама — парадніца.**
Дзевяць сыноў парадзіла,**
А дзесятую дачушку.
Яе браты калыхалі,

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Калышачы, прымаўлялі:
— Люлі-люлі, сястрыца,
Спі доўга, расці скора,
Сваёй маме на пацеху,
Чужым людзям на ўспамогу.

84. Піў бы я мёд ды віно,
Худое пахмелле маё.
Жыў бы з жаною харашо,
Злыя мне людзі не даюць.
П'юць і гуляюць у мяне,
Сядзяць-гавораць пра мяне,
Каб я з жаною не жыў,
Каб я дзяцей не любіў.
Лучшэ на свеце не жыць,
Чым жану не любіць.
Жонка пацешыць у піру,
А дзеткі рассмешаць у даму.

85




85. Піў бы я мёд і віно —
Цяжка пахмелле маё.

П'юць і ядуць у мяне,
Судзюць, гаворуць аб мяне.

Каб я пакінуў жану,
Каб я пакінуў маладу.

Як жа я кіну жану,
Як жа я кіну маладу.

Жонка — пакраса мая.
Жонка — пакраса мая.

Дзеткі — пацеха мая,
Дзеткі — пацеха мая.

Жонка — пакрасіць у піру,
Жонка — пакрасіць у піру,

Дзеткі — пацешуць у даму,
Дзеткі — пацешуць у даму.




86. Піў жа я мёд і віно,*
Ліха пахмелейка маё.
Злыя суседзі ў мяне,
Судзяць, гавораць пра мяне,
Каб я й гарэлкі не піў,
Каб я й жану не любіў,
Каб дробных дзетак не жалеў.
Буду й гарэлачку піць,
Буду й жану я любіць,
Буду дробных дзетачак жалець.
Жонка — пакраса мая,
Дзеткі — пацеха мая,
Жонка пакрасіць у піру,
Дзеткі пацешаць на даму.

87. А ў цэркаўцы ва ўсе званы званілі,
А ўсе жоны к абедзенцы хадзілі.
Адна наша Танечка не была:
Яне сабе дачушку радзіла.
А Бог ёй даў, Прачыста памагла,
На ручанькі бабульцы аддала.

88. Пайшла з мужам,
Пайшла з любым
Жыта малаціці.
Настала часінка,
Настала часінка

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Сыночка радзіці.
— Пакінь, мілы, пакінь, любы,
Жыта малаціці.
Памажы ты мне, міленькі,
Сыночка радзіці.

89. Ляціце, птушачкі, роўныя паяском,
Нясіце вестачку роднай мамцы,
Што я сягоння дзіцятка мела,
Што я з сваім мужаньком
Савету не мела.
Якім жа мне дзіцятка імем назваць,
Як жа мне мужаньку свайму сказаць?
— Мужанёк, мужанёк, прыйдзі ты ка мне,
Раскажу ўсё я табе,
Што я так цяжка прыбалела,
Але ўсё роўна сыночка для цябе займела.
Будзем з табой удваіх гадаваць,
Будзем яму здароўя дабаўляць.

90. А хто ж у нас,
А хто ж у нас
У палагу ляжыць?
Надзечка ў нас,
Надзечка у нас
У палагу ляжыць.
У палагу ляжыць,
У палажочку.
А зажадаець заморскага зелля,
А зажадаець заморскага зелля.
А каму ехаць за мора па зелле?
Татульку ехаць па мора за зелле:
«А я й коніка маю, і зелле знаю».

91. Ой, люба, ой, люба Віцечку жана,
Пашыў шубачку з сямі сабалёў.
— Ай, дай жа, Божа, гэту шубачку знасіць.
Гэтую знасіць, другую купіць.




92. А садавая яблын(і)ка над узгор'ем стаяла.*
Над узгор'ем стаяла да бяленька цвіцела.
А падбяленька цвіцела, адзін яблачак мела.
А маладая Леначка ды й цяжэнька хадзіла.
А хоць цяжэнька хадзіла, ды дачушку радзіла.
А хоць набралася мукі, ды й падменіць ёй рукі.
А хоць набралася мукі, ды нап'ёмся гарэлкі.

93. Садовая яблынька над узроўем стаяла,
Хоць беленька цвіцела,
Дык два яблычкі мела,
Хоць цяжэнька хадзіла,
Дык сыночка радзіла.
Хоць набралася мукі,
Дык пярэйміць жа рукі,
Хоць набралася бяды,
Прынясець сюды вады.

94. Садовая яблынька
Ды над краем стаяла.
Хоць над краем стаяла,
Дык беленька цвіла.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Маладая жоначка
Хоць цяжка хадзіла,
Хоць цяжка хадзіла,
Дык сына нарадзіла.
Хоць набралася мукі,
Дык падменіць яе рукі,
Хоць набалелася душка,
Будзе верная служка.

95. Садовая яблынька
На сугор'і стаяла,
Хоць беленька цвіцела,
Ды два яблычкі мела.
Маладая Тацянка
Ой, цяжэнька хадзіла,
Сабе служку радзіла.
Хоць набралася мукі,
Ды пярэйміць жа рукі.
Нацярпелася бяды, —
Прынясець старой вады.

96




96. Садавая ябланька
Над узгоркам стаяла.*

* Кожныя 2 радкі паўтараюцца.

А бяленька цвіцела,
Ды два яблычкі мела.

Маладая Валечка
Так цяжэнька хадзіла.

А цяжэнька хадзіла,
А дачушку радзіла.

Хоць набралася бяды,
Прынясе з саду вады.

Хоць набралася мукі,
Дык нап'ёмся гарэлкі.

97




97. Садавая яблынька
Ў садочку сядзела.

У садочку сядзела,
Белым цветам цвіцела.

Маладая Ларысачка
Па садочку хадзіла.

Па садочку хадзіла
І дачушку радзіла.

Хоць нанылась яе душачка —
Будзець верная служка.

Хоць набралася й мукі,
Дык падменіць яе рукі.

98. А чыя хата, а чыя хата
На вуліцу вакном стаіць,
На вуліцу вакном стаіць?
А чыя жана, а чыя жана

У палозе ляжыць,
У палозе ляжыць?

А Янкава хата, а Янкава хата
На вуліцу вакном стаіць,
На вуліцу вакном стаіць.
А Янкава жана, а Янкава жана
У палозе ляжыць,
У палозе ляжыць.

Ай, загадала, загадала
Вішнёвага соку,
Ай, завалала, ой, завалала
Свайго мужа з току.

А калі сына, а калі сына,
Буду дастаўляці,
А калі дочка, а калі дочка,
Буду прабачаці.

99. Маладая Анютка ў палозе ляжыць
Маладая Анютка ў палозе ляжыць,
А яе муж Іванька ля яе сядзіць.
— Мой міленькі, у каморачку схадзі,
Мне, маладзенькай, вішнёвага соку прынясі.
— Калі сына родзіш, мёду дабуду,
Калі дачушку — вадой адбуду.

100




100. А ў нас сягодня, хвала табе, Божа.*
А засталася Жэнічка ў ложы.
А зажадала вішнёвага соку.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А пазавіце вы Грышачку з току.
А хай дастаніць вішнёвага соку.
Калі сыночак, — я й соку дабуду,
Калі дачушка — я й так перабуду.

101. У нас сягоння навіначка стала —
Наша Янінка ў палозе ляжала,
Дый захацела вішнёвага соку.
— Ды пазавіце Іванку з току,
Няхай прынясе вішнёвага соку.
— Калі на сына, мушу пастарацца.
Калі ж на дочку, — няхай выбачае.
А ў нашым садзе ўсе роўныя кветачкі,
Сынкі, дачушкі — усе роўныя дзетачкі.

102. Дый захварэла, дый захварэла
Надзечка з роду.
Дый захацела, дый захацела
Вішнёвага соку.

— Дый пазавіце, дый пазавіце
Дый Іванечку з току.
Няхай дастанець, няхай дастанець
Вішнёвага соку.

— Калі на сына, калі на сына,
Наґбом буду піці.
Калі на дачку, калі на дачку,
Усё буду любіці.

У вішнёвым садзе, у вішнёвым садзе
Усё белыя кветкі.
Ці сын, ці дачка, ці сын, ці дачка —
Усё роўныя дзеткі.

103




103. Да й захварэла, да й захварэла
Радзіцечка з роду.
Да й захацела, да й захацела
Вішнёвага соку.

— Да й пазавіце, да й пазавіце
Да й Колечку з току.
Няхай дастанець, няхай дабудзець
Вішнёвага соку.

— Калі на сына, калі на сына —
Магу я дабыці,
Калі на дочку, калі на дочку —
Магу ж я забыці.

Ў зялёным садзе, ў зялёным садзе
Вішнёвыя кветкі,
Ці сын, ці дочка, ці сын, ці дочка —
Ўсё роўныя дзеткі.

104. Ды ў нас, у нас
Навіначка была:*

Наша Манечка
Ў полазе ляжала (й).

Да зажадала
Вішнёвага соку.

— Ды прывядзіце
Міленькага з току,

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Няхай прынясе
Вішнёвага соку.

Калі на дочку,
Хай нясе мядочку,

Калі на сына,
Хай нясе віна.

Там у садочку
Ружовыя кветкі,

Ці сын, ці дочачка, —
Усё роўненькія дзеткі.

105. У нас, у нас
Навіначка стала,
Малада Марылька
У полагу ляжала.

— Пайдзіце, прызавіце
Сяргейку з току,
Няхай прынясець
Вішнёвага соку.

106. Ай, зашумела, ай, зашумела ў барочку бяроза,*
Ай, забалела, ай, забалела Янічкі галоўка,
А захацела, а захацела вішнёвага соку.
— А вы схадзіце ды прывядзіце Мішачку з току,
Пускай разышчыць, пускай дастаніць вішнёвага соку.
— Калі на сына, калі на сына, дык рад пастараецца,
Калі на дочку, калі на дочку, мушу адказацца.

107. Ой, зашумела, ой, зашумела
У гародзе маркоўка,
Ой, забалела, ой, забалела

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Фёклачкі галоўка.
Ой, захацела ды зажадала
Вішнёвага соку:
— А вы схадзіце ды прывядзіце
Андрушаньку з току.
— Калі на дочку, калі на дочку,
Я й з току не пайду,
Калі на сына, калі на сына,
Я й соку дастану.

108. Да зашумела ў бярозе макоўка,
Да й забалела ў Зіны галоўка,
Да й захацела, зажадала
Вішнёвага соку.
— Да вы схадзіце,
Арцёмачку пазавіце з току,
Няхай дастане вішнёвага соку.
Калі соку не будзець,
Хай вараныя кані дабудзець,
Калі не стане,
Млоды Арцёмачка дастане.

109




109. Ой, зашумела белая бяроза.[*]
Ой, застагнала Манечка у ложы,
Ой, захацела вішнёвага соку.
— Ой, пазавіце вы Колечку з току,
Ой, каб прынёс ён вішнёвага соку.
— Калі на сына, — магу я дастаці,
А на дачушку — прашу выбачаці.
— Колечка-душка, усе роўныя служкі.

[*] Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Сыночкі будуць араць-баранаваці,
Дачушкі будуць, ой, шыць-вышываці.
Сыночкі пойдуць вайну ваяваці,
Дачушкі будуць слёзы праліваці.
Колечка-душка, яны — нашы служкі.

110




110. Зацвіцела да ў гародзе макоўка,
Зацвіцела да ў гародзе макоўка.

Забалела нашай Броньцы галоўка,
Забалела нашай Броньцы галоўка.

111. Ой, расцвіла ў полі макоўка,
Ой, забалела ў Наташкі галоўка.
— І прывядзіце ж вы Колечку з току,
Я зажадала вішнёвага соку.
— Калі на сына, дык мушу даставіць,
Калі на дочку — няхай выбачаіць.
Калі сыночак, дык мой аратаечка,
Калі дачушка, дык чужая служка.

112




112. Ой, зашумела, ой, зашумела
Ў гародзе макоўка.*

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Ой, забалела, ой, забалела
Манечкі галоўка.

Ой, захацела, ой, захацела
Вішнёвага соку.

— Вы пазавіце, вы пазавіце
Да Колечку з току.

Пускай дабудзіць, пускай дастаніць
Вішнёвага соку.

— Калі на сына, калі на сына,
Магу я дастаці.

А на дачушку, а на дачушку
Прашу прабачаці.

У саду вішня, у саду вішня
Чароўнае лісця.

У тае маці, у тае маці
Ўсе роўныя дзеці.

113. Чыя жана ў полазе ляжала?
Чаго яна, лежачы, жадала?
Зажадала яна вішнёвага соку.
— Прывядзіце міленькага з току,
Кідай, мілы, жыта малаціці,
Бо я буду сыночка радзіці.
— Калі сынок — памажы табе, Божа,
А калі дачушка, ах моцны мой Божа.

114. А што ў нас за навіначка стала,
Ды што ў нас за навіначка стала,
Наша Манечка ў краваці ляжала,
Наша Манечка ў краваці ляжала.
Ды зажадала вішнёвага соку,

Ды зажадала вішнёвага соку,
— Ды прывядзіце ж вы Колечку з току,
Ды прывядзіце вы Колечку з току,
Няхай прынясе вішнёвага соку,
Няхай прынясе вішнёвага соку.
Калі на дочку, няхай нясе мядочку,
Калі на дочку, няхай нясе мядочку,
Калі на сына, няхай нясе віна,
Калі на сына, няхай нясе віна.
Там у садочку ружовыя кветкі,
Там у садочку ружовыя кветкі —
Ці сын, ці дочка — усе роўныя дзеткі,
Ці сын, ці дочка, — усе роўныя дзеткі.

115. А хто ж у нас у полазе ляжыць?
Наша Ніначка ў полазе ляжыць.
А зажадала вішнёвага соку.
— Ай, сышчыце вы Геначку з току,
Няхай дабудзе вішнёвага соку.
— Калі сыночак, я й соку дабуду,
Калі дачушка — гарэлкай адбуду.

116




116. — Чыя то хатачка
На гары стаіць?*

— А Йванькава хатачка
На гары стаіць.

— Чыя гэта Галечка
Ў палажочку ляжыць?

— А Йванькава Галечка
Ў палажочку ляжыць.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

117




117. Маладая Ніначка*
Па хаце пахадзіла
Ды дачушку радзіла.
Хоць набралася мукі,
Дык стамілісь жа рукі.
Хоць нанылася душка,
Будзіць верная служка.

118. А ў нядзелечку паранюсенька
Усе званы званілі.
А ўсе жоначкі маладзенькія
У цэркаўку хадзілі.
Адна Валечка маладзенькая
У цэркаўку не пайшла.
Яна ж сабе, маладзенькая,
Яна ж сабе, маладзенькая,
Дачушку радзіла.

119. Ой, па мору, па сіняму
Селязенька плывець.
Сваю вутачку, сваю шэрую
Ён за крыльцы вядзець.
— А ты, вутачка, а ты, шэрая,
А ці тут зімаваць?
Калі тут зімаваць, калі тут зімаваць,
Дык гняздо сувіваць.
Калі далі плыць, калі далі плыць,
Разлівайся вада, разлівайся вада,
Развівайся трава.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А па сенечках, а па новенькіх
А Колечка ідзець.
Сваю Кацечку маладзенькую
Ён за ручку вядзець.
— А ты, Кацечка, а ты, мілая,
А ці тут начаваць,
Караваць будаваць.

120. Хто-хто каля рэчачкі свішчыць?
Селязень сваёй вутачкі ішчыць.
— Тут, тут мая вутачка была,
Тут, тут яна гняздзечка віла,
Тут, тут дзетак выседзела.

Хто, хто па новай хатцы ходзіць?
Хто, хто сваёй Леначкі ішчыць?
— Тут, тут мая Леначка была,
Тут, тут белу пасцель слала,
Тут, тут яна сыночка радзіла.

121. Хто, хто, хто каля рэчанькі свішчыць?
Селязень шэрай вутачкі ішчыць.
— Тут, тут, тут мая вутачка была,
Тут, тут яна гняздзечка віла.

Хто, хто, хто па новых сенях ходзіць?
— Тут, тут, тут мая Томачка была.
Тут, тут яна пасцельку слала,
Тут, тут яна дачушку клала.

122. А хто ж там каля рэчкі свішчыць?
Селязень сваю вутачку ішчыць.
— Тут, тут мая вутачка была,
Тут, тут яна гняздзечка звіла,
Тут, тут яна яечка знясла.

А хто ж там па новых сенях ходзіць?
Колечка сваю Галечку ішчыць.

— Тут, тут мая Галечка была,
Тут, тут яна пасцельку слала,
Тут, тут яна сыночка мела.

123. А хто, каля рэчанькі свішчыць?
Селязень сваю вутачку ішчыць.
— Ой, тут, тут шэра вутачка была,
Ой, тут, тут гняздзечка віла,
Ой, тут, тут яечка знясла.

А хто, хто новых сенях ходзіць,
А хто, хто сваю мілую ішчыць?
Юзічак па новых сенях ходзіць,
Ён сваю тут жоначку сочыць.
— Ой, тут, тут Марылька была,
Ой, тут, тут пасцельку слала,
Ой, тут, тут сыночка мела.

124. Да хто, хто каля рэчанькі свішчыць?*
Селязенька сваю вутачку ішчэць.
— Тут, тут мая вутачка была,
Тут, тут яна дзетачак вяла.

Да хто, хто па новых сенях ходзіць?*
Ванечка сваю Кацечку ішчэць.
— Тут, тут мая Кацечка была,
Тут, тут яна дзетачак вяла.

125. Да хто, хто каля рэчанькі свішчыць?
Селязень шэрай утачкі ішчыць.
Да хто, хто каля рэчачкі ходзіць?
Януська сваю Фаіначку водзіць.
— Тут, тут мая Фаіначка была,
Тут, тут яна пасцельку слала,
Тут, тут яна дзетачак спаць клала.

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.




126. А хто там
Каля рэчачкі свішчыць,
А хто там каля рэчачкі свішчыць?

Селязень
Свае вутачкі ішчыць,
Селязень
Свае вутачкі ішчыць.

— Тут, тут, тут
Мая вутачка была,
Тут, тут, тут
Яна гняздечка віла.

А хто ж там
Ды па сенюшках ходзіць?
А хто ж там
Ды па сенюшках ходзіць?

Павелка
Ды па сенюшках ходзіць,
Павелка
Сваёй Валечкі ішчыць.

— Тут, тут, тут
Мая Валечка была,
Тут, тут, тут
Яна пасцельку слала.

Тут, тут, тут
Яна пасцельку слала,
Тут, тут, тут
Яна сыночка мела.

127. Салавей да й па трыснічку свішчыць,
Ён сваю да й зязюленьку ішчыць:
— Ой, ка мне, мая зязюлька, ка мне,
А ў мяне да ва гняздзечку мякка.
А ў мяне да й пад крылушкам цёпла.

Млады Ванечка да па хатаньцы ходзіць,
Ён сваю да й Ганулечку просіць:
— Ой, ка мне, мая Ганулечка, ка мне,
А ў мяне да ў пасцеленьцы мякка,
А ў мяне да пад шубанькай цёпла.

128




128. Салавей да па траснічку свішча.*
Ён сваю да зязюленьку ішча.
— А ка мне, мая зязюля, ка мне,
А ў мяне да ў гняздзечку мякка,
А ў мяне да й пад крылушкам цёпла.
Ванечка да й па хатаньцы ходзе.
Ён сваю ды жа Галечку просіць:
— Ой, ка мне, мая Галіначка, ка мне,
А ў мяне да ў криватанькі цёпла.

129. Чыя ж гэта хатачка на гарэ стаіць, на гарэ стаіць?
А Іванькава хатачка на гарэ стаіць, на гарэ стаіць.
А чыя ж гэта Галечка на ложку ляжыць, на ложку ляжыць?
А Іванькава Галечка на ложку ляжыць, на ложку ляжыць.
А Іванькава хатачка на гарэ стаіць, на гарэ стаіць,
А Іванькава Галечка на ложку ляжыць, на ложку ляжыць.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

130. Ой, рой, рой па мору плывець,
Іванька са піру ідзець.
Ён сваю Алачку за ручку вядзець.
— Алачка, ты душа мая,
Пойдзем мы рою глядзець.
— Іванька, ты дружочак мой,
Ёсць у нас дробныя дзеці,
Пайдуць яны рою глядзець,
Нам з табой з людзьмі гаварыць.

131. Ай, рой, рой ды па мору плывець,
Лёнечка Валечку ды за ручку вядзець.
— Валечка, душа мая,
Хадзі, пойдзем рою глядзець.
— Лёнечка, душа мая,
Ета бабка вядзець,
Ета бабка ідзець,
Нам пялёнкі нясець.

132



132. — Мамачка мая,
Баліць галава.
— Дачушка мая,
Лезь на печ, грэйся.

— Мамачка мая,
На печы дзіця.
— Дачушка мая,
Дзе ж ты ўзяла?

— Мамачка мая,
Я й борам ішла,

Я й борам ішла,
Яно крычала.

Яно крычала —
Мне жалка стала.

133. А прасіў Валодзечка, а прасіў Валодзечка
А ён сваю Томачку:
— А, Томачка, любая, мая мілая жоначка,
Нарадзі мне дзевяць сыноў.
Дзевяць сыноў, дзесятую — дочку-швачку.
— Мужу ты, мужу ты мой,
Мужу, сардэчка маё,
Пастанаві ты дзевяць гарадоў,
А дзесяты — церам-церамок.
Тады раджу дзевяць сыноў,
А дзесятую — дочку-швачку.

134



134. А хто там, а хто там
Ды па сенечках ходзіць?*

Гэта сам Ванечка
Сваю Леначку завець.

— А ў мяне, Леначка,
Хатка новая.

А ў мяне, Леначка,
Мамка добрая.

---

* Кожныя два радкі паўтараюцца 2 разы.

А ў мяне, Леначка,
Ды ў хатцы цёпла.

А табе, Леначка,
І са мной будзе добра.

А хто ж там, а хто ж там
Ды па сенечках ходзіць?

135




135. А Клаўдзечка дачушку (...) радзіла.
Яна сваю свякроўку (...) прасіла:

— А свякроўка-мамулька, палі ліхтары.
Ай, свякроўка-мамулька, дай чару вады.

А ты ка мне мілага майго разбудзі.
А ты ка мне мілага майго разбудзі.

— Устань, устань, міленькі, досыць крэпка спаць.
Пойдзем вінаград ламаць, гарэлачку гнаць.

Нагнаўшы гарэлачкі — радзіначку збіраць.
Сабраўшы радзіначку — хрэсьбінкі гуляць.

136. Прасіла зоранька, прасіла зоранька
Яснага месяца:
— Прашу цябе, месячык,
Калі ўзыдзеш раней за мяне,
Прашу цябе — пабудзі мяне.
А прасіла Томачка
Яна свайго Валодзю:
— Калі ўстанеш раней за мяне,
Прашу цябе — пабудзі мяне
А з дробнымі дзеткамі.

137. Цераз рэчаньку,
Цераз быструю
Гібка кладачка ляжыць.*

Па той кладачцы,
Па той кладачцы
Молад Ванечка бяжыць.

Ён за ручачку,
Ён за ручачку
Любу Танечку вядзе.

— Ой ты, кладачка,
Ой ты, гібкая,
Ты ж не гніся пада мной.

Ой ты, Танечка,
Ой ты, любая,
Ты не старыся за мной.

Выпі чарачку,
Пазлачаначку,
Ой, не будзь жа п'яненька.

Радзі сем сыноў
І дачушку,
Ой, не будзь старанька.

— Ой ты, Ванечка,
Ой ты, любенькі,
Ой, няпраўдачка ж твая.

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Вып'ю чарачку,
Пазлачаначку,
Ой, буду п'яненька.

Раджу сем сыноў
І дачушачку,
Ой, буду старанька.

138. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць.
Па тэй кладачцы-серабраначцы
Наш Лявоначка ідзець.
А ён Томачку, ён душу сваю,
Ён за ручаньку вядзець.
— Ах ты, кладачка-серабраначка,
Ты не гніся пада мной,
Ох ты, Томачка, ты душа мая,
Ты не сварыся за мной.




139. Цераз рэчачку, цераз быструю
Гібка кладачка ляжыць.*

Па тэй кладачцы, па тэй гібанькай
Молад Ванечка ідзець.

Ён за ручачку, ён за белую
Сваю Галечку вядзець:

— Ой ты, Галечка, ой ты, душачка,
Не гневайся на мяне,

Радзі сем сыноў і дачушачку
І не будзь жа старанькай.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

140




140. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць.*

Па той кладачцы, серабраначцы,
Ай, там Мішачка ідзець.

Ён жану сваю, младу Жэнечку,
Ай, за ручаньку вядзець.

Ой, ты кладачка, серабраначка,
Не ўгінайся пада мной.

Ой ты, Жэнечка, ты душа мая,
Не старыся ты за мной.

Піўшы водачку, зеляно віно,
Увап'ешся нехаця.

Радзі дзетачак, радзі дробненькіх,
Састарыся нехаця.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

141. Чэраз кладачку-перакладачку
Быстра рэчанька цячэ.
Па той кладачцы-перакладачцы
Венечка прайшоў,
А ён Манечку, ён любімую
За ручаньку правёў.
— Ай ты, кладачка-перакладачка,
Ты не гніся пада мной,
А ты, Манечка, ты, любімая,
Не абіжайся на мяне.
Пі ты мёд, віно, гарэлачку,
Не будзеш ты п'яненька.
А раджай сыноў і дачушачак,
Не будзеш ты старанька.

142. Чэраз кладачку, чэраз дубовую
Там жа Толечка ідзець,
Ён жа Ніначку-гаспадынечку
Ён за ручаньку вядзець.
— Ах ты, кладачка, ты, дубовая,
Не гніся пада мной.
Ах ты, Ніначка-гаспадынечка,
А не гневайся нада мной.
А пі піва і гарэлачку,
А не будзь п'яненька,
А радзі сына і дачушачку,
А й не будзь ты старанька.

143. Да ў чыёй жа каморцы
Да агонь паблёскуець?
Там Фенечка наша ўстала,
Сваю чэлядзь пабуджала:
— Да ўстань жа, мая чэлядзь,
Да прадзі белы кужаль,
Да сучы шнурочкі
Для майго палажочка.

144. Ляціце, птушачкі, роўным паяском,
Нясіце вестачку роднай мамцы,

Што я сягоння дзіцятка мела,
Што я з сваім мужаньком
Савету не мела.
Якім жа мне дзіцятка імем назваць,
Як жа мне мужаньку свайму сказаць?
— Мужанёк, мужанёк, прыйдзі ты ка мне,
Раскажу ўсё я табе,
Што я так цяжка прыбалела,
Але ўсё роўна сыночка для цябе займела.
Будзем з табой удваіх гадаваць,
Будзем яму здароўя дабаўляць.

## ВЕЛІЧАЛЬНЫЯ ПЕСНІ ПРА БАБКУ І КУМОЎ

145. Па лугу бабка хадзіла, хадзіла,
Зелле-карэнне збірала, збірала.
Зелле-карэнне збірала, збірала,
Радзішачку спасала, спасала.

146. Радзілася малютка,
Радзілася малютка
Ды бабцы на ручкі,
Ды бабцы на ручкі.
Наварыла бабка
Салодкае кашкі,
Салодкае кашкі.
Сабрала бабка
Добрую бяседу,
Добрую бяседу.

147. Ой, хто, хто да паўночы ходзіць,
Ой, хто, хто да бабулькі просіць?
Колечка да паўночы ходзіць,
Колечка да бабулькі просіць:
— Бабулечка, міленькая,
Абратуй ты жану маю,
Абратуй ты жану маю,
Я табе дарага ўплачу.

148




148. Ой, хто, хто да паўночы ходзіць?
Ой, хто, хто да бабулькі просіць?

— Бабулька мая, да прыдзі ты ка мне,
Да ні ка мне — да к(ы) маёй жане.

Да ў мае жаны жываточак баліць,
Не магу ж я да вечара дажыць.

149. Ох, хто, хто да па ночы ходзіць,
Ох, хто, хто да бабулькі просіць:
— Бабка мая, ды прыдзі ты ка мне,
Не ка мне, а к маей жане.
Ужо мая жана да дзіця радзіла.
Калі сын, дык буду сам калыхаць,
Калі дачка — будзеш сама калыхаць.
Калі сын — калысачку цісавую,
Калі дачка — калысачку лубяную.

150. А між сотачак,
Між каморачак
Галечка павай хадзіла,
Павай хадзіла,
Сына радзіла.
— Ой ты, Мішачка,
Ты мой душачка,
Ой, бяжы, бяжы
Па бабушачку.
Бабулька бяжыць,
Аж зямля дрыжыць,
І без пояса,
У адным чобаце,

І прасцінaчку ў руках нясе.
— Распрасці ж, Божа,
А дзве душачкі,
А дзве душачкі,
Мае ўнучачкі.
Адну душу ахрышчаную,
А другую душу народжаную.

151




151. Да й у нядзельку, да й параненьку
Ішоў Іванко да й па бабачку.

Яго бабачка да й дагадыначка,
Дагадалася да й сабралася.

Да й сабраўшыся, да й сама прышла,
Да й сама прышла, просцінь прынясла.

Просцінь прынясла й Бога прасіла:
— Да прашчай, Божа, да дзве душачкі.

Адну душачку да старэнькую,
Другу душачку да й маленькую.

Там старэнькую вазвраці, Божа,
А маленькую узрасці, Божа.

152. Ай, між сотачак, між каморачак,
Ай, там Анютка ўпавай хадзіла,
Упавай хадзіла, дачку радзіла.
— Ай, мой Колечка, ай, мой душачка,
Ай, бяжы, бяжы па бабулечку.
А бабулька бяжыць, аж зямля дрыжыць,
Прасцiначкі ў руках нясе.
— Ай, прасці, Божа, ай, дзве душачкі,
Ай, дзве душачкі, мае ўнучачкі,
Бо адна душачка нараджоная,
А другая — мая хрышчоная.

153




153. Да цёмная тая ноч была,
Да цёмная тая ноч была,

Дзе Галінка дзіця радзіла,
Дзе Галінка дзіця радзіла,

Белыя ручкі ламаючы,
Дробныя слёзкі ўціраючы.

— Ой, схадзіце па бабулечку,
Ой, схадзіце па бабулечку.

Няхай яна да скарэй ідзець,
Няхай яна пялёнкі нясець.

154. Ой, хто, хто з поўначы ходзіць,
Ой, хто, хто бабулькі просіць?
Колечка з поўначы ходзіць,
Маладзенькі бабулькі просіць:
— Ой, прыйдзі ж ты ка мне,

9—1527

Да не ка мне, а к маей жане,
Бо мая жана вельмі нядужа.
— Унучак, галубчык, не злякаймася,
Дасць Бог нам або сына, або дачку.

155. Ох, хто, хто
Да па сенях ходзіць,
Ох, хто, хто,
Да бабулькі просіць:
— Бабка мая,
Да прыдзі ты ка мне,
Не ка мне,
Да к маёй жане.

156. Хто, хто па ночы ходзіць,
Да хто, хто да бабулькі просіць:
— Да бабулька, да галубка мая,
Да прыйдзі да мае жаны:
У мае жаны да жывоцік баліць,
Жывоцік баліць, сярэдзінка шаліць.
Калі сын, то пісар будзе,
Калі дачка, то швачка будзе,
Калі сын — залатое пяро,
Калі дачка, то дубовая каробачка.

157. А хто, хто да паўночы ходзіць,
А хто, хто да бабулькі просіць:
— Бабулька мая, да прыйдзі ка мне,
Да не ка мне, да к маёй жане.
Да маёй жане жыватok баліць,
Не магу ж я да да вечара дажыць.

158. Ці не стук стучыць пад акном,
Ці то Юрачка па бабулю йдзець.
— Паслухай мяне, ідзі ты ка мне,
Перабаб ты маё дзіцятачка,
Перабаб ты маленька,
Ты ў мяне бабушка пасаджаная.




159. Ой, чый то садочак,
Ой, чый то садочак,
Тынам тынаваны,
Тынам тынаваны?

А ў тым садочку
Надзечка хадзіла.
Надзечка хадзіла,
Сыночка радзіла.

Сыночка радзіла,
Бабульку прасіла:
— Бабульку-рыбульку,
Прыхініся да мяне.

Прыхініся да мяне,
Да майго дзіцяці
Пупок завязаці,
Пупок завязаці.

Дам табе заплату,
Дам табе заплату,
На хвартушок лату,
На хвартушок лату.

160. Ой, чый то садочак
Тынам тынаваны,*
Дылем дыляваны?
То Мішаў садочак
Тынам тынаваны,

* Кожны другі радок паўтараецца 2 разы.

Дылем дыляваны.
А па тым садочку
Галенька хадзіла,
Бабулькі прасіла:
— Бабулька-рыбулька,
Прыйдзі дзісь да мяне.
Да майго дзіцяці,
На ручкі прыняці.
Дам табе заплату
Падарак, як карту,
Тоненькі, бяленькі,
Тоненькі, бяленькі,
З бабулькай раўненькі.

161. Антоська ў полазе ляжыць,
Малада ў полазе ляжыць.
Іванечка па бабачку бяжыць,
Іванечка па бабачку бяжыць.
Бабачка за галоўку дзяржыць,
Бабачка за галоўку дзяржыць:
«Стрэж, Божа, парадзіллі маёй,
А анёлы да дзіцятка яе!»

162. А хто, хто ў нас да па ночы ходзіць,
А хто, хто ў нас да бабульку просіць:
— Бабулька мая, галубка мая,
Прыйдзі ж ты ка мне і к маёй жане.
У маей жаны жываток баліць,
Жываток баліць, сярэдзінку ломіць.
— Унучак ты мой, галубочак мой,
Не журыся ты, каго Божа дасць.
Калі дачушку — швачкаю будзе,
А калі сынка — пісарам будзе.

163. А цераз гару сцежачка горная ляжала,
А хто гэту сцежачку ўтаптаў?
А ўтаптаў сцежачку ўнучак,
А да сваёй бабулі ў госці ходзячы,
А сваю бабулю просячы.
Хромавы боцікі ён знасіў,
Як сваю бабачку ўпрасіў.

164. У нядзельку дый параненьку,
Ішоў Колечка дый па бабачку,
Яго бабачка дый дагадначка,
Дагадалася дый сабралася,
Дый сабралася, дый сама прыйшла.

165. — А мой жа ж ты Іванушка,
Ідзі ж ты за бабулечкай.
А бабулечка здагадалася,
Здагадалася ды сама прыйшла.
У правай ручаньцы белы сыр нясла,
У левай ручаньцы ды пялёначкі.

166




166. А ўчорака навіна была* —
Млада Верачка дзіця радзіла.
— Ой ты, Лёнечка, ты мой міленькі,
Пасцялі жа ты мне пасцелечку.
Пад галовачку хоць пуховачку,
Пад сярэдзінку хоць пярыначку,
Пад белы ножкі прасцірадлачка,
Ды і сам ідзі за бабулечкай.
А бабулечка дагадалася
Ды сама ісці сабіралася.

167. Ай, стуку-груку, ай, стуку-груку ды па вуліцы,
Бяжыць Ванечка па бабулечку.
— Ты бабулечка, ты Міхайлаўна,
Я прашу цябе, ты не 'стаў (астаў) мяне,
Перабаб маё ты дзіцяцетко,
А маё дзіця нараджонае,
Нараджонае, небаблёнае.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Ай, стуку-груку, ай, стуку-груку ды па вуліцы,
Бяжыць Ванечка па кумусеньку.
— Ты кумусенька, ты Антонаўна,
Я прашу цябе, ты не 'стаў мяне,
Перахрысці маё ты дзіцяцетко,
А маё дзіця нараджонае,
Нараджонае, нехрышчонае.
Ай, стуку-груку, ай, стуку-груку ды па вуліцы,
Бяжыць Ванечка па куманёчка.
— Ты куманёчак, ты Тарасавіч,
Я прашу цябе, ты не 'стаў мяне.
Пераксці маё ты дзіцяцетко,
А маё дзіця нараджонае,
Нараджонае, нехрышчонае.

168. А па вуліцы і стучыць і гручыць,
Малады Колечка за бабулькай бяжыць.
Ён жа тростачкай папіраецца,
Да бабулечкі ён спяшаецца.
— Ой, бабулечка, ты душа мая,
Хадзі перабаб ты дзіця маё,
Дзіця малое маё, нараджонае.
А па вуліцы і стучыць і гручыць,
Малады Колечка за кумулькай бяжыць.
— Ой, ты кумачка, ой, душа мая,
Хадзі пераксці ты дзіця маё,
Дзіця малое маё, нараджонае.
А па вуліцы і стучыць і гручыць,
Малады Колечка за кумам бяжыць.
— Ой, кумочак мой, галубочак мой,
Хадзі пераксці ты дзіця маё,
Дзіця малое маё, нараджонае.

169. Хто па вуліцы і стучыць і гручыць?
А Лявоначка па бабусю бяжыць.
— Ты бабусенька-галубусенька мая,
Хадзі перабаб дзіця малога майго.
А па вуліцы і стучыць і гручыць,
А Лявоначка па кумочка бяжыць.
— Ты кумочак-галубочак мой,

Хадзі пераксці дзіця малога майго.
А па вуліцы і стучыць і гручыць,
А Лявонечка па кумусю бяжыць.
— Ты кумусенька-галубусенька мая,
Хадзі пераксці дзіця малога майго.

170




170. Каля хатачкі, каля новенькай
Стукачыць, грукачыць.*

Наш Іванька, наш Іванька
За бабусяй бяжыць.

— Пойдзем, бабка, пойдзем, любка,
Да сягодня ка мне.

Каля хатачкі, каля новенькай
Стукачыць, грукачыць.

Наш Іванька, наш Іванька
Па кумку бяжыць.

— Пойдзем, кумка, пойдзем, любка,
Да сягодня ка мне.

Каля хатачкі, каля новенькай
Стукачыць, грукачыць.

Наш Іванька, наш Іванька
Па кумочка бяжыць.

— Пойдзем, кумочак, пойдзем, кумочак,
Да сягодня ка мне.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

171. Цераз бор сцежачка ляжала,
Цераз бор вузкая ляжала.
А хто тую сцежачку ўтаптаў?
А ўтаптаў тую сцежачку Федзечка,
А да сваёй бабулькі ходзячы,
А да сваёй любулькі ходзячы.
А новыя боцікі ён знасіў,
Пакуль сваю бабульку ўпрасіў.

172. А хто, хто рана роску аббіў?
Валодзя, Валодзя за бабкай хадзіў.
Шчыранька, верненька ён бабку прасіў:
— Прашу цябе, бабачка, не для сябе, маладога,
Не для сябе, маладога, для дзіцяці малога.
А ў каго, а ў каго вінаград на двары?
У нашага Валодзі вінаград на двары.
Пасадзіў бабачку на самым куце,
Частуець, вяльмуець, частуець, вяльмуець,
Нікому — сам сабе:
Каб яго дзіцяця вяліка расло,
Вяліка расло, шчасліва было.

173. Каля саду сцежачка,*
А ішла туды бабачка.
Ёй насустрач Гасподзь Бог.
— Куды ідзеш, бабачка?
— На хрэсьбінкі, Гасподзь Бог.
— А з чым ідзеш, бабачка?
— З пялёнкамі, Гасподзь Бог.
Каля саду сцежачка,
А ішла туды кумачка.
Ёй насустрач Гасподзь Бог.
— Куды ідзеш, кумачка?
— На хрэсьбінкі, Гасподзь Бог.
— А з чым ідзеш, кумачка?
— З напрадкаю, Гасподзь Бог.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Каля саду сцежачка,
А ішоў па ёй кумочак.
Яму насустрач Гасподзь Бог.
— Куды ідзеш, кумочак?
— На хрэсьбінкі, Гасподзь Бог.
— А з чым ідзеш, кумочак?
— З чырвонцамі, Гасподзь Бог.
— Шчаслівая дарожка, кумочак!

174. Да й у нядзельку да параненько
Ішоў Іванка да па бабачку.
Яго бабачка да й дагадначка
Дагадалася да й сабралася.
Да й сабралася, да й сама прыйшла,
Да й сама прыйшла, простынь прынясла.
Прасцінку нясла й Бога прасіла:
— Прашчай, Божа, да дзве душачкі:
Адну душачку да старэнькую,
Другу душачку да й маленькую.
Да й старэнькую прасці, Божа,
А й маленькую узрасці, Божа.

175. Ні з клетачак, ні з паветачак,
Там дзевачка хадзіла, сына нарадзіла.
— Ты, Колечка, ты, душачка,
Ой, бяжы, бяжы
Па бабулечку.
Наша бабулечка
І дагадліва, і спагадліва.
Сама бяжыць,
Аж зямля дрыжыць.
— Разлучы, Божа,
Ды дзве душачкі.
Адну маладзенькую,
Другую маленькую.
Маладзенькую
Шанаваці будзем,
А маленькую
Спавіваці будзем.

176. Цераз рэчку кладачка,
А там ішла бабусенька,
Госпадзь Бог, Госпадзь Бог!
— Куды ідзеш, бабусенька?
— На радзіначкі.
Госпадзь Бог, Госпадзь Бог!
— А што нясеш ты, бабусенька?
— Пакрывальца,
Госпадзь Бог, Госпадзь Бог!

177. Каля цэркаўкі дарожка,
А там ішла бабуся,
А там ішла любуся.
Сустрэў яе Госпад Бог.
— А куды ідзеш, бабуся?
А куды ідзеш, любуся?
— На радзіначкі, Госпад Бог.
— А што нясеш, бабуся?
А што нясеш, любуся?
— А пялёначкі, Госпад Бог.
— Ідзі, ідзі, бабуся,
Ідзі, ідзі, любуся.

Каля цэркаўкі дарожка,
А там ішла кумуся,
А там ішла любуся.
Сустрэў яе Госпад Бог.
— А куды ідзеш, кумуся?
А куды ідзеш, любуся?
— На радзіначкі, Госпад Бог.
— А што нясеш, кумуся?
А што нясеш, любуся?
— А пялёначкі, Госпад Бог.
— Ідзі, ідзі, кумуся,
Ідзі, ідзі, любуся.

Каля цэркаўкі дарожка,
А там ішоў кумочак,
А там ішоў галубочак.
Сустрэў яго Госпад Бог.
— А куды ідзеш, кумочак?

А куды ідзеш, галубочак?
— На радзіначкі, Госпад Бог.
— А што нясеш, кумочак?
А што нясеш, галубочак?
— А пялёначкі, Госпад Бог.
— Ідзі, ідзі, кумочак,
Ідзі, ідзі, галубочак.

178. Кала саду сцежачка, кала саду сцежачка,
Туды ж пайшла бабуся, туды ж пайшла галубуся.
Сустрэў яе Госпад Бог, сустрэў яе Госпад Бог.
— Куды ідзеш, бабуся, куды ідзеш, галубуся?
— На хрэсьбіны, Госпад Бог, на хрэсьбіны, Госпад Бог.
— Час табе добры, бабуся, час табе добры, галубуся.

179. Чэраз рэчку кладачка,
А там ішла бабачка.
Спаткаў яе зайка:
— Куды ідзеш, бабка?
— К унучцы, заячка.
— А што нясеш, бабка?
— Намётачку, заячка.

180. А завешаны каўры
А да самай жа зямлі,
А за тымі каўрамі
Парадзіначка ляжыць.
А хто к ёй прыхінецца,
Віна-мёду нап'ецца.
Бабулька прыхінецца,
Віна-мёду нап'ецца.

181. А завешаны каўры
Аж да самае зямлі.
А за тымі каўрамі
Парадзішачка ляжыць.
— А бяжы, бяжы, Сямёначка,
Па бабулечку.
Бабулечка бяжыць,
Аж пад ёй зямля дрыжыць.

На руках нясе прастыначку.
А завешаны каўры
Аж да самае зямлі.
А за тымі каўрамі
Парадзішачка ляжыць.
— А бяжы, бяжы, Сямёначка,
Па кумачку.
Кумачка бяжыць,
Аж пад ёй зямля дрыжыць.
А завешаны каўры
Аж да самае зямлі.
А за тымі каўрамі
Парадзішачка ляжыць.
— А бяжы, бяжы, Сямёначка,
Па кумочка.
А кумок бяжыць,
Аж зямелька дрыжыць.

182. Наша Валечка ў белай пасцелі ляжала,
З сваім Колечкам паціхонечку гукала:
— Здаецца ж, мы п'янае піва варылі,
Ай, чаму-чаму сваю бабулю не ўпаілі?
Сядзіць бабуся цверазюсенька на куце,
Ой, дзяржыць-дзяржыць залаты кубак у руцэ.
Ай, трэба-трэба залаты кубак наліці,
Ай, трэба-трэба сваю бабулю ўпаіці.

183. Ой, Манечка па сянёх хадзіла,
Яна свайго Пецечку пабудзіла:
— Ай, устань, Пецечка, абачхніся,
Нас ужо суседзі абсудзілі,
Што наша бяседа невясёлая,
Што наша бабулька не п'яненькая,
Ай, сядзіць на куце цверазенька.

184. У Івана, у Івана
Вінаград на дварэ.
Пасадзіў, пасадзіў
Ні людзям, а сабе.
У Івана, у Івана
Вінаград на дварэ:

Ён садзіў, палівае
Ні людзям, а сабе.

Пасадзіў, пасадзіў
Бабу на куце.
— Пей, гуляй, бабачка,
Весяліся ў мяне:
Штоб маё дзіцятка
Вяліка расло,
Штоб маё малое
Шчасліва было.

Пасадзіў, пасадзіў
Кума на куце.
— Пей, гуляй, кумочак,
Весяліся ў мяне:
Штоб маё дзіцятка
Вяліка расло,
Штоб маё малое
Шчасліва было.

Пасадзіў, пасадзіў
Куму на куце.
— Пей, гуляй, кумачка,
Весяліся ў мяне:
Штоб маё дзіцятка
Вяліка расло,
Штоб маё малое
Шчасліва было.

185



185. А ў каго, а ў каго
А явар на дварэ?*

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Ў нашага Мішачкі
А явар на дварэ.

Сабраў пір, бяседу,
Не людзям — сам сабе.

Пасадзіў, пасадзіў
Ён бабульку на куце.

— Пі ж, мая бабуся,
І гарэлку, і віно.

А ў каго, а ў каго
А явар на дварэ?

У нашага Мішачкі
А явар на дварэ.

Сабраў пір, бяседу
Не людзям — сам сабе.

Пасадзіў, пасадзіў
Ён кумачку на куце.

— Пі ж, мая кумачка,
І гарэлку, і віно.

А ў каго, а ў каго
А явар на дварэ?

Ў нашага Мішачкі
А явар на дварэ.

Сабраў пір, бяседу
Не людзям — сабе.

Пасадзіў, пасадзіў
Ён кумочка на куце.

— Пі ж ты, мой кумочак,
І гарэлку, і віно.

186




186. Во хто, хто
Да па ночы ходзіць,
Во хто, хто
Да бабунькі просіць?

Малойчык
Да па ночы ходзіць,
Малойчык
Да бабунькі просіць.

Бабунька
Падводку любіць,
Нам, маладым,
Гарэлачкі купіць.

Во хто, хто
Да па ночы ходзіць,
Во хто, хто
Да кумочка просіць?

Малойчык
Па ночы ходзіць,
Малойчык
Кумочка просіць.

Да напала
Да дарожка сняжком,
Да не дойдзе
Да наш кумок пяшком.

Наш кумок
Падводкі любіць,

Нам, маладым,
Гарэлачкі купіць.

Во хто, хто
Да па ночы ходзіць,
Во хто, хто
Да кумачкі просіць.

Малойчык
Да па ночы ходзіць,
Малойчык
Да кумачкі просіць.

Наша кумка
Падводкі любіць,
Нам, маладым,
Гарэлачкі купіць.

Запрагайце
Каня варанога,
Да вязіце
Кума маладога.

Запрагайце
Да дванаццаць сабак,
Да вязіце
Да бабульку ў кабак.

Наша бабка
Падводкі любіць,
Нам, маладым,
Гарэлкі купіць.

187. У нашага Васіля вінаград на дварэ,*
Ён садзіў, паліваў не чужым, ён — сабе.
Пасадзіў, пасадзіў бабу на куце.
— Пі, гуляй, бабачка, весяліся ў мяне:
Штоб маё дзіцяця вяліка расло,
Штоб маё дзіцяця шчасліва было.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

188. У нашага Колечкі
Ды явар на дварэ,
Ён справіў хрэсьбінкі
Людзям і сабе.
Пасадзіў бабульку
На самым куце.
— Не бядуй, унучак, па маёй галаве,
Прадасі і коніка, і кароўку,
Пакуль упоіш ды маю галоўку.

У нашага Колечкі
Явар на дварэ,
Ён справіў хрэсьбінкі
Людзям і сабе.
Пасадзіў кумочка
На самым куце.
— Не бядуй, унучак, па маёй галаве,
Прадасі і коніка, і кароўку,
Пакуль упоіш ды маю галоўку.

У нашага Колечкі
Явар на дварэ,
Ён справіў хрэсьбінкі
Людзям і сабе.

189. А ў нашага Мішачкі*
Дубок на дварэ.
Ён пасадзіў за стол бабку
Гасцям і сабе.
Ён пасадзіў за стол кума
Гасцям і сабе.
Ён пасадзіў за стол куму
Гасцям і сабе.
А частуець, ганаруець,
Павага яму.

190. А ў Юрачкі на двары
Вінаград, вінаград.
Учыніў ён бяседачку,
Вельмі рад,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Вельмі рад.
Учыніў ён бяседачку
І людзям, і сабе,
Пасадзіў ён бабулечку
Ды на самым куце.

191. А ў нашага Ванечкі вінаград на дварэ,
Вінаград на дварэ.
Ой, да пасадзіў бабульку на самым куце,
Да на самым куце.
Частуе грамаду да не людзям — сабе,
Да не людзям — сабе.
Мядком салодзенькім і віном зялёненькім,
І віном зялёненькім.

192. У Івана на дварэ
Стаяць коні ў рамуне.
— Гуляй, бабачка, гуляй,
Гуляй, галубка, гуляй.
Як бабулька падап'е,
Ўнук дадому завязе.
Гуляй, бабачка, гуляй,
Гуляй, галубка, гуляй.

У Івана на дварэ
Стаяць коні ў рамуне.
— Гуляй, кумочак, гуляй,
Гуляй, галубочак, гуляй.
Як кумочак падап'е,
Унук дадому завязе.
Гуляй, кумочак, гуляй,
Гуляй, галубочак, гуляй.

У Івана на дварэ
Стаяць коні ў рамуне.
— Гуляй, кумачка, гуляй,
Гуляй, галубка, гуляй.
Як кумачка падап'е,
Кум дадому завязе.
Гуляй, кумачка, гуляй,
Гуляй, галубка, гуляй.

193. А ў нашага Ванечкі
Вінаград на дварэ.
А ў нашага Ванечкі
Бабуля на куце.
Ён да яе сем раз прыходзіў,
Покуль, покуль на куце.
А ў нашага Ванечкі
Кумы на куце.
У кума штаны,
Мы не знalі цаны,
А гэта табе шуба —
Сто рублёў каштуе,
А на куме андарак,
Прап'ем яго так.

194. Кладзі, бабулька, на мыла,*
Каб цябе Галя любіла,
Каб цябе на вуліцы пазнала,
Каб цябе бабкай назвала.

195. Я ж, малада, усю ночку не спала*,
Я ж да сябе любых госцікаў ждала.
Любых гасцей а бабулечкі сваей.
Столікі абрусам засцілала,
Паўміскі сухароў накладала,
Кубачкі я віном налівала,
Я ж сваю а бабульку частавала.

196




196. Пад белай бярозаю**
Хведарка бычкі пасе.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Хведарка бычкі пасе,
Манечка есці нясе.

— Манечка, душа мая,
Дзе ж ты дагэтуль была?

— Я ж была ў пана Бога,
Столікі засцілала.

Столікі засцілала,
Чарачкі налівала.

Чарачкі налівала,
Бабульку частавала.

Чарачка паўнюсенька,
Бабулька п'янюсенька.

197




197. Пад белай бярозаю*
Юзічак бычкі пасе.

Юзічак бычкі пасе,
Танечка есці нясе.

— Танечка, душа мая,
Дзе ж ты дагэтуль была?

— Я была ў пана Бога.
Чарачкі налівала.

Чарачкі налівала,
Бабульку частавала.

Чарачкі паўнюсенькі.
Бабулька п'янюсенька.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

198. Павей, павей, ветрыку,
Пад новую святліцу.
Развесялі госці мае,
Развесялі любыя мае.
А што ў мяне за госці?
Мая бабулька ў мяне.
Гэта ж мае госці ўсе,
Гэта ж мае любыя ўсе.

Павей, павей, ветрыку,
Пад новую святліцу,
Развесялі госці мае,
Развесялі любыя мае.
А што ў мяне за госці?
Мая кумка ў мяне,
Гэта ж мае госці ўсе,
Гэта ж мае любыя ўсе.

Павей, павей, ветрыку,
Пад новую святліцу,
Развесялі госці мае,
Развесялі любыя мае.
А што ў мяне за госці?
Мой кум у мяне,
Гэта ж мае госці ўсе,
Гэта ж мае любыя ўсе.

199




199. А па вуліцы, па шырокай,
А мяцель павяваець.[*]

---

[*] Радок паўтараецца 2 разы.

А Колечка маладзенькі
Коніка сядлаець.*

А Манечка, жана яго,
А ў яго пытаець:*

— А Колечка, дружочак мой,
А куды ты паедзеш?*

— А Манечка, душа мая,
Па сваю бабусю,
Па сваю мамусю.

— Ты бабуся, ты мамуся,
Паслухай ты мяне.*

А не так мяне, а не так мяне,
Як майго дзіцяці,
Як майго малога.

А па вуліцы, па шырокай
А мяцель павяваець.*

А Колечка, а бацькавіч
Коніка сядлаець.*

А Манечка, да жана яго
А ў яго пытаець:*

— Колечка, дружочак мой,
А куды ты паедзеш?*

— А Манечка, душа мая,
Па сваю кумусю,
Па тваю сяструсю.

— Ты кумуся, ты сяструся,
Паслухай ты мяне.*

А не так мяне, а не так мяне —
Маё дзіця дарагое,
Чада здаравое.

А па вуліцы, па шырокай
А мяцель павяваець.*

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца.

А Колечка да бацькавіч
Коніка сядлаець.*

А Манечка, душа яго,
А ў яго пытаець:*

— А Колечка, дружочак мой,
А куды ты паедзеш?*

— А Манечка, душа мая,
Па свайго кумочка,
Па свайго браточка.

— Ты кумочак, ты браточак,
Паслухай ты мяне.*

А не так мяне, а не так мяне,
Як майго дзіцяці,
Як майго малога.

200




200. Ў нашага Іванькі,*
Вінаград на дварэ.*

Ў нашага Іванькі*
Мёд-віно на стале.*

Пасадзіў бабусю,
Сваю галубусю
Ён на самым куце.*

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца.

Ён яе цалуе,
Ён яе мілуе,
Ні людзям — сам сабе.*

Наша бабуся,
Наша галубуся
Йна паездкі любіць.*

Наша бабуся,
Наша галубуся
Нам гарэлкі купіць.*

201. Не слава, не слава,
Пецечка, твая,
Не п'яна, не п'яна бабулька твая.
Учыні, учыні, Пецечка, славу,
Напаі, напаі бабульку п'яна.

202. — Бабулька, пахнючая мята,
Чаму не пяеш?
— Тут багатая хата.
— Кумачка, чырвоная ружа,
Чаму не пяеш?
— Тут пяяці нягожа.
— Кумочак, вішнёвы садочак,
Чаму не пяеш?
— Піў салодкі мядочак.

203. Над ракой вярба сукаватая,
На куце бабка ўсё багатая.
Над ракой вярба сукаватая,
На куце кума ўсё багатая.
Над ракой явар зелянюсенькі,
На куце кумок маладзюсенькі.
А ў бабкі кабат — сто рублей аддат,
А ў кумы каралі — сто рублей сталі,
А ў кума штаны — ім няма цаны,
Кругом варота, а ўсё залота.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца.

204. Сядзіць бабка на куце, на куце,
Як галубка на кусце, на кусце.
А зганіце яе далоў,
Хай пойдзець дамоў.
— А я дамоў не пайду,
А я за куцец
Палучу шкумавец.

205. З куту, бабка, далоў,
З куту, любка, далоў.
— Запражы, мой унучак,
Хоць сямнаццаць валоў.*
Запражы, мой унучак,
Да дванаццаць сабак*
І адвязі, мой унучак,
Гэту бабку ў кабак.*

206. У гародзе мята купата,
На куце бабка багата.
Ай, хлопчыкі руту абламалі,
Багатую куму занялі.

207. А ў куце, а ў куце
Бачурачка сакоча,
З куту ісці не хоча.
— Ай, бабуся, галубуся,
А тады ж я пайду,
А тады ж я пайду,
Як гарэлку ўсю пап'ю.

208. Запражыце, запражыце
Дванаццаць валоў,
Адвязіце, адвязіце
Гэту бабку дамоў.
А валы не йдуць —*
Упіраюцца,
Бабуля на кут*

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца.

Падзвігаецца.
Бабуля кажа,*
Што дамоў не пайду,
Пакуль ва ўнучка,
У галубочка
Усю гарэлку не пап'ю.

209. Наша бабка, наша галубка
Да паманачку любіць,
Нам маладзенькім,
Нам харашэнькім
Да гарэлачкі купіць.
Ой, яна купіць,
Ой, яна купіць,
Яшчэ й насалодзіць,
Нам маладзенькім,
Нам харашэнькім
Вельмі падгодзіць.

210. У саду ябланька,
У саду ябланька
І беленька цвіцець.
Наша бабулька,
Наша бабулька
Цверазенька сядзіць.
А перад ёю
Молад Іванька
А без шапкі стаіць.
— Пі, мая бабка,
Пі, мая любка,
Толькі ўсю не выпівай,
А к заўтраму
На пахмелейка
Хоць нямножка пакідай.

211. Сядзіць баба на куце,
Залаты персцень на руцэ.
Гасцінцы ў кішэні давала,

* Радок паўтараецца 2 разы.

А з кішэні лашчуцца,
А нам жа іх хочацца.
Яна дае маркотна,
А мы бяром ахвотна,
А яна дае плачучы,
А мы бяром скачучы.

Сядзіць кума на куце,
Залаты персцень на руцэ.
Гасцінцы ў кішэні давала,
А з кішэні лашчуцца,
А нам жа іх хочацца,
Яна дае маркотна,
А мы бяром ахвотна,
А яна дае плачучы,
А мы бяром скачучы.

Сядзіць кум на куце,
Залаты персцень на руцэ.
Гасцінцы ў кішэні даваў,
А з кішэні лашчуцца,
А нам жа іх хочацца.
Ён дае маркотна,
А мы бяром ахвотна,
А ён дае плачучы,
А мы бяром скачучы.

212. Бабка к унучцы барозенкай ішла,
Бабка ўнучцы тры гурочкі нясла.
— На, мая ўнучка, тры гурочкі табе,
Каб не балелі жываточкі твае.

213. Бабка к унучцы*
Па гароду ішла,
Бабка унучцы
Парасёнка нясла,
Парасёнка з хвастом
І каўбаскі з мясцом.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

214. Наша бабулька малімонка
Не п'е гарэлкі.
Кажа: «Горка!»
Да яе ўнучкі прыхадзілі,
Гарэлку мёдам пасаладзілі.
Мая бабулька — пахнюча мята,
Любяць цябе ўнучкі,
Што ты багата!

215. Ой, чарачкі-бачарачкі
На стале пакачу,
Ой, бабулька, бабулька,
Я гарэлкі хачу.
Ой, чарачкі-бачарачкі,
На стале я не была,
Ой, бабулька, бабулька,
А гарэлкі не піла.

216. Сядзіць бабулька цверазюсенька на куце,*
Дзяржыць бабулька медную чарачку ў руцэ:
— Давай, унучак, давай, любенькі, вып'ем,
Налей поўную, налей роўную, вып'ем.

217. А я к табе, мой унучак,
Не на тое прыйшла,
Каб ад цябе, мой унучак,
Пехатою пайшла.
А ўчора і з вячора
Бабцы просьба была,
А сягоння ранюсенька
Бабка сама прыйшла.
Запражыце, залажыце
Ды дванаццаць сабак,
Адвязіце, адвязіце
Вы бабульку ў кабак.
Наша бабулька ўпілася моцна —
Наша бабулька ўсю гарэлку пап'е.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

218. Мой унучак, мой унучак,
Не на тое я прыйшла,
Каб ад цябе, каб ад цябе
Пехатою пайшла.
Залажыце, запражыце
Свінню рабую,
Адвязіце, адвязіце
Сям'ю бабіну.

219. Вішанька-чарэшанька
Да з хорама нахілілася.
Ішла бабка да ўнучкі
Да ўжо павалілася.
Да яе ўнучка падбягае,
За ручаньку падымае,
Пасцель белу пасцілае.
— Ой, жаль, бабка, жаль,
Прымі майго конічанька,
Прымі майго сярдзечка.
Як прыдуць, бабка, госці,
Развесялі маё сярдзечка.

220. Да напала дарожка сняжком,
Да не зайдзе наша бабка пяшком.
Наша бабка падводу любіць,
Да яна ж нам гарэлачкі купіць.
Ой, купіць ды падсалодзіць,
Нам, маладзіцам, нам, пяўчыцам,
Вельмі ўгодзіць.

221. Тут жа, тут хрэсьбінкі былі,
Тут жа, тут гарэлачку пілі.
Запала дарожка сняжком,
Не пойдзе наша бабулька пяшком.
Унучак каня запражэ
І бабульку дамоў адвязе.

222. Бабулька, пахнючая мята,*
Люблю цябе, бо ты вельмі багата.
Кумачка, чырвоная ружа,
Люблю цябе, бо ты вельмі прыгожа.
Кумочак, зялёны дубочак,
Люблю цябе, бо ты сеў у радочак.
Ты ж мяне, бабулька,
Век не накорміш,
Ты сабе, бабулька,
Славачку заробіш.

223. Не кукуй ды, зязюлечка, рана,
Не кажы, што ночачка мала.
Анечка ўсю ночку не спала,
Яна ж да сябе любых гасцей ждала,
Чашачкі піражкамі накладала,
Стаканчыкі віном налівала,
А што ж за любых, —
Ды бабульку сваю.

224



224. А наша бабка да й маліналька,
Не п'е гарэлкі — кажа, што горка.**

Яе ўнучка ўгаварыла,
Мёдам гарэлку пасаладзіла.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Другі радок кожнай страфы, акрамя апошняй, паўтараецца.

— Ой, пі, бабулька, пі ды напіся,
Выйдзі на вулку ды й пахваліся.

— Ой, добра, унучка,
Ёсць чым хваліцца.
Смачна гарэлка —
Ёсць чым напіцца.

225




225. Бабуля, бабуля,
Пахнюча мята.
Чаму не пяеш ты,
Што багата?

226. Скокнула ўнучка
З ложка далоў,
Пакланілася бабулечцы
Нізка да ног.
— Каб я ведала,
Мая бабуленька,
Што будзе сын,
Я б бяліла кужалёначку,
Як бел сыр.
Каб я ведала,
Мая бабулечка,
Што будзе дачка,
Я б бяліла кужалёначку,
Як былiначку.

227. Плыве рой, плыве рой
Ды па быстрай рацэ.

— Ідзі, Валодзька, ідзі, Валодзька,
Рой пераймаці.*

— Нашто мне рой?
Нашто мне рой?
У мяне рой на дварэ,
А хрэсьбіны ў хаце.*

Сядзіць бабуля,
На самым куце,
На самым куце
П'е віно,
Сахарам закусвае.*

228. Пайшла баба**
Пад гай зялененькі.
Спаткаў яе
Унук маладзенькі.
— Мой унучак,
Як яснае сонца,
Пайду к табе
Ад першага слоўца.

229. Да й казалі людзі,
Да й гаварылі,
Што мой унучак скупы.
А ў майго унучка
Гарэлачкі купа.*
Ой, нап'юся жа*
Да не дайду да дому.
— Ой, бабка-галубка,*
Я завяду да дому.

230. Бахмата вярба на кусце,***
Багата бабка на куце,
Хто каля бабкі патрэцца,
Той гарэлкі нап'ецца.
Наша бабулька калодка,

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.
** Кожны радок, акрамя апошняга, паўтараецца 2 разы.
*** Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Наша бабулька каротка,
Яе гарэлка салодка.

231




231. Бахмата верба ў садочку,
Бахмата верба ў садочку.

Багата бабка ў радочку,
Багата бабка ў радочку.

232. — Ой, бабулька, пара,
Пара табе ісці да двара.
Яе Мішка ўгаварваець:
— Ёсць у мяне, бабуля,
Поўна бочка віна.
Усё пап'ем, паядзім,
Тады пойдзем да двара.

233. Прыляцеў голуб —
У вароцейкі стук.
— А, бабуля, пара
Табе ісці да двара,
А яе Ванька ўгаворваіць:
— Ёсць у мяне, бабуля,
Поўна бочка віна,
А пап'ём, паядзім,
Тады пойдзем да двара.

234. Каля месяца, каля яснага
Усе дробныя зоркі,
Усе дробныя зоркі.
А ў Колечкі па-за століку
Усе любыя госці,
Усе любыя госці.

Усе любыя госці
П'еце віно зялёнае,
П'еце віно зялёнае.
Бабуля, любуля
П'е віно зялёнае,
Сахарам закусае.

235. Бахмата верба ў саду,*
Багата бабка ў раду.
Бахмату вербу ламаюць,
Багату бабку вітаюць.
Бахмата верба крышыцца,
Багата бабка пышыцца.

236. Я б гэту бабку
Ды і ў бабкі не браў.
І гарэлкі не п'ець,
І дамоўкі не ідзець.
Запражыце, залажыце
Вы дванаццаць валоў.
Завязіце, завязіце
Гэту бабку дамоў.
Палажыце яе на згалоўе яе,
На згалоўе яе.
А няхай жа спіць, высыпаецца
На здароўе яе.

237. А ў Іванькі ў вароціках
Сіне возера разліваецца,
Там шчука-рыба прабіваецца.
Мы шчуку-рыбу шатраваць будзем,
Мы сваю бабусю шанаваць будзем.
У нашай бабусі залаты пярсцень на руцэ.
Як залаты пярсцень шаруюць,
Так жа і бабусю шануюць.

238. Каля месяца, каля яснага
Усё дробныя зоркі.
А ў Іванькі па застолейку

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Усё любыя госці.
Усё любыя, усё любыя, —
І бабуся-любуся,
І кумуся-любуся.
Усё гарэлку п'юць і закусваюць,
А песень не пяюць.

239




239. Да каб я знала, да каб я знала,
Да хто ў мяне да бабкаю будзе —
Да пасадзіла б ў гародзе на градзе
Да пахучаю мяту.

Да каб я знала, да каб я знала,
Да хто ў мяне да кумою будзе —
Да пасадзіла б у гародзе на градзе
Да пахучаю пыжму.

Да каб я знала, да каб я знала,
Да хто ў мяне да кумочкам будзе —
Да пасадзіла б у гародзе на градзе
Да сіні васілёчак.

240. — Ці ў цябе, бабка,
Ці ў цябе, любка,
Дома дзела няма?

Чаго ты, бабка,
Чаго ты, любка,
На пахмелле прыйшла?
— Я сваё дзела,
Я сваё дзела
На людзей разнясу.
Я ў свайго ўнука.
У свайго ўнука
На куце пасяджу.

241. Ходзіць бабка з тарэлкай
І з салодкай гарэлкай.
Наш унучак маленькі
Любіць мыцца бяленька.

242




242. Ды за ельнічкам,
За бярэзнічкам
Сарокі сакоч(уць).*

Пытаецца ўнучка
У сваёй бабкі:
— Чаго ж, бабка, хоч(аш).

А ці піва, ці віна,
А ці піва, ці віна,
Ці горкай гарэл(кі)?

Бабулька,
Мая любая,
Пабудзь да нядзель(кі).

---

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Навару піва,
Навару віна
І горкай гарэл(кі).

Ды за ельнічкам,
За бярэзнічкам
Сарокі сакоч(уць).

Пытаецца кумка
У свайго кума:
— Чаго, кумок, хоч(аш)?

А ці піва, ці віна,
А ці піва, ці віна,
Ці горкай гарэл(кі)?

Кум, кумочак,
Мой галубочак,
Пабудзь да нядзель(кі).

Навару піва,
Навару віна
І горкай гарэл(кі).

Ды за ельнічкам,
За бярэзнічкам
Сарокі сакоч(уць).

Пытаецца кумка
У сваёй кумы:
— Чаго, кумка, хоч(аш)?

А ці піва, ці віна,
А ці піва, ці віна,
Ці горкай гарэл(кі)?

Куму, матка,
Мая любачка,
Пабудзь да нядзель(кі).

Навару піва,
Навару віна
І горкай гарэл(кі).

243. Каля месяца, каля яснага
Усе дробныя зоркі.
А ў Іванькі па-за столікам
Усе любыя, любыя госці.
А ўсе любы, а ўсе любы,
Бабуля найлюбейша.

Каля месяца, каля яснага
Усе дробныя зоркі.
А ў Іванькі па-за столікам
Усе любыя, любыя госці.
А ўсе любы, а ўсе любы,
Кумочак найлюбейшы.

Каля месяца, каля яснага
Усе дробныя зоркі.
А ў Іванькі па-за столікам
Усе любыя, любыя госці.
А ўсе любы, а ўсе любы,
Кумачка найлюбейша.

244



244. Да запражыце,
Да запражыце
Ды дванаццаць валоў,
Ды дванаццаць валоў.

Да завязіце,
Да завязіце
Ды бабульку дамоў.

245. Запрагайце, запрагайце а дванаццаць валоў,
Завязіце, адпраўляйце бабулю дамоў.
Наша бабачка, наша любачка

Паязды любя.
А ў новенькай карчомачцы
Нам гарэлкі купя.

Запрагайце, запрагайце а дванаццаць валоў,
Завязіце, адпраўляйце кумочка дамоў.
Наш кумочак, наш галубочак
Паязды любя.
А ў новенькай карчомачцы
Нам гарэлкі купя.

Запрагайце, запрагайце а дванаццаць валоў,
Завязіце, адпраўляйце кумачку дамоў.
Наша кумачка, наша галубачка
Паязды любя.
А ў новенькай карчомачцы
Нам гарэлкі купя.

246. Пакорна бабка хадзіла,*
Станок ва ўнучкі прасіла.
Ідзець бабулька да куту,
У яе кашулька да пупу.
Дайце ж бабульцы станочык,
Няхай закрыіць пупочык.
Ідзець бабулька да столу,
У яе кашулька да долу.

247. А ў садзе вішня, а ў садзе вішня,
З-пад кораня ды вада выйшла.
Пад цябе, бабка, пад цябе, бабка,
Падводачка прыйшла.
Конь вараненькі, конь вараненькі,
Фурман маладзенькі.
Конь гадаваны, конь гадаваны,
Вазок маляваны.

248. А ў полі верба бухмата,*
Наша бабулька багата.
Бухматую вербачку будзем ламаці,
Багатую бабульку будзем вітаці.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

249. Ой, бабачка, галубачка
Да гарэлачку п'е.
Да гарэлачку п'е,
Гарэлачку п'е,
Гарэлачку п'е.
А падарачкаў жджэ,
А падарачкаў жджэ.
— Бабка мая, галубка мая,
А ўжо ж мае падарачкі
Падґатоўленыя.
Бабка мая, галубка мая.

250. А ўпілася бабусюхна
Зелянога віна, зелянюсенькага.
Запражыце бабусюхне
Варанога каня, варанюсенькага.
Адвязіце ды бабусюхну
Вы дадому яе, вы дадому яе.
Палажыце ды бабусюхну
У караваці яе, у караваці яе.
А няхай жа спіць, прасыпаецца —
На здароўе яе, на здароўе яе.
А праснецца, працверазіцца —
На пахмелле яе, на пахмелле яе.

251. Бабка к унучцы, бабка к унучцы
Баразёнкаю ішла, баразёнкаю ішла.
Бабка унучцы, бабка унучцы
Парасёнка нясла, парасёнка нясла.
— А на ж табе, мая унучачка,
А на ж табе, мая унучачка,
Падкрапіцца табе, падкрапіцца табе.

А кума к куме, а кума к куме
Баразёнкай ішла, баразёнкай ішла.
А кума куме, а кума куме
Тры яечкі нясла, тры яечкі нясла.
— А на ж табе, мая кумачка, а на ж табе, мая кумачка,
Падкрапіцца табе, падкрапіцца табе.

А кум к куме, а кум к куме
Баразёнкай ідзе, баразёнкай ідзе.
А кум куме, а кум куме
Тры паўлітры нясе, тры паўлітры нясе.
— А на ж табе, мая кумачка, а на ж табе, мая кумачка,
Пахмяліцца табе, пахмяліцца табе.

252. Бабачка, галубачка
Падводачку любіць, падводачку любіць.
Запражыце, запражыце
А пару ж вы валоў, а пару ж вы валоў.
Завязіце, завязіце,
Маю бабку дамоў, маю бабку дамоў.
Яна ж нам, яна ж нам
Гарэлачкі дасць, гарэлачкі дасць.

Дзедачка, галубочак
Падводачку любіць, падводачку любіць.
Запражыце, запражыце
А пару ж вы валоў, а пару ж вы валоў.
Завязіце, завязіце
Нашага дзедка дамоў, нашага дзедка дамоў.
Ён жа ж ды нам, ён жа ж ды нам
А гарэлачкі ж дасць, а гарэлачкі ж дасць.

Кумачка, галубачка
Падвозу любіць, падвозу любіць.
Запражыце, запражыце
А сівую кабыліцу, а сівую кабыліцу.
Завязіце, завязіце
Маладую куміцу, маладую куміцу.
Яна ж нам, яна ж нам
А гарэлачкі ж дасць, а гарэлачкі ж дасць.

Кумочак, галубочак
Падвозу любіць, падвозу любіць.
Запражыце, запражыце
А сіва жарабца, а сіва жарабца.
Завязіце, завязіце
Маладога кумца, маладога кумца.
Ён жа ж нам, ён жа ж нам
А гарэлачкі дасць, а гарэлачкі дасць.

253. Над ракой вербы сукаватыя,
На куце баба ўся гарбатая,
Найгарбатая, сукаватая.
Над ракой вішня зеляненькая,
На куце кума маладзенькая,
А ў яе каралі сто рублёў сталі.
Над ракой явар зеляненькі,
На куце кумок маладзенькі,
А ў яго штаны — няма ім цаны.

254. Наша бабулька, наша галубка
Ды паезды любіць,
Нам, маладзіцам, нам, пяўчыцам,
Яна нам добра годзіць,
Яна нам гарэлачкі купіць
Дай пасалодзіць.

Наш кумочак, наш галубочак
Да падвозы любіць,
Нам, маладзіцам, нам, пяўчыцам,
Ён нам добра годзіць,
Ён нам да гарэлачкі купіць
Дай пасалодзіць.

255. Сядзіць бабка на куце.
А гасцінчык у кішане.
Ён жа ў яе точыцца,
Нам жа яго хочацца.
А нам яго ды не ўзяць,
Сама бабулька нам дасць.

256. Мы сягоння сядзім,
На бабульку глядзім,
А заўтра не будзем,
І бабулькі не будзе.

257. А запражыце быка лабатага,
А адвязіце бабку багатую.
Наша бабулька паездачкі любіць,
А яна нам гарэлачкі купіць.

258. Бабуля і к унучцы баразёнкай ішла,
Баразёнкай ішла.
Бабуля унучцы парасёнка нясла,
Парасёнка нясла.
— На табе, унучка, парасёначка,
Парасёначка.
Палячы сабе, унучка,
Жывацёначка,
Жывацёначка.

259. Учора бабка, учора любка
На хрэсьбінках была.
Сягоння бабка, сягоння любка
На пахмелле прыйшла.
Запрагіце, залажыце
Пару коней вараных.
Адвязіце, адвязіце
Маю бабку дамоў.
А і коні з двара
Не рушаюцца ісці.
Бабка на кут, любка на кут
Падзвігаецца ісці.
Запражыце вы, залажыце вы
Дванаццаць коней,
Адвязіце, адвязіце
Маю бабку дамоў,
Маю любку дамоў.
Палажыце, палажыце
Да й пад ябланькай спаць,
Пад зялёненькай спаць.
— Ты ябланька, ты зялёная,
Не шумі нада мной,
Над маей галавой.

260




260. А запражом мы цялушку-рабушку.*
А павязём мы бабусю-старушку.
А наша бабка паездачку любіць.
Яна за гэта гарэлачкі купіць.
А запражом мы кабылу сівую,
А павязём мы кумку маладую.
А наша кумка паездачку любіць.
Яна за гэта гарэлачкі купіць.
А запражом мы каня варанога,
А павязём мы кумка маладога.
А наш кумочак паездачку любіць,
А ён за гэта гарэлачкі купіць.

261




261. — А ці ведаеш, бабка, ці ведаеш, любка,
За што намётку ўзяла?**

Ці многа, бабка, ці многа, любка,
Раз у адведках была?

— А я ж хадзіла, а я ж насіла
Па тры разы у дзень.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Кашку ў падпашку, сачанё пад ляшку,
Як іду, дык нясу.

262. Запрагайце, запрагайце
Да чацвёра сабак.
Вязіце, вязіце
Да бабулю ў кабак.
Наша бабка, наша бабка
Да падвозы любіць.
Яна ж нам, яна ж нам
Да гарэлкі купіць.
Ой, купіць, ой, купіць
Да й падсалодзіць.
Яна ж нам, пяўчыцам,
Да і добра ўгодзіць.
Зелянее, зелянее
Зялёны дубочак у дуброве,
Весялее, весялее
Малада бабулька ў сваім доме.

263. Запражыце, запражыце да дванаццаць валоў,
Адвязіце, адвязіце да бабусю дамоў.
Наша бабка старэнькая падвозаньку любіць,
Да яна нам, маладзенькім, гарэлачкі купіць.
Яна купіць, яна купіць да йшчэ падсалодзіць,
Да яна нам, маладзенькім, вельмі дагодзіць.

264. Бабулечка, бабулечка, пахучая мята,
Чаму не п’еш, не танцуеш за то, што багата.
Бабулечка, бабулечка, чырвоная рожа,
Чаму не п’еш, не танцуеш за то, што прыгожа.

265. Запражыце, запражыце
Ды дванаццаць канёў.
Адвязіце, адвязіце
Ды бабульку дамоў.
Запражыце, запражыце
Ды дванаццаць сабак.
Адвязіце, адвязіце
Ды дзядульку ў кабак.
Запражыце, запражыце
Залатую дугу.

Адвязіце, адвязіце
Ды дамоўкі куму.
Залажыце, залажыце
Ды быка-бугая.
Адвязіце, адвязіце
Ды дамоўкі кума.

266. Наша бабулька, як малімонка,
Не п'ець гарэлкі, бо ёй жа горка.
А п'ець мядочак, бо ён салодкі.
Яе ўнучак яе ўважаіць,
Ён мядочак ёй да стаўляіць.

267. Запала да дарожачка сняжком,
Не зайдзе да бабулька пяшком.
Унучак каня запражэ,
Бабульку да дамоў завязе.
Наша бабулька да паезды любіць,
Нам жа бабулька літру гарэлкі купіць.
Запала да дарожачка сняжком,
Не зайдзе да кумочак пяшком.
Унучак каня запражэ,
Кумочка да дамоў завязе.
Наш кумочак да паезды любіць,
Нам жа кумочак літру гарэлкі купіць.

268



268. Наша бабулька, наша галубулька
Яна багата жыве.*

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Ў нашай бабульні, ў нашай галубульні
Да дванаццаць валоў.

Запражыце, запражыце
Да дванаццаць валоў.

Нашу бабульку, нашу галубульку
Завязіце дамоў.

Наша бабулька, наша галубка
Да й не горда была.

Ўзяла піражочак, ўзяла падарачак,
Да й дадому пашла.

269




269. Тут жа, тут хрэсьбінкі былі,
Тут жа, тут да гарэлку пілі.

Запала да дарожка сняжком,
Не пойдзе да бабулька пяшком.

Не пойдзе да бабулька пяшком,
Унучак да каня запражэ.

Унучак да каня запражэ,
Бабульку да дамоў завязе.

Наша бабулька, наша зязюлька
Да паезды любіць, да паезды любіць.

Як прыедзе у карчомку,
Нам гарэлкі купіць, нам гарэлкі купіць.

270




270. Бярозка зеляненькая —
Веццейка дадолу.*

— Бабулька міленькая,
Едзь жа ты дадому.

Бочачка дубовенькая,
Ужо з яе не сочыцца.

— Унучак мой міленькі,
Мне ж дамоў не хочацца.

Дубочак зеляненькі —
Веццейка дадолу.

— Кумочак мой міленькі,
Едзь жа ты дадому.

Бочачка дубовенькая,
Ужо з яе не сочыцца.

— Унучак мой міленькі,
Мне ж дамоў не хочацца.

Рабіна зеляненькая —
Веццейка дадолу.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

— Кумачка міленькая,
Едзь жа ты дадому.

Бочачка дубовенькая,
Ужо з яе не сочыцца.

— Кумочак мой міленькі,
Мне ж дамоў не хочацца.

271. Гарэлачка ў бачэначку папліхаецца, папліхаецца,
Наша бабка на кут падзвігаецца, падзвігаецца.
Гарэлачка ў бачэначку якочыць, якочыць,
Якочыць, якочыць.
Наша бабка з кута ісці няхочыць, няхочыць,
Няхочыць, няхочыць.
— Я тады пайду, я тады пайду,
Як гарэлку пап'ю, як гарэлку пап'ю.
Запражыце ж вы, запражыце ж вы
Усё й сем ды валоў.
Адвязіце ж вы, адвязіце ж вы
Гэту бабку дамоў, гэту бабку дамоў.
Запражыце ж вы, запражыце ж вы
Усё й сем ды сабак,
Адвязіце ж вы, адвязіце ж вы
Гэту бабку ў кравацъ, гэту бабку ў кравацъ.

272. Сядзіць бабка на куце,
Як совачка у гняздзе.
— Ай, не рушце яе,
Не чапайце яе.
Яна за гэты куточак
Адрэзала пупочак.
Ай, не рушце яе,
Не чапайце яе.

273. На дварэ вішня
А ўсё бяленька цвіцець.
На куце бабка
А ўсё п'яненька сядзіць.
— А не рушце ж яе,

Не чапайце яе,
Хай сядзіць, як сядзіць,
На дварэ сасна кумаватая,
На ўнукаў бабка багатая.

274. — Ці знаеш, бабка,
Ці знаеш, любка,
За што намётку бярэш?
Ці хадзіла часта,
Ці насіла смашна
А ўнучцы сваёй?
— Я хадзіла часта,
Я насіла смашна
Ды унучцы сваёй.
Адзін раз — з юшкай,
Другі — з калатушкай,
Трэці раз — з кісялём.

275. На вуліцы шырокай
Мяцеліца замятаіць.
А, ходзячы, Іванька
Каня запрагаіць,
А жана ў яго пытаіць:
— А куды, мой Іванька, паедзіць?
— Жанушка, душа мая,
А паеду я па бабуленьку.
— Бяры, бяры бабулечку
З багатай хатачкі,
Не будзе нам, не будзе нам
Вялікай стратачкі.

276. Я б гэтай бабкі,
Я б гэтай любкі
Я б і бабкай не звала,
На куце не саджала.
— Я за гэты куточак
Рэзала пупочак,

Таму смела сяджу.
І за гэты ласкуточак
Рэзала пупочак,
Таму і смела бяру.

277. Ой, тут, тут радзінкі былі,
Ой, тут, тут мы гарэлку пілі.
Запала дарожка сняжком —
Не пойдзе бабулька пяшком.
Унучак каня запражэ,
Бабульку дамоў завязе.
А ты, бабулька, не скупі,
Ды нам паўлітра купі.

278. А не шум шуміць, а не шум шуміць,
Колакал звініць, колакал звініць.
А наш Федзечка за бабкай едзіць,
За бабкай едзіць, за бабулечкай.
А гэта бабка падарачкі любіць,
А яна кумам гарэлачкі купіць.

279. На дварэ вішня
А ўся бяленька цвіціць.*
На куце бабка
А ўсё п'яненька сядзіць.*
А не рушце ж яе,
Не чапайце яе,
Хай сядзіць, як сядзіць.*
На дварэ сасна кумаватая,
На ўнукаў бабка багатая.

280. — Ці знаеш, бабка,
Ці знаеш, любка,
За што ты мёд бярэш?
Ці хадзіла часта,
Ці насіла смашна
Да ўнучцы сваёй
— Я хадзіла часта,

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Я насіла смашна
Да ўнучцы сваёй.
Я насіла блінкі,
Каб радзіліся сынкі,
Я насіла клёцкі,
Каб радзіліся дочкі,
Я насіла ладкі,
Каб сынок быў гладкі.

281. Наша бабулька, наша бабулька
Гарэлкі не п'е.
— Ай, выпі, выпі, мая бабулька,
Ты гарэлкі ў мяне.
— А выпіла б, мой унучак,
Дык дадому не дайду.
— Ай, выпі, выпі, мая бабулька,
Я падводу найму.
— Нашто ж ты будзеш, мой унучак,
Мне падводу нанімаць.
Лепей я буду, мой унучак,
У цябе ночку начаваць.

282. Ляцеў верабей
Ды па макаўкам —
Увесь мак пазыбаў,
Увесь чырвоны пазыбаў.
Пасадзіў Грынечка
Бабусю на куце —
Увесь парадачак даў.
— Пі, мая Казіміраўна,
Віно зеляное,
Сёлета — у мяне,
А на лета — у цябе.

283. Бабуля, бабуля, я цябе люблю,
Як нада тут болей — па цябе прыйду.
Я табе, бабулька, віна прынясу,
Я цябе, бабулька, дамоў завязу.
Запала, запала дарожка сняжком,
Да пойдзець бабулька дамоўкі пяшком.

Запражом коніка вараненькага,
Павязём бабульку — яна старэнькая.

284. Ай, бабулечка, на талерачку,
Ай, бабулечка, на талерачку,
І кумачка на сукеначку,
І кумачка на сукеначку.
І кумочак саракавачку,
І кумочак саракавачку,
Каб было хрэснічку на ватовачку,
Каб было хрэснічку на ватовачку.

285




285. Запражыце, залажыце
Ды дванаццаць валоў.*

Адвязіце, адвязіце
Ды бабулю дамоў.

Ды наша ж бабка, ды наша любка
Йна паезды любіць.

Да ў карчомачцы, да ў зялёненькай
Нам гарэлкі купіць.

Запражыце, залажыце
Каня варанога.

Адвязіце, адвязіце
Кума маладога.

Ды наш кумочак, ды наш галубочак
Ён паезды любіць.

---

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Ды ў карчомачцы, ды ў зялёненькай
Нам гарэлкі купіць.

Запражыце, залажыце
Свінню смаленую.

Адвязіце, адвязіце
Куму ж хваленую.

Ды наша ж кумка, ды наша ж любка
Йна паезды любіць.

Ды ў карчомцы, ды ў зялёненькай
Нам гарэлкі купіць.

286. Запрагайце, запрагайце каня ды вала,
Адвязіце да бабульку-гультая.
Наша бабулька, наша галубка
Ды паязды любіць.
Наша бабулька, наша галубка
Нам гарэлку купіць.

Запрагайце, запрагайце залатую дугу,
Адвязіце, адвязіце маладую куму.
Наша кумка, наша галубка
Ды паязды любіць.
Наша кумка, наша галубка
Нам гарэлкі купіць.

Запрагайце, запрагайце варанога каня,
Адвязіце, адвязіце маладога кума.
Наш кумочак, наш галубочак
Ды паязды любіць.
Наш кумочак, наш галубочак
Нам гарэлкі купіць.

287. На дварэ бярозка, на дварэ другая
Зеляненька стаіць.
Наша бабулька, наша галубка
Цверазенька сядзіць.

На дварэ бярозка, на дварэ другая
Зеляненька стаіць.
А ў хаце кумочак, наш галубочак
Цверазенькі сядзіць.
А як бабка падап'е,
Конь і бабку, і кума
Дадому давязе.

288. На дварэ явар, на дварэ явар зеляненькі стаіць,
Нашая бабка, нашая любка цверазенька сядзіць.
Запрагайце, запрагайце вараных лашадзей,
Дай павязём нашу бабку скарэй.
Наша бабка, нашая любка да падводу любіць,
Наша бабка, наша любка нам гарэлку купіць.

На дварэ явар, на дварэ явар зеляненькі стаіць,
Наша кумка, наша галубка цверазенька сядзіць.
Наша кумка, наша галубка да падводу любіць,
Наша кумка, наша галубка нам гарэлкі купіць.

На дварэ явар, на дварэ явар зеляненькі стаіць,
Наш кумочак, наш галубочак цверазенькі сядзіць.
Наш кумочак, наш галубочак да падводу любіць,
Наш кумочак, наш галубочак нам гарэлкі купіць.

289. Па сеначках, па новенькіх
Вецер вее.
Там Ванька маладзенькі
Гарэлачку гоне.
Падсыпе жарку,
Падкіне мядку,
Каб была саладзенька.
Упаі бабульку,
Упаі бабульку,
Каб была п'яненька.

290. Ёлачка зялёненькая,
Вецейка да долу.
— Бабулька, любая госця,
Едзь жа ты да дому.

Ужо з маёй дубовай бочкі,
Ужо з яе ды не коціцца.
— Унучак мой любенькі,
Мне ж дамоў ды не хочацца.
Мёд, віно пап'ём,
Тады мы дамоў пайдзём.
Ёлачка зялёненькая,
Вецейка да долу.
— Кумочак, любы госцейка,
Едзь жа ты да дому.
Ужо з маёй дубовай бочкі,
Ужо з яе ды не льецца.
— Хрышчанік, мой любенькі,
Мне ж дамоў ды не хочацца.
Мёд, віно пап'ём,
Тады дамоў мы пайдзём.
Ёлачка зялёненькая,
Вецейка да долу.
— Кумачка, любая госця,
Едзь жа ты да дому.
Ужо з маёй дубовай бочкі,
Ужо з яе ды не коціцца.
— Хрышчанейка, мая любая,
Мне ж дамоў не хочацца.
Мёд, віно пап'ём,
Тады мы дамоў пайдзём.

291. А ў нашага Васечкі, а ў нашага Васечкі
Явар на дварэ.
Сабраў пір-бяседачку, сабраў пір-бяседачку
Не людзям — сабе.
Маладзенькі Васечка, маладзенькі Васечка —
Не вялікі пан.
Надзень жа ты, надзень жа ты
Свой зялёны жупан.
Запрагай-ка, запрагай-ка
Да дванаццаць сабак.
Вязі-ка ты, вязі-ка ты
Да бабусю ў кабак.
Сабакі ня йдуць, сабакі ня йдуць —

Упіраюцца.
Няхай мая бабусечка, няхай мая бабусечка
Нагуляецца.

292. У садзе елачка зеляненька стаіць,
На куце бабулька цверазенька сядзіць.
А чаму цверазенька, бо прывету няма,
Каб ёй прывет быў, яна б піла і ела, і песенькі пела.
— Бабулька, чаму ж ты гарэлкі не п'еш?
Бабулька, чаму ж ты песень не пяеш?
Бабулька, ці табе мёду не стае?
Ёсць у мяне вараны конік на стайне,
Я ж табе, бабка, мёду дастану.
Я ж табе каня варанога запрагу,
Я ж табе, бабулька, мёду прывязу.

293. Гуляла бабка, гуляла,
Яна намётку спаймала.
Не спала маці, не спала,
Усю ночачку папрападала.
Усю ночачку папрападала
Дый намётачку ўцярала.
А бабка гуляла, гуляла,
Усю ночачку спала.
Усю ночачку спала
Дый намётачку спаймала.

294. Напілася бабулечка, напілася
Зелянюсенькага віна.
А не дайдзець бабулечка
Да свайго двара.
— А, Лёнічык, унучачык,
Запражы ты каня.
Ды вязі ты бабулечку
Да свайго двара.
Палажы ты бабулечку
На цясову краваць.
— А спі, спі, бабулечка,

На здароўе табе.
Як праспішся, пратразвішся —
На пахмелле ка мне.

295. А ўчора ў нас былі ксцiначкі,
А сягоння ў нас муравіначкі,
Не сатрыце вы пупавіначкі,
Пупавіначка дужа дарага.
Наша бабулька к торгу хадзіла
Ды на тры рублі шолку купіла.

296. Гуляйце, бабачкі, муравіначкі,
Не сатрыце вы пупавіначкі.
Наша бабулька на таргу была,
Яна за тры рублі шоўку купіла,
Пупавіначку кругом абвіла.

297. Учора наша бабачка на радзінках была,
На радзінках была.
А сягоння наша бабачка ды на ксцінкі пайшла,
Ды на ксцінкі пайшла.
Пеша прыйшла, пеша прыйшла
Ды не пеша пайду.
А ёсць у майго ўнука ды дванаццаць кабыл,
Ды дванаццаць кабыл.
Дванаццаць кабыл, усе карюсенькія,
Усе карюсенькія,
А для маёй для бабушкі для старюсенькія,
Для старюсенькія.
Як напіўся мой унучак зялёнага віна,
Зялёнага віна.
Як забыўся мой унучак, як кабыл запрагаць,
Як кабыл запрагаць.
Ай, быць табе, бабачка, у мяне ноч начаваць,
У мяне ноч начаваць.
А прачнешся, мая бабачка, — на пахмелле ка мне,
На пахмелле ка мне.

298. Каб я знала, малада, каб я ведала,
А хто ў мяне бабай будзець,
Пасадзіла б яе ў агародзе, на градзе
Чырвонаю пахучаю мятаю.
Вецер веець, сонца грэець,
Мая мята чырванеець.
Каб я знала, малада, каб я ведала,
А хто ў мяне кумой будзець,
Пасадзіла б я яе ў агародзе, на градзе
Чырвонаю ружаю.
Вецер веець, сонца грэець,
Мая ружа чырванеець,
А кумуся маладзееець.
Каб я знала, малада, каб я ведала,
А хто ў мяне кумам будзець,
Пасадзіла б я яго ў агародзе, на градзе
Зялёненькім васілёчкам.
Вецер веець, сонца грэець,
Мой васілёк зелянееець,
А кумочак маладзееець.

299. Наша бабка, наша галубка,
Да пашаначку любіць.
Нам, маладзенькім,
Нам, харашэнькім,
Да гарэлачкі купіць.
Ой, яна купіць, ой, яна купіць,
Яшчэ й пасалодзіць.
Нам, маладзенькім,
Нам, харашэнькім,
Вельмі падгодзіць.




300. Запала
Да дарожка сняжком,
Не пройдзе
Да бабулька пяшком.

Не пройдзе
Да бабулька пяшком,
Унучак
Да каня запражэ.

Унучак
Да каня запражэ,
Бабульку
Да дамоў павязе.

Бабульку
Да дамоў павязе,
Наша бабулька
Да паезды любіць.

Наша бабулька
Да паезды любіць,
Нам жа бабулька
Мёду, гарэлкі купіць.

Запала
Да дарожка сняжком,
Не пройдзе
Да кумочак пяшком.

Не пройдзе
Да кумочак пяшком,
Да ўнучак
Да каня запражэ.

Унучак
Да каня запражэ,
Кумочка
Да дамоў завязе.

Кумочка
Да дамоў завязе,
Кумочак
Да паезды любіць.

Наш жа кумочак
Да паезды любіць,
Нам жа кумочак
Літру гарэлкі купіць.

301. Чаго ты, бяроза,
Чаго ты, кудрава,
Нахіліўшыся стаіш?
Чаго ты, бяроза,
Чаго ты, галубка,
Зажурыўшыся сядзіш?
Ці ты, бабка,
Ці ты, галубка,
На падарачак глядзіш?
Чаго ты, дубочак,
Чаго, галубочак,
Нахіліўшыся стаіш?
Чаго ты, кумочак,
Чаго, галубочак,
Зажурыўшыся сядзіш,
На падарачкі глядзіш?
Чаго ты, бяроза,
Чаго ты, кудрава,
Нахіліўшыся стаіш?
Чаго ты, кумка,
Чаго ты, галубка,
Зажурыўшыся сядзіш,
На падарачкі глядзіш?

302. Чаму, бабулька, не ўмываешся,
На каго, бабулька, спадзяваешся?
Ці на свайго ўнука маладога,
Ці ж на сваю ўнучку маладую?

303. Па ельнічкам, па бярэзнічкам
Сарокі сакочуць.
Стаіць Пецька, гаворыць:
— Што ж наша бабка,
Што ж наша любка,
А чаго ж ты хочаш?
А ці мёду, а ці лёду,
А ці горкай гарэлачкі,
А гуляць хоць да той нядзелечкі?

304. Бабка да ўнучкі,
Бабка да ўнучкі
Баразной ішла.
Бабка ўнучцы,
Бабка ўнучцы
Кісялёчка нясла.
— Во табе, унучка,
Во табе, унучка,
Кісялёчак,
Каб не балеў,
Каб не балеў
Жываточак.

305. Сядзіць бабка на куце,
Залаты персцень на руцэ,
Гасцінчыкі ў кармане
І з кармана точуцца,
А нам іх крэпка хочацца,
А яна даець маркотна,
А нам браць ахвотна.
— А ты, бабка, не скупі,
Калі маеш, дык купі.

306. Дзядуля ой пшанічку сее,
Бабуля ой цераз плот глядзела.
— А дай жа, Божа, каб пшанічка радзіла,
Я б часцей ой бабуляй хадзіла.

307. Ёлачка зялёненькая,
Вецейка да долу.
— Бабулька, мілая госця,
Едзь жа ты да дому.
Ужо з маёй дубовай бочкі
Мёд і віно ды не коціцца.
— Унучак, мой даражэнькі,
Мне ж дамоў ды не хочацца.

308. Павей, павей, ветрыку,
Пад новую святліцу,
Пад цясову скам'іцу,
Развесялі госці мае.
А ў мяне, у маладзе,
Сядзіць бабка на куце,
Дзяржыць чарку ў руцэ.
Гэта ж мае госці ўсе,
Гэта ж мае любы ўсе.
Павей, павей, ветрыку,
Пад нову святліцу,
Пад цясову скам'іцу,
Развесялі госці мае,
Развесялі любыя мае.
А ў мяне, у маладзе,
Сядзіць кум на куце,
Дзяржыць чарку ў руцэ.
Гэта ж мае госці ўсе,
Гэта ж мае любыя ўсе.




309. — А й чаму ж ты, мая бабачка,
Ды гарэлкі не п'еш?*

— Ай, піўшы ж ды гарэлачку,
Я й дадому не дайду.

— А я ж табе, мая бабачка,
Пару коней запрагу.

А я ж цябе, мая бабачка,
Ды дадому завязу.

Як задулася ўся дарожанька
Ды бяленькім сняжком.

Пайшла ж наша й бабулечка
Ды з двару пяшком.

310. — Ці ў цябе, Андрэйка,
Ячмень не ўрадзіў?
Чаму ты бабульку
Сваю не ўпаіў?
— Урадзіў ячменік,
Бела пшоначка,
Наварыла піва
Мая жоначка.

---

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

311. Бабуля,*
На мыла кладзі.
Унучка,
Падаркі нясі.
Бабуля,
Кладзі на мыла.
А каб твая ўнучка
Была ўсім міла.

312. — Ці знаеш ты, бабка,
Ці знаеш, галубка,
За што гарэлачку п'еш,
За што гарэлачку п'еш?

— Учора курёнка,
Сёння парасёнка,
І за тое гуляю,
І за тое гуляю.

313. — А мая ты бабка,
А мая ты любка,
За што дары бярэш?**

— Што хадзіла часта,
Што насіла смашна
Да радзішкі сваёй.

Адзін дзень маку,
Каб было да смаку
Ўсё радзішцы сваёй.

Адзін дзень юшкі,
Другі калатушкі
Ўсё радзішцы сваёй.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Апошні радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

314




314. Ці многа, бабка, ці многа, любка,
Раз ў адведках была, раз ў адведках была?
Перва радзежка — любая Наташка,
Толька раз я была, толька раз я была...*

315. А паглядзі, бабулечка,
Што ўнучачка робіць?
За свечачкай, за яснаю
Падарачак кроіць!
А каб знала, каб ведала,
Што будзе сыночак,
Адмерыла, абмерыла
Падарак на кліночак.
А каб знала, каб ведала,
Што будзе дачушка,
Адмерыла, абмерыла
Падарачак вузка.

316. А я б гэту бабку,
А я б гэту бабку
За бабку браў.
І часта ідзець,
І смачна нясець:
Адзін дзень з гусёнкам,
Другі дзень з парасёнкам,
А ўчора позна
Зарэзалі козла,
І ўсяго прынясла.

---

* Тэкст не поўны.

А ўчора рана
Зарэзалі барана,
І ўсяго прынясла.

317. На градзе растуць два цвяточкі.
А адзін цвяток — дарагі кумок,
А другі цвяток — залата кума.
— Ах вы, кумушкі, галубкі мае,
Ахрысціце вы дзіцятка мае.
Занясіце вы яго ў цэркаўку,
Дайце й імюшка ўсё Ягорушка.
Нясіце дамоў ўсё з напратачкам,
Штоб расло, расло маё дзіцятачка.

318. Учора з вечара к кумам просьба была,
А сёння раненька яны самі прыйшлі.
Не прыйшлі яны ніць і есці,
А нашага хлопчыка да папа несці (везці).

319. Каля саду сцежачка,
Чараз Дунай кладачка.
А туды ж ішоў кумочак,
А туды ж ішоў галубочак,
А на стрэчу яму сам Гасподзь.
— Куды ж ты йдзеш, кумочак,
Куды ж ты йдзеш, галубочак?
— У кумкі іду, Божухна.
— І што ты нясеш, кумочак,
Што ты нясеш, галубочак?
— І чырвонцы нясу, Божухна.
— Шчасліва йдзі, кумочак,
Шчасліва йдзі, галубочак.

Чараз садок сцежачка,
Чараз Дунай кладачка.
Туды ж ба йшла кумачка,
Туды ж ба йшла галубачка.

На стрэчу ёй сам Гасподзь.
— Што ты нясеш, кумачка,
Што ты нясеш, галубачка?
— Пакрывала нясу, Божачка.
— Шчасліва йдзі, кумачка,
Шчасліва йдзі, галубачка.

Чараз садок сцежачка,
Чараз Дунай кладачка.
Туды ж ба йшла бабуся,
Туды ж ба йшла галубуся.
На стрэчу ёй сам Гасподзь.
— Куды ж ты йдзеш, бабуся,
Куды ж ты йдзеш, галубуся?
— У бабкі іду, Божухна.
— Што ты нясеш, бабуся,
Што ты нясеш, галубуся?
— Пялёшкі нясу, Божухна.
— Шчасліва йдзі, бабуся,
Шчасліва йдзі, галубуся.

320. — І кумачка-любачка, а дзе ж ты была?
— Бабачкі-любачкі, у цэркаўцы.
— Кумачка-любачка, што ж ты рабіла?
— Бабачкі-жоначкі, дзіця хрысціла.
— Кумачка-любачка, як жа завуць?
— Бабачкі-любачкі, Сашачка завуць.

321. — Ай ты, кумачка, ты галубачка,
Дзе дагэтуль была?
— У папа на дварэ.
— Ай, кумачка, ты галубачка,
Што ты рабіла?
— Хрысціла, хрысціла.
— Ай, кумачка, ты галубачка,
Чым ты яго накрыла?
— А вы жоначкі, вы лябёдачкі,
Шоўкавай намётачкай.

— Ай, кумачка, ты галубачка,
Усё ўтрата твая.
— А вы жоначкі, вы лябёдачкі,
Дык пашана мая.

322. — Кум ды кума, дзе дагэтуль былі?*
— Жоначкі, лябёдачкі, мы дзіця хрысцілі.
— Кум ды кума, а дзе вы хрысцілі?
— Жоначкі, лябёдачкі, у цэркаўцы абаксцілі.
— Кум ды кума, як дзіця назвалі?
— Жоначкі, лябёдачкі, Янічкай назвалі.

323. — А ты кумачка, ты галубачка,
Дзе ж ты ўчора была?
— А вы жоначкі, вы лябёдачкі,
Дзіця да 'ксту вазіла.
— А ты кумачка, ты галубачка,
Чым яго пакрыла?
— А вы жоначкі, вы лябёдачкі,
Шоўкавай пакрывалачкай.

324. Кумачка, кумачка, пахнючая мята,
Чаму ты, кумачка, такая багатая?
Кумачка, кумачка, пахнючая роза,
Кумачка, кумачка наша прыгожа.
Кумачка, кумачка, мы ж хочам знаць,
Ды як жа дзіцяці нам назваць.
Будзь жа хароша ды нам жа скажы,
Толькі абмана нам не гавары.

325. А ў каго вінаград на дварэ?
У Ванечкі вінаград на дварэ.
Сабраў пір не людзям — сам сабе,
Пасадзіў кумусю на куце.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

— Пі, гуляй, кумуся, ў мяне,
Штоб маё дзецятко расло,
Штоб яно шчасліво было,
Штоб яму Бог долюшку даў.

А ў каго вінаград на дварэ?
У Ванечкі вінаград на дварэ.
Сабраў пір не людзям — сам сабе,
Пасадзіў кума на куце.
— Пі, гуляй, кумочак, у мяне,
Штоб маё дзецятко расло,
Штоб яно шчасліво было,
Штоб яму Бог долюшку даў.

А ў каго вінаград на дварэ?
У Ванечкі вінаград на дварэ.
Сабраў пір не людзям — сам сабе,
Пасадзіў бабусю на куце.
— Пі, гуляй, бабуся, у мяне,
Штоб маё дзецятко расло,
Штоб яно шчасліво было,
Штоб яму Бог долюшку даў.

326. — А ў каго, а ў каго вінаград на дварэ?
— У нашага Коленькі вінаград на дварэ.
Пасадзіў кумачку ён на самым куце,
Частуець, частуець, нікому — сам сабе.
Каб яго дзіцяця й вяліка расло,
Вяліка расло ды шчасліва было.

— А ў каго, а ў каго някрыта хата?
— У нашага Коленькі някрыта хата.
Сходзіце, наламайце вы зялёнай мяты,
Сходзіце, накрыйце Коленьку хату.

— А ў каго, а ў каго ды някрыты сені?
— У нашага Коленькі ды някрыты сені.
Сходзіце, наламайце вы зялёнай елі,
Сходзіце, накрыйце Коленьку сені.

327. — А ў каго ж, у каго
Вінаград на дварэ?
— У Іванечкі.
— А ў каго ж, у каго
Кумы за сталом?
— У Валодзечкі.
Кумы за сталом
Гарэлкі не п'юць,
І нам не даюць.
Я б гэту кумку,
Я б гэту кумку
І ў кумкі не браў —
Гарэлкі не п'ець
І нам не даець.

328. У нашага Геначкі*
Ой, явор на дварэ.
Пасадзіў кумачэк
Ён на самым куце,
А сам ходзіць-ханжуець
А ён сам па сабе.
Ох, ён сам па сабе,
Ён для хвалы свае.




329. Пад белай бярозачкай**
Ванечка бычкі пасе.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Ванечка бычкі пасе,
Ніначка есці нясе.

— Ніначка, душа мая,
Дзе ж ты дагэтуль была?

— Я была ў пана Бога,
Шкляначкі налівала.

Шкляначкі налівала,
Кумочкаў частавала.

Шкляначкі паўнюсенькі,
Кумочкі п'янюсенькі.

330. Кланялася кума куму
Нізенька ў ножкі:
— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз з дарожкі.
Я ж думала, мой кумочак,
Мы з табой заблудзім,
У дамку не будзем.

331. Кланялася кума куму
Нізенька й у ножкі:
— Дзякуй, табе, мой кумочак,
Што прывёз з дарожкі.
Кланялася кума куму
Нізенька ў пяткі:
— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз да хаткі.

332. А што гэта стучыць, гручыць?
Ці не кум з кумой едзець?
Кланяецца кума куму
Нізенька ў ножкі.
— Дзякуй табе, мой кумочак,

Што прывёз з дарожкі.
Уручаець кума куму
Сняжыначкі-квяткі.
— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз дахаткі.

333. Кум з кумой цераз тын жылі,
Цераз тын жылі, дый не зналіся,
Ды й не зналіся, ды й не відаліся.
Праміж іх дваіх працякала рэчка,
Працякала рэчка, рэчка быстрая,
Рэчка быстрая, беражыстая.
А па той раке, а па той раке
Селязень плыве, селязень плыве
З шэрай вуціцай.
Шэра вуціца — красна Манечка,
Селязенічка — млад Валодзечка.

334




334. А тый кум з кумой*
Чэраз тын жылі.

Чэраз тын жылі
Ды не зналіся.

Ды не зналіся,
Не відаліся.

Прыміж іх дваіх
Прасцякла рака.

---
* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Прасцякла рака,
Рака быстрая.

А па тэй рацэ
Селязень плывець.

Селязень плывець,
Шэра вуціца.

Шэра вуціца
З вуцяняткамі.

Селязенечка —
Млады Васечка.

Шэра вуціца —
Млада Надзечка,

Вуцянятачкі —
Іхні дзетачкі.

335. Цераз бор сасна*
Павалілася.
А кума з кумам*
Пасварылася:
А ні ты ка мне,
Ні я к табе.
Паміж тых кумоў
Цякла рэчанька,
Рэчка быстрая,
Беражыстая.
А па той рацэ*
Плывець вутачка*
З вуцянятамі,*
З селязенічкам.
Шэра вутачка —
Усё Ганулечка,

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Селязёначка —
Усё Якімачка,
Вуцянятачкі —
Усё іх дзетачкі.

336. Кум з кумой пасварыліся.
А за што яны пасварыліся?
Пасварыліся за горкае дзіця.
Кум кажа: “Маё дзіця”.
Кума кажа: “Маё дзіця”.

337. Ой, на бор сасна пахілілася,
Да кум з кумой пасварыліся.
Не за яблычка, за чырвонае,
А за дзіцятка, да хрышчонае.
— Ты прыйдзі, кума, у маё гумно,
У маім гумне старана жыта,
Старана жыта не малочана,
Не малочана да й не веена.
Ой, давай, кума, перавеем.
Перавеем да перамераем.
А пазадачкі — ў староначку,
А што лепшае — на гарэлачку.

338. Цераз бор сасна павалілася,
Кума з кумам пасварылася.
А за што ж яны пасварыліся?
Ці за арэшачкі, за лушчоныя,
Ці за дзетачкі, за хрышчоныя?

339



339. Цераз гай сасна пахілілася,[*]
А і кум з кумой пасварыліся.

---

[*] Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А за што ж яны пасварыліся?
Ці за чарачку, за мядоваю?
Ці за хрэснічка, за любовага?
Ні за чарачку, за мядоваю,
А за хрэснічка, за любовага.




340. На гары вярба*
Пахілілася.

А кума з кумам
Пасварылася.

Ой, кума кажыць:
— То маё дзіця.

А кум жа кажыць:
— Саколя ж маё.

341. Чэраз бор сасна павалілася,
А кума з кумам пасварылася
Не за межачкі, не за сцежачкі —
За маленькага дзіцятачкі.
Ай, ні ты ка мне, ай, ні я к табе,
Каб ні твае дзеці, каб ні мае дзеці
К табе не хадзілі.

342. Кум з кумой на куце сядзіць,
Паміж іх дваіх ручаёк бяжыць.
На тым ручайку гібка кладачка,

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

А на той кладцы, ой, да тры кубачкі:
У адным кубачку — зеляно віно,
У другім — горка гарэлка,
А ў трэцім — саладок мядок.
Зеляно віно — то 'ля кумачкі,
Горка гарэлка — й 'ля кумочка,
Саладок мядок — 'ля бабулечкі.

343. А кум з кумою за сталом сядзіць,
А паміж імі тры ручаёчкі бяжыць:
Адзін ручаёчак — для бабулечкі,
А другі ручаёчак — ды для кумачкі,
А трэці ручаёчак — для кумочка.
Для бабулечкі — саладок мядок,
А для кумачкі — зеляно віно,
Для кумочка — горкая гарэлка.

344. Кум з кумою на куце сядзяць,
Межу іх дваіх ручаёк бяжыць,
А ў тым ручайку ды тры кубачкі.
У адным кубачку — зялёна віно,
У другім кубачку — салодак мядок,
У трэцім кубачку — горка гарэлка.
Зялёна віно — а для бабулі,
Горка гарэлка — а для кума,
Салодак мядок — а для кумачкі.

345. Кум з кумой на покуце сядзяць,
На покуце сядзяць, мёд п'юць.
— Пі, кумок, пі, кумка.
Калі мёду не будзе,
Хоць кароўку збуду, а мёду дабуду.
— Можна, унучак, без віна гуляць,
Худа, унучак, без кароўкі
Дзяцей гадаваць.

346




346. А ў майго кумочка
Новая скам'я,
А ў майго кумочка
Новая скам'я.

Дзе тая дзелася
Свежая радня?
Дзе тая дзелася
Свежая радня?

Свежая радзінка
На куце сядзіць,
Родная сястрыца
Ў парозе стаіць.

Чужая радзінка
Ды мёд-віно п'ець,
А родная сястрычка
Слёзачкі ліець.

347. Кум з кумою гарэлку п'ець,
Не чаркамі — стаканамі,
Не горкую — салодкую.
А што кум ды куме мовіў:
— Кінем дзіця ў каляіну,
Самі ўедзем на Украіну.
Едзем поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаем.
А стой, кума, паслухаем,
Ці не шуміць дубровушка,
Ці не стогнець дарожанька?
Шуміць, шуміць дубровушка,

Стогнець, стогнець дарожанька
Услед за намі, за кумамі,
За маленькім дзіцяценькам.
— А стой, кумок, не ўхаджывай,
Чужых жонак не зваджывай,
Твая кума падхрёсная,
Мая жонка вянчальная.

348. У гародзе дуб зеляненькі,
На куце кум маладзенькі,
Ай, дзевачкі дуб абламалі,
Багатага кума занялі.

349. Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа на кумку глядзець.
Ды каб я кумкай была,
Шолку б на намётку дала.

Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа і на кума глядзець.
Каб я кумам была,
Чырвонец бы на гарэлку дала.

350. Ёлачка зялёная,
Шышачка хмелевая,
Чарачка залатая
Укруг стала пахадзіла,
Кумочка напаіла.

Ёлачка зялёная,
Шышачка хмелевая,
Чарачка залатая
Укруг стала пахадзіла,
Куму напаіла.

Ёлачка зялёная,
Шышачка хмелевая,
Чарачка залатая
Укруг стала пахадзіла,
Бабульку напаіла.

351. Пад гарой явар зелянесенькі,*
За сталом кумок маладзесенькі,
А на ём штаны, ды няма цаны,
Каля вората ўсё золата.

352. Ох, ляцелі ж гусі.*
А ўсё гусі да чубаты.
А як Генавы кумы
Усе кумы ды багаты.

Ах ляцелі гусі,
Усе гусі белакрылы.
А як Генавы кумы,
Усе кумы чорнабрывы.

353. А ў полі ябланька
Зеляненькая стаіць.
А ў Ванькі кумуся
Цверазенька сядзіць.
А ці ён чарачкі нядобра наліваў,
А ці ён кумачку нядобра прыглашаў?

354. Чарачка медзяная*
Па сталу пакацілa,
Кумачку і ўпаіла.
Чарачка медзяная
Па сталу пакаціла,
Кума і ўпаіла.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Чарачка медзяная
Па сталу пакаціла,
Бабу і ўпаіла.

355. А первыя госці — брат з сястрою,*
Другія госці — кум з кумою,
Трэція госці — баба з дзедам.
Брат з сястрою на пагуканне,
Кум з кумою на пасядзення,
Дзед і баба — уся нарада.

356. На стале каша стаяла,
На стале каша стаяла,
Залатога кума ждала.
— Ой, куманёк, куды ты пайшоў,
Чаму ж ты да нас не зайшоў?
Ой ты, кумочку-пане,
Усадзі руку ў кішэню,
Вымі грошыкаў жменю.

357. Кумочкі-бабочкі,
Кладзіце мыла,
Каб наша дзіцятка
Пела, хадзіла,
Каб наша дзіцятка
Умывалася,
Каб яго мамка ўцяшалася.

358. У садзе вішня бухлата,
А на куце кумка багата.
А ў садзе вішня бухлацей,
А на куце кумок багацей.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

359. За сталом кумочак
Вясёленькі сядзіць.
Перад ім чарачка
Ды паўнёнька стаіць.
— Пі, пі, пі, кумочак,
Ды не ўсё выпівай,
К заўтраму, кумочак,
На пахмелле пакідай.

За сталом кумачка
Вясёленька сядзіць.
Перад ёю чарачка
Ды паўненька стаіць.
— Пі, пі, пі, кумачка,
Ды не ўсё выпівай,
К заўтраму, кумачка,
На пахмелле пакідай.

360. У гародзе дуб зялёненькі,
А на куце кум маладзенькі,
А ў гародзе дуб абламалі,
Дзе ж гэта багатага
Кума занялі?

А ў гародзе мята лахмата,
А на куце кума багата.
А ў гародзе мяту абламалі,
Дзе ж гэтку багатую
Куму занялі?

361. А хто ж у нас, а хто ж у нас
Куточак заняў?
Заняў куточак, заняў куточак
Маладзенькі кумочак.
А за гэты куток, а за гэты куток
Пакаціў рубялёк.

А хто ж у нас, а хто ж у нас
Куточак заняў?

Заняла куточак, заняла куточак
Маладая кумка.
А за гэты куток, а за гэты куток
Палучыла ласкуток.

362. Сядзіць кум на куце,
Як голуб на кусце,
Вы зганіце далоў,
Няхай ідзе дамоў.
— Не ганіце далоў,
Я не пайду дамоў.
Я тут пасяджу
І на кумачку пагляджу.

363. Шышачка хмелявая,
Чарачка медавая
Па сталу пахадзіла,
Кумочка знайшла,
Спаценькі палажыла
На лісах, на саболях,
На белых гарнастаях.
— Спі, куманёк, высыпайся,
На пахмелле спадзявайся.

364. На куме кашуля,
На куме кашуля
Сто рублёў каштуе,
Сто рублёў каштуе.
А на куму штаны,
А на куму штаны
Не прадставіш цаны,
Не прадставіш цаны!

365. Над ракой вярба зелянюсенька,*
За сталом кума маладзюсенька,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А на ёй каралі — сто рублёў сталі.
Над ракой вярба ўсё гарбатая,
За сталом бабуленька багатая,
А на ёй кабат — тры капейкі.

366. Бахмата верба на кусце,*
Багаты кумок на куце,
Бахмата верба на кусце,
Багата кумка на куце.
Багаты кумок, не дзьміся,
Кладзі чырвонцы на місу.
Багата кумка, не дзьміся,
Кладзі чырвонцы на місу.

367. Сядзіць кумка на куце,
Як галубка ў гняздзе.
— Вы ж не рушце мяне,
Не ганяйце мяне,
Я за гэты за куток
Заплаціла рублёк.

Сядзіць кум на куце,
Як сыч у гняздзе.
— Вы ж не рушце мяне,
Не ганяйце мяне.
Я за гэты за куток
Заплаціў рублёк.

Сядзіць бабка на куце,
Як варона у гняздзе.
— Вы ж не рушце мяне,
Не ганяйце мяне.
Я за гэты за куток
Заплаціла ласкуток.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

368. — А чаго, кумок ты,
А чаго, любы,
Невясёлы сядзіш ты?
Ці чарачка няпоўная,
Ці славечка нявернае,
Кумочак любенькі,
Васілёк вясёлы?
А як жа будзеш ты
Хрэсніцу жаніць,
Кумочак любенькі,
Вясёлы васілёк,
А тады ж будзе
Чарачка поўная,
Славечка вернае.

369. Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа на кумку глядзець.
Ды каб я кумкай была,
Шоўку б на намётку дала.
Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа на куце сядзець,
Прыгожа і на кума глядзець.
Каб я кумам была б,
Чырвонец на гарэлку дала б.

370. Што за шум шуміць у лесе над ракой,
Што за люд сядзіць у Севы за скам'ёй?
Першыя госцікі — кум ды кума,
Другія госцікі — брат ды сястра.
Для кума ды кумы мёд саладжу,
Для брата і сястры піва вару.

371. — Ой, пара, кумок, да двара.
А кум не рухаецца,
Бліжэй на кут падзвігаецца.
— Ой, пара, кума, да двара.

А кума не рухаецца,
Бліжэй на кут падзвігаецца.
— Ой, пара, бабулька, да двара.
А бабулька не рухаецца,
Бліжэй на кут падзвігаецца.

372. Гэй, запражыце
Каня варанога,
Дай адвязіце
Кума маладога
Дадому, дахаты,
Хай будзе багаты!

Гэй, укладзіце
Дугу залатую,
Дый адвязіце
Куму маладую
Дадому, дахаты,
Хай будзе багата!

Гэй, запражыце
Дванаццаць сабак
Дый адвязіце
Бабку ў кабак.
Зламіце ўсе кола,
Хай будзе вясёла!

373. А ў нашага Васечкі, а ў нашага Васечкі
Явар на дварэ.
Сабраў пір-бяседачку
Не людзям — сабе.
Маладзенькі Васечка, маладзенькі Васечка
Не вялікі ты пан,
Надзень жа ты, надзень жа ты
Свой зялёны жупан.
Запрагай-ка, запрагай-ка
Да дванаццаць валоў.
Вязі-ка ты, вязі-ка ты

Да кумусеў дамоў.
Валы не йдуць, валы не йдуць —
Упіраюцца.
Няхай мае кумусечкі, няхай мае кумусечкі
Нагуляюцца.

374. Запрагайце да каня варанога,
Да вязіце да кума маладога.
Ён жа нас да вельмі любя,
Ён жа нам гарэлачкі купя.
Ён жа купіць і падсалодзіць,
Ён жа нам вельмі ўнаровіць.

375. Залажыце, залажыце
Варанога каня.
Завязіце, завязіце
Маладога кума.
Залажыце, залажыце
Залатую дугу.
Завязіце, завязіце
Маладую куму.

376




376. Запрагайце да каня варанога,
Да вязіце да кума маладога.

Ён жа нас да вельмі любіць,
Ён жа нам гарэлачкі купіць.

Ён жа купіць да і пацалуіць,
Ён жа нам дзерюноў наробіць.

377




377. Ай, запражыце каня варанога.*
Ай, павазіце кума маладога.
А наш кумок паездачкі любіць,
А ён паедзіць гарэлачкі купіць.

378. Запражыце, запражыце
Да сіўца-жарабца.
Завязіце, завязіце
Да кумка-малайца.
Наш кумочак, наш кумочак
Падвозаньку любіць.
Ой, ён жа нам, маладзенькім,
Гарэлачкі купіць.
Яшчэ й купіць, яшчэ й купіць,
Ды й яшчэ падсалодзіць.
Ён жа нам, маладзенькім,
Вельмі дагодзіць.

379. Запрагайце, запрагайце
Каня варанога.
І вязіце, і вязіце
Кума маладога.

Запрагайце, запрагайце
І пару сабак.
І вязіце, і вязіце
Нашу кумачку ў кабак.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

380. Закладайце, закладайце
Каня варанога.
Адвязіце, адвязіце
Кума маладога.
Наш кумочак, наш галубочак
Дай падводы любіць,
Нам пяўчыцам, нам маладзіцам
Да й гарэлкі купіць.
Да ён купіць, да ён купіць
Да й падсалодзіць.
Нам пяўчыцам, нам маладзіцам
Да й добра ўгодзіць.

381




381. Вой, запражыце, вой, запражыце
Ды дванаццаць каней.*

Ой, завязіце, ой, завязіце
Ды кумочка дамоў.

Наш кумочак, наш галубочак
Падводачкі любіць.

Нам, пявіцам, нам, маладзіцам,
Гарнец гарэлкі купіць.

Ой, запражыце, ой, запражыце
Ды дванаццаць варон.

Ой, завязіце, ой, завязіце
Ды бабульку дамоў.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Наша бабулька, наша любулька
Падводачкі любіць.

Нам, пявіцам, нам, маладзіцам,
Гарнец мёду купіць.

382. Закладайце, закладайце
Клячу вараную,
Адвядзіце, адвязіце
Куму маладую.
Наша кумка, наша галубка
Дай падводы любіць,
Нам пяўчыцам, нам маладзіцам
Да й гарэлкі купіць.
Да й яна купіць,
Да й падсалодзіць.
Нам пяўчыцам, нам маладзіцам
Да й добра ўгодзіць.

383. Кумочак, любочак,
Я цябе люблю.
Кумочак, любочак,
Гасцінца хачу.

384. І час дамоў,
Дамоў час,
Час дахатачкі.
Як у маім дамочку
Жоначка чакае,
Усе мяне, кумочка,
Суседзі вітаюць.

385. Тут жа, тут
А радзіначкі жывуць.
Тут жа, тут
А гарэлачку ды п'юць.
Запала а дарожачка сняжком,
Пойдуць дамоў кум з кумою пяшком.

386




386. Шум, шум, шум
Чэраз новыя сені.*

Пара кумоў
Да за столікам селі.

Адзін кум
Ды на скрыпачку грае.

Другі кум
Кумачку намаўляе:

— Кумка мая,
Да галубачка мая.

Пераначуй
Хаця ночку са мною.

— Рада была б
Я і дзве начаваці.

Баюся ж я
Да малога дзіцяці:

Ёсць у мяне
Да няродная маці.

Будзе ж яна
На мяне наракаці.

* Кожная страфа паўтараецца.

387




387. Ой, шум, шум
Чэраз новыя сені.*

Пара кумоў
Ды за столікам селі.

А наш(ы) кум
Ды не п'е, не гуляе.

Ён кумачку
Сабе намаўляе:

— Кумка мая,
Ды галубачка мая,

Пераначуй
Хоць і ночачку ў мяне.

— Не баюся
І дзве начаваці,

Толька баюся й
Малога дзіцяці.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## ЖАРТОЎНЫЯ ПЕСНІ ПРА БАБКУ І КУМОЎ

388. Ой, у Колечкі на падвор'ечку
Стаіць бяроза дый кудравая.
Пад той бярозай сядзіць бабачка дай гультаечка,
Яна сядзіць, сядзіць Богу моліцца:
— Ох, і дай, Божа, майму ўнучачку.
Ёсць радзіначкі — будуць ксціначкі.
А я й, бабачка, нагуляюся,
Розных напітачкаў наспіваюся.

389. Каціласа, валілася
Калодачка з печы.
Ударыла, ударыла
Бабулечцы ў плечы.
— Хоць бы мяне,
Хоць бы мяне
Калодачка ўбіла,
Абы мяне, абы мяне
Унучка любіла,
Тонкім, белым,
Тонкім, белым
Падаркам накрыла.
— Выбачай, бабка,
Выбачай, бабка,
Можа не ўгадзіла.
Рэзала дары пры свечцы,
Можа ўкараціла.

390. Каціласа, валілася
Калодачка з печы,
Ой, як дала, як дала
Бабульцы ў плечы.

— Ой, каб мяне, каб мяне
Калодка не ўбіла,
Ой, каб мяне, каб мяне
Унучка любіла.

391. Я б гэту бабку, я б гэту бабку
І ў бабкі не браў.
Я б гэтай бабцы, я б гэтай любцы
І намёткі не даў:
І гарэлкі не п'ець,
І закускі не есць,
І дамоўкі не ідзець.
Як вазьму я дубовы пруток,
Паганю я бабусю ў куток.
Бабуся кажа:
— Я і з кутка не пайду,
Я за гэты куток
Адразала пупок.

392. Да казалі, бабка нядужа —
На падарачкі дасужа.
Да казалі, бабка цяжка ляжыць —
Па падарачкі аж бяжыць.
Таўчы, малоць — то сям'я,
А па падарачкі — бабка сама.

393. Лянiва наша бабка,
Наша бабка нядужа,
Пад намётку дасужа.
— Таўчы, малоць — не мне,
Намётачку дайце мне.
Ішла бабка ад дому,
Намётачка да полу.

394. Бабуліна доля благая,
Што яе ўнучка скупая,
Ківае, міргае на мужа:

— Прымай, мужу, са стала бутэльку,
Пап'е наша бабуля гарэлку.
— А я ж той гарэлкі не буду прымаці,
Буду я са сваёй бабулькай гуляці.

395. Бедавала наша бабулька:
— А ці мая доля такая?
Ці мая ўнучка скупая?
Сядзіць на палочку ў куточку,
А на свайго мужа мігае:
— Прымі, прымі, муж, бутэльку,
Бо вып'ець бабуля гарэлку.
Прымі, прымі, муж, закуску,
Бо забярэ бабуля ў хустку.

396. Бабуліна доля ліхая,
Што яе ўнучка скупая,
Сядзіць у куточку на палочку,
Усё на свайго мужа маргае.
— А забяры ж ты, мужу, бутэльку,
Бо пап'е бабулька ўсю гарэлку.
А як наша бабулька пачула,
Усе з стала піражкі сапхнула.
— Было мяне бабкай не браці,
Было мяне лепшай шукаці.

397. Ой, чаму ты, бабка, не умываешся,
не умываешся,
На каго ты, бабка, спадзяваешся,
спадзяваешся?
Ці на свайго дзеда старога, старога,
Ці на свайго ўнука малога, малога.
Пасадзіце бабку на пасад, на пасад,
Прыбралася бабка харашо, харашо.
— Вядзі мяне, дзедка, у лясок, у лясок,
А я табе сатку паясок, паясок.

398. Ой чарачкі-бачарачкі
На стале пакачу,
Ой, бабулька, бабулька,
Я гарэлкі хачу.
Ой чарачкі-бачарачкі,
На стале я не была,
Ой, бабулька, бабулька,
Я гарэлкі не піла.

399. П'яна бабулька была,
Цераз рэчку брыла,
На кладачку ступіла,
Курачку намачыла.
Суседка паглядзела —
Мая курка парудзела.
— Псіца, суседка, псіца,
Мая курка, як лісіца.

400. Упілася бабка, упілася,
Пад столікам звілася, звілася,
А мышы-мышкі шалелі,
Дай нашай бабцы
Фартух паелі-праелі.
Як стала бабка ўставаць,
Пачала бабка шкадаваць,
Да стала моцна плакаці,
Бо нечым фартух латаці.
Збірайце бабцы анучкі,
Хай ладзяць фартух унучкі.

401




401. Наша бабка падпіла,
І пад прыпячкам лягла.

А мышы пашалелі —
Бабе дзірачку праелі.
А маленькі унучок
Нясе бабцы ласкуток
Ды й залапіць хвартушок.




402. На бабулі кашуля
Сто рублёў каштуе.*

А на куму штаны,
Няма на іх цаны.

А на куме андарак,
Да й той прапаў так.

403. — Я б цябе, бабка,
Я б цябе, любка,
Я б і бабкай не браў.

Ты і песень не пяеш,
І закусачку не трэш,
І гарэлачку не п’еш.

— А я бабка,
А я любка,
А я ж вам угаджу.

Я й песні адпяю,
Я й гарэлачку пап’ю,
І закусачку патру.

* Кожныя 2 радкі паўтараюцца.

12—1527

404




404. Я б гэту бабку, я б гэту любку
Я б і ў кумкі не браў,
Я б і ў кумкі не браў.

Я б гэту бабку, я б гэту любку
Я б і з куту прагнаў,
Я б і з куту прагнаў.

Не п'ець, не есць.
Не п'ець, не есць
І падаркі не шлець.

405. Я б гэту бабку
Я б у бабкі не браў.
Яна песень не пяець
І гарэлкі не п'ець.

Я б гэту кумку
Я б і ў кумкі не браў.
Яна песень не пяець
І гарэлкі не п'ець.

406. Ай, я б ету бабку за бабку не браў,
І за бабку б не браў:
Гэта бабка яна часта не хадзіла,
Яна часта не хадзіла,
Яна й смашна не насіла,
Яна й смашна не насіла.
Первый раз бабка із пялюшкамі прышла,
І з пялюшкамі прышла,
Другі раз бабка і з гарнушкамі прышла,

І з гарнушкамі прышла.
У адным гарнушку прынясла юшку,
Я б і за бабку не браў.
У другім — шнітку й камарову лытку,
Я б і за бабку не браў.

407. А я б гэту бабку
І ў бабкі не браў,
Я б гэтай бабцы
І гарэлкі б не даў.
Гэта бабка з Хахлоўкі,
Яе пуза з бячоўкі.
Проса бабка набыла,
Каб унучачка шчасліва
І вялікая расла,
Каб шчаслівая была.
Запражыце, запражыце
І са двое валоў.
Адвязіце, адвязіце
Бабулю дамоў.

408. — Што ж ты, бабулечка,
Намётачкаю абкруцілася,
А на курачку забылася?
— Я намётачкаю абкруцілася
І пра курачку не забылася.

409. — А чаго ты, бабулечка, надулася?
Ці твая намётачка не ўдалася?
— Удалася, суседачкі, удалася,
Па зямліцы валаклася.

410. Нядужа баба, нядужа,*
Пад намётачку дасужа.
Як таўчы-малоць — не магу,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Як пад намётачку — пабягу.
Як таўчы-малоць — крох да вох,
Пад намётачку прыг да скок.

411. Нядужа бабка, нядужа,
Пад намётачку дасужа.
Як таўчы-малоць — не магу,
Як пад намётачку — пабягу.
Як таўчы-малоць — крох ды вох,
Пад намётачку прыг ды скок.
Лянiва бабка, лянiва,
Бабкiна каша кастрыва.
Не дзьмiся, кумок, не дзьмiся,
Кладзi чырвонец на мiсу.
Наша радзiха лукава,
Бярэ чырвонцы хоць i два.

412



412. Нядужа бабка, нядужа,
Нядужа бабка, нядужа.

Як на работкi — нядужа,
А на падаркi — дасужа.

Як на работку — ахця мне,
Як падарачкi — дайце мне.

413. Ой хараша бабачка, хараша
Яна нам паставiла барыша.
Нядужа бабачка, нядужа,
А на падарачкi дасужа.
А таўчы-малоць не магу,
Па падарачкi пабягу.

414. Прануза бабка, прануза,
Таўчы-малоць нядужа,
А па намётачкі дасужа.
Таўчы-малоць ёсць сям'я,
А па намётачкі — я сама.

415. Каб табе, бабка,
Каб табе, любка,
У грудзях захрасла.
Як твая, бабка,
Як твая, любка,
Ды каша без масла.
Ці ведаеш, бабка,
Ці ведаеш, любка,
За што намётку бярэш?
Не часта хадзіла,
Не смачна насіла:
Адзін раз — гаршчок кашы,
Другі — сыраквашы,
А намётку бярэш.

416




416. А нядужа бабка, нядужа,
Па падарачкі дык дасужа.

Як таўчы, малоць — дак сям'я,
Па падарачкі — дык сама.

А на печы дзедзька разуваўся,
А ў яго пінцюх целяпаўся.

417



417. Да долу, бабка, да долу,
Твая й кашулька да полу.

Пакуль бабулька
Да ўнучкі хадзіла.

Пакуль бабулька
Станік выпрасіла.

418



418. Да столу, бабка, да столу,
Дадуць станочак да долу.

Да кута, бабка, да кута,
Дадуць станочак да пупа.

419. Да полу, бабка, да полу,*
Дадуць намётку да долу.
А таўчы, малоць — нядужа,
А пад намётачку дасужа.
Таўчы, малоць — крох-вох,
А пад намётачку — скок-скок.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

420




420. Наша бабка нядужа,
Нядужа, нядужа.
Да станочка дасужа,
Дасужа, дасужа.

Наша бабка падпіла,
Падпіла, падпіла.
Пад прыпечкам спаць лягла,
Спаць лягла.

Шчуры, мышы шалелі,
Шалелі, шалелі,
Ёй фартух праелі,
Праелі, праелі.

А што ж бабе плакаць,
Плакаць, плакаць.
Нечым фартух лапіць,
Лапіць, лапіць.

421. Наша бабка нядужа, нядужа,
Дужа яна дасужа, дасужа.
Наша бабка падпіла, падпіла,
Бабка госці падвяла, падвяла.
Чужы мышы шалелі, шалелі,
Ёй жа хвартух праелі, праелі.
А стаў жа дзед плакаці, плакаці:
Нечым хвартух латаці, латаці.

422. Стара бабулька, нядужа, нядужа,
Па падарачкі дасужа, дасужа.
Таўчы-малоць — дык сям'я, дык сям'я,
Па падарачкі — дык сама, дык сама.

423. Бабуліна доля ліхая,
Што яе ўнучка скупая.
І ўсё на свайго мужа міргае:
— А прымі ж ты, мужу, бутэлечку,
Бо пап'е бабулька гарэлачку.
Кумава доля ліхая,
Што яго кумка скупая.
Усё на свайго мілага міргае:
— А прыміж ты, мілы, бутэлечку,
Бо пап'е кумок гарэлачку.

424. Пад гарой вярба ўсё гарбатая,*
За сталом бабулька багатая,
А на ёй кабат — тры капейкі.

425




425. — Дзе ж ты, бабка, начавала,*
З галавы платок пацярала?
А хто знайшоў — скажыся,
Дам табе, перайма, піражочак
І гарэлачкі штафочак.
— Дзе ж ты, кумок, начаваў,
З галавы шапку пацяраў?
А хто знайшоў — скажыся,
Дам табе, перайма, піражочак

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

І гарэлачкі штафочак.
— Дзе ж ты, кумка, начавала,
З галавы платок пацярала?
А хто знайшоў — скажыся,
Дам табе, перайма, піражочак
І гарэлачкі штафочак.

426. Бабуля, бабуля піва варыла,
Бабуля, бабуля хвартух спаліла.
Бабуля, бабуля на "мыла" кладзе,
Унучка, унучка на хвартух нясе.

427. Бабка к унучцы сабіралася,
Усё й нядзельку прыбіралася.
А ў панядзелак муку сеяла,
А ў аўторак хлеб учыняла,
А ў сераду ў печ садзіла,
Ой, у чацвер з печы вымала.
А ў суботачку ў лукошка клала,
А ў нядзелечку к унучцы пайшла,
Палажыла на стол хлябінку сваю.
Як стаў унучак хлябец рэзаць,
А ў той хлябінцы ды цяля з хвастом.
— Пастой, унучак, не пазор мяне,
Як пры лучыначцы а хлеб мясіла,
А лучыначка пагасілася,
А цялятачка ўмясілася.

428. Бабка к унучцы сабіралася,
Усю й нядзельку прыбіралася.
А ў панядзелак цеста ўчыніла,
А ў аўторак мясіла.
Ой, у сераду ў печку садзіла,
Ой, у чацвер з печкі выняла.
Ой, у пятніцу вадой памыла,
Ой, у суботу к унучцы пайшла.
К унучцы пайшла, пірагі панясла.

А як стаў унучак піражок рэзаць,
Ой, дзіва дзіва, ды й дзіўненькае:
У піражочку цяля ды цаленькае.
— Ой вы, унучачкі, не дзівіцеся,
Як пры лучыначцы дзежку мясіла.
А лучыначка патушылася,
А цялё у дзежку ды ўвалілася.

429. Бабка да ўнучкі, бабка да ўнучкі
Баразёнкай ішла.
Бабка ўнучцы, бабка ўнучцы
Парасёнка нясла.
— На ж табе, унучачка, на ж табе, унучачка,
Падкармі свой жывот.
А й кума да кума, а й кума да кума
Баразёнкай ішла.
А й кума куму, а й кума куму
Ґусянятка нясла.
— На ж табе, кум, на ж табе, кум,
Падкармі свой жывот.
А кум да кумы, а кум да кумы
Баразёнкай ішоў.
А й кум куме, а й кум куме
Ласянятка прывёў.
— На ж табе, кума, на ж табе, кума,
Падкармі свой жывот.

430



430. Бабуля к унучцы ішла,
Баразёнкай ішла.*

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Бабуля унучцы
Два баранкі нясла.

Каб не балелі
Жываточкі тваe.

На табе, унучка,
Два баранкі мае.




431. Бабка к унучцы, бабка к унучцы
Баразёнкай ішла.*

Бабка ўнучцы, бабка ўнучцы
Парасёнка нясла.

А ён пішчыць, а йна ташчыць,
Парасёнка нясець:

— Ай, на ж табе, мая ўнучачка,
Парасёнка майго.

Папраўляй жа, мая ўнучачка,
Жывацёнка свайго.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

432. — Ці многа, бабка, ці многа, любка,
Раз у адведках была.
— Першы раз я з юшкай,
Другі — з калатушкай,
Толькі раз я была.
Прантоўка, бабка, прантоўка,
Таўчы-малоць нядужа,
Па намётачку дасужа.
— Таўчы-малоць не магу,
Па намётачку пабягу.
Таўчы-малоць — крох-вох,
Па намётачку — дох-дох.

433. Бабка курку, бабка курку
Дзярэць, дзярэць.
Яе за пуп, яе за пуп
Бярэць, бярэць.
Бабка курку драла,
Яе за пуп брала.

434. Было ў бабкі, было ў любкі
Да й чатыры бычкі.
Прыхадзілі к бабцы, прыхадзілі к любцы
Да й чатыры купцы.
— Прадай, бабка, прадай, любка,
Чатырох сваіх бычкоў.
— Ёсць у мяне буры, пасвіць мае куры, —
Я й таго не прадам,
Я й за дзенюшкі ня 'ддам.
Ёсць у мяне рабы, поліць мне грады, —
Я й таго не прадам,
Я й за дзенюшкі не 'ддам.
Ёсць у мяне лысы, мыець мае місы, —
Я й таго не прадам,
Я й за дзенюшкі ня 'ддам.
Ёсць у мяне крутарог, а што пора праміж ног, —
Я й таго не прадам,
Я й за золата ня 'ддам.

435




435. А было ў бабкі, а было ў любкі
Ай чатыры бычкі.*

А прышло к бабцы, а прышло к любцы
Ай, чатыры купцы.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка буранькага.

— А мой буры пасе куры,
Я яго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка рабенькага.

— А мой рабы ходзіць да бабы,
Я яго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка лысенькага.

— А мой лысы мые місы,
Я яго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка чорненькага.

— А мой чорны будзе вольны,
Я яго не прадам.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.




436. Было ў бабкі, было ў любкі
Да й чатыры бычкі.*

Прыходзіла к бабцы, прыходзіла к любцы
Да й чатыры купцы.*

— Прадай, бабка, прадай, любка,
Чатароўца із бычкоў.*

— Ёсць у мяне буры, пасвіць мае куры.
Я й таго не прадам,
Я й за дзенюжкі не ’ддам.

Ёсць у мяне рабы, возіць мяне бабай,
Я й таго не прадам,
Я й за дзеньгі не ’ддам.

Ёсць у мяне шэры, расчапурыць перы,
Я й таго не прадам,
Я й таго так не аддам.

Ёсць у мяне лысы, мыець мае місы,
Я й таго не прадам.*

437. Бабулька, бабулька, таўчы-малоць нядужа, нядужа,
На падаркі й дасужа, дасужа.
Дзе гарэлку пачуіць, пачуіць,
Там пад плотам начуіць, начуіць.
А там мышы шалелі, шалелі,

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Бабе дзірку праелі, праелі.
Трэба зашыць скуратом, скуратом,
Баба плачыць жыватом, жыватом.
Трэба зашыць аўчынкай, аўчынкай,
Баба будзе дзяўчынкай, дзяўчынкай.

438. Запражыце, запражыце да дванаццаць валоў,
Завязіце, завязіце да бабульку дамоў.
Запражыце, запражыце казла смаленага,
Завязіце, завязіце дзеда хваленага.

439. Запражыце й, запражыце й
Казу смаленую.
Завязіце й, завязіце й
Бабу хваленую.
Наша бабка, наша бабка
Падвозаньку любіць.
Ой, яна ж нам, маладзенькім,
Гарэлачкі купіць.
Яшчэ купіць, яшчэ купіць
Ды й шчэ падсалодзіць.
Ой, яна ж нам, маладзенькім,
Вельмі дагодзіць.

440




440. Да запражыце, да залажыце
Казла рагатага.*

Вой, павязём мы ў магазін
Дзеда й багатага.
Да запражыце, да залажыце
Казу рагатую.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Ой, павязём мы ў магазін
Бабу й багатую.

441. Запрагу я, запрагу я
Да дванаццаць сабак,
Павязу ж я, павязу ж я
Да й бабусю ў кабак.
Мая ж бабуся да й не гордая,
Да й не пышная, —
Сама зайдзе ў кабак.

Запрагу я, запрагу я
Да дванаццаць сабак,
Павязу ж я, павязу ж я
Да й кумочка ў кабак.
Наш кумочак да й не горды,
Да й не пышны, —
Сам ён зайдзе ў кабак.

Запрагу я, запрагу я
Да дванаццаць сабак,
Павязу ж я, павязу ж я
Да й кумусю ў кабак.
Наша кумуся да й не гордая,
Да й не пышная, —
Сама зайдзе ў кабак.

442



442. Дзед бабу тапіць вядзе,
Дзед бабу тапіць вядзе,
А баба крычыць, не йдзе.

— Я, мой ты дзядулечка,
Я, мой ты дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.

443



443. Ай, дзед бабку заматаў у трапку,
Паліваў яе вадой, кабы стала маладой.

Была баба маладой, была баба рэзва,
Напілася гарэлачкі, — чуць на печ узлезла.

Баба дзеда палюбіла да й аддала грошы,
Разглядзелася бабулька, аж дзед нехарошы.

— Ой, людзі добрыя, за што ж я плаціла?
Я б такога дзеда з кухвайкі пашыла.

444. А ў нас учора,
А ў нас учора
Рада была.
А нам бабка,
А нам бабка
Нада была.
А сягоння не нада,
А сягоння не нада,
Нам ета бабка не нада.
Запражыце, запражыце
Семярох варапых,
Адвязіце, адвязіце
Гэтую бабку дамоў.

445. Прасіў кум куму ў хрысціначкі.
— Ой, пайшла бы я ў хрысціначкі,
Не маю хлеба ні лусціначкі.
У панядзелак я жыта жала,
А ва ўторак жыта сушыла,
А ў сераду на млын вазіла,
А ў чацверг хлеб учыніла,
А ў пятніцу хлеб я спякла,
А ў суботу ў хрысціны прыйшла.
А як жа сталі кумін хлеб есці,
Як стала цяля з хвастом лезці.
— А кумочак мой, выбачай жа мне,
А ў хаце жыву адзінокая
І лучыначка пагасілася,
І цяля з хвастом умясілася.

446. — Мой кумочак, мой кумочак,
Не на тое я прыйшла,
Каб ад цябе, каб ад цябе
Пехатою я пайшла.
Залажыце, запражыце
Клячу вараную,
Завязіце, адвязіце
Куму маладую.
— Мая кумка, мая кумка,
Не на тое я прыйшоў,
Каб ад цябе, каб ад цябе
Пехатою я пайшоў.
Залажыце, запражыце
Дванаццаць сабак,
Завязіце, адвязіце
Кума ў кабак.

447. Запражыце, залажыце
Каня варанога,
Адвязіце, адвязіце
Кума маладога.
Ён у нас, ён у нас

Усю гарэлку пап'ець,
Астатачкі, паследачкі
У кішэнь пабярэць.

Запражыце, залажыце
Кабылку сівую,
Адвязіце, адвязіце
Куму маладую.
А то яна ў нас, а то яна ў нас
Усю гарэлку пап'ець,
Астатачкі, кусочачкі
У кішэнь пабярэць.

Запражыце, залажыце
Кабылку храмую,
Адвязіце, адвязіце
Бабульку старую.
А то яна ў нас, а то яна ў нас
Усю гарэлку пап'ець,
Астатачкі, паследачкі
У кішэнь пабярэць.

448. Запражыце, залажыце кабылку сівую,
Адвязіце, адвязіце куму маладую.
Бо яна ў нас, бо яна ў нас
Усю гарэлку пап'е,
Астатачкі, падоначкі ў кішэньку наліе.
Запражыце, залажыце каня сівога,
Адвязіце, адвязіце кума маладога,
Бо ён у нас, бо ён у нас
Усю гарэлку пап'е,
Астатачкі, падоначкі ў кішэньку наліе.
Запражыце, залажыце ды дванаццаць сабак,
Адвязіце, адвязіце бабулечку ў кабак,
Бо яна ў нас, бо яна ў нас
Усю гарэлку пап'е,
Астатачкі, падоначкі ў кішэньку наліе.

449. Залажыце, залажыце
Залатую дугу,
Адвязіце, адвязіце
Маладую куму.
Яна ж у нас,
Яна ж у нас
Усю гарэлку пап'ець,
А стопачкі, паследачкі
У кішэньку забярэць.

450. Запражыце, запражыце
Казу рагатую,
Адвязіце, адашліце
Куму багатую,
Бо яна ў нас
Усю гарэлку пап'е,
А што не вып'е,
То ў кішэньку ўвалье.

451. Я б гэту кумку
І за кумку не браў:
І каша не смачна,
І бліны не харошы.
Я б гэтага кумочка
І за кума не браў:
І каша не смачна,
І бліны не харошы.
Я б гэту бабку
І за бабку не браў:
І каша не смачна,
І бліны не харошы.

452. Ішоў кум па вуліцы, кума — па гароду,
Як сышліся кум з кумою, напіліся мёду.
А кум прапіў грош-грош, а кума — капейку,
А кум плакаў год-год, а кума — нядзельку.

453. — А чаму ты, мой кумочак,
Піўца не зрабіў?
Ці ў цябе, мой кумочак,
Ячмень не ўрадзіў?
— Урадзіў ячмень,
Урадзіў ячмень,
Не ўрадзіла жонка.
Не пазволіла піўца зрабіць
Маладая жонка.

454. Кум куме рад,
Павёў куму ў сад,
Пасадзіў у саду
На цвяту.
— Пасядзі, кума,
Прынясу віна.
Сядзіць кума дзень,
Сядзіць і другі.
— Няма кума майго,
Ні віна яго,
А, кумок-галубок,
А дзе ж ты дзяваўся?
Ці ты ўтапіўся,
Ці ты ўдавіўся?

455




455. Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
— Шчыплі, кума, ягадкі,
Каторыя салодкі,
Каторыя горкі —
То для маей жонкі,
Каторыя гнілыя —
То для мае мілыя.

456. А кум куме — родны брат,
Завёў куму ў зялёны сад.
— Шчыплі, кумка, ягадкі,
Каторы салодкі — у карманок,
Каторы горкі — у кубок.
Салодкі для кумы,
Горкі для жаны.
Еж, кумачка, успажывіся,
А жоначка — удавіся.

457. А кум ідзець па вуліцы,
А кума — па гародзе.
Пытаецца кум у кумы:
— Адкуль кума родам?
А кума кажа:
— А з Расіі.
А кум — з Беларусі.
Зышліся, зляцеліся,
Як шэрыя гусі.

458. — Ты, кумачка, галубачка мая,
Прыгалуб мяне на чужой старане.
— Рада б цябе прыгалубіць к сабе,
Будуць гукаць, за што любіш ты мяне.
— Да мы з табой, як адной маткі дзеткі.

459. А што, ой, у нас ды за дзіва выходзя,
Кум да кумы ўночы ходзя.
Стук ды грук у ваконца:
— Кумачка, адчыні, кума ў хату ды пусці.
Добра ж, ой, табе ў пярынах ляжаці,
А цяжка, ой, і мне пад акном стаяці.
Я, ой, па тваім ды гародзе ходзячы,
Чорныя сцежкі павыбіваў
І шаўровыя боты патаптаў
Я, ой, пад тваім вакном стоячы.

460. Кум у кумы начаваў,
Кум у кумы ўпіўся.
Кум у кумы на крэселку
Шапачку забыўся.

461. Кума па саду хадзіла,*
Кума расаду садзіла.
Куміна расада ў лісточку.
А кум да кумы штоночку.
Куміна расада не ўсходзіць,
А кум да кумы спаць ходзіць.

462




462. Кума па саду хадзіла,*
Кума расаду садзіла:
— Расада ж буйная,
Усходы ж мае рэдкія.

463. Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў сад.
Пасадзіў кум куму
У садзе на цвяту.
— Сядзі, мая кумачка,
Пака я прыду,
Мёду прынясу.
Сядзіць кума дзень,
Сядзіць і другі.
— А ні кума майго,
А ні мёду яго.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

464




464. Ішоў кум да кумы,
Люльку запаліўшы.

Ляжыць кума на палу,
Лытку загаліўшы.

465. А кум к куме прыехаў,
Кума куму — арэхаў,
А кум к куме — на ганак,
Кума куму — баранак,
А кум к куме — ў святліцу,
Кума куму — курыцу.
— Ай, кумушка, што за звер,
Я баюся, каб не з’еў.

466. Хадзіў кум да кумы
На раначкі.
Насіў кум куме
Абараначкі.
— Хадзі, хадзі, кум, ка мне
На раначкі,
Насі, насі мне
Абараначкі.

467




467. Кум да кумы прыехаў,
Кума куму — гарэхаў.

Кум да кумы праз парог,
Кума й куму да й пірог.

468. Кум да кумы прыхадзіў,
Торбу арэхаў прынасіў.
— Ах ты, кумка мая,
Ты галубка мая,
Прыгалуб ты мяне
На чужой старане.
А кум да кумы на парог,
А кум куме торк пірог.

469. А кумочак, галубочак,
Пацалуй мяне разочак,
А я табе за гэта
Раджу сына на лета.
А за гэту віну
Пацалую, абніму.

470. І дождж ідзець,
Раса падзець
На куміны сені, на куміны сені.

— Схадзі, кумок,
Скасі сена,
Накрый куме сені, накрый куме сені.

І дождж ідзець,
Раса падзець
На куміну хату, на куміну хату.

— Сходзі, кумок,
Скасі мяту,
Накрый куме хату, накрый куме хату.

І дождж ідзець,
Раса падзець
На куміну ложу, на куміну ложу.

— Сходзі, кумок,
Скасі рожу,
Накрый куме ложу, накрый куме ложу.

471. — А кумок, галубок,
Будзь да мяне ласкаў, будзь да мяне ласкаў,
Не пушчай качанят
Да на мой застаў, да на мой застаў.
— Мае качаняты
Шкоды не наробяць, шкоды не наробяць,
Напіўшыся, наеўшыся,
Дахаты прыходзяць, дахаты прыходзяць.

472



472. А кум куме, ай, родны брат.*
Да й у кума зелен сад.
А кум куму разуваў
Да й пад ножку пагдядаў.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

— А кумачка, што за звер,
Я й баюся, каб не з’еў.
Пакуль выняў пісталет,
Аглянуўся — звера нет.

473. А кум куме рад,
Ды павёў яе ў сад.
— Еж, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі,
А каторыя горкі,
Дык кідай на горкі.
Я ж іх падбяру,
На базар занясу,
На базары прадам,
Куплю куме барабан.

474. Ой, кум куме ды рад,
Павёў куму ў вінаград.
— Шчыпі, кумка, ягодкі.
Каторыя салодкі, —
То для кумы-малодкі,
А каторыя горкі, —
То для маёй жонкі.

475. А кум куме не родны брат,
Павёў куму ў зялёны сад.
— Шчыпі, кумка, ягодкі,
Каторы салодкі.
Салодкія ў платок,
А горкія ў падалок.
Салодкія для кумы,
А горкія для жаны.

476




476. А кум куме родны брат.*
Павёў кумку ў зялён сад.*

— Шчыплі, кумка, вінаград,
Шчыплі, кумка, вінаград.
Шчыплі, кума, пасмялей,
Любі, кума, павярней.

Дам падарак дарагой,*
Хоць маленькі, дак жывой.*

Будзеш, кумка, калыхаць,*
Будзеш кума праклінаць.*

Будзіць мамкай называць.*

477




477. А кум куме родны брат,**
Павёў кумку ў зялён сад.

— Шчыплі, кумка, ягадкі,
Каторыя салодкі.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.
** Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Салодкія ў кішэню,
А горкія ў падалу.

Салодкія — для кумы,
А горкія — для жаны.




478. А кум кумою быў рад,
А кум кумою быў рад.

Павёў кумачку у сад,
Павёў кумачку у сад.

— Шчыпі, кумка, ягадкі,
Каторыя харашы.

Каторыя харашы,
У платочак увяжы.

Каторыя горкі,
То для маёй жонкі.

479. Кум не п’ець, кум не п’ець,
А кума не хочыць.
А ў кумы ў прарэсе
Блыха шчакочыць.
— Кумочак, кумочак,
Не бойся грэху.
Выгані кумачцы
Блыху з прарэху.

480. Кум да кумы прыхадзіў,
Падарачкі прынасіў.
— Кумачка ты мая,
Ґалубачка ты мая.
Кума кума прыняла,
Кума з кумам спаць лягла.
— Кума, кумачка ты мая,
Шызая галубачка ты мая.

481




481. — Хто ж гэта йдзе?
— Кум да кумы.
— Што ж ён нясе?
— Куль саломы.

— Ой ты, кумка мая,
Ты галубка мая.
А звары-ка судака,
Штобы юшка была.

Да звары судака,
Штобы юшка была,
Штоб жа юшачка
Ды пятрушачка.

Штобы юшачка
Ды пятрушачка.
Кума люба, кума люба,
Кума-душачка.

482. Кум да кумы
Баразёнкаю ішоў, ішоў.
Кума, кума, кумушка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая.
Баразёнкаю ішоў, ішоў,
Куль саломы знайшоў, знайшоў.
Кума, кума, кумушка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая.
А што ў тым кулі, кулі?
Чаравічкі куме, куме.
Кума, кума, кумушка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая.

483. Кум не п'ець, кум не п'ець,
Кума не хочыць.
У кумы ў прарэсе, у кумы ў прарэсе
Блыха шчакочыць.
— Кумочак-браточак, кумочак-браточак,
Не бойся грэху.
Выгані ў кумы, выгані ў кумы
Блыху з прарэху.

484. А кум куму падманіў, падманіў,
Куме мёду не купіў, не купіў.
Кума кума падвяла, падвяла,
Куму штаноў не дала, не дала.
Кум па вулачке пахажывае,
Сваю кумушку пахвалівае.
— Лучшэ маёй кумы ў свеце няма,
Я сваёй куме саян куплю.
— Не купі мне зялёнага саяна,
А купі мне ўсё зялёнага віна.
Мне ў саяніках стыднюсенька,
Ад віна буду п'янюсенька.




485. Кума з кумам ды павадзілася,
Ўзлезла на печ, сала наелася.

— А я з ку́май на базар пайду,
А я куме сарафан куплю.

Кума куму пакарылася,
Злезла з печы да памылася.

— За тваю, кумок, выгодачку
Адплачу, кумок, лябёдачку.

Ды зваліў кумок валёначку
На кудравую галовачку.

— Насі, кума, пабудзёначку,
Насі, кума, па ўскрасенійку.

Насі, кума, па ўскрасенійку,
Па хрэсьбінкі, па вяселлейку.




486. Кум да кумы штоночку прыходзіць,
Ай, кум куме стакан мёду носіць.
Як стук дак стук — у куміны дзверы.*

* Першы, другі, трэці радкі паўтараюцца 2 разы.

— Адчыні ж ты, кумачка, мне сені,
Ай, каб мяне сабакі ня з'елі.

— Бадай цябе папалам разарвалі,
Як у мяне ўтрох начавалі.

487



487. Як заказалі за Дзвіною,*
Каб не схадзіўся кум з кумою.
— Кумка, галубка ты мая,
Спадабалася ліцо тваё.
Не так ліцо, як вочачкі,
Не спаў з табой ні ночачкі.
— Калі не спаў — спаць не будзіш,
Толька сваё сэрца нудзіш.

488. Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі пасеяць абяшчаўся.
— Ой, кумка, галубка мая,
А хто б табе пасеяў, каб не я.
Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі сабраць абяшчаўся.
— Ой, кумка, галубка мая,
А хто б табе сабраў, каб не я.
Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі запахаць абяшчаўся.
— Ой, кумка, галубка мая,
А хто б табе запахаў, каб не я.

489. Кум з кумою ды на рыначку быў.
Кум куме хустачку купіў.
— Кумка мая, любка мая,
Хто б цябе прыбраў, каб не я?
Кум з кумою ды на рыначку быў.
Кум куме кофтачку купіў.

---
* Кожны радок, акрамя апошніх двух, паўтараецца 2 разы.



13—1527

— Кумка мая, любка мая,
Хто б цябе прыбраў, каб не я?
Кум з кумою ды на рыначку быў.
Кум куме кралечкі купіў.
— Кумка мая, любка мая,
Хто б цябе прыбраў, каб не я?

490. Пад ліпенкай зеляною
Сядзіць кум з кумою.
— Мая ты кумка,
Мая галубка,
Спадабалася ты мне,
Не так жа ты мне,
Як бела ліцо.
Не так жа ліцо,
Як чорны бровы.
Не так жа бровы,
Як разгаворы.
Мая ты кумка,
Мая галубка,
Як бы нам раскуміцца.
Каб не жанаты,
Хацеў бы сам жаніцца.

491. А казалі, наша кумка хваравіта,
Аж наша кумка вінавата:
Як сена сушыць — дык нядужа,
А як у кумкі ісці — дык дасужа.
А казалі, наш кумок хваравіты,
Аж наш кумок вінаваты:
Як сена касіць — дык нядужы,
А як у кумы ісці — дык дасужы.
А казалі, наша бабка хваравіта,
Аж наша бабка вінавата:
Як пшаніцу жаць — дык нядужа,
А як у бабкі ісці — дык дасужа.

492. Кум ідзе па вуліцы,
Кума — па гароду.
Кум у кумы пытаецца,

Адкуль кума родам.
Кума кажа: «З Украіны»,
А кумок з Беларусі.
А сышліся, зляцеліся,
Як шэрыя гусі.

493. У кумочка, у самаго, у самаго
Стаіць конік у яго, у яго.
Стаіць конік на стайне, на стайне,
А сам кумок у цераме, у цераме.
Конь зямлю капаіць, капаіць,
А кумок гуляіць, гуляіць.
Конь капытом зямлю б'е, зямлю б'е,
А кумок гарэлку п'е, гарэлку п'е.

494. Кум куму любіў,
Па саду вадзіў.

П р ы п е ў:*

А чаго ж мне кумы
Да й не любіці,
Па зялёнаму саду
Да й не вадзіці?

А ў кумы сцягно —
Сем паноў лягло.

А ў кумы хвартух —
Аддадзён пятух.

А ў кумы каралі —
Сто рублёў сталі.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

495. Ішла кума садам,
А ішоў кум гародам.
Пытаецца кум у кумы:
— Адкуль кума, родам?
— Ці ты, кум, збясіўся,
Ці ты, кум, сышоў з вума —
Гэта ж я, твая кума!

496. А кум куму разуваў, разуваў,
Пад падолік паглядаў, паглядаў:
«А што гэта за звер, за звер,
Я ж баюся, каб не з'еў, каб не з'еў».
«Гэта ж, кумочык, тая выдра,
Што мужчынам і ўначы відна».

497. Кум куме дзесяцінку ўспахаў.
Кум куме канапельку пасеяў.
— Кумка мая, хто ж бы табе ўспахаў, каб не я.
Кумка мая, хто ж бы табе канапельку дасеяў, каб не я.

498. Кум кумою выхваляецца:*
— Лучша мае кумы ў свеце няма,
Я сваёй куме саян куплю,
Шаўковую падпаясачку.
Кума тая дагадалася,
І на падрадачкі схавалася,
Лучынаю закапалася.
— Лепш бы ты мне стакан мёду купіў,
Чымся ты мне ды саян насуліў.

499. Кума кума падвяла, падвяла,
Куму штаноў не дала, не дала.
Кум пайшоў у кабак, у кабак,
Сам выпіў, а кума так, кума так.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

500. Ай кум куму падманіў, падманіў,*
Куме мёду не купіў, не купіў.
Кума кума падвяла, падвяла,
Куму штаноў не дала, не дала.
Кум на вуліцы пахаджываець,
Сваю кумушку пахваліваець:
— Лучша маёй кумы ў свеце няма,
Я сваёй куме саян куплю.
— Не купляй ты мне новага саяна,
А купі мне зялёнага віна,
Ой, купі мне зялёнага віна.
У саяну буду харошанька,
Ад віна буду п'янёшанька.

501. Кум куму ў гародчык вядзе,
Кум куме агурочак дае.
— Не хачу агурочка твайго,
Да хачу ж я жываточка твайго.

502. А што ў нас ды за чуда выходзіць?
А кум к куме ды ў поўнач прыходзіць.
Прыйшоўшы пад акошачка, стучыць:
— Падыйдзі, мая кумачка, ка мне.
— Цяжка мне з белай ложы ўставаць.
— Трудна мне пад акошачкам стаяць,
Ножкі мае к марозу прымерзлі,
Вусенкі мае к аконцу прысталі,
Вочачкі мае на кумку паглядалі.

503. Прыйшоў кум да кумы,—
Таўчэць кума мак.
Ударыла кума кума
І зрабіла знак.
— А ці любіш, пане куме,
Жарты мае?
— Каб я кумы не любіў,
Я б к куме не хадзіў.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

504. А кум куме абяцаўся,
Лянок сеяць заручаўся.
— Ты кума, ды душа,
Кругом кума хараша!*

А кум куме абяцаўся,
Лянок палоць заручаўся.
Ён пашоў, прапалоў,
Прапалваючы, казаў.

А кум куме абяцаўся,
Лянок рваць заручаўся.
А ён рваў, прарываў,
Прарываючы, казаў.

А кум куме абяцаўся,
Слаць лянок абяцаўся.
А ён слаў, прысцілаў,
Прысцілаючы, казаў.

А кум куме абяцаўся,
Лянок падымаць заручаўся.
Падымаў, падымаў,
Падымаючы, казаў.

А кум куме абяцаўся,
Лянок мяць заручаўся.
А ён мяў, прымінаў,
Прымінаючы, казаў.

А кум куме абяцаўся,
Лянок прасці заручаўся.
А ён праў, прыпрадаў,
Прыпрадаючы, казаў.

А кум куме абяцаўся,
Лянок ткаць заручаўся.
А ён ткаў, прытыкаў,
Прытыкаючы, казаў.

---

* Апошнія два радкі дадаюцца да кожнай страфы як прыпеў.

505. Да кума кума
У госці прасіла:
— Ды прыедзь, кумок, у госці,
Піражком пачастую.
Ў панядзелак муку купляла,
А ў аўторак муку сеяла,
А ў сераду піры ўчыніла,
А ў чацвер мясіла,
А ў пятніцу садзіла,
А ў суботу вымала,
У нядзелю кума частавала.
— Ну, выбачай, кумок,
Што пірог з хвастом.
Бо лучынка прыгасілася
І цялё з хвастом умясілася.

506. Казалі, гаварылі,
Што ўчора крысцілі.
Казалі, гаварылі:
Кума п'яніца была,
Усю гарэлку папіла.
А кум кумку
У садочак вядзе,
Агурочкі дае.
Кума кажа:
— Што за звер,
Што за звер,
Ой, глядзіце,
Каб не з'еў,
Каб не з'еў.

507. Ішоў кум да кумы
Цёмнае ночы.
Сядзіць сава проці яго,
Вытрашчыўшы вочы.
Ён жа на яе: гіля, гіля!
Яна і прысела,
Каб не тая кума яго,
Яна б яго з'ела.

508. Кумка рыбку пячэ,
З скавародкі цячэ.
— Пастой, кумка, не пячы,
Скавародкі палячы.
У каго русы вусок,
Таму рыбкі кусок.
У каго рыжа барада,
Таму і юшкі шкада.

509. Кум ідзе па вуліцы,
Кума — па гароду,
Кум нясе кусок сала,
Кума — скавараду.
— А кумачка, галубачка,
Спячом мы яешню.
— А кумочак, галубочак,
Каб не было смешна.
А кумочак, галубочак,
Каб не было грэшна.

510. Кума па саду хадзіла,*
Кума расаду садзіла.
— Ой, кумка, галубка мая,
Бухонна расадка твая,
Бухонна расадка твая.
— Пасохла расадка мая.
Паехаў мілы ваяваць,
Аставіў мяне гараваць.
— Ой, кумка, галубка мая,
Бухонна расадка твая.

511. Учора кум, учора кум
А на рыначку быў.

Кум куме, кум куме
Чаравічкі купіў.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Ён купіў, ён надзеў,
На куму паглядзеў.

— Ты кума, ты кума,
Ты усім хараша!

512. Кум да кумы заляцаўся,
Лянок рваць ёй абяцаўся.
Як ён рваў, прырываў,
Прырываючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсе кумы хараша!

Кум да кумы заляцаўся,
Лянок слаць ёй абяцаўся.
Як ён слаў, прысцілаў,
Прысцілаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсе кумы хараша!

Кум да кумы заляцаўся,
Лянок праць ёй абяцаўся.
Як ён праў, прапрадаў,
Прапрадаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсе кумы хараша!

Кум да кумы заляцаўся,
Красёнцы ткаць ёй абяцаўся.
Як ён ткаў, прытыкаў,
Прытыкаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсе кумы хараша!

513. А кум да кумы ў асець,*
А кума куму сыр нясець.
А кум да кумы на ганачак,
А кума куму бараначак.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.




514. Кум у рэшаце плывёт
Да верацёнкамі грабёт.

— Кума, кума, куманька ты мая,
Душа, душа, душанька ты мая.*

Як кум кумкай быў рад,
Павёў кумку ў вінаград.

Пасадзіў кум кумку на кравань,
Стаў кум кумку разуваць.

Адну ножку разуваў,
Ён нічога не відаў.

Стаў другую разуваць,
Аж вельмі ён спужаўся.

— А кумачка, што за звер,
Да [illegible] баюся, штоб не з'еў.

— А мой жа ж ты куманёк,
Твой дурненькі разумок.

Гэта ж мая курыца,
Што па ночы туліцца.

Гэта ж тое бобра,
Што па ночы добра.

* Гэтыя радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

## ЗАСТОЛЬНЫЯ, БЯСЕДНЫЯ ПЕСНІ

515. А хто ў цябе, Казечка, гарэлку пап'ець,
Хто ў тваёй бяседцы песеньку спяець?
Я ў цябе, Казечка, гарэлку пап'ю,
Я ў тваей бяседцы песеньку спяю.
Пайду я, малада, па-над ракою,
Сарву ■ калінку правай рукою.
Каб тая калінка ў ручцы звяла,
Я гэтай бяседкі тры гады ждала.
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі,
Як прыйшлося — бяседка неўспадзевачкі.

516. — Хто ў цябе, Юзічка,
Гарэлку папіў?
Я ж у цябе, Юзічка,
Не каштавала.
Папілі гарэлку суседзі твае,
І вышлі ўсе на вуліцу судзіці аб цябе.

517




517. Аддыхайце, сталы, лавы,*
Я за вамі пагуляла
І песенек папяяла,
Хлеба з соллю паядала,
Гарэлачкі папівала,
Закусачкі паядала.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

518. Да во тут, да во тут
Да хрэсьбінкі былі.
Да во тут, да во тут
Да й гарэлачку пілі.
Вой, не памята ні рута, ні мята,
Толькі памята наша усяное свята.

519. Ой, і хто ж мяне сягоння напаіў,
Каб і той мяне і заўтра пахмяліў.
З сваім міленькім цераз столік сядзела,
А мне міленькі стакан водкі наліваў,
На закусачку бараначкаў падкладаў,
А пры гулюшках сястрой роднай называў,
А без гулюшак — душа Машанька мая.

520. Досыць нам, жоначкі,
У адведках сядзець.
Пойдзем мы на вулку
На людзей глядзець.
А, можа, мой міленькі
Другую вядзець.

521. Досыць нам, досыць нам
У бяседзе сядзець.
А пойдзем на вуліцу
На людцаў глядзець.
Як чужыя мужы
Жонак шануюць,
А як мой нядбайла
Кіі габлюець.
Усе кіі, усе кіі,
Усе дубовыя.
На мае плечачкі
На здаровыя.
— Каб твае кіёчкі
Паламаліся,
А мае плечачкі
Не баяліся.




522. Досыць нам, досыць нам
За сталом сядзець.*

А пойдзем, мы пойдзем
На вулку глядзець.

Як чужыя мужыкі
Ўсё нас шануюць.

А нашы мужыкі
Кіі гатуюць.

Я ж гэтых кіёчкаў
Не баялася,

А выйшла на вулку,
Засмяялася.

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

523




523. Досыць вам, жоначкі,
Ў бяседзе сядзець.*

Пойдзем мы, жоначкі,
На вулку глядзець.

Як чужы мужыкі
Жонак шануюць,

А нашы дурнішчы
Кіі гатуюць.

Ўсе тыя кіёчкі,
Ўсе дубовыя

На мае плечачкі,
На здаровыя.

Ўсе тыя кіёчкі
Паламаліся,

А мае плечачкі
Не баяліся.

524. Учора былі хрэсьбіначкі,
Сягоння — пахмеллечка.
Учора елі рыбку з перцам,
А сягоння — галоўкі.
А як паядзім рыбку з перцам,
Паедзем дамоўкі.

---

* Кожныя 2 радкі паўтараюцца.

525. Я ўчора сувячора
На радзінках была,
А сягоння ранюсенька
На хрысцінкі прыйшла.
Добрыя людзі
Упаілі мяне,
Пад вішанькай, пад чырвоненькай
Спаць палажылі мяне.
Ой, вішанька, чырвоненькая,
Не шумі над галавой,
Мой міленькі чарнабровы
Не журы мяне, маладой.
Ой вішанька, чырвоненькая,
Як шумець, дык шумець,
Мой міленькі чарнабровы,
Як журыць дык журыць.

526. А вы, госцейкі мае,
Вы зазваненькія,
А чаго вы сядзіце
Да не п'яненькія?
Ці мой хлебушак пушон,
Ці мой мілы невясёл?
Калі хлебушак пушон,
Дык я выпалаю,
Калі мілы невясёл,
Праўду выпытаю.

527. Час дадому, час.
Час, ды ўжо даўно.
Будзе мяне мілы біць,
Некаму абараніць.
Час дадому, час.

528. А госці малімонкі
Не п'юць гарэлку, што горка.
Нашы пчолкі здагадлівы,
Паляцелі па мёд.
Пакуль яны вернуцца,
Госцікі раз'едуцца.

529. А я ўчора кумой была,*
П'яненька ў двор прыйшла.
Свякровачка стучыць, гручыць,
Свякровачка пабіць вяліць,
А міленькі ўцяшаецца,
Па пасцелі качаецца.
Ня б'ець жану п'яненькую.
Трэба біць жану цвярозую,
Пад белаю бярозаю.

530. Нашто ж вы мяне
На хрысціначкі пазвалі,
Калі чарачкі мне не далі?
Каб я знала,
На хрэсьбіны б не пайшла.
Няўжо ж я дома б
Работкі не знайшла.

531. Каб чарачка гарэлачкі,
Я ж бы напілася.
А за добрым таварышам
Я ж бы нажылася.
А я ўпіла, а я ўела,
За ім угуляла.
А ўсю сваю я маладосць
За ім я не сцярала.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

532




532. Вып'ю чарачку,
Вып'ю я й да дна.
Да й паслухаю
Ў садзе ж салаўя.

У майго салаўя
Песенька адна.
Ў мяне, маладое,
Сястрыца ж адна.

Ў мяне, маладое,
Сястрыца адна.
Вой яна, яна
Ў госцях не была.

533. Каб мне чарку гарэлачкі,
Я ж бы напілася,
Каб за добрым таварышам
Я ж бы нажылася.
А за добрым таварышам
Жана маладзее,
А за белым бярэзнічкам
Трава пасыхае,
А за благім таварышам
Жана прападае,
Сыноў-дочак не раджае.

534. І чарачка мала,
І гарэлкі няма.
Гнула, гнула — не цячэць,
Толькі сэрца пячэць.
Гарэлачка, гарэлачка,

Мая весялуха,
Як не вып'ю цябе,
Бярэ мяне скруха.

535. А я чарачку крышталовую
Па стале пакачу,
А я ў цябе, мой зяцёчак,
Гарэлкі хачу.
А чарачка крышталовая
На стале не была.
А я ў цябе, мой зяцёчак,
П'яненька не была.




536. Ні, братка, брацітка,
Я ў цябе адна.*

Налі ж ты мне чару,
Я вып'ю да дна.

Налі мне другую,
Я й вып'ю тую.

Налі мне трэццюю,
Дамоўкі пайду.

Налі мне чацвёртую,
Мілога прывяду.

537. Я да цябе, мая кумачка,
Не піць, есці прыйшла.
Добрыя людзі, добрыя суседзі

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Упаілі мяне,
Пад вішанькай-чарэшанькай
Спаць палажылі мяне.
А вішанька-чарэшанька
Як шуміць, дык шуміць.
А міленькі чарнабровенькі
Як журыць, дык журыць.
А вішанька-чарэшанька,
Не шумі над галавой,
А міленькі чарнабровенькі,
Не журы ў мяне над галавой.

538



538. А я добрага роду,
П’ю гарэлачку, як воду.
Абярнуся ў куток —
Па дзве чарачкі ў раток.
Чарачка, каток,
Кацiся ў раток.
Чарачка віна,
Кацiся да дна.

539





539. Дзякуй Богу, што з родам зышлася.[*]
Гарэлачкі з мёдам напілася.
Дзякуй Богу, што мой муж харошы.
А ён мене не б’е, не карае.
А ён мене за жану шчытае.

540. Будзем гаварыць,[**]
Каму быка біць.

Будзем гаварыць,
Каму быка дзяліць.

Алавецкаму почкі —
У яго ўсе чыста дочкі.

А Дзянісу яйцы —
У яго ўсе чыста мальцы.

541. Зяць да цешчы галовачку клоніць,[***]
Цешча да зяця слоўца не гаворыць.
— Не ўмееш, зяцю, дачку шанаваці.
У мяне была, як розачка, цвіла,
А ў цябе стала, як мяцінка, звяла.
— За то я звяла, што жоначкай стала,
За то збялела, што дзетачку мела.

---

[*] Кожны радок паўтараецца 2 разы.
[**] Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.
[***] Кожны радок паўтараецца 2 разы.




542. — Памры, памры, мужыкова маці,*
Застануся гаспадынька ў хаце.
Як памёрла мужыкова маці,
Засталася гаспадынька ў хаце.
Людзі ідуць у поле на ніўку,
А я бягу плакаць на магілку.
— А ўстань, устань, да свякроўка-матка,
Памажы мне гора гараваці,
Памажы мне дзетак гадаваці.
— Ты ж не ўмела мяне шанаваці,
Цяпер умей дзетак гадаваці.




* Кожны радок паўтараецца 2 разы.




543. Ой, п'яна я, п'яна,
Чым я упілася,
Бо я нешчаслiва —
Доля не ўдалася.

Пайду я да брата,
Брат мяне прымае,
Мая братавая
Скрыва паглядае.

— Не пакiдай, мiлы,
Не пазiрай скрыва,
Бо ў тваe сястрыцы
Доля нешчаслiва.

544




544. Вой, п'яна,
П'яна я, п'яна,
Да пайду спаць
Да свайго пана.

Пайду спаць
Да пад вiшанечку.
Вiшанька
Пацiхоньку шумiць.

Вішанька
Паціхоньку шуміць.
— Мілы мой,
Да галоўка баліць.

Узяў ён
За галоўку мяне:
— Міленькі,
Да галоўка баліць.

Міленькі,
Каб не ручка твая,
Не балела б
Да галоўка мая.

545




545. Ўчора на піры была,
Ўчора на піры была,
Сягоння журба найшла.

Свякроўка журыць, журыць,
Свякроўка журыць, журыць,
Свёкар з бізуном стаіць.

А міленькі ў ганачку,
А міленькі ў ганачку
Просіць свайго татачку.

— А татачка родненькі,
Не бі яе п'яную,
Бі яе цвярозую.

Не бі яе п'яную,
Бі яе цвярозую,
Ўчы яе да розуму.

— А мой жа ты міленькі,
Я не вінаватая,
Што радня багатая.

Я з радзінкай сышлася,
Я з радзінкай сышлася,
Да п'яна напілася.




546. Я ў піру была,*
Я ў пірушаццы.

А, здаецца ж, я
Не ўпівалася.

А дамоў ішла,
Не шаталася.

А ў вароціках
Пахілілася,

А у сеначках
Павалілася.

— На каго, шэльма,
Спадзявалася?

— На цябе, цябе,
Мой свякрутанька.

Мой свякрутанька,
Родны татанька.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

547




547. Я ў піру была,*
Я ў пірушаццы.

Я й не мёд піла,
Да й гарэлачку.

Да й, здаецца ж, я
Не ўпівалася.

Я й дамой ішла,
Не шаталася.

Я ў вароцікаx
Пахілілася,

Проці сеначак
Павалілася.

А ішоў да йшоў
Мой свякрутанька.

— А на што, шэльма,
Напівалася?

На каго, шэльма,
Спадзявалася?

— На цябе, цябе,
Мой свякрутанька.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

На тваю, тваю
Ўсю й бароданьку,

На талковую
Ўсё й галованьку.

548. Учора з вечара п'яна была,
Сягоння молада ня буду піць,
Мелісь у мяне госцейкі быць:
Першыя госцейкі — татка з мамкай мае,
Другія — брат ды сястра,
Трэція — кум ды кума.
Для кума і кумы
Піва звару,
Для барата і сястры
Мёда пасаладжу,
Для роднай мамулькі
Вала заб'ю.

549. Завуць моладца ў бяседу,
А ён сам не ідзець,
А жану шлець.
— А ідзі, жоначка, у бяседу,
За поўну чару не бярыся,
А ў тэй бяседзе людзі будуць,
Пра мяне, малойца, судзіць будуць,
А мне, малойцу, стыдна будзець.
А ідзі дамоў, не хіляйся,
За чужых мужчын не хватайся.

550. У гародзе дуб развіваўся,
Муж у жаны пытаўся:
— Жана мая, маладая,
А дзе красу пагубляла?
Ці за мужчынамі прагуляла,
Ці за бабамі прагукала?
— З мужчынамі не гуляла,

З бабамі не гукала,
З пачопачак ног не вымала,
Усю красу пагубляла.

551. Ды зашумелі зялёныя лугі,*
Не задавайце майму сэрцу тугі.
Я, маладзенька, і так тугу маю,
Што ў свайго таткі ў гасцёх не бываю.
Ды мой татулька вялік банкет маець,
Ходзіць па вуліцы і ручкі ламаець:
— Ды ўзыйдзі, ўзыйдзі, вячэрняя зара,
Ды прыедзь, прыедзь, гаротная дзіця.

552. Распіўся малойчык
Да ты разгуляўся,
Да твой конь вараненькі
У стайні застаяўся.
Дзе будзеш, малойчык,
Ночку начаваці?
— Начаваў бы я ночку
У зялёным гаёчку,
Прывязаў бы коніка
Да к белай бярозцы,
Прылажыў бы галоўку
Да к бітай дарожцы.

553. На шырокай вуліцы,
На зялёнай мураўцы,
Там ішлі малойчыкі
Граючы, спяваючы,
Дзевачак ззываючы.
Адна дзеўка пачула,
Мамачкі прасілася:
— Пусці, пусці, мамачка,
Пусці, пусці, родная,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

На вуліцу пагуляці,
Песенек паспяваці,
Музыкаў паслухаці.
— Ой, не пушчу, дочачка,
Музыкі з вуліцы звядуць,
Хлопчыкі сабе завуць.

554. Ой, кумачкі-галубачкі, падпаілі мяне, падпаілі мяне,
Пад вішняю-чарэшняю палажылі мяне.*
Ой, вішанька-чарэшанька, не шумі на мяне,
не шумі на мяне,
Ты, мой мілы, сэрца маё, не свары на мяне.
Бо як будзеш сварыціся, то я буду журыціся,
І старая буду, і старая буду.
Як не будзеш сварыціся, то не буду журыціся —
Маладая буду, маладая буду.
Як паедзеш на ярмарак і паглянеш на мой станак —
Найспраўнейша буду, найспраўнейша буду.

555. Як гуляла, то гуляла, бо мне мама пазваляла,
А цяперка: «Люлі, люлі!» — мінуліся мае гулі.*
І цяперка бы я шчэ й рада сабе пагуляці,
Адно ліха: мне мой мілы кажаісці спаці,
Цэлу ночаньку дзяціну мушу калыхаці.
Ён гуляці не пускае і не магу спаці,
Я дзяціну калыхала, ён на ложачку ляжаў,
Калыханку я спявала, ён памалу засынаў.
І дзяціну і мілога я нараз прыспала,
А сама я паціхеньку пайшла й пагуляла.

556. Дай, Божа, нядзелькі прыждаці,
Та ■ пайду да роду гуляці.*
Як мне скажуць да дна выпіваці,
Я й не буду да дна выпіваці.
Я й не буду да дна выпіваці —

* Кожны другі радок паўтараецца 2 разы.

Ёсць у мяне дзве беданькі ў хаце:
Адна бяда — дзяціна малая,
Другая бяда — свякруха ліхая.
Хоць ліхая, вячэраньку варыць,
А свёкерка дубіначку парыць.
А хоць парыць, то й не будзе біці,
Сядзіць мілы — будзе бараніці.
Сядзіць мілы, дробны лісты піша,
Ён малую дзяціну ціхенька калыша:
— Люляй, люляй, дзяціна малая,
Гуляй, гуляй, жонка маладая!
Гуляй, гуляй, жонка маладая,
Пакуль мая галоўка жывая.
Бо як мая галоўка хібнецца,
Тады тваё гулянне мінецца.

557. Ох я, малада, вольху я ламала,
Вольху я, вольху я, вольху я ламала![*]
Ох я, малада, з вольхі я ўпала,
З вольхі я, з вольхі я, з вольхі я ўпала!
Ох я, малада, у рэчку я папала,
У рэчку я, у рэчку я, у рэчку я папала!
Ох я, малада, вокуня спаймала,
Вокуня, вокуня, вокуня спаймала!
Ох я, малада, на рынак хадзіла,
На рынак, на рынак, на рынак хадзіла!
Ох я, малада, гаршчэчка купіла,
Гаршчэчка, гаршчэчка, гаршчэчка купіла!
Ох я, малада, вокуня зварыла,
Вокуня, вокуня, вокуня зварыла!

[*] Кожны другі радок паўтараецца 2 разы.

558




558. Ой, дуб шуміць, ой, дуб шуміць,
Калінку калышыць.*

Мой брацітка, мой родненькі
Ка мне пісьмы пішыць.

Ўначы пішыць, ўначы пішыць,
А ўдзень рассылаіць.

— Чаму мая сястра родна
У госці не язджаіць?

Ці ты, мая сястра родна,
Коніка не маеш?

Ці ты, мая сястра родна,
Дарожкі не знаеш?

— Мой брацітка, мой родненькі,
Я й коніка маю.

Мой брацітка, мой родненькі,
Я й дарожку знаю.

А за благім таварышам
Нідзе не бываю.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

559




559. Кляновая лісціначка
Ад ветру зляцела,
Не 'ддаў мяне мой татулька,
Куды я хацела.

Я й хацела, я й думала
І з панамі жыці,
Аддаў мяне мой татулька
Торбачкі насіці.

Я й хацела, я й думала
З панам за стол сесці,
Аддаў мяне мой татулька,
Што нечага есці.

560




560. Даўно я, даўно ў мамкі была:
Ужо ж мая дарожанька травой зарасла.*

Травой зарасла, лісцем запала,
Чырвонай калінай пазавісала.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Траву пакашу, лісце паграбу,
Чырвону каліну набок пахіну.

Дзе мяне мамка будзе пераймаць?
Чым жа мяне мамка будзе частаваць?

Пераймаць будзе прад новым дваром,
Частаваці будзе мёдам да віном.

— Ці добра, дачушка, жыць з чужым чужанцом?
— Ці ела, мамка, рэдзьку з палынцом?

А як смашна есці рэдзьку з палынцом,
Так мне, маладзежы, з чужым чужанцом.

У канцы ложачка настаялася,
Свякроўкіных слоўцаў наслухалася.

У канцы століку настаялася,
Лічаных кусочкаў наглыталася.

561




561. Не шумі ты, сосна,
А мне так з гора тошна.*

Не шумі, зялёна,
А мне й так невясёла.

Аддаў мяне татка
А далёкенька замуж.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Далёка, далёка
А ў чужую дзярэўню.

Ў чужую дзярэўню,
Ў бальшую сямейку.

Ў бальшой жа сямейцы
А свёкар да свякрова.

А свёкар да свякрова,
А дзевер да залоўка

Мой двор на вымосце,
А прашу й братка ў госці.

— Прыедзь-ка, брахненька,
А прыедзь-ка, радненькі.

Брат ночку начуець,
А нічога не чуець.

562




562. Аддаў мяне мой татачка
Замуж на Ўкраіну.*

На Ўкраіне, на Валыні
Там весела жыці.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.



14—1527

Вялікая сямеечка —
Ёсць з кім гаварыці.

Жыла год, жыла другі,
Ніхто не ўчашчае.

Ніхто да бяздольніцы
Ў госці не прыбывае.

Я думала, маладая,
Што рой выступае,

Мой татачка, мой родненькі
На парог ступае.

Звару, звару ■ татачку
Свежую вячэрку.

Пасцялю я татачку
Мяккую пасцельку.

Мой татачка, мой родненькі
Ночку не ўсыпае.

Часцюсенька, часцюсенька
Ў акенца пазірае.

— Чаму, чаму, мой татачка,
Так ночкай не спіцца?

— Як ўбачыў бяздольніцу,
Не магу забыцца.




563. Коціцца, коціцца
Сонца па небу.*

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Хочыцца, хочыцца
К татку ў бяседу.

А ў майго татулечкі
Вясёлая жызнь.

Сад над ракою,
Двор над вадою.

— Пусці, татулечка,
У сад пагуляць.

Не буду, татулечка,
Вішанек шчыпаць.

Выламлю, выкрашу
Вінаградзінку.

Панясу татулечку
На парадачку.

— Парай, татулечка,
Як з нялюбым жыць.

— Жыві, дзіцятачка,
А хоць не любі.

Спаці кладзіся,
К сцяне вярніся.

К сцяне вачамі,
К яму плячамі.

Сіты, рашоты —
Твае клапоты.

Вілкі, качоргі —
Твае заботы.

564




564. А ўжо калатоўе
Падкалачываю,
Ох я, падкалачываю.

А дзеверкі-сакалкі
Ды вяляць мяне біць,
Ох я, ды вяляць мяне біць.

А мой жа ты мілай,
Ты саўсем не разумны,
Ох я, ты саўсем не разумны.

А не бі мяне ўдзень,
Не смяшы ж ты людзей,
Ох я, не смяшы ж ты людзей.

А бі мяне ўначы,
Каб не чулі, плачучы,
Ох я, каб не чулі, плачучы.

Як па полейку пайду,
Я татульку скажу,
Ох я, я татульку скажу:

Нашто ж ты мяне 'ддаваў
Ды навошта цалаваў,
Ох я, ды навошта цалаваў.

Ці на коней маладых,
Ці на служак маладых?
Ох я, ці на служак маладых?

Ці на хату багату,
Ці на коні вараныя?
Ох я, ці на коні вараныя?

А хоць хата багата,
Мне не весела жыць,
Ох я, мне не весела жыць.

А хоць коні вараныя,
Мне не ездзіць на іх,
Ох я, мне не ездзіць на іх.

А хоць слугі маладыя,
Не загадаваць ім,
Ох я, не загадаваць ім.

565




565. Ой, жыла я ў бацькі
На выгодзе,
Сеяла гарэшкі
Ў ва гародзе.

Расціце й, гарэшкі,
Вышэй плоту,
Аддаў мяне бацько
За блазноту.

Аддаў мяне бацько
За блазноту,
Чужыя малойцы
П'юць, гуляюць.

Чужыя малойцы
П'юць, гуляюць,
А мае блазноты
Не прымаюць.

А мае блазноты
Не прымаюць,
Бо мая блазнота
Не пад злота.

566




566. Ў горы, млода, радзілася,*
З гора ў гора замуж зайшла.
Я й год не была у брацетка,
На трэці год, млода, ўздумала.
Запрагла каня ды й паехала.
Еду поле, еду другое,
На трэцяе, млода, ўз'ехала.
А й братні двор увідзела,
А меншы брат пад акном сядзіць,

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А большы брат у вакно глядзіць.
— Сымай, жана, хлеб-соль са стала,
Едзець сястра галодная,
Галодная, халодная.
А я, млода, пачула, ўслышала,
Завярнулась назад ды й паехала.
Еду поле, еду другое,
На трэцяе, млода, ўз'ехала.
Не лес шуміць, дубровушка,
За мной бяжыць пагонюшка.
— Вярнісь, сястра, Масееўна,
А ў нас поле ўсё засеяна.

567




567. Ой, я бедная на свеце,
А ніхто ка мне ні заедзе.

Ніхто ка мне ні заедзе,
Да ні татка, ні мацер.

А ні татка, ні мацер,
А толькі заедзе родны братка.

Толькі заедзе родны братка,
А хоць заедзе — не начуе.

Хоць заедзе — не начуе,
А хоць начуе, не гавора.

А хоць начуе, не гавора,
А хоць гавора — не са мною.

Хоць гавора — не са мною,
А сваей мілаю жаною.

Сваей мілаю жаною.
— Ой, прымай, жана, хлеб са стала,

Прымай, жана, хлеб са стала,
А едзе ў госці сястра мая.

Едзе ў госці сястра мая,
А сястра гэтае зачула.

Сястра гэтае зачула,
А назад коней завярнула.

Назад коней завярнула,
А ў дому паабедала.

А ў дому паабедала.
— А цябе, братка, не аб'ядала.

Цябе, братка, не аб'ядала,
А не так цябе, дзетак тваіх.

568




568. Развівайся, каліна,*
Ў ціхім лузе стоячы.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Заплакала ўдоўка,
Па беражку ходзячы.

На коніка садзіла,
Сярод войска ставіла.

Сярод войска ставіла,
Усё войска кла...

Стаў пытацца палкоўнік,
Адкуль гэты ваяўнік.

Адкуль гэты ваяўнік,
Ці не з двору дваранін?

Ці не з двору дваранін,
Ці не з места мешчанін.

569




569. А каліну й маліну,
Вада падмыла.

Не ў шчасную мінутачку
Мамка нарадзіла.

А не дадаўшы розуму,
Замуж аддала.

А не дадаўшы розуму,
Замуж аддала

Да за сіняе мора,
Да ў вялікае гора.

Да пражыла тры гадочкі,
Ня відзела раней у вочкі.

На чацвёрты гадочак
Прыязджаець мой браточак.

Браточак не ссядаіць,
З страмён ножак не вымаіць.

З страмён ножак не вымаіць,
А сястрыцу пытаіць:

— Ці здарова, сястрыца,
Ці здарова, гаротніца?

— А я жыва, і здарова,
Ды ўся мая сям'я дома.

Свёкар, свякрову,
Дзеверахна — на палешыне.

Залатоўцы вянкі віці,
Нада замуж аддаваці.

570




570. Лугавая каліначка*
На юр-воду схілілась.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

На юр-воду схілілась,
Я й, молада, журылась.

Я й, молада, журылась,
Што ад роду адбілась.

Я ад роду — на тра годы,
Ад мілога на чатыр...

Ад мілога на чатыры.
Каціў туман па далін...

Каціў туман па даліне,
Хадзіў парань да дзяўчын...

Ой, ён хадзіў, з ума зводзіў.
— Не я цябе з ума зво...

Не я цябе з ума зводжу,
Звяла цябе цёмна ночк...

Звяла цябе цёмна ночка,
Гарэлачка саладзеньк...

Гарэлачка саладзенька,
Яшчэ ж дзеўка маладзеньк...

571. Калінушка, малінушка,
Ружовы цвет,*

Нявесела бяседушка,
Дзе мілога нет.

Вясёлая кампанейка,
Дзе мой мілы п'ець.

Ён п'ець, ён п'ець, саколік мой,
За мной лісты шлець.

---

* Кожнае двухрадкоўе паўтараецца 2 разы.

Я ж молада, младзюсенька,
Замяшкалася за гусямі,

Замяшкалася за гусямі,
За шэрымі за лебядзямі.

572




572. Чырвоная калiначка,*
Чаго ў лузе схiлiлася?

Чаго ў лузе схiлiлася,
Я й, малода, журылася.

Я й, малода, журылася,
Што ад роду адбiлася.

Што ад роду, ад радочку,
Цяжка майму галасоч...(ку)

Цяжка жыцi, цяжка быцi,
К чужой сям'i прыхадзiцi.

Да пайду я, гукаючы,
Сваёй долi шукаюч...(ы)

Адгукнiся, мая доля,
На тым баку сiня мора.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

На тым баку сіня мора,
На крутому беражочк...(у)

На крутому беражочку,
Да вырвем мы па лісточк...(у)

Да вырвем мы па лісточку,
Да пашлем іх да радоч...(ку)

Няхай пра мяне тужа,
Няхай тужа ацец, ма...(ці)

Няхай тужа ацец, маці,
Да на новенькай крава...(ці)

Да на новенькай кравaці,
На пуховай падушац...(цы)

Да на пуховай падушаццы,
Да па сваёй дачушац...(цы)

573




573. Я калыну, малыну ломыла,*
Патыхэньку вэчэру варыла.

Кыпы, кыпы, вэчэранька тыхо,
Дэ ж нэ мае ж моёго жніха.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы. Тэкст прыводзіцца з захаваннем дыялектных асаблівасцей гаворкі (у запісе Г. В. Таўлай).

Вжэ вэчэра моя докыпае,
Вжэ мой мылый на поріг ступае.

— Кыдай, мыла, вэчэру варыты,
Давай будэм з тобою говорыты.

Чуў я, мыла, такую новыну,
Шо ты маеш малую дэтыну.

— Ой, нэ есть то, муй мылы, новына,
Шо ў мэнэ малая дэтына.

Ночувалы цыганы у ночі,
Покынула мні чорныя очі.

Ночувалы цыганы ў пуўранці,
Покынулы дэтыну на лавці.

— Давай, мыла, коныка сэдлаты,
Да пойдым цыганів догоняты.

574




574. — Ой ты, калыну,[*]
Ой ты, чырвоная,
Чого рано росцвіла?
Дэж, тэбэ, калыну,
Дэж тэбэ, чырвону,
Тыха вода зайняла?

---

[*] Тэкст прыводзіцца з захаваннем дыялектных асаблівасцей гаворкі (у запісе Г. В. Таўлай).

— Ой, мэнэ, калыну,
Мэнэ, чырвоную,
Тыха вода нэ займэ.
На мэнэ, калыну,
На мэнэ, чырвону,
Тыхый вытёр повіе.

— Ой ты, молодыцё,
Ой ты, малодая,
Чого ты так змарнела?
Дэ ж тэбэ матюнка
Свая рідныенькая
На чужыну оддала?

— Ой, на чужыну —
Ў чужую сторону,
У вэлыкую сэм'ю,
Ой, самы сядуть,
Ой, а вэчэраты —
Я по водоньку пойду.

Вынэсу водыцы
З быстрые крыныцы,
Я ж ім пыты подаю,
Сама, молодэньку,
В чужого батэнька
В порожэньках постою.

Ой, оглянулась,
Ой, я назад сэбэ —
Моя матюнка йдэ,
Ідэ моя маты,
Ідэ моя рідна
І говорыть до мэнэ.

Ідэ моя маты,
Ідэ моя рідна
І говорыть до мэнэ:
— Сэ лыхое жытте,
Жытте мое ріднэ,
Вэрнысь назад до мэнэ.

— Ой, нэ вэрунся,
Моя маты рідна,
Нэ вэрнуся до тэбэ,
Бо вжэ расплецёна,
Но нэ даплэцёна
Руса коса у мэнэ.




575. Браты мае,
Браты мае,
Браты-салаўяты,
Браты-салаўяты.

Прыязджайце
Ка мне ў госці,
Хоць я не багаты,
Хоць я не багаты.

Хлеба-солі прыдабуду,
З вамі гуляць буду.

576. Вы, салавейкі,
Да вы дробныя пташачкі,*

Не шчабячыце
Да вы раненька ў даліне.

Не разбудзіце
Майго мілаго ў пярыне.

---

* Кожнае двухрадкоўе паўтараецца 2 разы.

Я ж, маладзенька,
Таму радзенька,

Што ён спіць,
Хаця ён мае галовачкі не тужыць.

577




577. — Ой, палын, палын,
Хто цябе сеяў?*

— Мяне сеялі
Шуры да буры.

А пашчыпалі
Родныя сёстры.

А брат у сястры
Ў гасцях не бывае.

А як прыедзець,
Дык не начуець.

Як начуець,
Дык затаскуець.

Спацькі кладзецца
Усё пад ваконцам.

Часта ў ваконца
Ён паглядаець.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

578




578. Ой, палын, палын,
Трава горкая,
Долечка мая
Яшчэ й горшая.

Долечка мая
Яшчэ горшая,
Што мой міленькі
Не любя мяне.

Што мой міленькі
Не любя мяне,
Робе кроватку
Нешырокую.

Робе кроватку
Нешырокую,
Кладзе дошчачку
Адзінокую.

Кладзе дошчачку
Адзінокую,
Спацькі кладзецца,
К сценцы хінецца.

Спацькі кладзецца,
К сценцы хінецца,
А мне, маладой,
Няма дзе дзецца.

579




579. Сястра ідзець па вуліцы,
А брат па садочку.
— Хадзі, мая сяструлічка,
Выпім мы мядочку.

— А выпі, выпі, брацітка,
Калі табе п'ецца.
Мне, моладзе, сіротаццы,
А ўсё й не ўдаецца.

Адна мамка нас радзіла,
Адна гадавала.
А долечку, мой брацетка,
Няроўную давала.

Табе дала, мой брацітка,
Долю далявую,
А мне дала, мой брацітка,
Долю слезавую.

Табе дала, мой брацітка,
Па садзе хадзіці,
А мне дала, мой брацітка,
П'яніцы гадзіці.

580




580. Сястра ходзіць па гароду,
Братка па мосту,
Братка па мосту.

581




581. Вот сястрыца братка
Харашэнька просіць,
Харашэнька просіць:
— Ты мая нарава.

Ты мая нарава,
Паедзь ты са мною.
Паедзь ты са мною,
Буду я жаною.

Буду я жаною.
Але не жаною,
Але не жаною,
А братка з сястрою.

А братка з сястрою.
Брат сястрыцу просіць:
— Хадзі ж ты за мною,
Бо я адзінокі.*

582. Па багатую сястру тры паслы пасылалі,
Па мяне, бедную, бяздольную,
Праз людзей наказалі.
Як багатую сястру, як багатую сястру
Сярод поля, сярод поля пераймалі.
А як мяне, бедную, бяздольную,
На парозе перанялі.
Як багатую сястру, як багатую сястру
На куце пасадзілі.
А мяне, а мяне, бяздольную, бедную,
Садзілі напроць печкі на лаўцы.
Як багатую сястру, як багатую сястру
Вiном-мёдам частавалі,
А мяне, бяздольную, няшчасную,
Горкаю гарэлкаю.
Як багатую сястру, як багатую сястру
Начаваць удзяржаюць,
А мяне, бяздольную, мяне, бедную,
Сярод ночкі выпраўляюць.
— Сабірайцеся, ваўкі, сабірайцеся, звяры,
Рвіце мяне на кускі.
А багатая сястра, а багатая сястра

---

* Няпоўны варыянт.

Па двары хадзіла,
Усё гэта чула, усё гэта чула.
— Брацікі-саколікі, садзіцеся на конікі,
Даганяйце ж вы яе і садзіце ля мяне,
І частуйце, як мяне.

583. Да былі ў брата дзве сястрыцы
Да дзве родныя,
Паклікаў ён іх на хрысцінкі.
Па багатую конікі паслаў,
А бядняшачка пехатой прыйшла.
Багатырачка на куце сядзіць,
А бядняшачка ў парозе стаіць.
Багатырачка мёд-віно да п'ець,
А бядняшачка дробны слёзкі льецъ.
— Досыць, сястрыца, табе слёзкі ліць,
Хадзі да мяне мёд-віно піць.
— Да пі, сястрыца, пі, родная,
А мне, маладзе, сэрца б'ецца.
— Мая сястрыца, мая родная,
Была ў нас мамачка
Абудвых родная,
Да надавла абудвум роўнае,
Да дзе ж ты тое да падзявала?
— Мая сястрыца, мая родная,
Да пааддавала да на хлеб-соль
Дробныя дзеткі гадуючы,
Сваю долечку праклінаючы.
— Мая сястрыца, мая родная,
Да пайдзём гукнём у вішнёвы садок.
Багатырачка як гукнула,
Яе доля дарожкай ідзець,
Да сем жа пар боцікаў нясець,
А бядняшачка да як гукнула,
Яе доля із лазы ідзець,
Да пяць жа пар да лапцей нясець.




584. А выйду я за вароцечкі —
Трава-мурава.*

Туды гляну, сюды гляну —
Чужая старана.

А гляну я у свой бачок —
Вішнёвы садок.

А у тым жа садочку
Сястрыцы мае.

Як будзеце шчыпаць вішні,
Шчыпіце мае.

Панясеце татку з мамкай,
Нясіце мае.

Як будзеце піць-гуляці,
Успомніце мяне:

— А дзе ж наша гаротніца
Ў чужой старане.

Ці гаруець, ці пануець,
Ці мёд-віно п’ець?

Можа, сядзіць у ваконцы —
Слёзачкі ліець.

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

585




585. Да казалі людзі,
Да што мой брат касу купіць,
А жана яго
Да гарэлачкі куп...

Напілася жа я
Да гарэлачкі, мёду,
Далі Бог, праўда,
Што не заеду да род...

Лугам еду, песні пяю,
Аж лужэчкі разлягаюцца,
Сялом еду, сільна плачу —
Варожачкі расцяшаюцца.

Вы цешцеся, варожачкі,
Да на сваё безгалоўейка,
А я буду піць-гуляці
Абы маё да здароўейка.




586. Адна мамка нас радзіла,
Адна гадавала.*

Няроўную нам долечку
З браціткам давала.

Брату дала, брату дала
Долю грашавую,

А мне дала, а мне дала
Долю слезавую.

— Пайдзём(ы), брат, пайдзём(ы), брат,
У чыстае поле,

А пасеем, а пасеем
А мы сваё гора.

Мой брат сеець з сявалачкі,
А я із прыпола.

Мой брат сеець, Бога просіць,
Каб яму радзіла.

А я сею, Бога прашу,
Каб не ўсхадзіла.

Як узышло маё гора
Густымі кустамі,

Як зацвіло маё гора
Ўсякімі цвятамі.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

587. Адна мамка нас радзіла,
Адна гадавала,
Няроўную нам долечку
Ды яна давала.
Брату дала багатую,
А мне гаратную.
Вот брат жывець,
Вунь як слывець,
А я ўсё гарую.
Едуць людзі, жыта сеюць,
А я сваё гора.
Просяць людзі пана-Бога,
Каб жыта ўрадзіла,
А я кляну сваё гора,
Каб не ўсхадзіла.
Як узышло маё гора
Густымі кустамі,
Як зацвіло маё гора
Рознымі цвятамі.

588




588. Бярозка, бярозка ў лесе шумела,
У лесе шумела.

А з болі гарэлкі піць захацела,
Піць захацела.

Думаю, думаю, што ж мне рабіці,
Што ж мне рабіці.

Далі гарэлкі, няма з кім піці,
Няма з кім піці.

Ды мае брацечкі ды за гарою,
Ды за гарою.

Ды я іх не відзела да за слязою,
Ды за слязою.

Ды мае сястрыцы да за лясамі,
Ды за лясамі.

Ды я іх не віджу да за слязамі,
Ды за слязамі.

589




589. Там на мосце трава росце,
Там на мосце трава росце.

Едзіць сястрыца да брата ў госці,
Едзіць сястрыца да брата ў госці.

Сястра едзіць па вуліцы,
Сястра едзіць па вуліцы,

А брат ходзіць па святліцы,
А брат ходзіць па святліцы.

— Жонка мая, прымай хлеб-сала,
Жонка мая, прымай хлеб-сала.

Едзіць сястра, госця мая,
Едзіць сястра, госця мая.

Тое ж сястрыца ды пачула,
Назад коніка павярнула.

— Коні мае вараныя,
Чаго я вас замарыла?

Дзеткі мае маленькія,
Дарма я вас снарадзіла.

Ёсць у мяне хлеб у возе,
Будзець табе ... у дарозе.

Дзе зязюлька кукавала,
Там я ночку начавала.

Дзе зязюлька паляцела,
Там я села, абед з’ела.

590




590. Ой, я ў бару
Да ваду й бяру —
Вада не бярэцца,
Не бярэцца.

Над маёю
Да галоўкаю
Сыпе горушка,
Горушка.

Сядзіць братка
За столікам,
Як сівы галубочэк,
Галубочэк.

— Хадзі, сястра,
Да хадзі, родна,
Гарэлачку піці,
Піці.

— Ой, пі, братка,
Ой, пі, родны,
Калі табе п'ецца,
П'ецца.

Над маею
Да галоўкаю
Усё горушко ўецца,
Ўецца.

Адна ж матка
Нас раджала,
Адна гадавала,
Гадавала.

Не 'дну, братка,
Нам з табою
Долю падавала,
Падавала.

Табе, братка,
Да дала ж долю —
Піці і гуляці,
І гуляці.

А мне, братка,
Да дала долю —
Свой век гараваці,
Гараваці.

Ёсць у мяне
Дробны дзеткі —
Не з кім гадаваці.

591




591. Як я сяду на лаўцы,*
А вішанька к вішаньцы,

А вішанька к вішаньцы
Прыхінецца блізенька.

А мне, беднай сіраце,
Прыхінуцца няма дзе.

Ясен месяц высока,
Ацец-маці далёка.

Ацец-маці далёка,
А братачка на вайне.

А братачка на вайне,
Не думае аба мне.

А сястрыца ў горы,
Не ’дведае ніколі.

А мой мілы на палу,
А ўся журба па яму.

Як пайду я да бору
Капаць зелля мілому.

Я й да бору не дайшла,
За мной пошта ўслед ішла.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Брасай зелля капаці,
А йдзі мужа хаваці.

Я зеллейка браснула,
А ручкамі ўсляснула.

Брасай зелля — жоўты цвет,
Асталася на ўвесь век.

Расці, зелле, з веткамі,
Асталася з дзеткамі.

592




592. Аддаў мяне татулька
Замуж далёка.*

І сказаў не ехаць
Ніколі ў госці.

Жыла я годзік,
Жыла я другі.

А на трэці годзік
Засмуцілася.

Да татулькі ў госці
Захацелася.

Абярнусь я, молада,
Шэрай зязюляй.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Паляту я, молада,
Ды ў таткаў сад.

Дык як закукую,
Як удары звон.

Ці не ўчуець татулька,
Вышаўшы на двор.

Ды не ўчуў жа татулька,
А ўчуў брацетка.

— Калі наша сястрыца,
Ляці к нам у двор.

Калі шэра зязюля,
Ляці ў сіні бор.

Калі шэра зязюля —
Кіну камушкам,

Калі наша сястрыца —
Пшонным піражком.

593




593. Парадзіла мяне мамачка,
Парадзіла мяне родная
Не ў шчаслівы дзень — у пятніцу,
Не ў шчаслівы дзень — у пятніцу.
Як аддала мяне мамачка,
Як аддала мяне родная

Ў тую хату, у багатую,*
Ў тую сям'ю несагласную.
А як пайду да я, молада,
Каля таткавага горада.
Аж мой татка у вакне сядзіць,
У вакне сядзіць — на мяне глядзіць.
— Чаму, дзіця, не заходзішся?
— А мой татка, а мой родненькі,
Як зайдуся, дык забаўлюся,
Гора баўлю — ды расплачуся.

594. Ой, высока солнышка, сонца, высока,
Аддаў мяне бацюшка замуж далёка.
Аддаў мяне бацюшка замуж далёка,
Прыказаў мне бацюшка ў госці не хадзіць.
Жыву я гадочак, жыву я другі,
На трэці гадочак засмуцілася,
Да бацюшкі ў госці захацелася.
Вот пайшла б я пешша,
Пешша — не зайду,
Папрасіла б коніка,
Прасіць — не смею.
Напісала б пісямцо,
Пісаць — не ўмею.
Ой, скінусь я, скінусь я сівай зязюлькай,
Да палячу, палячу к бацюшку ў садок.
Ой, сяду ж я, паду ж я на сосну суху.
— Ах ты, сосна, сосенка, ты скрыплівая,
Ах ты, сосна, сосенка, ты скрыплівая,
А я ў свайго бацюшкі нешчаслівая.
Я сваімі мыслямі лясы пасушу,
Я сваімі слёзкамі лугі патаплю.
Усе ж тры родны брацеткі
Па саду ходзяць,
Майго роднага бацюшку
Пад ручкі водзяць.

* Пачынаючы з пазначанага, кожны радок паўтараецца.

Самы старшы брацетка
Страляці хоча,
Селядоршы брацетка
Стрэлкі падае,
Селядоршы брацетка
Стрэлкі падае.
Самы меншы брацетка
Страляць не дае.
— Не страляйце, брацеткі,
Зазулі тае,
Ёсць у нас сястрыца
У чужой старане.
— Калі сіва зазулька,
То страляць будзем,
Калі наша сястрыца,
Частаваць будзем.
Калі сіва зазулька,
Ляці ў шчыры бор,
Калі наша сястрыца,
Ідзі к нам за стол.

595




595. Маці па дачцы забедавала:*
— Дзе маё дзіця заначавала?
— Заначавала пад калінаю,
Белыя ручкі пад галавою.
Казала мамка, не забудзе мяне.
Ой, забыла, мамка, за ’дзін дзянёчак.
Болей не ўвіджу цэлы гадочак.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Да каб я мела саколля крылля,
Як ба да мамкі хоць сярод тыдня.
Ішла барамі, ішла лясамі,
Не віджу сцежкі я за слязамі.

596




596. А ўжо сонца за лес коціцца,*
Ўся бяседачка расходзіцца.
Татка з мамкай дамоў ладзюцца,
Я, молада, праважаць пайду.
Праз тры гары, праз высокія,
Праз лясы ды праз цёмныя.
А як пасля аглянулася,
І да сэрца дакранулася.
— Чаго, дзіця, прызасталася,
Ці ў травіцу утрапалася,
Ці ў расіцу замачылася?
— Абтрапала чужа старана,
Прмачылі дробны слёзачкі.

597. Адна мамка нас радзіла,
Адна гадавала.
Няроўную, няроўную
Нам долю давала.
Табе дала, мой брацетка,
Грошыкі лічыці,
А мне дала, мой брацетка,
Горкі слёзы ліці.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Табе дала, мой брацетка,
У пярыне ляжацi,
А мне дала, мой брацетка,
На палу дрыжацi.

598




598. Заварыў брацец піва,*
Горкага, салодкага.*

І пазваў брацец гасцей,*
А любых і нялюбых.*

Па багатую сястру*
Тры паслы пасылалі.*

А па мяне, гарошачку,
А па мяне, бяздольную,
Праз людзей наказалі.*

Як багатую сястру*
Сярод поля пераймаюць.*

А як мяне, худобачку,
А як мяне, бяздольную,
На парозе не узнаюць.*

Як багатую сястру*
На куце пасадзілі.*

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

А як мяне, худобачку,
А як мяне, бяздольную,
Проці печы на лаўцы.*

Як багатую сястру*
Начаваць астаўляюць.*

А як мяне, худобачку,
А як мяне, бяздольную,
Проці ночы выпраўляюць.*

А выйду я на вулачку,*
Крыкну-гукну ратуначку:*

— А вы, ваўкі ды мядзведзі,*
Сабярыцеся ка мне.*

Сабярыцеся ка мне,*
Разарвіце вы мяне.*

599




599. А наварыў жа мой брат піва,**
Як народу — ўсім людзям піва.
Як жа зваў сястру багатую —
Па багатую тры паслы пасылаў.
Па бедную праз людзей сказаў.
Багатая на куце сядзіць,
А бедная ў парозе стаіць.

---

* Радкі пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.
** Кожны радок паўтараецца 2 разы.

600




600. Зварыў браціца піва,
Зварыў браціца піва,
А зазваў сваіх сясцёр,
А зазваў сваіх сясцёр.
Па багатую сястру
Сем паслоў пасылаюць.
Як па бедную сястру
Праз людзей наказуюць.
Як прыехала багатая,
Ай пасадзілі на самым куце.
А як бедную сястру
Проці печы на лаўцы.
Як багатай сястрэ
Мёда-віна ўволю,
А як беднай сястрэ
Гарэлачкі няволі.

601




601. Матка для сына
Добрая была,
У трывозе з таскі
Да й надумала.

Сыну наліла
Кубачак віна,
А нявестачцы
Багулля-травы.

Сын віна не піў,
На поля узліў,
Надвое траву
Папалам дзяліў.

У адну нядзельку
Яны заляглі,
А у другую
Яны пабраліСь.

Прыбрала сына
У сакалое,
А нявестачку
У мехавое.

Па сыну плачуць —
Мастамі цячэ,
Па нявестачцы —
Дробныя пташкі.

Сыну зрабіла
Труну з фанеры,
А нявестачцы —
Свіна карыта.

Сына павязла
Карэтаю,
А нявестачку —
Рабой кабылай.




602. — Маці, маці,
Парадніца ў хаце.*

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Парадзіла,
Як жынку забіці.

Цяпер парадзіце,
Як яе збудзіці.

— Вазьмі, сынку,
Малую дзяцінку.

— Уставай, міла,
Бо плача дзяціна.

— Няхай плача,
Мацеры на ўцеху.

Я й не ўстану
Да самага веку.

603




603. А сын у мамкі у госціках быў.*
А як сын у мамкі дзіўны сон сасніў.
А устаў жа ён ды ранюсенька.
— Разгадай, мамка, сон да дзіўнюсенькі.
А і з правай ручкі косцел зваліўся,
Косцел зваліўся ды пакаціўся.
— Сынулечка мой, ды раднюсенькі,
Разгадаю сон да й дзіўнюсенькі.
Да твая жанухна да сына радзіла,
Сына радзіла, а сама няжыва.
— Мамулька мая, паеду дамоў.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Паехаў жа лесам — дык лес не шуміць.
Паехаў жа полем — камення трашчыць.
Паехаў жа ў сад — мой сад не зялён.
А ўехаў на двор — мой двор не вясёл.
А ўлез у сені — паўненька людзей.
А прыйшоў у хату — калыска вісіць.
Калыска вісіць — жанухна ляжыць.
— А люлі, люлі, дзіця малое!
Мне жа, маладому, жаны не будзіць,
А табе, малому, мамкі не будзіць.

604




604. А у полі пры дарозе
Дзеўка жыта жала,
А ў вішнёвай крынічэньцы
Коніка паіла.*

Сівы конік ваду піе,
Ён дарожку чуе,
А Бог знае, Бог ведае,
Дзе сынок начуе.

Пераначаваў сыночык
Ў карчме на карваці,
А прышла яго родна маці
Свечы аціраці.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца 2 разы.

— Ой, зацірай, мая мамка,
Калі нагарэла,
А я пайду вячэраці,
Дзе дзяўчына міла.

605. Сястра к брату ў госці ішла,
А братоўка спужалася,
З хлебам-соллю схавалася.
— Братовачка, не пужайся,
З хлебам-соллю не хавайся.
Я іду не галодная,
Я іду за тое, што родная.
Я ж ўчора вячэрала,
І сягоння абедала,
Я ж цябе толькі праведала.

606. Былі ў брата хрэсьбінкі,
Стаў радзінку сабіраці.
Па багатую сястру
Трое коней пасылаці,
Па бедную ўдовачку —
Праз людзей наказаці.
Як багатую сястру
Сярод поля пераймае,
А бедную ўдовачку —
Ды ў хаце на парозе.
Як багатую сястру,
Дык на куце саджае,
А як бедную сястру —
Проці печы ў парозе.
Як багатую сястру
Віном-мёдам частуе,
Як бедную ўдовачку —
Горкаю гарэлкаю.

607. — Ольха ты, ольха мая,
Ольха ты, ольха мая,
Што ж ты не так зялёна,
Што ж ты не так кудрава,
Як у Пятроў дзень была?
— Дайце мне буйныя,
Дайце мне росы цёплыя,
Буду я так зялёна,
Буду я так кудрава,
Як у Пятроў дзень была.

— Жонка ты, жонка мая,
Жонка ты, жонка мая,
Што ж ты не так прыгожа,
Што ж ты не малада,
Як у роднага таткі была?
— Дайце мне негу таткіну,
Дайце мне волю мамкіну,
Буду я так малада,
Буду я й так прыгожа,
Як у роднага татанькі была,
Як у роднай маманькі была.

608. Рамон белы, рамон белы
Траву пабяляе.
Радня ж мая багатая
У гасцях не бывае.
— Чаму, сястра, чаму, родная,
У гасцях не бываеш,
Ці ты, сястра, ці ты, родная,
Дарожкі не знаеш,
Ці ты, сястра, ці ты, родная,
Коніка не маеш?
— Мой брацейка, мой родненькі,
Я й коніка маю.
Я прыеду да брацейкі
У нядзельку рана.
Вот ці будзе, брацейка,
Братовачка рада?

Прыехала сястра ў госці,
Брамачка замкнёна.
— Мой брацейка, мой родненькі,
Не добра ты радзіш.
Прыехала сястра ў госці,
За столік не садзіш.
Мой брацейка, мой родненькі,
Адчыні хоць дзверы,
Мяне братнія сабакі
Чуць не з'елі.
— Бадай цябе, сястра,
У полі разарвалі.
Шчаслівыя і мы былі б,
Каб цябе не знаді.

609. Гой, куме, куме, ты пабраце,
Да не кідай мяне па ліхой гадзіне.
Да хадзем, куме, ў зялёную дуброву,
Да й выкапаем дуба з карою.
Да й скруцім жа мы свісцёлку,
Да хадзем жа мы к маладой удовачкі.
Ой, хадзем, куме, да паслухаймо,
Што наша ўдава парабляе,
Да што наша ўдава парабляе.
Ажно наша ўдава сілненько плача,
Плача, плача, ды прыказвае:
— Хто ж майму дабру гаспадар будзе,
Хто ж маім дзеткам бацюхнам будзе?
Да адазваўся горкі п'яніца,
Горкі п'яніца да нядбаліца.
— Я тваййму дабру гаспадар буду,
Я тваім дзеткам бацюхнам буду.
Я тваё дабро папрапіваю,
Я твае дзеткі паразганяю.

610




610. Ой, кумэ, кумэ, добра горілка,
Будэмо пыты до поныділ (ка).*

От поныділка аж до аўтырка,
Ой, кумэ, кумэ, смачна горіл (ка).

Продамо, кумэ, тэля ў сераду,
Вып'емо, кумэ, шчэ й у серэ (ду).

Продамо, кумэ, білу тэлыцю,
Вып'емо, кумэ, шчэ у п'ятныц(ю).

Продамо, кумэ, міскі і ложкі,
Вып'емо, кумэ, в суботу трошкі.

Нэ пуйдэм, кумэ, мы на работу,
Вып'емо, кумэ, шчэ й у суботу.

611. Ой, куме, куме, добра гарэлка,
Вып'емо, куме, шчэ й з панядзелка.
І з панядзелка да й да аўторка,
Ой, куме, куме, добра гарэлка.

---

* Кожны другі радок паўтараецца 2 разы. Тэкст прыводзіцца з захаваннем дыялектных асаблівасцей гаворкі (у запісе Г. В. Таўлай).

Прадайма, куме, всюю чэрэду,
Вып'емо, куме, шчэ й у серэду.
Прадаймо, куме, міскі ды ложкі,
Вып'емо, куме, шчэ й у чацвер трошкі.

Прадаймо, куме, рабу цяліцу,
Вып'емо, куме, шчэ й у пятніцу.
Кідаймо, куме, усюю работу,
Вып'емо, куме, шчэ й у суботу.

612. Ой, куме, куме, горка гарэлка,
Піць, гуляць будзем да панядзелка.
Возьмем мы, куме, рублей па сорак,
Вып'ем мы, куме, яшчэ ў аўторак.
Прададзім, куме, хвартух сперaду,
Вып'ем, куме, яшчэ ў сераду.
Прададзім, куме, чашкі і лыжкі,
Вып'ем, куме, у чацвер патрошкі.
Прададзім, куме, рабу цяліцу,
Вып'ем мы, куме, яшчэ ў пятніцу.
Кончыўшы гэту нашу работу,
Вып'ем мы, куме, яшчэ ў суботу.
Ай, ад нядзелі і да нядзелі,
Штоб на нас людзі ўсе паглядзелі.

613




613. А сонейка за лес пала,*
Матка дачку праважала.
Матка ў дачкі папытала:

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

— Чаго, донька, з ліца спала.
— А браў жа ён ягадзінінку,
Высушыў як лучынінку.
Браў жа ён як ягодзінку,
Высушыў, як смародзінку.

614. Я, молада, я, молада, у грыбы пайшла.
У грыбы пайшла, у грыбы пайшла, загулялася,
Дамоў ісці, дамоў ісці пабаялася.
Пятух пяе, пятух пяе — шчэ й дамоў не йду,
Другі пяе, другі пяе — шчэ й не думаю.
Зорка ўзышла, зорка ўзышла — я дамоў пайшла.
Ліхія псы, ліхія псы заліваюцца,
Новыя дзверы, новыя дзверы адчыняюцца,
Тонкі полаг, тонкі полаг распахаецца,
А мой мілы, а мой мілы прасынаецца.
— Ах ты, жана, ах ты, жана, дзе дасюль была?
— Ці ты, мілы, ці ты, мілы, адурачыўся,
Усю ночку, усю ночку адварачваўся.
Я, молада, я, молада, за табой спала,
Ручкі, ножкі, ручкі, ножкі на цябе клала.
А ты ляжыш, а ты ляжыш, як калодзіна,
Я за табой, я за табой, як ягодзіна.
А ты ляжыш, а ты ляжыш, як пень гнілы,
Я за табой, я за табой, як дзень мілы.

615. Араў Сымон, араў
Да самага бору.
Пусціў коні на дуброву,
Сам пайшоў дадому.

Прыйшоўшы дадому,
Пытаецца ў дзеці:
— А скажыце, мае дзеці,
А дзе ж ваша маці?

— Як на наша зараклася,
Што не наша маці.

А тут наша маці
Пагнала цяляці.
Заклялася, зараклася,
Што не наша маці.

Прыйшоўшы дадому,
Ён лёг на падушкі:
— А дзе ж мая Кацярынка,
А дзе ж мая шчабятушка?
Сіроцкія слёзы
Дарма не бываюць,
Як падуць на белы камень,
Камень разбіваюць.

616




616. А ў піры была — не ўпівалася,
Дамоўкі ішла — не валялася.

Ля сваіх варот пахілілася,
На мяне мамка пасварылася.

— Было, дзіця, не ўпівацца,
Ні на кога, дзіця, спадзівацца.

На свёкара, на свякровачку,
Ці на дзевяра, я на заловачку.

617




617. А ў піру была — не ўпівалася.
Я й дамоў ішла — не валялася.

А ў вароцічках пахілілася,
Пахілілася, павалілася.

А ў вакне стаіць, на мяне глядзіць,
А ў вакне стаіць, на мяне глядзіць.

— А нашто, дзіця, упівалася?
На каго, дзіця, спадзявалася?

— Я й на свёкарку, як на татачку,
Я й на свякроўку, як на мамачку.

Я й на залвіцу, як на сястрыцу,
Я й на залова, як на братова.

Я й на дзеверка, як на братачку,
Я й на дзеверка, як на братачку.




618. Упілася — аж валюся,*
Пайшла б замуж, дык баюся.
Я й ліхога мужа маю,
Будзе біці — добра знаю.
Стукну, грукну у ваконца:
— Адчыніся, маё сонца.
— Цяпер табе не 'дчынюся.
А ужо ты мне не гадзісся.
Ідзі лепей утапіся.
На камені ногі мыла
І з Дунаем гаварыла:
— Ах ты, Дунай, Дунаечку,
Прымі мяне, хазяечку.
Я чацвёра дзетак маю,
А пятае спавіваю.
Дунай кажа: «Я прымаю».
Яна кажа: «Я й займаю».

619. Я ўчора ў піру была,
П'яная дамоў прыйшла.
У дзверы пастукала,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

У аконца паслухала.
Свякроўка журбой журыць,
Свёкарка вяліць набіць.
Мілы па сенях ходзіць,
Шапачку ў руках носіць,
Ён свайго татку просіць:
— Татачка, мой родненькі,
Не бі жану п'яную,
Бі жану цвярозую
Белаю бярозаю.
Бяроза, як бель, бела,
Мне жана штодзень міла.

620. Да жана і з мужам пасварылася,*
Пасварылася да й пацешыла,
Павяла ў зялёны сад і павесіла.
Пашла дамоў, праступаючы,
Свайму міламу прамаўляючы:
— Лезь, мілы, далоў ды пойдзем дамоў.
Ці ты на яблынцы не насядзеўся,
Салодкіх яблычкаў не наеўся,
Салаўёвых песень не наслухаўся.

621. Людзі ў полі жыта сеюць,
А я сваё гора.
Людзі ходзяць, Бога просяць,
Каб жыта ўрадзіла.
Я хаджу, Бога прашу,
Каб гора не ўсходзіла.
Калі ўзышло тое жыта
Густымі кустамі,
Зацвіцела маё гора
Рознымі цвітамі.
Усе цвяты пустацветы,
Адзін — васілёчак,
Наехала ка мне гасцей

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Повен мой дварочак.
Усе госці нямілыя,
Адзін — мой браточак.

622. Эй, пайду, пайду па тых сцежках,
Дзе я даўно хадзіла.
Ці не ўбачу, ці не ўбачу я,
Каго верна любіла.
Хоць не яго, хоць не яго,
Хоць таварыша яго.
Распытаюся, разузнаюся
Ды пра шчасцейка яго.
Як ён жывець, як ён жывець,
А я бедна гарую,
Цёмну ночку, цёмну ночку
Без лучынкі начую.

623



623. Ай, бяда мая*
Ды нямілая.

Жонка проч пашла,
Мяне кінула.

Ў адным калодцы
Вадзіцу бярэць,

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Мне, маладому,
Жалю задаець.

На маей прызбе
Разуваецца,

Мне, маладому,
Наругаецца.

624




624. Адзін галуб ляціць на дуб,
Другі на бярозу.

А ўсе мужы жыта сеюць,
А мой у дарозе.

Жыта сеюць, Бога просюць,
Каб жыта ўрадзіла.

А я сею, Бога прашу,
Каб гора не ўсхадзіла.

Як узышло маё гора
Густымі ўсходамі,

Як зацвіло маё гора
Рознымі цвятамі.

Як пушчу я два талеры
Па бойкай дарозе,

Адзін талер пакаціўся,
Другі жа астаўся.

Знаю, знаю, мой міленькі,
З другою скахаўся.

625




625. Белая бяроза,
Белая бяроза
Паміж гор стаяла.

Паміж гор стаяла,
Паміж гор стаяла,
Караням глыбока.

Ох, на тэй бярозе,
Ох на тэй бярозе
Зязюля кукуе.

626. Дуб да вольхі, з вольхай гаварыў:
— Вольха, вальшынка, вальшынка мая,
Чаму не такая, як раньша была?
— Дубу мой дубу, дубу, дубянёк,
Дай мне лета, лета цёплага,
Дай мне дожджу, дожджу дробнага,
Тады я й буду як раньша была.
Муж ды да жонкі, з жонкай гаварыў:
— Жонка, жонухна, жонухна мая,
Чаму не такая, як раньша была?
— Мужу, мой мужу, мужу, мужанёк,
Дай мне волю, волю таткаву,
Дай мне павагу, павагу мамчыну,
Тады я й буду, як раньша была.

627. Пяюць пташачкі ў садочку,*
Вы, госцікі, чуйце:

Далёкія дамоў едзьце,
Блізкія начуйце.

Пяюць пташачкі ў садочку,
Вы, госцікі, знайце:

Далёкія дамоў едзьце,
А блізкія гуляйце.

628. Дый пайду я каля рэчкі,
Улаўлю я ліна.
Няма з кім сесці ліна з'есці,
Няшчасна гадзіна.
Напішу паперачку
Праваю рукою,
Пушчу я паперачку
Быстраю ракою.
— Плыві, плыві, паперачка,
Быстраю вадою,
Скажы, скажы матульцы,
Што я ўдавою,
Скажы, скажы матульцы,
Што я ўдавою.
П'ець, гуляець мой міленькі
З чужою жаною.
Я каля яго блізка была,
Яго не чапала,
Цяжка стала майму сэрцу,
Што я прысягала.

629. Як пагнала дзяўчыначка
Авечак у поле,
Ды згубіла дзяўчыначка
Ягняці малое (га).

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Як пала ж дзяўчыначка
Ягняці шукаці,
Напаткала дзяўчыначка
Ксяндза маладога.

Напаткала дзяўчыначка
Ксяндза маладога.
— А ці відзеў, а ці бачыў
Ягняці малога?

— Ці бачыў, ці не бачыў,
Не буду казаці,
Трэба, дзяўчыначка,
Пераспавядаці.

Трэба, трэба, дзяўчыначка
Пераспавядаці,
Ці прышлося, дзяўчыначка,
Перад прабаваці?

— Не давала, пане ксёнжа,
Не давала нікому,
Толькі дала перад
Ксяндзу маладому.

— Будуць табе, дзяўчыначка,
Грахі адпушчоны,
Бо то ж цябе прабаваў
Чалавечак свянцоны.

630. Я ж думала вутачка плывець,*
Аж там мая мамінька ідзець.
Правай ручкай мамку вітаю,
Левай ручкай слёзкі ўціраю.
— Дзіцятка маё дарагое,
Знаць тваё жыццё гаратное.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Казалі, твой муж не п'яніца —
Прапіў коніка, не хваліцца.
Прапіў другога — варанога:
— Ідзі, жана, каня выкупі.
Калі выкупіш, дамоў вядзі,
А не выкупіш, сама не йдзі.

631. Ой, вішанька, чарэшанька,
Як шуміць, дык шуміць.*
А мой міленькі, чарнабрывенькі
У галоўках стаіць.
— Мая мілая, чарнабрывая,
А што ж табе баліць?
— А мой міленькі, чарнабрывенькі,
Мне баліць галава.
— Мая мілая, чарнабрывая,
Калі грошай няма.**

632. Ах вы, столікі мае,***
Вы цясовенькія,
А чаго ж вы стаіцё
Незасланенькія?

Ці мой хлебушак пушон,
Ці мой муж невясёл?
Калі хлебушак пушон,
Дык я выпалаю.

Калі муж невясёл,
Дык я выведаю.
Я й пастаўлю на стале
Да й паўтара калача.

Ай, паўтара калача
Мы сап'ём, мы з'ядзём.
Мы й сап'ём, мы з'ядзём,
Мы й «дабранач» аддадзём.

---

* Кожны другі радок паўтараецца 2 разы.
** Тэкст няпоўны.
*** Кожныя першы і трэці радкі паўтараюцца 2 разы.

633




633. Шэра вутка на рэчаццы
Ваду замуціла.[*]

Нешчаслівай гадзінкай
Замуж выхадзіла.

Да няшчаснай гадзінкай
Пад шлюбам стаяла.

Ад маладых я гадочкаў
Удовачкай стала.

Удовачкай а бязмужнай
А цяжанька жыці.

А дзе пойдзеш, дзе паедзеш,
Надо слёзкі ліці.

Да бедненькай ўдовачкі
Ніхто не 'дзыгўнецца.

Толькі з беднай ўдовачкі
Каждый ды смяецца.

634




634. Божа мой, Божа мой, нядоля мая,[**]
Не любіць свякроўка іменя майга.

---

[*] Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.
[**] Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Шлець мяне, маладу, ў Дунай па ваду.
Я ў тым Дунаю родам не была,
Я з таго Дуная вады не піла.
Гукну я, гукну я, гукну ідучы:
— Прачніся, міленькі, коні пасучы.
— Вярніся, мілая, я коні пасу,
Каня напасу я, вады прынясу.

635




635. Няшчасце, няшчасце,
Нядоля мая.*

Ня любя свякроўка
Іменя майго.

— Ты ж мяне, свякроўка,
Дагэтуль звала.

Нашто ж ты, свякроўка,
За сына брала,

Калі майго йменя
Не ўпадабала.

Шлець мяне, маладу,
У Дунай па ваду.

І хоры не пяюць,
І людзі не стаюць.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

На маё бяздолле
Маўчалівае.

Як стукну, як грукну,
З Дунаю йдучы.

Як пачуў мой мілы,
Коні пасучы.

— Не бойся, мілая,
Я й коні пасу.

Я й конікі пасу,
Цябе падвязу.

Ідзі ж ты, мілая,
Памалюсеньку.

636. Няшчасце, няшчасце, нядоля мая,*
Не любя свякроўка іменя майго.
— Ты ж мяне, свякроўка, дагэтуль знала,
Нашто ж ты, свякроўка, за сына брала,
Калі майго іменя не ўпадабала?
Шлець мяне, маладу, у Дунай па ваду.
Ні куры не пяюць, ні людзі не ўстаюць,
На маё бяздолле ваўча не выюць.
Як стукну, як грукну, з Дуная йдучы,
Каб пачуў мой мілы, коней пасучы.
— Не бойся, мілая, я й цябе спасу,
Я й коней пасу, цябе падвязу.
Ідзі ж ты, мілая, памалюсеньку,
Стаўляй жа вядзёркі паціхусеньку,
Каб гэта вадзіца не сплюхнулася,
Каб мая мамачка не прачнулася.
— Вот табе, свякроўка, з Дунаю вада,
Напіся ж, памыйся з поўнага вядра.
Каб жа ты, свякроўка, хлеба не ела,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Як ты мне, маладой, свету жалела.
— Каб жа ты, нявехна, дзяцей не мела,
Як ты мне, старэнькай, свету жалела.

637




637. Добрая доля, добрая доля,
А лепшая — шчасце.*

Рэдка што каму, рэдка што каму
Добры муж удасца.

За лесам, лесам, за ляшчынаю
Траўка зеляненька.

За добрым мужам, за таварышам
Жана весяленька.

За лесам, лесам, за ляшчынаю
Траўка пасыхае.

За благім мужам, за п'янічэнькам
Жана прападае.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.




638. У садочку рутка-мятка,*
Там плавала качанят... (ка)

Адна другу падганяе,
Кожны сабе пару ма... (е)

Я, малода, у бож'ей кары,
Не даў жа мне Гасподзь пар... (ы)

А ні пары, ні параньکі,
А ні шчасця, ні долень... (кі)

Толькі маю усей долі,
Бела лічка, чорны бро... (вы)

Чорны бровы над вачыма,
Русу косу за плячы... (ма)

Па садочку пахаджаю,
Русу косу заплята... (ю)

Русу косу заплятаю,
Няма таго, што каха... (ю)

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.




639. Ой, як я була*
Дівкою молодэю,
Ны ёдён казав:
— Будэш жінкаю мэй...

Ой, як я пошла
Той за вражого сына,
То судосыла
Доленька нэшчаслыва.

Пэрша нядоля,
Шчо дэтына малая,
Другя нэдоля,
Шчо свэкрухна лыхая.

Я пытаюся:
— Шчо мне, маты, робыты?
Она до мэнэ,
Нэ хоче говорыт...

Я пытаюся:
— Чы іты, маты, ў полэ?
А вона кажэ:
— Нэх тэбэ кылька сколэ!

А я, молода,
Знала, шчо одказаты:
— Нэх тэбэ сколэ,
Бо ты чужая маты.

---

* Тэкст прыводзіцца з захаваннем дыялектных асаблівасцей гаворкі (у запісе Г. В. Таўлай).

640. Мая й галоўка забалела,*
А йна гарэлкі захацела.
Рада б я й была прыкупіці,
Ой, не з кім сесці яе піці.
А мой брацітка за ракою,
Ой, не дайсці ж мне, не даехаць,
Ой, ні ў чаўночку, ні ў вазочку,
Ні на крутому беражочку.

641. Вясёлая бяседачка, дзе муж з жаной п'ецъ,*
Ён чарачку ды поўную жоначцы ліецъ.
— Пі чарачку, ды поўную, да дна выпівай,
На родную староначку скарэй забывай.
— А ў роднай жа староначцы пташачкі пяюць,
А ў чужой жа староначцы слёзачкі ліюць.
Я чарачку, я поўную піці не буду,
Староначку я й родную век не забуду.
А ў нядзельку мая мамка выйшла паглядзецъ
Ды ў тую староначку, дзе дачка жывецъ.
Стаіць, глядзіць, не пазнае, што дачка ідзецъ.
Ручкі, плечкі ў маёй дачкі пазбіваныя,
Й русы косы ў маёй дачкі растрапаныя.
— Чаму ж тады, дачушка, мяне й не знала,
Як я табе за Мацея ісці казала?
Не хацела за Мацеем дачка панаваць,
Дала й сама сабе волю, пайшла гараваць.
Папрашу ж я, дачушка, у прочкі не хадзі,
Калі ж ты яго любіла, дык цяпер гадзі,
І ты ж мяне, старэнькую, болей не трудзі.

642. Каждаму дзераўцу Бог лісточак даў,*
А мне, маладзенькай, Бог долі не даў.
Аддаў мяне татка замуж далёка,
За такога п'яніцу, што гарэлку п'е.
А як жа нап'ецца, дома не жывецъ,
Да суседняй жоначкі ён тады ідзецъ.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А як жа праспіцца, ён слова даець.
Госпадзь Бог высока, а татка далёка,
А я ў чужой старонцы жыву адзінока.
— Прыедзь, прыедзь, татка, у госці ка мне,
Тады ж ты узнаеш, як гора мне.




643. Змераная бяседушка,
Дзе бацюшка п'е.*

Ён п'е, ён п'е, мой галубчык,
За мной паслы шле.




644. Вясёла бяседачка, дзе муж з жонкай п'ець.**
Ён да яе чарачку поўную ліець.
— Выпі, выпі, мілая, чарачку да дна.
Забудзь, забудзь, мілая, дзе твая радня.
— Не буду я чарачку поўну выпіваць,
Не буду я, міленькі, радню забываць.
У свае радзіначкі весела пяюць,
А ў твае радзіначкі слёзачкі ліюць.

---

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.
** Кожны радок паўтараецца 2 разы.



16—1527




645. Як падумаю,*
Дужа жаль бярэць.

Што не ўся радня,
Што не ўсе браты.

Што не ўся радня,
Што не ўсе сёстры.

Як пайду я ў луг,
Луг зялёненькі.

Я й нарву хмелю
Дужа спелага.

Навару піва
Дужа п'янага.

Пазаву радню
Да ўсю родную.

Я й па брацечку
Шлю салавейку,

А па кумочка
Шлю галубочка.

А па кумачку
Шлю галубачку.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Па сяструлечку
Шлю зязюлечку.

А па цётачку
Шлю лябёдачку.

А па татачку
Шлю калясачку.

А па мамачку
Я й сама пайду.

646. Ой ты, чарачка,
Ты радовая,
Упаіла ты мяне.
Ды пад вішанкай,
Пад чырвоненькай
Палажыла мяне.
Ой ты, вішанька,
Ты чырвоная,
Не шумі нада мной,
Над маей галавой.
Ой, ты свёкарка,
Няродны татулька,
Не журы ты мяне.
Ды як прасплюся,
Працырапуся,
Пакланюся табе.

647. Дайце ж мне, дайце ж мне
Сем чарак гарэлкі.*

Першую чарачку,
Каб я была смела.

* Кожнае двухрадкоўе паўтараецца 2 разы.

Другую чарачку,
Каб я на куце села.

Трэцюю чарачку,
Каб радзішку пазвала.

Чацвертую чарачку,
Каб я папіяла.

Пятую чарачку,
Каб я паскакала.

Шостую чарачку,
Каб я была дужа.

Сёмую чарачку,
Каб я біла мужа.

648. Ах ты, чарачка,
Ты мядзяначка,
Упаіла мяне.*

Ды пад соснаю,
Пад раскошнаю
Спаць палажыла мяне.

Ах ты, соснішча,
Ты раскошніца,
Не шумі нада мной.

Не шумі нада мной,
Не гамані нада мной,
Над маёй галавой.

А ты, міленькі,
Чарнабрывенькі,
Не журы ж ты мяне.

* Кожны трэці радок паўтараецца 2 разы.

А прасплюся ж я,
Працверажуся я,
Пацалую цябе.

649. А дуб к дубу галовачку клоніць,
Брат з сястрою верненька гаворыць:
— Пойдзем, пойдзем, сястрыца, у карчомку гуляці.
— А гуляй, брацец, калі табе ўдалося,
А мне ж гора гараваць, калі ўзялося.
А калі твая б жонка і ўрадзіла,
Усё ж мяне на радзінкі забыла.

650. Як пайду ж я да на вуліцу,
Пагуляю сабе.
А суседачкі, а лябёдачкі
Перанялі мяне.
За сталом, за цясовенькім
Пасадзілі мяне,
А зялёным віном, а гарэлачкай
Папаілі мяне.

651. Ой вы, кумушкі, вы галубушкі,
Падружкі мае,
Падружкі мае.
Вы куміцеся, вы любіцеся,
Любіце і мяне,
Любіце і мяне.
Як пойдзеце ў вішнёвы сад,
Завіце і мяне,
Завіце і мяне.
Як будзеце цвяты рваць,
Сарвіце і мне,
Сарвіце і мне.
Як будзеце вянкі віць,
Савіце і мне,
Савіце і мне.
Як будзеце на Дунай пускаць,

Пусціце і мой,
Пусціце і мой.
А ўсе вянкі да паверх плывуць,
А мой затануў,
А мой затануў.
А ўсе дружкі да дамоў прыйшлі,
А мой загінуў,
А мой загінуў.
Піша пісьмо невясёлае,
Буду зімаваць,
Гора гараваць.

652. Ды пайду я каля столу,
Ой, ды пайду я каля столу,
Дзе брацеткі гарэлку п'юць,
Ой, дзе брацеткі гарэлку п'юць,
Можа, і яны мне дадуць,
Ой, можа і яны мне дадуць.
— Ёсць у нас не адна сястра,
Ой, ёсць у нас не адна сястра,
Ды ёсць у нас тры сястрыцы,
Ой, ёсць у нас тры сястрыцы,
Тры сястрыцы-гаратніцы,
Ой, тры сястрыцы-гаратніцы.
Адна сястра у Варшаве,
Ой, адна сястра у Варшаве,
А другая у Браславе,
Ой, [illegible] другая у Браславе,
А трэцяя ў сваім доме,
Ой, а трэцяя ў сваім доме.
Што ў Варшаве, то купчуець,
Ой, што ў Варшаве, то купчуець,
Што ў Браславе, то пануець (гаруець),
Ой, што ў Браславе, то пануець (гаруець),
А ў сваім доме раскашуець,
Ой, у сваім доме раскашуець.




653. Пушчу каня на лужок.*
Сам спаць пайду пад мяжу.*
А сасніўся дзіўны сон.*
Абачнуўся — каня нет.*
Прышоў дамоў — жонкі нет.*
— Дзеткі мае, родныя,
Служкі мае дробныя,
Служыце мне верненька,*
Запрагайце мне каня,
Запрагайце варана.
Я паеду жану йскаць.*
Еду поля і другое,
На трэцяе уз'язджаю.*
Там стаіць шацёр новенькі,
А ў тым шатру жана ёсць,
З малайцамі гуляіць
І хустачкай махаіць.




654. Ай, радзіла мяне мамачка
Не ў шчаслівы дзень — у пятніцу.

---

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

Ой, укрыла мяне мамачка
Ад холаду і ад голаду.

Ой, не ўкрыла мяне мамачка
Ад няшчаснага замужжайка.

Ад няшчаснага замужжайка,
Ад нялюбага падружніка.

Вечар запар маўчыць, маўчыць,
А свякровачка журыць, журыць.

Сама большая заловачка
Закінула адно словачка.

— Чужо дзіця, ай, забі.
Чужо дзіця не збіваецца,

Чужо дзіця не збіваецца,
Толькі слёзкамі 'бліваецца.

655



655. Была я ў мамкі адна на раду.*
Аддала мяне мамка замуж за ваду.
Жыла гадочак, жыла я другі.
На трэццім гаду заташнілася.
К мамаццы ў госці захацелася.
Зычу, пазычу ў зязюлі пер'я.
Ў зязюлі пер'я, у ластавы крылля.

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Ляту, паляту ў мамаччын садок.
Аж мая мамка па двару ходзіць.
Па двару ходзіць, нявестак будзіць:
— Устаньце, нявесткі, будзьце ласкавы,
Што ў нашым садзе за пташка сядзіць.
— Свякроўка-мамка, гэта не пташка,
Гэта не пташка — тваё дзіцятка.
Тваё дзіцятка гадаванае,
Далёка замуж аддаванае.
—Калі ж дзіцятка — ляці к нам у двор.
А калі пташка — ляці ў цёмны бор.
— Ляту, паляту на саколлі двор,
А ў яе сухога лісціка нету,
Ў мяне, маладой, радзіначкі нету.




656. Рана, позна я з вечара сяджу.*
Тонкі, белы кужалёчак праду.
Часта, часта у ваконца гляджу.
Ці высока ясен месяц свеціць?
Ці далёка родны татка едзіць?
Кіну, рыну кудзельку пад лаўку,
Сама пайду татку пераймаці.
Правай ручкай вароты адчыняю,
Левай ручкай слёзкі уціраю.
— Чаго плачыш, дзіця дарагое?

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

657. Калючая асоцінка,
Не буду касіці, не буду касіці.
Загневаўся мой міленькі,
Не буду прасіці, не буду прасіці.

Звяжу я галовачку,
Палажу яго спаці, палажу яго спаці,
Сама выйду на вуліцу
І буду гуляці, і буду гуляці.

А Божа мой, а мой міленькі,
Ідзець мой міленькі, ідзець мой міленькі,
А Божа мой, а мой міленькі,
Будзець мяне біці, будзець мяне біці.

— А дзеверка, а родненькі,
Барані ж ты мяне, барані ж ты мяне.
Шоўкам шыта кашуленька —
Падарую табе, падарую табе.

658. Біў мяне муж
Упоперак і ўздоўж,
Начапіў нітачку
На саламіначку —
Косць перабіў,
Чуць не забіў.
А я з таго зла
Спацькі лягла,
Не вячэраўшы.
Назаўтра [illegible] ўстала
Ранюсенька.
Памылася
Бялюсенька,
Паснедала.
Вала з'ела,
Паўбарана,
Сямёра парасятак,
Васьмёра гусятак,
Чатыры качачкі,

Гаршчэчак кашачкі —
Яшчэ й мала.
Выпіла я
Цэбар віна,
Гэтым і завяршыла.

659. Каб я гэту бяду знала,
Не йшла б замуж ды гуляла.
Ой, не купляла б я сабе вянка руцянога
Да купіла б я тое крыльца залатое.
Паляцела б, паглядзела,
Дзе мой мілы п'е, гуляе.
Дзе мой мілы п'е, гуляе,
Другіх намаўляе.
А ■ адна таскую
І з дзецьмі гарую.




660. Піце, братцы, гарэліцу,
Пастаўлю віна.*

— Скажы, скажы, дзяўчыначка,
Ці будзеш мая?

— Ох, ці буду, ці не буду,
Не ведаць табе.

Пасяліўся мой папачка
Ў новай навіне.

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Цясовыя вароцейкі
На замках усе.

Прыехалі чужаземцы,
Атамкнулі ўсе.

Прыехалі чужаземцы,
Хочуць мяне ўзяць.

Мамка плачыць, татка горай —
Не хочуць аддаць.

661




661. — Што ў цябе я, мой брацітка,
Гарэлку й папіў,
Чаму, чаму, мой брацітка,
Піва не зварыў?

— Не радзіў ячменіка,
Радзіла пшонка,
Не дала піва варыць
Ліхая жонка.

667




662. А чуць, мамка, чуць, дзе п’яніцы п’юць.
Невясёлая тая вуліца,
Дзе яны ідуць.

А чуць, мамка, чуць, дзе валяюцца,
А па вуліцы ж
Ды басяюцца.

663. Ой, сядзіць мілы на лавачцы,
Брывамі маргае.
Брывамі маргае, брывамі маргае.
Ды няхай маёй чарнамазенькай
Ніхто не займае.
Ніхто не займае, ніхто не займае,
Ой, сама яна, як ягадка,
А голас, як маліна.
А голас, як маліна, а голас, як маліна.
Ой, як выйдзе на вулачку
Усім люба-міла,
Усім люба-міла, усім люба-міла.

664. Скучна жыці на чужыне
Без свайго роду,
Скучна жыці на чужыне
Без свайго роду.
— Мілая, мая, няпраўда твая,

Чэраз вуліцу там кума твая.
Чэраз вуліцу там кума твая,
Можна выйсці, пагаварыці.
Можна выйсці, пагаварыці,
Сваё сэрданька развесяліці.

665. Шэра гуска на рэчачцы
Ваду замуціла,
Нешчаслівай я гадзінкай
Замуж выхадзіла.

Да няшчаснай я гадзінкай
Пад шлюбам стаяла,
Ад маладых я гадочкаў
Удовачкай стала.

Удовачкай да без мужа
А цяжанька жыці,
А дзе пойдзеш, дзе паедзеш,
Нада слёзкі ліці.

Да бедненькай удовачкі
Ніхто не адзавецца,
Толькі з беднай удовачкі
Кожны насмяецца.

666. Ой, зелена, зелена
Ў лузе трава,
Затым яна зелена,
Што дожджык ідзёт.
Вой, хароша, хароша
У мужа жана,
Затым яна хароша,
Што доля дабра.
Спіць яна ў пярынушках
Да белага дня,
А свякратко-бацюшка
Усё й пахаджвае
Да сваю й нявестачку

Да й пабуджае:
— Уставай, нявестачка,
Чужое дзіця,
Усе людзі каровушкі
Павыганялі,
Куры з канапелюшак
Павыпуджвалі.
— Бацюшко, бацюшко,
Бацюшко радной,
Не маеш волюшкі
Над маей жаной.
Я сам каровушкі
Павыганяю,
Куры з канапелюшак
Павыпуджваю.

667. Да што ж цяпер да за свет паўстаў,
Што брат сястру да любіць не стаў.
Па святліцам пахаджае,
У акенца да паглядае.
— Прымай, жонка, абед з стала,
Едзе ў госці сястра мая.
Сястра тое як зачула,
Назад коні да завярнула.
— Ціха, братка, да не цурайся,
А з абедам да не хавайся.
Бо я дома свой абед маю,
Толькі, братка, адведаю.
Не так, братка, цябе, як дзетак тваіх,
Бо не маю дома сваіх.

668. Стуку, груку на памосце,
Едзе сястра к брату ў госці.
Едзе сястра к брату ў госці,
Братка таго не ведае
Да, седзячы, абедае.
— Прымай, жана, абед з стала,
Едзе ў госці сястра мая.

Сястра тое як зачула,
Назад каня й завярнула.
— Пастой, братка, не ўлякайся
Да з абедам не хавайся.
Бо я дома абедала,
Толькі цябе б адведала.
Не так цябе — дзяцей тваіх,
Бо не маю дома сваіх.

669. Да казалі людзі
Да што мой браток скупы,
Ажно ў яго да гарэлачкі купа.
Напілася ж я гарэлачкі-мёду,
Дальбог праўда, што не зайду дадому.
Лугам іду, песні пяю,
Аж лужочкі разлягаюцца,
Сялом іду, сільна плачу —
Варожачкі пацяшаюцца.
— Вы ж цешцеся, варожачкі,
Да на сваё безгалоўе,
А я буду піці да гуляці,
Абы маё да здароўе.

670




670. Пры даліне, пры шырокай
Два дубочкі стаяць.

Стаяць яны, стаяць яны
Ды пашумліваюць.*

А ў суседзі пры бяседзе
Там два брацеткі сядзяць.

Сядзяць яны, сядзяць яны,
Разгаварываюць:

— Ці ўдалася, ці ўдалася,
Брат, жаніцьба твая?

— Не ўдалася, не ўдалася, брат, —
Нялюбая жана.

— Ды мы пойдзем, брат, з табою
Ды на рынак, на таржок.

Ды мы купім, брат, з табою
Маляваненькі чаўнок.

Ды пасадзім, брат, з табою
Ды нялюбую жану.

Ды мы пусцім, брат, з табою
Ды па ціхім Дунаю.

Ды мы пойдзем, брат, з табою
На высокую гару.

Ды мы глянем, брат, з табою
Ды на яснаю зару.

Ці высока, ці высока
Ясна зорушка ўзыйшла.

Ці далёка, ці далёка
Нялюба жонка сплыла.

---

* Кожная страфа, акрамя першай, паўтараецца 2 разы.

— Ды вярніся, ды вярніся,
Хоць нялюбая была.

—Хоць ня мне ты, маладому,
Хоць для дзетачак маіх.

— Не вярнуся, не вярнуся,
Я й нялюбая была.

Ні для цябе, маладога,
Ні для дзетачак сваіх.

671




671. Ай, пайду я ў ціхі Дунаёчак,
Сяду, сяду ў маленькі чаўночак.

Ветрык веець, ціхі падвяваець,
Ад беражка чаўнок адганяець.

А мой брацітка на беражку косіць.
Ён сам не йдзе ды людцаў не просіць.

— Плыві, сястра, разам і з вадою,
Хоць не будзе гора мне з табою.

Хоць не будзіш парогі біваці,
Маіх дзетак ложачкі шчытаці.

А як пачуў ды здалёку мілы,
А як пачуў ды здалёку мілы,

А як пачуў ды здалёку мілы,
Ды стаў мяне, ды ён стаў пытаці.

— Памажыце, людцы, мне, суседцы,
Памажыце жану ратаваці.

Памажыце жану ратаваці,
Няма і з кім дзетак гадаваці.

672




672. Ды быў у мамкі
Адзін сыночак.*

Адзін сыночак
Як сакалочак.

Паехаў сынку
На Украінку.

Туды паехаў,
Не жаніўшыся.

Адтуль прыехаў,
Ажаніўшыся.

Ды вышла маці
Дзяцей вітаці.

Сына вітала
Зялёным віном,

А нявестачку
Горкай атрутай.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Сын віна не піў,
Пад каня выліў,

А горку атруту
Папалам выпіў.

Не ўмела маці
Дзяцей вітаці.

Умей жа, маці,
Дзяцей хаваці.

Сына схавала
Перад касцёлам.

А нявестачку
Аж за касцёлам.

На сыну вырас
Зялёны явар,

А на нявестачцы
Бела бярозка.

Ой, раслі,
Пахіліліся,

Ўместа вяршочкі
Сашчапіліся.

Ой, знаць-пазнаці,
Што любіліся,

Ўместа вяршочкі
Сашчапіліся.

673




673. Было ў таткі тры сыны й на раду,
Загадалі усім тром на вайну.

А большэнькаму й не хочыцца,
Меншанькаму й не прыходзіцца.

Серадушчы й сабіраецца,
Мамка з плачу аж валяецца.

— Не плач, мамка, ты не плач, не тужы,
На прашчанне вазьмі сына правядзі.

Не плач, мамка, ты не плач, а не гаруй,
На прашчанне вазьмі сына пацалуй.

674




674. Што ж гэта за свет настаў,
Што сын мамку з двара прагнаў:

— А ідзі ж, мамка, з маяго двара,
Е у мяне свая сям'я.

А сям'я мая пабольшала
І жонка мая пагоршала.

А ішла мамка адно поле,
А ішла мамка і другое,

А на трэцяе саступае —
Сынок мамку даганяе:

— Ой, вярніся, мамка, з дарожкі,
А пацалую цябе ў ножкі.

А пацалую у ручачкі,
Калышы твае ўнучачкі.

— Каля дарожкі паваліося,
К табе, сынок, не вярнуся.

— Ой, вярніся, мамка мая,
Е у мяне дома бяда:

А сям'я мая паменьшала,
А жонка мая палепшала.

— Каля дарожкі павалюся,
К табе, сыночак, не вярнуся.

— І вярніся й, мамка мая,
Пацалую цябе ў ручачкі.

Пацалую цябе ў ручачкі,
Калышы твае ўнучачкі.

І вярніся, мамка мая,
У мяне дома бяда:

О конік мой на ножкі паў,
А сынок мой у гробе лёг.

— Каля дарожкі павалюся,
К табе, сынок, не вярнуся.

675




675. Была ў мужа сварлівая жонка.*
А не ўмела ні шыці, ні мыці.
Толькі ўмела чысценька хадзіці.
— Прадай, мужу, каня і кароўку,
Купі, мужу, чорную шнуроўку.
Прадаў мужу каня і кароўку,
Купіў жане чорную шнуроўку.
Запрог жонку у воз, як кабылу,
І паехаў.

676




* Кожны радок паўтараецца 2 разы.




676. Пайду я, пайду я, дуб'ё секучы,*
Чырвоную калінку абнімаючы,*
Свайго татачку ўспамінаючы.*
— Татулька родненькі, я ў госці еду.
— Дачушка родная, я пераймаю.
— Татулька родненькі, я есці хачу.*
— Дачушка родная, куплю, залажу,
Дачушка родная, цябе накармлю.

677




677. Ніхто таго не ведае, аб чым я бядую.*
Усе мае добра жывуць, адна я гарую.*
А ўсе людзі бары аруць, а я чыста поле.
Усе людцы жыта сеюць, а я сваё гора.
Людзі сеюць, Бога просяць, каб жыта ўрадзіла.
А я сею, Бога прашу, ды каб не ўсхадзіла.
Людзі сеюць, Бога просяць, каб жыта расло.
А я сею, Бога прашу, ды каб не ўзышло.

* Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца 2 разы.

678




678. Хадзіла ўдоўка па шэрым бару,
Па шэрым бару.

Насіла ўдоўка дзіця ў прыпалу,
Дзіця ў прыпалу.

Прышла ўдоўка к брацітку на двор,
К брацітку на двор.

— Брацітка, родненькі, пусці пагрэцца,
Пусці пагрэцца.

Мне з малым дзіцяткам няма дзе дзецца,
Няма дзе дзецца.

679. Хадзіла ўдоўка па шэрым бару,
Насіла ўдоўка дзіця ў прыпалу.
Да прышла ўдоўка к брацетку на двор.
— Брацетка, родненькі, пусці пагрэцца,
Мне з малым дзіцяткам няма дзе дзецца.
— Сястрыца родная, не ў маёй уласці,
Пусціў бы пагрэцца — жаны баюся.
Хадзіла ўдоўка па шэрым бару,
Насіла ўдоўка дзіця ў прыпалу.
Да прышла ўдоўка к сястрыцы на двор.
— Сястрыца, родная, пусці пагрэцца,
Мне з малым дзіцяткам няма дзе дзецца.
— Сястрыца родная, ідзі ў хатку,
Кладзі дзіцятка ў караватку.
Будзем з табою ды гаварыці,
Будзем з табою долю дзяліці.

Наша мамка ды нас раджала,
Няроўную долечку ды нам давала.
А мне дала долю медавую,
Табе дала долю слезавую.
А я буду мядок піці,
А ты, сястрыца, слёзкі ліці.

680. Бярозка, бярозка ў лесе шумела,
Я ж болей чаркі піць захацела.
Думаю, думаю, што ж мне рабіці?
Як далі гарэлкі, няма з кім піці.
Да мае брацеткі ды за гарамі,
Да я іх не ўвіжу ды за бедамі.
Да мае сястрыцы ды за вадою,
Ды я іх не ўвіжу ды за бядою.
Жыву я адна, жыву ўдавою,
Ніхто не прыхінець, усе забываюць.

681. Пайду я, выйду я быстраю ракою,*
Сарву я кветачку праваю рукою.
Каб гэта кветачка ў руках завяла,
Я ж гэтай бяседкі тры гады ждала,
Тры гады, тры гады і дзве нядзелечкі,
Я ў гэтай бяседцы без спадзяваначкі.
Тры гады і дзве мінутачкі,
Я ў гэтай бяседцы на адны сутачкі.

682. Я ўчора з вячора п'яная была,
Сягоння раненька не буду піці,
Меліся ў мяне госцікі быці.
Мілыя госцікі ды кум і кума,
Любыя госцікі браток і сястра,
Яшчэ найлюбейшыя ацец і маці.
Божа мой мілюсенькі, дзе мне іх браці,
Нет жа тае кумачкі, дзе іх купляці?

---

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

683. Пайду я, пайду я
З карчмы ў карчму.
Найду я, найду я
Салаўя сплючы.
— Салавей, салавей,
Скажы мне праўду,
Да дзе мой міленькі
Да дзе начуе?
А калі ў мяду,
Я й сама найду.
А калі ў гарэлцы,
Хай заліецца.

684




684. Позна й позна з вечара не спала.*
Тонкі, звонкі кужалёчак прала.
Часта, часта ў вакно паглядала.
Адкуль, адкуль мой татка ўз'едзіць.
Як пайду я татку пераймаці,
Левай ручкай варотцы 'дчыняці.
Правай ручкай слёзкі уціраці.
Як увідзеў ды мой родны татка.
— Не плач, дзіця, не плач, дарагое.
Я сам знаю, што жыццё плахое.
А свякроўка — не родная мамка,
А свёкарка — ды не родны татка,
Дзевярахна — не родныя брахны,
А залвіцы — не родныя сястрыцы.
— Ах, мой татка, няпраўдачку кажаш.
Дзевярахны — як родныя брахны,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

*А залвіцы — як родны сястрыцы,
А свёкарка — як родненькі татка.
А свякроўка — як родная мамка.
А міламу а ніяк не ўгаджу.
Не мыюся — шэльма лянівая,
Памыюся — шэльма паршывая.

685




685. — Чаму ты, кветка, на вадзе звяла?*
Ці ты, сястрыца, сем лет ляжала?
— Я не ляжала ня 'дный нядзелькі —
Ссушыў жа мяне муж маладзенькі.
Муж маладзенькі ходзіць да дзеўкі,
Ходзіць да дзеўкі, дзевак кахаіць,
Ён маё сэрца пераядаець.

686




686. Соўнейка за лес захадзіла,*
Матка дачушку правадзіла.
А правадзіўшы, папытала:
— Чаго, дачушка, з ліца спала?
— Мамачка, родненькая мая,
Да не пытайся майго ліца,

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Да папытайся майго жыцця.
Ўчора з вячора не вячэрала,
Сягоння рана не снедала.

687




687. А белая бярозачка
Бялей за ўсё дрэва.*

Не 'ддаў мяне мой татачка,
За каго хацела.

Не 'ддаў мяне мой татачка,
Каб я добра жыла.

Аддаў мяне мой татачка,
Каб слёзкі ліла.

Не 'ддаў мяне мой татачка,
Каб я панавала.

Аддаў мяне мой татачка,
Каб я гаравала.

688. Я й у гародзе крапівачку жала,
Да я, здаецца, ні з кім не ляжала,
Да дзе бралася дзіцятка малое.
Кіну-рыну дзіця ў крапіву,

---

* Кожны другі радок паўтараецца 2 разы.

А сама пайду гуляць на Ўкраіну.
Там на Ўкраіне мяне не пазналі,
Адзін не пазнаў — паненачкай назваў,
Другі не пазнаў — гуляць з сабой пазваў,
А трэці пазнаў — брадзяжанькай назваў.
— А ты, брадзяга, па Ўкраіне скачыш,
А тваё дзіця ў крапіве плачыць.

689




689. Ў полі крапіўка шчыклівая,
Ў полі крапіўка страклівая.

Свякроўка мая журлівая,
Свякроўка мая журлівая.

Яна мяне журыць, як дзень, дык ноч.
— Ідзі, нявеста, хоць к чорту проч.

Ходачка твая нялюбая,
І работка твая нямілая.

690. Там на возеры, там на сіненькім
Там плавала стада гусачак.
— Гыля-гыля, мае гусачкі,
Гыля-гыля, мае шэрыя,
Ці вы яшчэ не наплаваліся?
Я ўжо, молада, наплакалася,
Што мой мілы горкі п'яніца,
Па карчомках распіваецца,
Прыйдзець дамоў — разбіваецца,
Застаўляець разуваць-абуваць,
Дробны гузікі расшпіліваць.

691. Да не шуміце зялёныя лугі,
Не задавайце майму сэрцу тугі.
Ужо маё сэрца даўно тугу знаець,
Што мой татачка вялік банкет маець.
Па дварэ ходзіць, мяне ўспамінаець:
— Чаму, дачушка, у гасцёх не бываеш,
Ці ты, дачушка, дарожкі не знаеш,
Ці ты, дачушка, конікаў не маеш?
— А мой татачка, я й дарожку знаю,
Ах, мой родненькі, я і конікаў маю,
Я й за п'яніцам у гасцёх не бываю.

692




692. Ў гародзе жыта не ярыцца,
Казалі, мой муж не п'яніца.

Казалі, мой муж не п'яніца,
У карчму ідзе — каня прап'е.

У карчму ідзе — каня прап'е,
А прыйдзе дамоў — жану наб'е.

А прыйдзе дамоў — жану наб'е.
— Ох, і жоначка, Аўдотачка.

Ох, і жоначка, Аўдотачка,
Выкупі каня з абротачкай.

Выкупі каня з абротачкай,
А як выкупіш, дамоў вядзі.

А як выкупіш, дамоў вядзі,
А не выкупіш — сама не йдзі.

— А не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платок закладала.

Шаўковы платок закладала,
Пад аконушкам начавала.

Пад аконушкам начавала,
Лапушком ножкі укрывала.

Лапушком ножкі укрывала,
Рукаўцом сняжкі аббірала.




693. А ў полі жыта не ярыцца,
А ў полі жыта не ярыцца.

Казалі, мой муж не п'яніца,
Казалі, мой муж не п'яніца.

Прапіў коніка, не хваліцца,
Прапіў коніка, не хваліцца.

Прапіў коніка варанога,
Прыйшоў дамоўкі па другога.

— Жоначка мая, выкупі каня,
Жоначка мая, выкупі каня.

Аддай трубачку з намёткаю,
Выкупі коніка з аброткаю.

Калі выкупіш — дамоў вядзі,
А й ня выкупіш — сама ня йдзі.

Будзеш пад платом ноч начаваці,
З салавейкам шчабятаці.

— А мне, моладзе, не першы раз,
А мне, моладзе, не першы раз

Пад платом ночку начаваці,
З салавейкам шчабятаці.

694




694. Казалі, жыта не ярыцца,*
Казалі, мой муж не п'яніца.
Прапіў коніка варанога,
Прыйшоў дамоўкі па другога.
— А ідзі, жана, выкуп каня.
А вазьмі трубку з намёткаю,
А выкуп каня з аброткаю.
Калі выкупіш, дамоў ідзі,
А не выкупіш, сама не йдзі.
— Па пасстрэшайку начавала,
З верабейкамі шчабятала.
Верабеечка — гу-гу, гу-гу,
А я, малада, плачу, плачу.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.



17—1527

695. Піла ж бы я гарэлачку,
Хмель мяне не бярэць.
Паехала б я у тваю сторану,
Конь мяне не вязець.
Туды-сюды павярнулася —
Усё чужая старана,
Няма ж мае ды радзімачкі,
Адкуль я сама.
Толькі ж мая да радзімачка
Ай кум да кума.
Яшчэ ж мая да радзімачка
Дружына мая.
Туды-сюды дзве дарожачкі,
А трэцяя ў сад.
А там мае да два брахнікі (браты)
Шчыплюць вінаград.
Шчыпліце ж вы, мае брахнікі,
І мне і сабе,
Паедзеце ў маю старану,
Памяніце мяне:
«А ёсць жа у нас да гаротніца
На чужой старане».

696. Да казалі людзі,
Ды што наш Мішачка скупы,
Ажно ў яго да гарэлачкі купа.
Напілася я да гарэлачкі й мёду,
Дальбог праўда, што не зайду да дому.
Дамоў іду, песні пяю,
Аж лужочкі разлягаюцца.
Дамоў іду, песні пяю,
Аж лужочкі разлягаюцца.
Дамоў іду, сільна плачу,
Варожачкі пацяшаюцца.
Цяшайцеся не цяшайцеся,
Да на сваё безгалоўе,
А я буду піць-гуляць
Да на сваё здароўе.




697. Ой, кажуць людэ,*
Муй муж нэ п'е.
А мой муж до дня
Пропыў коня.

Пропыў коныка
Вороного,
Прыйшоў на стайню
По другого.

Прыйшоў на стайню,
Подывыўся,
Своюй мылэнькуй
Пожурыўся:

— Мылая моя,
Выкуп коня,
Выкуп коныка
Вороного.

Выкуп коныка
Вороного,
Ожэны мэнэ
Молодого.

* Тэкст прыводзіцца з захаваннем дыялектных асаблівасцей гаворкі (у запісе Г. В. Таўлай).

— Я ны раз, ны два
Выкупляла,
Круз окэнычко
Утыкала.

Круз окэнычко
Утыкала,
У вышнёвым саду й
Начовала.

698




698. Ой, кажуць людзі — мой муж не п'е,*
А ён із карчмы дамоў не йдзе.

Прапіў коніка варанога,
Пайшоў хуценька па другога.

— Мілая мая, выкуп каня,
Выкуп коніка варанога.

— Ой, не раз, не два выкупляла,
Праз ваконца уцякала.

Праз ваконца уцякала,
Ў вішнёвым садзе начавала.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца 2 разы.

Ў вішнёвым садзе начавала,
З салавейкам размаўляла.

Салавейка — ціў-чу, ціў-чу,
А я, малада, плачу, плачу.

Салавейка шчэ й галосней,
А я, малада, шчэ й жалобней.

699




699. Ой, бэда, бэда,*
Лыхы чоловік —
Ой, сам пойшоў до корчомкі,
А мнэ нэ вэлыт.**

А я, молода,
Набралась ума,
Ой, пошла я до корчомкі,
Нап'юся сама.

Зайшла ў корчму,
Стала прі кутку:
— Дай, шынкарка, горілочкі
Поўную кварту.

---

* Тэкст прыводзіцца з захаваннем дыялектных асаблівасцей гаворкі (у запісе Г. В. Таўлай).
** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца 2 разы.

Шынкарка дае,
Вельмі говоріт:
— Стэрэжыся, молодыця,
Бо твой муж ідэ.

— Ой, мыла моя,
Будэш бытая,
Вісыть, вісыть нагаечка
З дроту вытая.

— Дывір і куму,
Мэнэ пошкодуй,
Ой, як будэ мылы быты,
Бороны мэнэ.

— Братова моя,
Того нэ вчыню,
Ой, як будэ мылы быты,
Двэры зачыню.

Двэры зачыню,
То шчэй подопру,
Ой, бо скажуть сусідочкі:
Я тэбэ люблю.

700. Да казалі людзі,
Што мой бацька скупы,
Ажно ў яго гарэлачкі купа.
Напілася ж я
І гарэлачкі і мёду.
Дальбог праўда,
Што не зайду дадому.
Лугам іду — песні пяю,
Аж лужочкі разлягаюцца,
Сялом іду — сільна плачу,
Варожачкі пацяшаюцца.
Ой, цешцеся, варожачкі,
Да на сваё безгалоўейка,
А я буду піць-гуляць,

Цяпер маё да здароўейка.
Ой, выйду ж я на вуліцу,
Чаравічкамі топну.
А на мураўцы
Падковачкі ззяюць.
Да хваліць Бога,
Да што мяне
Да людзі знаюць.

701




701. Вып'ю чару ды пастаўлю,*
А сама пайду пагуляю.

А сама пайду пагуляю,
Як рыбінка, па Дунаю.

Туды й, сюды й ўстрапянуся —
Я ж нікога не баюся:

А ні свёкра, ні свякроўкі,
Ні дзевера, ні залоўкі.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

Толькі ’днаго баюся,
І з кім спаці кладуся.

Уздобрыцца — вады прынясе,
А ўсердзіцца — бок наб’е.

702. Вып’ю чарачку, вып’ю я й да дна,
Да й паслухаю ў садзе салаўя.
У майго салаўя песенька й адна,
У мяне, маладое, сястрыца ж адна.
У мяне, маладое, сястрыца адна,
Ой, адна, адна ў гасцях не была.
Ой, каб жа ж яна да й пабывала,
Вой, я ж ба яе пачаставала.
Да чаго б мне стало, тое дастала,
Сваю сястрыцу пачаставала,
Сваю сястрыцу пачаставала.

703




703. — Міленькі ж ты мой
Да дружына мая,
Звёў жа ты мяне
Да дзе роду няма.

Дзе роду ж няма,
Толькі чужына.
— Мілая мая,
Да няпраўда твая.

Мілая ж мая,
Да няпраўда твая:
Цераз тры двары —
Там кума твая.

І вой пайдзі к куме
Да й пагавары —
Сваю нуду й пячаль
Да й развесялі.

704. А за росамі, за марозамі
Зялёна ружачка не ўсходзіць,
А за людскімі языкамі
Ка мне мамка не ходзіць.
— Узыйдзі, узыйдзі, зялёна ружачка,
Хаця пакажыся.
Прыйдзі, прыйдзі, мая мамачка,
Людзям наругніся.
— Не прыйду, не прыйду, дзіцятачка,
К табе вулка гразкая.
— Прыйдзі, прыйдзі, мамулечка,
Майму сэрцу цяпер цяжка.

705. Папрасілі мяне ж ды ў хрэсьбіны,
А мне, маладой, нет у што ўбрацца,
Ухань, уханькі, нет у што прыбрацца.
Як пайду жа я ў зялёны лес
І высеку там я ляшчыначку,
І вырву сабе лапушыначку.
Але я ляшчыначкай падпяражуся,
Лапушыначкай абвяжуся.
Вывелі мяне ў першы танец,
Лапушыначка адвалілася,
А ляшчыначка расчапілася,
А я, молада, застыдалася,
У цёмны куток захавалася.
А чаму стыдна,
Бо ўсё было відна.

706. Баліць жа мне галовачка,
Ды нет чым звязаці.
А далёка мая мамка,

Нет кім наказаці.
А звяжыце галовачку
Шоўкавым платочкам,
Некажыце маёй мамцы
Сівым галубочкам.
Ляцеў, ляцеў сівы голуб
Ды сеў ваду піці.
А Божа мой, а міленькі,
А што ж мне рабіці?
А пайду я, пагляджу я
З высокага неба:
— А мая ж ты гаротніца,
А што ж табе трэба?
Даў я табе ручкі, ножкі
І светлыя вочкі.
Рабі, працуй, бяздольніца,
Аж да цёмнай ночкі.

707




707. Упілася да мяду-саладу,
А Божа ж мой, я й дамоў не зайду.

Дамоў весці — ён паваліцца,
Тут пакінуць — ён збасяіцца.

Пайду дамоў па намётачку,
Найму яму я падводачку.

Павязу яго я й да хатачкі,
Да цясовенькай да краваткі.

708




708. Ужо й пятух пяе,
Я й дамоў не йду,
Ўжо й другі пяе,
Я й не думаю.

Ўжо й зара ўзыйшла,
Я й дамоў пайшла,
Самі дзверушкі
Атвараюцца.

Самі дзверушкі
Атвараюцца,
Ўжо мой міленькі
Прачынаецца.

— Дзе ж ты, мілая й,
Валачылася
Роўна пояса
Замачылася?

— Валачылася —
Маладой была,
Зарасілася —
Хараша была.

709. Пятух пяе — я дамоў не йду,
Другі пяе — я не думаю.
Зара ўзышла — я дамоў пайшла,
А мой мілы прачыхаецца.
А свёкарка, ой, набіць вяліць.
— Ой, не бі, татка, жонку п'яную,

А бі яе цвярозую
Ды хоць белаю бярозаю.
А бяроза шумець будзе,
А мне балець будзе.
А бярозачка і з веткамі,
А жана і з дзеткамі.

710. А мая ж ты гарэліца,
Як я цябе люблю.
А хто ж цябе піць будзе,
Як я, молада, памру?
Будуць піці і гуляці суседзі мае,
Будуць піці і гуляці, мяне ўспамінаці.
— А дзе ж тая п'янічанька,
Што з намі выпівала?
А дзе ж тая пяюнечка,
Што з намі пяяла?
А дзе ж тая танцорка,
Што з намі танцавала?

711. Як рассыплю я дулі
Ды пайду за вароты.
Як пайду я за другія
І рассыплю карты.
Мінуліся ўсе мае
Дзявоцкія жарты.
Як пайду я за трэція вароты
Ды рассыплю арэшкі.
Мінуліся ўсе мае
Дзявочыя пацешкі.
А як пойдуць дзеванькі гулі-гулі,
А я, маладзенькая, буду люлі-люлі.

712. — А ці добра было ў гасцях?
— Усяго было, усяго было,
Толькі прымусу не было.
Аб'еўся куцці, не магу пайсці,

Аж за вушамі трашчыць,
А ні к носу, толькі ў рот,
Выбачай, кума, на пірог.

713. Па садку хадзіла я,
Ягадкі збірала.
Ні набрала ягад,
Нашчыпала грушак.
Нашчыпала грушак
Поўны хвартушак.
— Грушкі мае, грушкі,
Дзе вас падзеці?
Ці мне сесці з'есці,
Ці міламу несці.
Хвартушак, хвартушак,
Што мне тут рабіці?
З-пад таго хвартушка
Выпала квятушка
З ручкамі, з ножкамі,
З чорнымі вочкамі.
Таіла, таіла,
А цяпер не буду.
Падайце пялёнкі,
Спавіваці буду.
Пялёнкі шаўковы,
Спавівач ядвабны,
Паглядзі, каханы,
Які сынок ладны.

714. Піла я гарэлачку,
Мяне хмель не бярэць.
Паехала к атцу, к мацеры,
Мяне конь не вязець.
Туды-сюды дзве дарожачкі,
А трэцяя ў сад.
А там мае ды два брахнікі
Шчыпаюць вінаград.
— Шчыплі, шчыплі ты, мой брахніка,

І мне і сабе.
Паедзеце к атцу, к мацеры,
Забярыце й мяне,
Як будзеце піць гарэлачку,
Угасціце й мяне.

715. Баліць ды мая галовачка бальна,*
Што ды мая дружынніца не раўна.
Эй!
З ім ні ў пір схадзіць, ні ў бяседзе пагуляць.
Эй!
У пір пайсці добра, людзі пасмяюцца.
Эй!
А ў бяседзе сесць — самі горкі слёзы льюцца.
Эй!
Ці не можна д'архірэя даступіцца.
Эй!
Можна-можна з мілым другам разлучыцца.
Эй!
Можна-можна д' архірэя даступіцца.
Эй!
Можна-можна з мілым другам разлучыцца.
Эй!

716



716. Ой, памру, памру,
Мой міленькі, памру.*
Зрабі мне, міленькі,
З паперачкі труну.

---

* Кожныя 2 радкі паўтараюцца.

717




717. Да ўзышлі, ўзышлі
Да два месяцы яс(ныя).*

І да там гулялі
Два кавалеры крас(ныя).

І да, гуляючы,
Так з сабой гава(рылі).

— І адну мы, брацця,
Дзяўчыну палю(білі).

І як сталі, брацця,
Да дзяўчыны хадзі(ці).

І не стала нас
Дзяўчыначка любі(ці).

718




718. Ехала ўдава
З новага двара
Мёд, віно таргаваці.

* Кожная страфа паўтараецца 2 разы.

Спаткала сабе
Князя маладога,
Дала яму скаштаваці.

719



719. Ехаў казак шырокай далінай.*
Заехаўся к маладой дзяўчыне.
— Пусці, дзеўка, ночку начаваці.
— Ай, не пушчу, будзеш абнімаці.
—Пусці, дзеўка, буду ціха спаці.

720



720. Цячэ рэчка невялічка
З вішнёвага саду.
Кліча ўдова казачэнька
Сабе на параду.**

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.
** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца 2 разы.

— Казачэнька, галубенька,
Забудзь сваю жонку,
То я табе засцялю
Пухову пасцельку.

Запер хату, запер сыноў,
Да й стаў яе біці,
Да й набеглі суседанькі
Яе бараніці.

— Суседачкі, галубачкі,
Накажыце цешчы:
Няхай нясе сваёй дочцы
Смяртэльныя вешчы.

— За што ж, доню, за што ж, доню,
За што ж правінілась,
Што так твае бела лічка
Усё крывёй аблілась.

— Як не знаю, мая маці,
Калі нарадзілася,
Так не знаю, мая маці,
За што правінілася.

Мыла сені, мыла хату,
Да й не аглядалася,
Як ударыў галаваньку,
Да й кроў палілася.

721. Да пасунься на лаве,
Паглядзі ў акенечка,
Ці высока сонечка.
Калі яшчэ рана,
То яшчэ пагуляйма,
А калі ўжо позна,
Расходзіцца можна.
Калі не стараста, будзь здароў,
Напіся гарэлачкі, едзь дамоў.
А ў цябе дома навіна:
Кабыла каня прывяла,

Жонка сыночка радзіла,
Конічак будзе вазаўнік,
А сыночак будзе ваяўнік.

722. Шкада дубу зялёнага,
Што за цёмным лесам.
Шкада маёй маладосці,
Што за старым бесам.
Не я ўпіла, не я ўела,
Нядобра ўгуляла.
Леты свае маладыя
А я ж пацярала.
Ёсць у майго татулечкі
Коні вараныя.
Ён паедзіць даганяці
Леты маладыя.
— Не едзь, не едзь, татулечка,
Конікаў паморыш.
Леты мае маладыя
Нідзе не дагоніш.

723




723. А не жаль дуба зялёнага, што за цёмным лесам.*
А жаль жа мне маладосці, што за старым бесам.

* Кожны радок паўтараецца 2 разы.

А ні я ўпіла, ні я ўела, ні добра гуляла.
Толькі свае маладые леты пацярала.
Ёсць у майго брацюлечкі коні вараные.
Я й паеду даганяці леты маладые.

724. Як чужыя мужычкі дабры,
Паспраўлялі сваім жонам бабры,
А мой мужычок — дурачок,
Ды купіў жа мне каровачку,
Завязаў маю галовачку.
Каровачку як падой, дык падой,
Даёначку як памой, дык памой,
Пад кароўкай нада рана ўстаць,
А я люблю да палудня спаць.

725. Гаспадарок, пане,
Гарэлкі ж нямаш.
Бяры жыта мерку,
Нясі на гарэлку, —
Так і будзе з нас.

726. Я ўчора сувячора
На радзінах была,
А сягоння ранюсенька
На хрысціны прыйшла.
Добрыя людзі і паілі мяне,
Пад вішанькай-цярэшанькай
Спаць паклалі мяне.
А вішанька-цярэшанька
Як шуміць, так шуміць,
Мой міленькі, маладзенькі,
Як журыць, так журыць.
— Ах, вішанька, не шумі, не шумі,
Мой міленькі, маладзенькі, не журы.

727. А ў нашага гаспадара
Раскудрава галава.
Ён галоўкай патрасе,
Гарэлкі поўна прынясе.
Столікі ўсе мае засланыя,
Госцікі мае ўсе зазваныя,
Гарэлачку п'еце і мне добра благаславеце.

728. Баранька чорненькі,
На ім воўненька сучыцца.
Мы бараньчыка стрыч будзем,
Мы гарэлачку піць будзем.
Мы бараньчыка астрыглі,
Мы гарэлачкі папілі.
Дзе тая барэлачка,
Дзе была гарэлачка?
А ў сенях пад лавачкай
Зарасла муравачкай.
Мы будзем мураўку драць,
Гарэлачку даставаць.

729. Ой, да на радзінушках
Как я ўпілася
І дадому ледзь прывалачылася.
Цёмным лесам ішла, не баялася,
У чыстым полюшкі не маталася.
Ой, да на сваём дварэ наткнулася,
На калюшку я павалілася.
— Ой, калюшка, калюшка, ты калюшачка,
Павaліла мяне, бабу п'яную.

730. Ах вы, столікі мае, ах вы, столікі мае,
Вы цясовенькія,
А чаму ж вы стаяцё, а чаму ж вы стаяцё
Не засланенькія.
Не засланенькія, не засланенькія?
Ах вы, госцейкі мае, ах вы, госцейкі мае,

Улюблёненькія,
А чаму ж вы сядзецё, а чаму ж вы сядзецё
Невясёленькія,
Невясёленькія, невясёленькія?
Ці вам хлеба не хапае,
Ці вам хлеба не хапае,
А ці муж мой невясёл?
Калі хлеб не пушон, калі хлеб не пушон,
Дык я выпалаю.
Калі муж мой невясёл, калі муж мой невясёл,
Дык я выругаю.
А на стале калача, а на стале калача
Мы сап'ём і з'ядзём, мы сап'ём і з'ядзём
І дабранач аддадзём.
Дабранач усім нанач, дабранач усім нанач.
А вы, людзі, чуйце,
Нялюбыя едзьце дамоў, а любыя начуйце.
А ўжо цяпер наступіла ды цёмная ночка,
Нялюбыя паехалі, а любых нямножка.

## АБРАД

### Радзінная абраднасць у в. Заазёрнае Олтушскага сельсавета Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці

АІМЭФ НАН Беларусі (далей — АІМЭФ), ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 16—17.
Зап. у 1981 г. Т. І. Кухаронак ад М. Ц. Гаўрылюк, 1898 г. н.

### Радзінныя звычаі і абрады ў в. Кабёлка Брэсцкага раёна Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 24—25.
Зап. у 1981 г. Т. І. Кухаронак ад М. І. Гарасімчук, 1900 г. н.

### Радзінныя звычаі і абрады ў в. Мельнікі Бачынскага сельсавета Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 28—29.
Зап. у 1981 г. Т. І. Кухаронак ад С. С. Пук, 1900 г. н.

### Радзінныя звычаі і абрады ў в. Радастаў Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 38—39.
Зап. у 1981 г. Т. І. Кухаронак ад Х. Ф. Гайдук, 1900 г. н.

### Радзінныя звычаі і абрады ў в. Вулька Сіманавіцкая Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 47—48.
Зап. у 1981 г. Т. І. Кухаронак ад М. З. Брыч, 1908 г. н.

### Радзінныя звычаі і абрады ў в. Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 42—43.
Зап. у 1981 г. Т. І. Кухаронак ад А. А. Шыколай, 1895 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 42—46а, 55.

Зап. у 1982 г. у в. Раздзялавічы Т. І. Кухаронак ад Г. І. Дзямідчык, 1901 г. н., і ў в. Хатынічы ад групы жанчын.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 68—71, 75а.

Зап. у 1982 г. у в. Невель Т. І. Кухаронак ад М. К. Ражэнскай, 1916 г. н., і ў в. Валішча ад Г. Г. Андрыевіч, 1907 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 58—64а.

Зап. у 1982 г. у в. Велямічы Т. І. Кухаронак ад А. З. Пішчык, 1911 г. н., і ў в. Бяражное ад групы жанчын, у в. Струга ад П. Я. Трапец, 1899 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Рэнічы Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці

Фальклорны архіў кафедры тэорыі і гісторыі культуры Беларускага дзярж. пед. ун-та імя М. Танка. Навуковы кіраўнік — дацэнт БДПУ У. А. Васілевіч (далей — Фальклорны архіў БДПУ).

Зап. у 1996 г. Н. Медушэўская ад В. В. Івашкі, 1922 г. н.

## Чараватасць. Раджэнне. Хрысціны

Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930. С. 138—155.

## Малітва. Хрысціны

Чубинский П. П. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край. Юго-западный отдел. СПб., 1877. Т. 4. С. 8—10.

Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

## Хрэсьбіны ў в. Крывыя Талачынскага раёна Віцебскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 65, л. 83—86.

Зап. у 1994 г. Т. І. Кухаронак ад Т. М. Конюшка, 1923 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 11, л. 1—8.
Зап. у 1984 г. у в. Корабы-1 і Верхняе Т. І. Кухаронак ад групы жанчын

## Радзінныя звычаі і абрады ў Полацкім раёне Віцебскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 235, л. 100—104, воп. 1, спр. 884, л. 42—51.
Зап. у 1989 г. у в. Бабынічы Т. І. Кухаронак ад М. С. Гулевіч, 1922 г. н., у в. Булаўкі ад Д. С. Стукан, 1923 г. н., у в. Азіна ад Т. А. Дарашонак, 1919 г. н., у в. Рудня ад групы жанчын.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Курыловічы Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 11, л. 17—21.
Зап. у 1984 г. Т. І. Кухаронак ад Г. М. Курыловіч, 1900 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 235, л. 62—66, 69, 72, 85—86.
Зап. у 1989 г. у в. Боськава Т. І. Кухаронак ад Е. Я. Гарабука, 1915 г. н., у в. Дабея ад Ф. І. Ганеевай, 1921 г. н.

## Хрэсьбінны абрад у в. Доўбы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці

Фальклорны архіў БДПУ.
Зап. у 1995 г. студэнтамі ад Е. Р. Дук, 1910 г. н.

## Радзінны абрад «Шарсцінка» ў в. Малінаўка Расонскага раёна Віцебскай вобласці

Фальклорны архіў БДПУ.
Зап. у 1995 г. Г. Лукашонак ад П. М. Лукашонак, 1917 г. н.

## Цяжарная і дзіця ў прыкметах і павер'ях

Никифоровсий Н. Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897. С. 1—46.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Віцебскай губерні

Витебская губерния: Историко-географический и статистический обзор. Вып. 1. Витебск: Губернская типография. 1890. С. 244—247.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

## Абрад хрэсьбін у мястэчку Чашнікі Лепельскага павета Віцебскай губерні

Архіў Геаграфічнага таварыства (г. Санкт-Пецярбург), разрад 5, воп. 1, адз. зах. 10, л. 1—4.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.
Зап. Г. Праабражэнскі.

## Абрад хрэсьбін у Полацкім павеце Віцебскай губерні

АГТ (г. Санкт-Пецярбург), разрад 5, воп. 1, адз. зах. 10, л. 20—22.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.
Зап. Г. Праабражэнскі.

## Радзіны і хрысціны (ксціны, хрэсьбіны) у Віцебскай губерні

Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. 1, ч. 1. С. 3—11.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Малейкі Брагінскага раёна Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 33—35а.
Зап. у 1982 г. Т. І. Кухаронак ад Е. А. Ярмоленка, 1906 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Азяраны Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 10, л. 28—31.
Зап. у 1984 г. Т. І. Кухаронак ад Н. І. Суражка, 1916 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Лоеўскім раёне Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 26—31.
Зап. у 1982 г. у в. Колпень Т. І. Кухаронак ад групы жанчын, у в. Перадзелка ад М. І. Селькінай, 1919 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Глінішчы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 19а—22а.
Зап. у 1982 г. Т. І. Кухаронак ад К. І. Ярош, 1921 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Галоўчыцы Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 883, л. 8—12.
Зап. у 1982 г. Т. І. Кухаронак ад В. Я. Ілляш, 1899 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Стадолічы Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 10, л. 14—18.
Зап. у 1984 г. Т. І. Кухаронак ад М. Я. Сяўрук, 1912 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Скароднае Ельскага раёна Гомельскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 10, л. 7—9.
Зап. у 1984 г. Т. І. Кухаронак ад Н. П. Федарэнка, 1910 г. н.

## Абраднасць хрысцін у мястэчку Ельск Міхалкоўскай воласці Мазырскага павета Мінскай губерні

Шейн П. В. Материалы для изучения быта ■ языка русского населения Северо-Западного края. СПб, 1902. Т. 3. С. 384—390.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Гродзенскім раёне Гродзенскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 61, л. 52—67.
Зап. у 1990 г. у в. Вялікая Жорнаўка Т. І. Кухаронак ад І. М. Рукша, 1925 г. н., у в. Саволеўка ад Г. Т. Калюты, 1928 г. н., у в. Гушчыцы ад Я. А. Іоскевіч, 1925 г. н., у в. Жытомля ад В. У. Лукашэвіч, 1927 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Рупейкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 884, л. 33—37.
Зап. у 1985 г. Т. І. Кухаронак ад групы жанчын.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Зэльвенскім раёне Гродзенскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 884, л. 12—19, 27—29.
Зап. у 1986 г. у в. Крывічы Т. І. Кухаронак ад Г. П. Паўлёнак, 1911 г. н., у в. Падгрушаны ад М. І. Цімафеевай, 1918 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Дзярэчын Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 884, л. 7—9.
Зап. у 1986 г. Т. І. Кухаронак ад С. І. Русецкай, 1899 г. н.

## Радзінная абраднасць у в. Арцюшы Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 105, л. 1—2.
Зап. у 1996 г. Т. А. Навагродскі ад маці С. С. Навагродскай, 1926 г. н.

## Хрэсьбіны ў в. Пескаўцы Лідскага раёна Гродзенскай вобласці

Фальклорны архіў БДПУ.
Зап. у 1996 г. А. Пярко ад А. С. Кашко, 1935 г. н.

## Радзіны і хрысціны ў Гродзенскім павеце Гродзенскай губерні

Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1, ч. 1. С. 12—14.
Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці

Архіў аўтара.
Зап. у 1994 г. у в. Будняў Т. І. Кухаронак ад А. І. Белазор, 1911 г. н., у в. Слабодка ад Г. В. Тарасевіч, 1912 г. н., у в. Віркаў ад В. А. Кавалёвай, 1906 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Бялыніцкім раёне Магілёўскай вобласці

Архіў аўтара.
Зап. у 1994 г. у в. Мокравічы Т. І. Кухаронак ад П. С. Шлімаковай, 1923 г. н., у в. Асавец ад А. С. Максіменка, 1928 г. н., і Г. С. Цецеруковай, 1931 г. н., у в. Малы Кудзін ад М. П. Ларковай, 1916 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Слаўгарадскім раёне Магілёўскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 241, л. 8—10.

Зап. у 1993 г. у в. Урэчча Т. І. Кухаронак ад Е. І. Мельнікавай, 1910 г. н., у в. Гіжэнка ад М. С. Капусцінай, 1922 г. н., і Е. М. Зяткінай, 1928 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 241, л. 14—19.

Зап. у 1993 г. у в. Вараніно Т. І. Кухаронак ад Ф. П. Коршунавай, 1918 г. н., і М. П. Язэпавай, 1922 г. н., у в. Баркалабава ад Л. С. Кастылёвай, 1915 г. н., і Е. К. Захарэнка, 1916 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў в. Малыя Бортнікі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 233, л. 20—37.

Зап. у 1992 г. Т. І. Кухаронак ад В. П. Шапялевіч, 1922 г. н., і Р. П. Бурак, 1944 г. н.

## Хрэсьбіны ў в. Варатынь Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці

АІМЭФ, ф. 6, воп. 13, спр. 65, л. 16—20.

Зап. у 1991 г. Т. І. Кухаронак ад Т. Ф. Чурловай, 1937 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 242, л. 4—5, 10—12, 15—17; спр. 243, л. 18—22, 120—131.

Зап. у 1993 г. Т. І. Кухаронак у в. Мар'янава ад Т. І. Емяльянавай, 1930 г. н., у в. Сялец ад М. У. Кацатавай, 1930 г. н., у в. Лютня ад Е. С. Дзям'янавай, 1927 г. н., у в. Рубанаўка ад Т. П. Старавойтавай, 1924 г. н., і А. Н. Кальцовай, 1923 г. н.

## Радзінныя звычаі і абрады ў Хоцімскім раёне Магілёўскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 243, л. 2—6, 35—36, 68—72.

Зап. у 1993 г. у в. Бяседавічы Т. І. Кухаронак ад М. Р. Чыбусавай, 1915 г. н., у в. Васілёўка ад Т. Ф. Семітуркінай, 1931 г. н., у в. Ліпаўка ад Н. П. Цішчанка, 1928 г. н.

### Радзіны і хрысціны ў в. Забалацце Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні

Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8: Быт белоруса. Вильна, 1912. С. 331—334.

Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

### Радзіны і хрысціны ў в. Гарадзец Быхаўскага павета Магілёўскай губерні

Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 324—325.

Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

### Радзіны і хрысціны ў в. Ослянка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні

Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. С. 326—328.

Пер. з рус. Т. І. Кухаронак.

### Радзінныя звычаі і абрады ў Старадарожскім раёне Мінскай вобласці

АІМЭФ, ф. 8, воп. 93, спр. 270, сш. 1, л. 33—36; сш. 2, л. 33—37, 69—70; сш. 3, л. 11; сш. 4, л. 20—22.

Зап. у 1993 г. у в. Аляксандраўка У. М. Сысоў ад Э. А. Аляксандравай, 1938 г. н., у в. Залужжа ад В. М. Мышко, 1916 г. н., у в. Оршаль ад К. С. Жукавец, 1932 г. н., і М. М. Дамарад, 1933 г. н., у в. Шапчыцы ад М. А. Жукавец, 1912 г. н., і А. М. Непачаловіч, 1933 г. н.

### Радзінныя звычаі і абрады ў в. Петрышкі Мінскага раёна Мінскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 1, спр. 890, л. 73—77, 101—108.

Зап. у 1993 г. Т. І. Кухаронак ад Т. М. Жардзецкай, 1922 г. н., і В. А. Куракевіч, 1897 г. н.

### Хрэсьбіны ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці

АІМЭФ, ф. 7, воп. 2, спр. 233, л. 74—85.

Зап. у 1994 г. у в. Сівіца Т. І. Кухаронак ад А. К. Кушаль, 1921 г. н., З. М. Мядзвецкай, 1930 г. н., Я. К. Яновіч, 1936 г. н., Я. І. Маляўскай, 1937 г. н., у в. Гарадзечына ад Я. І. Кавалевіч, 1940 г. н., М. Л. Зелянковай, 1921 г. н., М. І. Іванашка, 1944 г. н., Н. А. Пугачовай, 1926 г. н.

